бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

# 108 дзён і начэй у засьценках КДБ

Анатоль Лябедзька

радыё свабода

Анатоль Лябедзька

# 108 дзён і начэй у засьценках КДБ

Дзёньнік палітычнага закладніка

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Анатоль Лябедзька. 108 дзён і начэй у засьценках КДБ. Дзёньнік палітычнага закладніка.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2013. 434 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Турэмны дзёньнік Анатоля Лябедзькі – дэталёвае апісаньне пекла, якім стала для палітычных вязьняў «амэрыканка», сумнавядомая турма КДБ у цэнтры Менску, адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Фізычны, псыхалягічны, інфармацыйны ціск, зьнявага чалавечай годнасьці, бяспраўе, чорныя маскі – усё гэта разьбіваецца аб волю і веру чалавека, які нават у поўнай ізаляцыі не адчувае сябе забытым, ані ў чым не дае сабе палёгкі, піша лісты, вершы, робіць дзёньнікавыя запісы, каб потым вярнуць час, які турэмшчыкі наіўна лічылі, што забралі зь ягонага жыцьця.

Асаблівая падзяка за фота:
Леанід Варламаў, Белапан, Reuters, mvd.gov.by


FOL

ISBN 978-0-929849-63-8

# Зьмест

**Люты 2011 г.**

**Сакавік 2011 г.**

**Красавік 2011 г.**

## Асабістая адвага

Гэты аповед пра амаль чатыры месяцы ў сумнавядомай турме КДБ у Менску надзвычай уражвае, як уражвае і сам аўтар – Анатоль Лябедзька. Гэта гісторыя асабістай адвагі, рашучасьці і глыбокай адданасьці справе свабоды.

Я ўпершыню сустрэў Анатоля ў 1997 годзе – у зусім іншыя часы – на сэсіі Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ ў Пецярбургу. Тады ў постсавецкіх краінах было яшчэ шмат аптымізму наконт правоў чалавека і дэмакратыі, але пры ўладзе ў Беларусі ўжо быў Лукашэнка. У той час ён рабіў усё, каб замацавацца на пасадзе і збудаваць аўтакратычную дзяржаву, якая неўзабаве стане «апошняй дыктатурай Эўропы» – з выкраданьнямі і «зьнікненьнямі» палітычных апанэнтаў, зьбіцьцём тысячаў дэманстрантаў, зьняволеньнямі праз суд або без суду. Сёньня гэтая трагічная гісторыя дакумэнтальна зафіксаваная, у тым ліку ў інтэрнэце. Падрабязна засьведчана і натхняльнае змаганьне беларускіх дысыдэнтаў.

Як старшыня Хэльсынскай камісіі Кангрэсу ЗША – амэрыканскай дзяржаўнай установы, якая выступае за захаваньне правоў чалавека ў Эўропе

і Эўразіі – я быў у сталым кантакце з Анатолем, мы часта бачыліся ў Вашынгтоне, Вене і Варшаве, ён выступаў са сьведчаньнямі і ў камісіі, і ў падкамітэце Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу, дзе я таксама старшыняваў. Анатоль быў яскравай асобай, сапраўдным беларускім патрыётам, і было натуральна, што ён прадстаўляў надзеі і памкненьні цэлага пакаленьня беларускіх актывістаў. Вядома ж, я і іншыя дэпутаты Кангрэсу часта ўспаміналі менавіта пра яго, калі працавалі над першым «Актам аб дэмакратыі ў Беларусі» ў 2003 і 2004 гадах.

На прэзыдэнцкіх выбарах 19 сьнежня 2010 году Анатоль ня быў кандыдатам, але яго арыштавалі ў тую самую ноч, а разам зь ім яшчэ больш за 700 чалавек. Ягоны арышт не зьдзівіў нікога, і найменш – яго самога. Ён не ўчыніў ніякага злачынства – наадварот, на працягу амаль дваццаці гадоў ён змагаўся супраць злачынных паводзінаў рэжыму. Калі ў апошні дзень 2010 году, праз два тыдні пасьля сумнавядомага разгону, мне патэлефанавалі з Радыё Свабода дадому ў Нью-Джэрзі і спыталіся, ці не пагадзіўся б я зачытаць дзесяць імёнаў зьняволеных для перадачы «Галасы салідарнасьці», маім першым пытаньнем было, ці ёсьць у іх нейкая інфармацыя пра Анатоля. У гэтай кнізе даецца падрабязны

адказ на пытаньне, праз што яму давялося прайсьці ў тыя дні.

На Анатоля абрынуўся цяжар Лукашэнкавай рэпрэсіўнай машыны: доўгія допыты, пагрозы, угаворы, дэзынфармацыя, пазбаўленьне на тыдні кантактаў зь сям'ёй, дрэннае харчаваньне, моцны псыхалягічны і фізычны ціск з боку грамілаў у чорных масках, а таксама шчодрыя абяцаньні. *«Я хутчэй адгрызу ўласную руку, чым адмоўлюся ад таго, у што веру»,* – казаў ён сваім сьледчым. Ён не дазваляў сабе здавацца, выяўляць слабасьць і нават хварэць. Яго бязьлітасныя фізычныя практыкаваньні выклікалі міжвольнае захапленьне нават у турэмных вартаўнікоў.

І грамілы ўрэшце адступілі. Пасьля некалькіх месяцаў міжнародных пратэстаў Анатоль быў вызвалены і ўпершыню за 108 дзён пабачыў жонку і сына. Ён з ходу ўзяўся за працу, вярнуўшыся да кіраваньня сваёй дэмакратычнай палітычнай партыяй, хутка ўвайшоў у курс вялізных пераменаў на палітычнай сцэне (тады поўным ходам ішлі палітычныя суды) і пачаў пісаць гэтую кнігу.

Змаганьне за правы чалавека ў Беларусі – гэта змаганьне за беларусаў, і яны вядуць яго і будуць працягваць надалей. Некалі яны перамогуць. Але пакуль што ім супрацьстаіць моцная і бязьлітасная

дзяржава. Наш абавязак – падтрымліваць, як мы зрабілі ў «Актах аб дэмакратыі ў Беларусі» 2003, 2004 і 2012 гадоў, гэтае змаганьне за правы чалавека і дэмакратыю і спрабаваць прыцягнуць да адказнасьці тых, хто парушае гэтыя правы.

Мы стаім поплеч з тымі, хто змагаецца, бо ў нас аднолькавыя і бясспрэчныя каштоўнасьці, незалежныя ад межаў, урадаў і турэмных муроў, – чалавечая годнасьць і свабода.

*Крыстафэр Сьміт,*
*дэпутат Кангрэсу ЗША,*
*сустаршыня Камісіі ў справах бясьпекі і*
*супрацоўніцтва ў Эўропе*

## Ад аўтара

Калі б мне давялося паўтарыць усё нанова, я не вагаўся б ні імгненьня. Гэта ня поза, гэта пазыцыя.

Прадстаўленыя запісы — апісаньне і тлумачэньне таго, што адбывалася за сьценамі сумна вядомага сьледчага ізалятара КДБ, або папросту «амэрыканкі». З 19 сьнежня 2010-га па 6 красавіка 2011 году.

Жудасны час. Зь сінякамі. З грымасай страху. З налётам палітычнай шызафрэніі.

Чацьвёртая частка тэксту напісаная непасрэдна ў камэрах СІЗА. Мне ўдалося вынесьці запісы, расьпіхаўшы аркушы дзёньніка па канвэртах зь лістамі. Астатняе давялося аднаўляць з памяці, паводле ўласных лістоў, якія былі адпраўленыя з «амэрыканкі» і дайшлі да адрасата. Таму загадзя выбачаюся за магчымыя недакладнасьці ў дэталях (да прыкладу, серада або чацьвер, раніцай ці ў абед). Пры гэтым я ня стаўлю мэты зьняць вяршкі чужой спагады. У мяне няма жаданьня нешта пузырыць, перабольшваць, прымнажаць. Як няма і намеру нешта рэтушаваць, лякіраваць, прымяншаць.

Некалькі сшыткаў з нататкамі, зь вершамі і апавяданьнямі былі канфіскаваныя пры маім вызваленьні з «амэрыканкі». Бяз права на вяртаньне. Запісы ператварыліся ў небясьпечнага сьведку, і, хутчэй за ўсё, іх зьнішчылі. Але ж я жывы! І мой доўг, мой абавязак — аднавіць усё ў дэталях, у падрабязнасьцях. Усё як было. Каму гэта трэба? Гэта трэба мне, гэта трэба вязьням «амэрыканкі», гэта трэба ўсім нам. Дзеля чаго? Дзеля асэнсаваньня, дзеля разуменьня, дзеля ачышчэньня, дзеля таго, каб такое больш не паўтарылася.

Дзёньнік — гэта ня толькі апісаньне падзеяў, якія адбываліся са мной і вакол мяне ў гэты час. Гэта яшчэ і думкі пра сябе, і рэанімаваныя памяцьцю фрагмэнты розных пэрыядаў пражытага жыцьця.

108 дзён. 108 начэй. Час, зь якога выціснуты ўспаміны. Час, які выбраў нас. Час, які прымусіў і нас выбіраць. Паміж словамі і ўчынкамі. Паміж свабодай зь беспрынцыповасьцю і несвабодай з прынцыпамі. Між вымушаным «так» і самапаважлівым «не».

*Анатоль Лябедзька*

## 20 сьнежня, панядзелак

Начную цішу ў кватэры шматпавярховага дому № 4 па вуліцы Лесі Ўкраінкі разарваў званок. Працяглы і трывожны. Гадзіньнік паказваў палову на другую. Званілі адразу ў кватэру, прамінуўшы дзьверы, што вядуць у агульны калідор на чатыры сям'і. Я, жонка Сьвятлана і сын Арцём, пераглянуўшыся, моўчкі падышлі да дзьвярэй. Прадчуваньні нікога не падманвалі.

— Хто там? — спыталася жонка.

— Адчыняйце! — прагучала тонам, які не цярпіць пярэчаньняў.

— А ў чым, уласна, справа? — Голас Сьвятланы трохі вібрыраваў ад напружаньня.

За дзьвярыма нэрваваліся.

— Нам патэлефанавалі суседзі, скардзяцца на шум, — у размову ўступіў другі голас.

— Ну, калі вы зь міліцыі, то ўвайдзіце і прад'явіце пасьведчаньні, — Сьвятлана спрабуе накіраваць размову ў прававое рэчышча. Дае сябе знаць пэўны досьвед кантактаў з таварышамі зь сілавых структураў.

У адказ у дзьверы забарабанілі кулакамі.

— Б... Я сказаў, неадкладна адчыняйце, а то пашкадуеце, — бярэ на сябе ініцыятыву першы голас. Здаецца, калідор кішыць няпрошанымі гасьцямі.

Сьвятлана тэлефануе ў міліцыю і паведамляе, што невядомыя людзі пачалі грукаць у дзьверы. Спрабую праз мабільны зьвязацца з калегамі па партыі, з журналістамі. Але трубка адгукаецца кароткімі гудкамі, аўтаадказчык паведамляе, што дадзены тып злучэньня немагчымы. Сотавы апэратар Velcom сёньня ня наш саюзьнік.

У калідоры грыміць жалеза. Праз імгненьне дзьверы ўздрыгваюць пад ударамі молата. Па пад'езьдзе вухае рэха з адгалоскам 37-га году. Праз вочка відаць, што над дзьвярыма калдуюць чатыры ці пяць чалавек. Ня менш. Гучаць імёны Вася, Саша і адборны мат. Відавочная прыкмета таго, што аблога не ўваходзіла ў пляны налётчыкаў. Мабыць, разьлічвалі ўсё зрабіць за хвіліны, а тут такая асечка.

Страх паралізуе цікаўнасьць. Ніводныя суседзкія дзьверы не прачыніліся. Я пачынаю без хапатлівасьці зьбірацца. Перш за ўсё надзяю гарналыжную тэрмабялізну. Джынсы, тоўсты швэдар, зручны абутак без шнуркоў, куртку з капюшонам. У беларускага апазыцыянэра такі камплект заўсёды павінен быць пад рукой. Невядома, дзе давядзецца правесьці рэшту ночы.

Чуваць галасы з-за дзьвярэй тамбура. Здаецца, прыбыла наша доблесная міліцыя, і, трэба прызнаць, даволі апэратыўна. Гляджу ў вочка. Невядомыя нават не зрабілі ласкі пагутарыць з ахоўнікамі парадку вочы ў вочы. Адзін з узломшчыкаў нешта буркнуў незадаволеным камандным голасам, і міліцыя засунула саму сябе ў тое месца, адкуль не відаць і не чуваць.

Дзьверы не здаваліся. Хвіліны цікалі. Напруга з таго боку ўзрастала. Пэрыядычна хто-небудзь з узломшчыкаў вывяргаў пагрозы на наш адрас. Нарэшце тым, хто арудаваў сьлясарным інвэнтаром, удалося адагнуць верхні левы рог мэталічных дзьвярэй, і нечае вока, злосна бліскаючы, абмацвала прастору кватэры. Некалькі чалавек, адціскаючы ламамі дзьверы, спрабавалі выціснуць замок. З

эннай спробы гэта ім удалося, і ў кватэру ўкаціўся клубок чалавечых целаў.

— Усім на падлогу! Буду страляць!

І раптам у гэтай вакханаліі шуму, сапеньня чую роўны, надзіва спакойны голас Сьвятланы:

— Страляйце!

За некалькі мэтраў — задыханыя фігуры. Без аніякіх тлумачэньняў невядомыя заломваюць мне рукі і выцягваюць у калідор. Тут на падлозе заўважаю кувалду, некалькі ламоў і яшчэ нейкія жалязякі. Трое літаральна заносяць мяне ў ліфт. На першым паверсе яшчэ некалькі цывільных, а таксама Валянціна Палевікова і Саша Дабравольскі. Сілавая хваля адкідае і прыціскае іх да сьцяны, а мяне сьпешна цягнуць на вуліцу. Унізе, непадалёк ад пад’езду, стаіць белы мікрааўтобус. Мяне запіхваюць у яго і тут жа нацягваюць на галаву капюшон курткі. Голас папярэджвае, каб я не глядзеў па баках, а толькі ў падлогу. Тыя, хто творыць зло, ня любяць сустракацца вочы ў вочы са сваімі ахвярамі.

Той самы голас зьвяртаецца да кагосьці па рацыі. Дакладней, пытаецца: «Можа, прыхопім заадно і Дабравольскага?» Адказ, мабыць, адмоўны. Але голас не сунімаецца і яшчэ раз просіць санкцыі на затрыманьне Аляксандра, нібы гаворка ідзе пра нешта неадушаўлёнае накшталт табурэткі. Потым злосна кідае кіроўцу: «Паехалі!»

За акном дрымотны Менск. Краем вока заўважаю, што заяжджаем на Камсамольскую. Збочваем з вуліцы ў адтуліну паднятай ралеты. Прасторны двор у абрамленьні будынкаў. Ня надта цырымонячыся, мяне вывалакаюць з машыны, учапіўшыся пальцамі ў цела. Уваходзім у будынак і ў паўзмроку



Квартал КДБ і МУС на праспэкце Незалежнасьці. «Амэрыканка» – круглы будынак лявей ад цэнтру

доўга ідзём па калідорах. Доўгіх і пустынных. На сьценах заўважаю фатаграфіі. Мільгае думка: мусіць, перадавікі чэкісцкага спаборніцтва. Паварочваем яшчэ раз, і цяпер ужо перад намі добра асьветлены лябірынт. Тут у кабінэтах пульсуе жыцьцё. Дзьверы наросьцеж. У пакоях сьвятло, там мільгаюць чалавечыя цені. Мяне заводзяць у адзін з такіх кабінэтных апэндыксаў. Пасьпяваю агледзецца. У куце валяецца манітор тэлевізара «Гарызонт», на

які са стала з пачуцьцём перавагі пазірае LG. Тут жа гумовыя тэпці, пазбаўленыя сьвежасьці шкарпэткі. Відавочнае сьведчаньне таго, што людзі тут ня толькі працуюць, але і жывуць. І, здаецца, не адзін дзень. За сталом малады чалавек. Можа, гэта і ёсьць гаспадар тэпцяў і нясьвежых шкарпэтак? Прапануе крэсла і тут жа пачынае тупа стукаць па клявіятуры. З аўтографа, пакінутага ў пратаколе затрыманьня, вынікае, што мой начны суразмоўца — таварыш з Магілёва. Опэрупаўнаважаны КДБ па Магілёўскай вобласьці лейтэнант Шыцікаў А. А. Нетутэйшыя — відавочнае сьведчаньне таго, што падрыхтоўка да сустрэчы была грунтоўная і працяглая. Пэрыядычна кадэбэшнік некуды выбягае. Напэўна, па інструкцыі. Нарэшце ўсе паперы запоўненыя. У пратаколе затрыманьня «паводле непасрэдна ўзьніклага падазрэньня ў зьдзяйсьненьні злачынства» адзначана, што мяне захапілі ў 2 гадзіны 20 хвілін. Усе фармальнасьці выкананыя. Я пакінуты сам-насам са сваімі думкамі. Пракручваю ў галаве падзеі апошняга дня, і лягічная мазаіка ніяк не складаецца. Нейкая палітычная шызафрэнія. Трачу арыентацыю ў часе. Фізычным прымусам заплюшчыў вочы. Але вось, здаецца, па мяне прыйшлі. Двое ў зялёным камуфляжы. Акальцавалі ў кайданкі і павялі. Жалезныя бранзалеты на руках не пакідаюць сумневаў, дзе я сустрэну сьвітанак.

Вядуць праз невялікі падворак у іншы будынак. Ноч рассычаецца раніцай. Заводзяць у памяшканьне. Спускаемся ўніз па прыступках. Невялікі пакой бяз вокнаў і з вузкай лаўкаю ўздоўж сьцяны. Зьяўляецца чалавек у плямістай форме. Потым яшчэ адзін. Разьдзяюць дагала. Прамацваюць

кожны сантымэтар адзеньня. Адбіраюць нацельны крыжык, з ботаў зразаюць мэталічныя зашпількі. Вільготна. Пах мытай бялізны. Мабыць, недзе побач душавыя або лазьня.

Вядуць па жалезнай лесьвіцы наверх. Уручаюць камплект пасьцельнай бялізны, матрац, драўляную дошку, прызначэньне якой мне не зусім зразумелае, дзьве плястыкавыя міскі, лыжку, конаўку. Пасьпяваю заўважыць, што над галавой купал, як у царкве. Я і двое ў зялёным камуфляжы — у коле, у якое выходзяць дзясяткі два дзьвярэй. Дык вось яна якая, славутая «амэрыканка».

Адчыняюць адны зь дзьвярэй. З абярэмкам казённых рэчаў працiскаюся ў невялікую камэру. Другою ходкаю забіраю шчыт. Такое адчуваньне, што трапіў у пячору. Бледнае, нездаровае сьвятло аднекуль зьверху. Прастора застаўленая трыма нарамі. Двое зьлева і адны справа. Паміж імі вузкі праход. Удваіх не разьмінуцца. Шэсьць пар вачэй, адарваўшыся ад падушак, зь цікаўнасьцю разглядаюць мяне.

— Палітычны?

Сьцьвярджальны ківок. Поціскі рук. Нараў трое, нас чацьвёра. Робіцца зразумелым прызначэньне дошкі: гэта мой ложак. Засоўваю насьціл пад нары, тыя, што справа, вышэйшыя, валюся на матрац і тут жа засынаю.

Паўдня праспаў на дошцы, якая ляжыць на падлозе. Разбудзілі сукамэрнікі. Ня ўцягвайся! Бэтон — рэч падступная. Запаленьне падхопіш і вокам не міргнеш. Пада мной вышчарбленая падлога. Працягнуў руку — ад яе сапраўды цягне холадам.

За дзьвярыма пачуўся грукат. Ён набліжаецца, быццам нехта коціць ваганэтку. Потым цішыня. Скрыгат мэталу. Абед. Ад дзьвярэй адвалілася

вечка, і ў дзірку адна за адной зьніклі тры мэталічныя міскі. Мая плястыкавая засталася ў тумбачцы. Ад ежы адмаўляюся. З таго боку дзьвярэй — вочы ў абалонцы лёгкага зьдзіўленьня. Здаецца, тут гэта не прынята.

Дзеля справядлівасьці скажу, што і я не прыхільнік галадоўкі. Здароўе — рэч далікатная і, як правіла, аднаўленьню паддаецца цяжка. Але часам узьнікаюць безвыходныя сытуацыі. Як, напрыклад, цяпер. Я ня ведаю, як супрацьстаяць гэтаму хамству, гэтай грубай сіле, гэтаму дэманстратыўнаму беззаконьню. Я бяззбройны. Мяне пазбавілі магчымасьці абараняцца ў рамках прававога поля. Што рабіць? Пратэставаць, супраціўляцца! Інакш перастану сябе паважаць. Мой выпадак, мая сытуацыя — бяз выбару. У мяне яго адабралі. Не хачу прыпадабняцца гародніне ў рондлі. Нас прывучаюць да стану істоты, якая набівае страўнік прадуктамі, кватэру — шырспажывам, а душу — страхам. Я не істота, я чалавек! І за права ім звацца буду змагацца, буду біцца! Мой унутраны голас патрабаваў ад мяне гераічных учынкаў! Тое, што адбываецца, мне не даспадобы, але я ня схільны гэта драматызаваць. Пераначуем — лепей пачуем.

Азіраюся. Камэра — грушападобны мяшок. Звужаецца да дзьвярэй і пашыраецца да акна. Вузкаплечыя дзьверы зацягнутыя ў каванае жалеза. Квадратнае вочка, як кракадзілава павека, пэрыядычна прыўздымаецца і пазірае нечым вокам усярэдзіну. На дзьвярах прастакутная адтуліна. Гэта кармушка, або месца для бартэру. Туды — сюды. Туды міскі — адтуль каша, суп, таблеткі і іншыя складнікі мінімальнага пакету тавараў і паслугаў для падтрыманьня жыцьцядзейнасьці

чалавечага арганізму. Батарэя, утопленая ў сьцяну, ня дыхае ні цяплом, ні холадам. Унітаз як прыкмета цывілізацыі. Намёртва прыкручаныя да бэтону стол і два табурэты.

На ніжніх нарах ужо немалады чалавек у спартыўным строі. Крыху пазьней даведаюся, што сукамэрнік — у нядаўнім мінулым... начальнік СІЗА МУС, або «Валадаркі», а сёньня проста падсьледны Дуброўскі. Тут ужо больш за год. Адправіў чалабітную на імя Лукашэнкі і цяпер чакае найвышэйшага адказу. Праўда што, неспазнаныя шляхі Гасподні. Сёньня ты валадар некалькіх тысяч падсьледных і арыштаваных, а заўтра — адзін зь іх. І гэта не дэтэктыў, не прыдуманы сюжэт, гэта жывы чалавек у цёмна-сінім трыко на адлегласьці выцягнутай рукі.

Другі, Уладзімер, сухарлявы, даўгарукі. У вачах позьняя восень, па твары час ад часу прабягае нэрвовая сутарга. Паўшэптам і скорагаворкай распавёў, што ў нядаўнім мінулым таксама меў дачыненьне да пэнітэнцыярнай сыстэмы. У званьні капітана. Мае баявыя ўзнагароды. Месца працы — калёнія ў Навасадах, што пад Барысавам. Абвінавачваецца ў пастаўках наркотыкаў у зону. Віны сваёй не прызнае. Па словах Уладзімера, паказаньні выбівалі сілай. Пры затрыманьні зьбілі так, што тыдзень быў прыкаваны да ложка. Увесь счарнелы, у сіняках і драпінах.

Трэці — аўганец Саід. Якім ветрам яго занесла ў засьнежаную Беларусь са сьпякотнага Аўганістану? Як выявілася, за плячыма ў яго некалькі гадоў жыцьця ў Маскве. Беларускае правасудзьдзе абвінавачвае аўганца ў спробе нелегальна пераправіць групу сваіх суайчыньнікаў у Эўрапейскі Зьвяз. На

вуснах Саіда нязгасная паўусьмешка Моны Лізы. Першае, што зрабіў добразычлівы аўганец, — прэзэнтаваў мне новую зубную шчотку. Шыкоўны падарунак! А то вадзіць пальцам па дзяснах — занятак не з прыемных.

Кармушка адчынілася, і мяне выклікалі на выхад. Робіцца гэта своеасабліва. Гледзячы на цябе, кантралёр пытаецца: «Прозьвішча?» Вывелі. Тварам да сьцяны. Вывернулі кішэні. Спусьцілі ўніз па лесьвіцы. Паверхам ніжэй — акурат такое самае кола, куды выходзяць дзьверы і адкуль выбягаюць тры выхады. Адзін, трэба разумець, на вуліцу, у дворыкі для шпацыраў. Другі — кудысьці ўбок. Трэці — кудысьці ўніз. Праз адны зь дзьвярэй трапляем у невялікі прылазьнік, а празь яго — у пакой, які пасьля камэры здаецца прасторным і сьветлым. Два белыя халаты. За сталом пажылы мужчына, за суседнім — маладая жанчына. Стандартныя пытаньні пра самаадчуваньне. Кажу пра боль у вобласьці сьпіны і ў розных месцах ніжніх канечнасьцяў. Лекар жадае сфатаграфаваць гэтыя месцы вачыма. Разьдзяюся і дэманструю.

— Адкуль гэта ў вас? — Палец торкае ў чырвоныя месцы і гематомы на целе.

Прыйшлося распавесьці пра іх паходжаньне: гэта ўчарашнія «аўтографы», пакінутыя на маім целе спэцназаўцамі. Каля Дому ўраду некалькі дужых хлопцаў павалілі ў сьнег мужчыну, які ім за бацьку сышоў бы, і з садысцкай асалодай штурхалі старога нагамі. Мая спроба дапамагчы небараку скончылася пераключэньнем увагі на маю пэрсону. Дзякуй Богу, на мне была трохслойная «бронекамізэлька» з двух швэдраў і курткі. Гэта крыху зьмякчыла ўдары.

Лекар нешта піша ў журнале, пры гэтым старанна прыкрывае напісанае чыстым аркушам. Ніводзін мускул не варухнуўся на яго твары. Проста мумія з эгіпэцкага саркафага.

Заўважыўшы на маёй далоні сьвежы шнар, лекар торкае ў яго асадкай:

— А гэта што?

Ідзе аповед пра нядаўнюю хірургічную апэрацыю. Акцэнтую ўвагу на тым, што павінен штодня наведваць паліклініку і праграваць руку, зь якой крыху больш як тыдзень таму зьнялі швы. «Мумія» зморшчылася, потым адпусьцілася і зафіксавалася канчаткова. А на што ты разьлічваў — што зараз адправяць у паліклініку на праграваньне?

Мэдсястра запрасіла на вагу. Потым мяне праслухалі, прастукалі і адправілі дадому. То бок у камэру.

Увесь вечар правёў над пераводам думак у фармат ліста. І віной таму Саід.

— Трэба дадому пісаць! — ці то сказаў, ці то запатрабаваў аўганец, працягваючы мне сшытак у клетачку і шарыкавую асадку.

«Чорт вазьмі, нават у гэтым злавесным месцы можна заставацца чалавекам». Гэта я пра сябе, а Саіду моўчкі паціснуў руку. Усё і так чыталася на маім твары. Я засеў за пасланьне родным. Напісаў, перачытаў. Але думкам было ўжо цесна ў галаве. Яны набягалі адна за адной, як хвалі, абдаючы то цяплом успамінаў, то холадам цяперашчыны. Падумалася: гэта варта апісаць. Праз пару дзён выйду, а матэрыял для «Народнай волі» ўжо гатовы. Тым больш што вопыт вядзеньня турэмнага дзёньніка ўжо ёсьць — шматлікія адседкі на Акрэсьціна

(турма для асуджаных за адміністрацыйныя правапарушэньні).

Пакуль жа вызначыўся, што трэба пачаць з 19 сьнежня, дня, які выглядае відавочным фаварытам сярод іншых дзён ужо амаль прамінулага году. Таксама вырашыў, што буду пісаць каструбавата, неразборліва і тэзісна, але так, каб потым самому можна было расшыфраваць крымзолы і пазнакі.

## 21 сьнежня, аўторак

Першая поўнафарматная ноч у «Hilton-амэрыканцы». Прыстасаваў шконку (драўляны насьціл) для сну. Адзін канец паставіў на нерухомы зэдлік, а другі — на тумбачку. Раскатаў матрац. На шчасьце, ён у мяне не «артапэдычны», то бок даволі цупкі. Разаслаў крыху вільготную прасьціну. Зьверху — цёмна-сінюю коўдру з трыма чорнымі палоскамі. Памятаецца, такая была ў мяне ў войску, і мы старанна выроўнівалі ўсе палоскі на ўсіх ложках у адну ідэальную лінію. Але вайсковую казарму пад Падольскам у параўнаньні з гэтымі казэматамі можна назваць санаторыем. Каб заснуць, давялося шукаць правільную позу, бо цела ныла ад udaraў. Так бывае, пачуцьцё болю прыходзіць з пэўнай затрымкай. Прачынаўся, засынаў, зноў прачынаўся. Заглыбіўся ў сны толькі пад раніцу. І тут жа нечы голас бесцырымонна ўварваўся ў камэру: «Пад'ём!» Расплюшчыў вочы, і позірк уткнуўся ў салатава-брудную сьцяну. У першае імгненьне нават не зразумеў, дзе я. Усё вакол чужое, непрыемнае, халоднае.

Сьняданак у «Hilton-амэрыканцы». Што гэта такое? Чарпак проса ў міску. Бохан хлеба. Чатыры



Будынак «амэрыканкі», від з двара

лыжкі цукру. Нягуста. Усё астатняе — з уласных запасаў, у тым ліку і гарбата. Вада — з водаправоднага крана.

— Прозьвішча?

Зразумела. Па мяне прыйшлі.

Выводзяць у калідор. Рукі за сьпіну! На запясьцях шчоўкаюць кайданкі. Уніз па ўжо знаёмай жалезнай лесьвіцы. Праз падворак, над якім з усіх бакоў навісаюць будынкі. У цэнтры некалькі мікрааўтобусаў, гэткія мадэрнізаваныя «варанкі». На адным з такіх мяне даставілі ў СІЗА. Уверх па лесьвіцы суседняга будынка. Чацьвёрты паверх. Кабінэт большы за ўчорашні. За сталом круглатвары чалавек. На вока гадоў пад сорак. З другога боку стала — маладая асоба, якая ня ўпісваецца ў інтэр’ер кабінэта. Высьвятляем, хто ёсьць хто. Круг-

латвары — старшы сьледчы па асабліва важных справах сьледчага ўпраўленьня КДБ Беларусі маёр юстыцыі В. В. Салдаценка. Асоба, якая ня ўпісваецца ў антураж, — адвакат Ірына Бурак.

— Я ўпаўнаважаны заявіць: калі вы скажаце тое, што ўжо заявілі іншыя вашы калегі, калі падпішаце тое, што яны ўжо падпісалі, то ўжо сёньня ўвечары будзеце дома.

Прамаўляючы гэтыя словы, маёр зарыў свой позірк у паперы, што ляжалі перад ім.

Знаходжу вочы сьледчага.

— Я хутчэй адгрызу ўласную руку, чым адмоўлюся ад таго, у што веру, ці буду ілжыва сьведчыць у дачыненьні да іншых.

Дзеля пераканаўчасьці выцягваю перад кадэбістам тую самую руку са сьвежым шнарам на далоні. Старшы сьледчы КДБ шматзначна пазірнуў на яе і падвёў вынік гэтай часткі гутаркі:

— Уласна, іншага я і не чакаў пачуць.

Далей руціна з запаўненьнем анкетных дадзеных і пытаньне з падтэкстам гатовага адказу:

— Як я разумею, вы ня маеце намеру прызнаваць сваю віну і супрацоўнічаць са сьледзтвам?

На пытаньне адказваю пытаньнем:

— Скажыце, я падобны да вярблюда?

Правае брыво сьледчага прыўзьнялася і пляснулася назад.

— Я не вярблюд, і гэта відавочна. Калі нехта ў гэтым сумняваецца, хай прад'яўляе доказы адваротнага. Мне няма пра што гаварыць з тымі, хто па-бандыцку выносіў дзьверы ў маёй кватэры, хто даставіў маральныя пакуты маім родным і блізкім.

— Але вы ж разумееце, што я да гэтага ня маю ніякага дачыненьня.

— Вы — не, але гэта людзі з вашага ведамства.

— А яны што, не прадстаўляліся?

— Вядома, не. Яны былі ў цывільным, невысокія і вельмі агрэсіўныя.

— Калі малыя і злыя, гэта пэўна нашы.

Здаецца, у гэтых словах няма і намёку на тое, каб ганарыцца таварышамі па службе.

Расьпісваюся ў пратаколе допыту. Пераключаюся на адвакатку. Яна выказвае ўпэўненасьць, што за тры дні ўсё скончыцца.

— Ніякіх прававых падставаў трымаць вас тут няма, гэта ўсё падобна да аднаго вялікага непаразуменьня. Вашы родныя вельмі за вас перажываюць. У іх усё добра.

Да горла падкаціўся клубок. Спрабую зглынуць і прапхнуць яго назад.

Задаю пытаньні, каб стварыць больш ці менш адэкватны малюнак падзеяў. Выходзіць, што нас тут больш за дваццаць. Ёсьць арыштаваныя і ў «Валадарцы». Акрэсьціна забіта пад завязку. Затрыманых вязуць таксама ў Жодзіна. Гаворка ідзе пра сотні людзей. Арышты і затрыманьні працягваюцца. На тэлебачаньні ўсё падаецца як зводкі з фронту. Усе ў напружаньні і чаканьні. Краіна спалохана замерла. Навіны непрыемныя, але пасьля размовы з Ірынай трывога за сям’ю крыху аціхла, а настрой увайшоў у звыклыя берагі.

Мяркуючы па тым, як гусьцее цемра за акном, час блізіцца да вячэры. Пасьля сустрэчы са сьледчым і адвакатам мой стан прыкметна палепшыўся. Саід і Ўладзімер скарысталіся сытуацыяй і тут жа правялі курс навучаньня настольнай гульні з

інтрыгуючай назвай «мандавошка». Як выявілася, гэта нешта накшталт нардаў.

І раптам новая ўводная: «З рэчамі на выхад!» Ого! Няўжо дадому? — сьлізгае думка па тонкім лёдзе аптымізму. Доўгі ключ са скрыгатам пракручваецца ў замочнай шчыліне. Праціскаюся ў адчыненыя дзьверы. Другой ходкай забіраю драўляны насьціл. Маршрут руху, аднак, нядоўгі. Ад дзьвярэй № 12 да лічбы «4». Камэра большая. Чатыры ложкі. Пасьпяваю заўважыць, што трое з чатырох — маладыя людзі.

— Добры вечар!

— Ого, сам Лябедзька!..

Гаварыў самы старэйшы, мужчына гадоў шасьцідзесяці. На твары гармонікам расьцягнулася ўсьмешка. Ці то ад уласнай абазнанасьці, ці то ад факту майго зьяўленьня ў камэры.

## 22 снежня, серада

Дзень трэці. Шостая раніцы. Асьвятленьне зьмянілася з начной лямпачкі на дзённую. Хрыплаватае «Пад'ём!» ускочыла ў камэру праз прачыненую на імгненьне кармушку. Слабое варушэньне на нарах. Але толькі варушэньне. Зрэагаваў адзін я. Скручваю ложак у рулён і запіхваю пад ніжнія нары. Масажую ротавую поласьць Саідавым падарункам. У гэты час па ручцы дзьвярэй ударылі нечым жалезным. Аказваецца, гэта сыгнал наведаць туалет. Ад нараў адарвалася адно цела, другое... чацьвёртае. Гэтая камэра не абсталявана каналізацыяй. Замест яе ў кутку пры дзьвярах бачок зь вечкам — спраўляць малую патрэбу. А прыбіральні дзесьці ў калідоры. Адна на нашым паверсе, другая павер-

хам ніжэй. Пазяхаючы, сукамэрнікі ляніва выходзяць з камэры. Застаюся ў адзіноце. Хвілін празь пятнаццаць, канчаткова прачнуўшыся, чацьвёрка вяртаецца. Пры рукамыйніку невялікая чарга. Каля сёмай раніцы — сьняданак. Усё тая ж каша, што і ў дванаццатай. Прыкладна праз гадзіну прышэсьце дзяжурнага зьмены. Наймаладзейшы дакладае пра колькасьць людзей у камэры, час, які запрошваецца на шпацыр, наяўнасьць карэспандэнцыі на адпраўку, намер наведаць лекара. Напісаныя лісты перадаюцца дзяжурнаму ў незапячатаных канвэртах. У прамежку паміж сьняданкам і абедам — шпацыр: гадзіна або дзьве.

Мяне зноў выклікаюць на допыт. Ідзём ужо знаёмым маршрутам у суседні будынак. У прасторным пакоі трое. Натуральна, ніхто не прадстаўляецца. З рэплік здагадваюся, што перада мной трыюмвірат ведамстваў — КДБ, МУС і пракуратуры. Лукашэнкаўская тройка.

Закінулі здалёк. Нешта пра надвор’е. Бачачы, што я не дэманструю ахвоты да кантакту, тут жа перайшлі да справы. Маўляў, сытуацыя ў вас, спадар Лябедзька, паршывая. Артыкул абвінавачаньня сур’ёзны, максымальны тэрмін зьняволеньня таксама немалы, да 15 гадоў. Моўчкі выслухоўваю сьпіч, які, мабыць, павінен зрабіць на мяне нязбыўнае ўражаньне. Мне абяцаюць, што рыць будуць глыбока, і ўручаюць пастанову аб прымяненьні ў дачыненьні да падазраванага меры стрыманьня ў выглядзе заключэньня пад варту. Дакумэнт завізаваны старшым сьледчым СУ ПР ГУУС Мენгарвыканкаму маёрам Д. А. Купкам і начальнікам сьледчага ўпраўленьня падпалкоўнікам Г. А. Казакевічам. У пастанове пазначана:

*«...прымаючы пад увагу, што Лябедзька А. У. падазраецца ў зьдзяйсьненьні асабліва цяжкага злачынства, знаходзячыся на волі, можа схавацца ад органа крымінальнага перасьледу і суду, перашкодзіць папярэдняму расьсьледаваньню крымінальнай справы або разгляду яе судом, у тым ліку шляхам аказаньня незаконнага ўзьдзеяньня на асобаў, якія ўдзельнічаюць у крымінальным працэсе, утойваньня або фальсыфікацыі матэрыялаў, якія маюць значэньне для справы, кіруючыся арт.арт. 116, 117, 118, 119, 126 КПК Беларусі, прымяніць у дачыненьні да падазраванага меру стрыманьня ў выглядзе заключэньня пад варту ў СІЗА КДБ».*

З гэтага вынікала адно: я застаюся ў «амэрыканцы». Усярэдзіне нешта абарвалася. Надзея? Так, яна. Плясь — і толькі аскепкі: працінаюць, драпаюць, сьвішчуць. Балюча, але ад гэтага не паміраюць.

Было бачна, што «тройка» ўпіваецца момантам. Самаздаволеньне разьліта па ўкормленых, гладка паголеных тварах. Матывацыі цесна ў старым мундзіры. На гэтай справе можна і зорачку злавіць на пагон, і іншыя дывідэнды займець.

— Вам усё зразумела? — пытаецца маладзейшы, што за сталом справа.

— Чытаю пастанову і не магу зразумець: а ў чым канкрэтна мая віна?

Старэйшы па ўзросьце і, мабыць, па званьні аж разьвесяліўся, пачуўшы маё пытаньне.

— Анатоль Уладзімеравіч, ды ў вас столькі грахоў — на дзесяцёх хопіць.

Вось так, проста ў лоб, без аніякай дыпляматыі. Адчуваю, што спакой пачынае пакідаць мяне.

— А я ж думаў, што грэх — гэта хутчэй катэ-

горыя маральная, і ўжо ж ніяк не прававая. Дый, ведаеце, я ня бачу тут Ісуса Хрыста, які вызначыў бы ступень маёй грахоўнасьці. І ня вам гэта рабіць з вашай рэпутацыяй і вашым стаўленьнем да закону і Канстытуцыі.

Спрачацца ня сталі. Толькі кароткае, як стрэл: «Вывесьці!»

У дворыку пад нагамі храбусьціць сьнег. На галаву падаюць сьняжынкі. Захацелася зачэрпнуць гэтай белай пудры ўсёй жменяй. Інстынктыўна правёў пальцамі па жалезе наручнікаў. Хочаш, але ня можаш. Гэта і ёсьць несвабода. Апошні позірк на неба над галавой без разьдзяляльных лініяў і калючага дроту. Дзьверы ўсхліпнулі і зачыніліся за сьпінай. Як мінімум яшчэ сем сутак мушу правесьці ў «амэрыканцы». Унутраны голас ужо не такі рашучы і ваяўнічы. Мне гэта не падабаецца ўсё больш і больш.

Прымаю рашэньне ўладкоўвацца грунтоўна. Камэра № 4 — маё новае жыльлё. Калі спачатку здавалася, што ўсё, што адбываецца, — абсурднае, але часовае непаразуменьне, то цяпер я схільны думаць, што гэта сур’ёзна і, магчыма, надоўга. Прынамсі, даўжэй, чым звычайна. Падобна, мне проста помсьцяць. Як мне толькі што папулярна растлумачылі, «за старыя грахі». Другая вэрсія: трымаюць як закладніка. Хутчэй за ўсё, дзеля бартэру. Лукашэнка любіць падгандлёўваць людзьмі. Асабліва са сьпісу сваіх асабістых ворагаў.

Вывучаю жытло. Пяцімэтровы пэнал звужаецца да дзьвярэй і пашыраецца да двух вокнаў накшталт байніц у крэпасьці. Тут можна гадзінамі як маятнік шпацыраваць ад дзьвярэй да вокнаў і назад. Паміж чатырма жалезнымі двух’яруснымі нарамі.

Адзін стол, два крэслы, умураваныя ў бэтон. Тры драўляныя тумбачкі-інваліды часоў Леаніда Ільіча. Невялікая белая ракавіна рукамыйніка, аднавэнтыльны кран, губка мыць посуд. Тры плястмасавыя кручкі для вопраткі справа ад уваходу. Невялікі тэлевізар — як ластаўчына гняздо над дзьвярыма. Над ім ліхтар начнога асьвятленьня. Тут жа вэнтыляцыйная дзірка ў калідор, праз якую працягнуты тэлевізійны кабэль. Сьцены брудна-салатавага колеру. Верхні пласт шмат дзе — як аблезлая ад загару сьпіна. Палосы, дзе фарба паадвальвалася, суседнічаюць з пухірамі, якія ад найлягчэйшага дотыку рассыпаюцца ў пацяруху. Насьценнага жывапісу, як і запісаў пра гісторыю і біяграфічныя зьвесткі пастаяльцаў, няма. У адрозьненьне ад Акрэсьціна, дзе народнай творчасьцю сьпісаныя драўляныя насьцілы, сьцены, дзьверы. У адкрытую фортку, пакрытую зморшчынамі жалезных прутоў, зьвісае важкі лядзяш. За акном сьцяна іншага будынка. Закратаваны чорны квадрат Малевіча! Змрачнавата.

Але галоўная адметнасьць камэры № 4 — вядома ж, яе насельнікі.

Ігар Аліневіч, 28 гадоў, мянчук. Высокі, з кароткай стрыжкай, у залысінах і з пучком валасоў, які падае на патыліцу. Праходзіць па справе анархістаў, якія абвінавачваюцца ў падпалах расейскай амбасады, Міністэрства абароны і яшчэ нейкіх аб'ектаў.

Кірыл, невысокі чарнявы сымпатычны хлопец. Зь Менску. Меў згубную звычку пазычаць грошы і не аддаваць. Дзьве дзяўчыны напісалі заявы, і махляр апынуўся за кратамі. Кірыл гатовы кампэнсаваць экспрапрыяваныя 600 тысяч беларускіх рублёў (хто б сумняваўся!), але жаданьні аднаго

не супадаюць з намерамі іншых. Як вынік — ужо чацьвёрты месяц у СІЗА. Выснова: або ён не зусім шчыры, або прыклад чарговага абсурду.

Максім, самы малады з усіх сукамэрнікаў. Дваццаць з хвосьцікам. Цела размаляванае татуіроўкамі ад шыі да ступняў. Толькі адна рука — як некранутае палатно. Максім — старажыл. Тут ён больш за год. У яго ўжо і тэрмін ёсьць — 9 гадоў за захоўваньне і распаўсюджваньне наркотыкаў. Але ў калёнію не пераводзяць, бо нібыта адкрыліся новыя акалічнасьці па іншай крымінальнай справе. Што за акалічнасьці, пакуль так і не праясьніў для сябе.

Яшчэ адзін падсьледны — Уладзімер Цiток. Ужо ў сталым веку, пад шэсьцьдзесят. Жыхар Магілёва. Тут не прынята распытваць аб прычынах знаходжаньня ў «амэрыканцы». Толькі добраахвотная споведзь. Уладзімер кажа, што прывёз на дачу машыну пяску. Вось і ўсё злачынства. Выходзіць, што КДБ курыруе распрацоўку і эксплюатацыю пяшчаных кар'ераў.

Мяне сустрэлі ветліва. Як мінімум двое нядрэнна абазнаныя, ху із містэр Лябедзька. Учора першым чынам паспрабавалі накарміць. Матывацыю галадоўкі ўспрынялі з разуменьнем.

Усе чацьвёра — курцы з розным аб'ёмам удыханьня нікатыну. Камэра насычана пахамі чалавечых целаў (якія абмываюцца гарачай вадой раз на тыдзень), сырасьці, тытунёвага дыму. Асобная тэма — адкіды жыцьцядзейнасьці. Наведваньне туалета рэглямэнтаванае. Толькі два разы на працягу дня. Першы раз — пасьля пад'ёму, а шостай раніцы, і гэтую працэдуру мне ўжо давялося назіраць сёньня. Другі — падвечар. У такіх умовах нармальнае функцыянаваньне стрававальнай сыстэмы — гэта

жыцьцёвая неабходнасьць. Паўтаруся, каналізацыю тут замяняе плястыкавы дзесяцілітровы цэбар зь вечкам. Такі, толькі алюмініевы, я бачыў у Бэрліне, у турме Штазі. Сёньня там музэй, у якім гаспадараць былыя палітвязьні. А тут беларуская рэальнасьць.

Аказваецца, змагацца зь непрыемнымі пахамі можна пры дапамозе мандарынавых і апэльсінавых лупінаў, якія закідваюцца ў пасудзіну. Такі сабе натуральны дэзадарант. Як ідуць у туалет, прыхопліваюць з сабой дзесяцілітровую ёмістасьць і кошык для сьмецьця з адкідамі, якія набраліся за дзень.

Ад бэтоннай падлогі цягне магільным холадам. Жалезныя двух’ярусныя нары. Пад ніжнімі — манаткі пастаяльцаў. Аднолькавыя клятчастыя торбы. Такія ў хаду ў «чаўнакоў» на рынках. Тут жа на падлозе глянцавыя нумары «СБ» (газэты «Советская Белоруссия»), якія выконваюць функцыю падсьцілкі для гародніны ды садавіны. У нішы акнабайніцы — шматлікія плястыкавыя кантэйнэры з салам, сырам і іншымі прадуктамі, атрыманымі зь «Вялікай зямлі», гэта значыць ад сваякоў. У фортцы, паміж дзьвюх аконных рам, прывязаны да кратаў пакет з каўбасой. Такая вось натуральная халадзільная камэра.

На нары я гляджу з зайздрасьцю. Бо мой ложак — гэта насьціл з чатырох драўляных дошак, змацаваных папяросачнымі брускамі. Такія называюць па-рознаму — хто сэрфінгам, хто шконкай. Я б назваў яго асколкам Акрэсьціна, дзе мне давялося бываць ня раз. Там увогуле няма нічога, акрамя драўлянага насьцілу. Ні бялізны, ні матрацаў. Сьпіш на голых дошках. Дзён так праз пяць косьці пачынае ламаць нават у дваццацігадовых.

На працягу дня чатыры разы выдаюць лекі. У камэры захоўваць мэдыкамэнты забаронена, таму яны ў скрынях у калідоры. Выдачу санкцыянуе лекар. Выдае кантралёр, робячы адпаведны запіс у журнале. Лекі трэба спажыць на вачах наглядчыка. Калі ў вас знойдуць таблетку, якая не пайшла па прызначэньні, гэта ўжо парушэньне і, як вынік, канфліктная сытуацыя.

А яшчэ, як запэўніваюць новыя знаёмыя, можна раз на месяц замовіць цырульніка. Праўда, ніхто з прысутных гэтым правам ні разу не скарыстаўся. Аддаюць перавагу самаабслугоўваньню. Паводле прынцыпу «я цябе пад нуль, ты мяне пад двойку». Па аўторках і чацьвяргах падсьледным выдаецца набор прыладаў, каб галіцца, станок, пена для галеньня, люстэрка. Яны захоўваюцца ў тых жа скрынях каля дзьвярэй з вонкавага боку, што і мэдыкамэнты. Практыкуецца і запрашэньне сьвятароў. Са слоў сукамэрнікаў, такія выпадкі былі зафіксаваныя. Прынамсі адзін. Можа, гэта супрацоўнікі камітэту ўбіраюцца ў сутану, каб пачуць споведзь?

## 23 сьнежня, чацвер

У кране няма вады — значыць, скончыліся выбары. Краіна патанае ў буднях. У камэрах толькі халодная вада, але сёньня з адкручанага крана даносяцца толькі шыпеньне і бульканьне. Праблемы з каналізацыяй. Няма вады, няма і гарачай гарбаты. Гэта істотна ўплывае на настрой. Усе ўдарыліся ў маўклівае чытаньне ўперамежку з дрымотай. Зрабіў лёгкую зарадку. Злавіў лёгкі зоркалёт. Уваччу пацямнела і заскакалі нейкія яркія кузуркі. Значыць,

арганізм не падманеш. Аднак і ў галадоўкі ёсьць свае плюсы: ня трэба прыстасоўвацца да часу наведваньня туалета.

У носе адліга. У новай камэры тэмпэратура істотна ніжэйшая, чым у папярэдняй. І калі там народ хадзіў у майках, дык тут усе ў швэдрах, з шалікамі на шыі. Старажылы папулярна растлумачылі, што дванаццатая камэра, зь якой пачалося маё знаёмства з «амэрыканкай», адносіцца да разраду «элітных». Так бы мовіць, нумар павышанай камфортнасьці. Тут жа ноччу холад праточваўся пад коўдру і рваў сон на шматкі. Нацягнуў на сябе ўсё, што было і ў што можна было загарнуць пупырышкі ўласнага цела. Каэфіцыент цеплавога ўзьдзеяньня быў мінімальны. Хвіліны неспаньня прыкрашвае хор храпуноў. То зь пералівамі, то зь перакатамі. Мая галава за 30–40 сантымэтраў ад галавы Ўладзімера, галоўнага саліста гэтага хору. А легчы па-іншаму — аніяк. Адзін канец насьцілу-ложка даводзіцца класьці на жалезную табурэтку, умантаваную ў падлогу, другі — на тумбачку. Старую, выцертую да брудна-белага мяса драўніны. Раніцай згортваю ў рулён пасьцель, запіхваю пад ніжнія нары. Драўляную шконку прыстаўляю стаўма да сьценкі каля ўваходу.

Падчас ранішняга абходу замовіў сустрэчу зь лекарам. З насмаркам усё ж лепш змагацца на пачатковай стадыі.

Сёньня выйшаў на шпацыр. Больш дзеля цікаўнасьці. Нас спусьцілі па лесьвіцы. Вывелі на вуліцу і завялі ў адзін зь пяці дворыкаў. Закутак такі ж, як і камэра, толькі бяз нараў. Ды над галавой мэталічная сетка ў буйную клетку. Брудныя, абшарпаныя сьцены з расколінамі, праз якія выглядвае чырво-

ная цэгла. Пад нагамі вышчарблены асфальт. Каб не адчуваць панурага ўзьдзеяньня сьцен, позіркі людзей на шпацыры скіраваныя ў нябёсы. Над дворыкамі літарай «Г» узвышаецца памост пад казырком. Па ім крочыць кантралёр і назірае за тым, што робіцца ў пяці дворыках і ў жалезнай клетцы. Зьлева па курсе дворыкі, справа — клетка. У драўлянай скрыні — магнітола, з дапамогай якой ажыцьцяўляецца музычнае суправаджэньне шпацыра. Гэта не элемэнт забавы, а своеасаблівая глушылка, каб не было камунікацыі паміж падсьледнымі з розных дворыкаў. Побач з музычнай скрыняй — масіўная чырвоная кнопка. Хутчэй за ўсё, сыгналізацыя.

* * *

Разжыўся на канвэрты. Гуманітарная дапамога ад тых, хто, як і я, закаркаваны ў гэтай бутлі. Першым чынам на адным дыханьні напісаў яшчэ адзін ліст жонцы і сыну. Выйшла жыцьцярадасна і аптымістычна. Спадзяюся, гэта хоць трошкі дапаможа ім у супрацьстаяньні з дрэннымі думкамі.

Затым узяўся за пасланьне генэральнаму пракурору Васілевічу. Гэты бандыцкі напад на кватэру з выбіваньнем дзьвярэй і пагрозамі распачаць страляніну стрэмкай сядзіць ува мне. Пагатоў няма ніякай інфармацыі пра тое, што там адбывалася пасьля майго затрыманьня. Падрабязна апісаў падзеі той страшнай ночы, і на душы палягчэла: хоць пракурору раскрыць душу, перапоўненую эмоцыямі. Як падказалі знаўцы мясцовых працэдур, канвэрт са зваротам да генпракурора можна запячатваць, і цэнзар ня мае права ўскрываць яго. Усю астатнюю карэспандэнцыю трэба перадаваць у адкрытым

канвэрце, і яна ў абавязковым парадку праходзіць празь мясцовую цэнзуру. Існуе шэраг забаронаў і табу. Да прыкладу, нельга згадваць прозьвішчы тых, хто разам з табой у СІЗА, нельга апісваць прыслугу «амэрыканкі».

* * *

У «амэрыканку» прыбыло падмацаваньне. Да пэрсаналу СІЗА, які носіць зялёны камуфляж, даданіся людзі ў чорным без аніякіх апазнавальных знакаў. Яны вылучаліся ня толькі колерам адзеньня, але і дэманстратыўнай агрэсіяй. Кожны кантакт з чорнымі суправаджаўся сутычкамі і канфліктамі. Яны не спрабавалі размаўляць, яны гаварылі нават не на павышаных тонах, яны элемэнтарна гарлалі. Зь першых хвілін свайго зьяўленьня. Цэлы дзень, ад пад'ёму да адбою. Найбольш шчыраваў невысокі, чорны як смоль, з густым шчаціньнем на выпуклым падбародку. Да яго адразу ж прыляпілася мянушка Барада.

Асабліва балюча ўспрынялі зьяўленьне незнаёмцаў тыя, хто ўжо адседзеў у «амэрыканцы» не адзін месяц. Яны нічога не разумелі, але адчувалі, што іх пазбаўляюць звыклага, усталяванага ладу жыцьця. Напружаньне пратэставых настрояў нарастала, то тут, то там успыхваючы канфліктамі і сутыкненьнямі з прыхаднямі. Чутнасьць тут добрая. Як у філярмоніі. Кантынгент не жадаў саступаць. Усе дружна пацягнуліся да кніжкі брудна-зялёнага колеру, якая дагэтуль самотна боўталася на кручку для адзеньня. Гэта Правілы знаходжаньня падсьледных у СІЗА КДБ. Дакумэнт падпісаны начальнікам камітэту і завізаваны генэральным пра-

курорам. Працэдуры расьпісаныя ў ім падрабязна, і ня толькі абавязкі, але і правы.

Са зьяўленьнем неідэнтыфікаваных незнаёмцаў узьнікла калектыўнае, неадступнае пачуцьцё трывогі. Набліжэньне зьменаў бударажыла і хвалявала. Адчувалася, што «чорныя» зьявіліся невыпадкова і, здаецца, мелі на руках карт-блянш. Тое, што ўчора было жахлівым, у параўнаньні зь сёньняшнім такім ужо не выглядае. Тады якім жа можа быць заўтра?

Што нязьменна, дык гэта ледзяшы за вакном. Праўда, і яны то набіраюць вагу, то губляюць яе.

## 24 сьнежня, пятніца

Раніцай нас чакаў сюрпрыз. Калі дзьверы адчыніліся, перад намі паўсталі ня толькі кантралёры, але і дзьве постаці ў чорных камбезах і... масках. Гэта што за маскарад?! Па ўсім відаць, гэта вынік учорашніх татальных сутыкненьняў кантынгенту зь невядомымі людзьмі, што аб’явіліся ў СІЗА. Сёньня незнаёмцы схавалі свае твары пад маскамі. Мабыць, так ім камфортней выконваць сваю місію па запалохваньні. Адразу пасьля ранішняй паверкі з усіх камэраў забралі Правілы, якія рэглямэнтуюць правы і абавязкі як падсьледных, так і адміністрацыі. У камэры ўспыхнула дыскусія: што б гэта магло азначаць? Толькі адно: у СІЗА ўведзены рэжым надзвычайнага становішча. Мы ў поўным распараджэньні невядомых у чорным. І, падобна, у іх адны правы, а ў нас засталіся толькі абавязкі.

* * *

Мінулая ноч была лепшая. Напэўна, гены прывыканьня пачынаюць прыстасоўвацца і адап-

тавацца да сытуацыі. Прыбраў свой самаробны ложак. Пачысьціў зубы, якія шосты дзень адпачываюць. Паплюхаўся пад вадаспадам пырскаў з аднавэнтыльнага крана. Чарговая раніца без зарадкі. Сілы трэба эканоміць. Запускаю сілазьберагальны рэжым жыцьцядзейнасьці.

* * *

Перадаў праз дзяжурнага дэмпрывітаньне беларускаму правасудзьдзю, то бок абскардзіў сваё знаходжаньне пад вартай. Справа з нулявой пэрспэктывай, але ўсё ж вырашыў ёю заняцца. А чым яшчэ, уласна, запаўняць пустоты часу, якія паўтвараліся так нечакана? У пастанове аб маім арышце сьцьвярджаецца, што я ў змове з групай асобаў рыхтаваў хаос на вуліцах, беспарадкі ў галовах. Фантазіі расьцьвітаюць, як чартапалох на недагледжаных могілках. Бо з большасьцю асобаў, пералічаных у пастанове, я наагул не перасякаўся падчас выбарчай кампаніі. Выходзіць, кантактаў не было, а змова, ды яшчэ наўмысная, мела месца! Тое, што ляжыць на паверхні, перашкаджае ўбачыць бервяно ў воку сьледзтва. Надзеяў на судовую справядлівасьць аніякіх, але чаму б не сабраць аўтографы саўдзельнікаў гэтага самаўпраўства? За апошнія гады ў мяне сфармавалася ўстойлівая і абгрунтаваная пазыцыя што да сыстэмы беларускага правасудзьдзя. Не аднойчы спрабаваў зазірнуць пад павязку мясцовай Тэміды. Занятак беспэрспэктыўны. На жаль, краіна каторы год жыве безь незалежнай судовай сыстэмы. На будынках можна ўбачыць шыльды «Канстытуцыйны суд», «Вярхоўны суд», «Суд Цэнтральнага раёну г. Менску», але ўсё гэта абалонка, форма бязь зьместу. Судовая сыстэма Беларусі ператварылася ў



Кастрычніцкая плошча да берагоў запоўнена чаканьнем і надзеяй

адзін з шматлікіх аддзелаў адміністрацыі «Чырвонага дому». А людзі ў чорных мантыях сталі чыноўнікамі, якія выконваюць функцыі палітычных кілераў. Памятаецца, у сярэдзіне дзевяностых мінулага стагодзьдзя яшчэ знаходзіліся судзьдзі, якія выносілі пастановы і прысуды на падставе закону і Канстытуцыі, а не па званку з адміністрацыі Лукашэнкі. Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што ў той час судзейскі корпус меў выбар і магчымасьці. У выпадку ціску судзьдзя мог павесіць мантыю на кручок і сысьці ў прыватны натарыят або адвакатуру. Гэта значыць — туды, куды ня быў пракладзены кабэль прэзыдэнцкага тэлефоннага права. Але Лукашэнка падправіў сытуацыю. Некалькі ягоных указаў — і гэтыя выспачкі незалежнасьці пайшлі на глыбокае дно манаполіі. З таго часу ўсе судзьдзі жорстка прывязаныя да Лукашэнкі. Мне гэта нагадвае вялікі калгасны кароўнік. У кожнага судзьдзі сваё стойла, сваё таўро, свая кармушка і на ўсіх адзін паганяты.

* * *

Працэс нацыяналізацыі і экспрапрыяцыі працягваецца. Канфіскавалі з камэры тэлевізар. Натуральна, без аніякіх тлумачэньняў. Проста ўварваліся ў камэру і вынесьлі. Пытаньне матыву завісла ў тытунёвым воблаку. Тэлескрыні і так можна было ўключаць толькі пасьля 18 гадзіны ў будзённыя дні, а ў выходныя і сьвяты — з паўдня. І толькі на хвалі прывітаньня ад БТ. Але, здаецца, нават гэтая афіцыйная крыніца прапаганды здалася мясцовай цэнзуры залішняй. Зь яе ўсё ж можна лавіць драбкі інфармацыі. Мабыць, нас вырашылі цалкам ізаляваць ад зьнешняга сьвету.

Чым больш часу праводжу ў разважаньнях, тым выразьней вымалёўваюцца контуры вялікай апэрацыі мясцовых спэцслужбаў. Хутчэй за ўсё, тут няма затрыманых выпадкова. Сьпіс фігурантаў «справы 19 сьнежня» выверананы і ўзгоднены загадзя. Ізалявалі тых, хто станавіў рызыку і пагрозу. Помста і кара. За што? Ды за ўсё што заўгодна! За сказанае. За зробленае. Проста за старыя грахі, як сказалі мне ўжо тут.

* * *

Зноў выклікалі. Кожны такі вывад з камэры — поўная няпэўнасьць і невядомасьць. Гэтым разам канцавы пункт — лечкабінэт. Ого, ды тут цэлы кансыліюм: «галоўны ўрач» СІЗА, мужчына ў гадах, учорашняя маладая жанчына ў белым і двое новых, круглатвары і вусаты. Агляд з узмоцненай пільнасьцю. Прастукалі, праслухалі, агледзелі. Ад макаўкі да пят. Вага спынілася на адзнацы 70. Гэта значыць, што пяць кіляграмаў пакінулі маё цела. Як я разумею, кансыліюм — гэта рэакцыя на

галадоўку. Агляд суправаджаецца нэўтральнымі і месцамі добразычлівымі заўвагамі пра карысьць харчаваньня і шкоду галадоўкі ў экстрэмальных умовах. Моўчкі працэджваю інфармацыю праз фільтры мозгу.

Як толькі за маёй сьпінаю зачыніліся дзьверы мэдпакоя, людзі ў чорным пачалі гарлаць: «Хутчэй! Хутчэй!» Здаецца, крыкам спрабавалі ўзламаць мае барабанныя перапонкі. Мне ня беглася. Іх гэта злавала. Той, што быў бліжэй да мяне, схапіў за плячо і пачаў падштурхоўваць. Стала відаць запясьце з рудымі зарасьцямі. Рухам пляча я скінуў чужую касматую руку. Мы счапіліся вачыма. Злосна і бязьлітасна.

— Не разумееш? — захрыпела маска.

— *Не разумею*! — іду я на прынцып.

Зрэнкі насупраць звузіліся, праціўнік ужо амаль пырскаў сьлінаю. Здавалася, яшчэ імгненьне — і ён ударыць мяне. «Толькі крані — і я зубамі ўчаплюся ў тваё горла», — казалі мае вочы.

Высокі ў масцы ахоўнага колеру, мабыць, адчуўшы сытуацыю, крануў за плячо ўзьвінчанага калегу. Той злосна бліснуў вачыма, але ўсё ж пасунуўся ўбок. Па лесьвіцы я падымаўся пад крыкі і ўдары гумовымі палкамі па жалезных парэнчах. Здалося, што ў кантралёра, які адчыняў дзьверы, дробна дрыжалі пальцы. Відаць, некаторым зь іх таксама не па сабе ад новага парадку. У камэры мяне чакалі чатыры напружаныя твары ў жалобнай акантоўцы. І першае пытаньне:

— Білі?

— Я б сказаў, рукі сьвярбелі, але абышлося. Прынамсі пакуль.

Яшчэ тыдзень таму такое пытаньне здалося б

абсурдным. Сёньня яно натуральным чынам уплятаецца ў карункі непрадказальнасьці. Прасуюць усіх, ня толькі палітычных. А гэта азначае адно: паміж намі і астатнімі хочуць убіць клін разладу. Маўляў, усе нязручнасьці і дыскамфорт — з-за іх. Ату іх! Гэта значыць — цісънуць палітычных яшчэ і ўнутры камэраў. Калі не рукамі, то словамі, позіркамі суседзяў.

І тут скрыгат ключа. У прачыненых дзьвярах чорна-зялёная маса.

— Плянавы агляд! — абвясьціў «зялёны».

— Бягом! — закрычаў «чорны».

Масачнікі вывелі, не, хутчэй выгналі нас з камэры, як жывёлу, прымушаючы глядзець толькі ў падлогу перад сабой. Спусьцілі па лесьвіцы. Завялі ў вялікае авальнае памяшканьне. На бэтоннай падлозе куча коўдраў, матрацаў, стос драўляных насьцілаў з габляваных дошак. Усіх прыставілі тварам да сьцяны. На расьцяжку. Гэта значыць — ногі на шырыні плячэй, а рукі на бэтоннай сьцяне. Суседу справа з размаху ўрэзалі па шчыкалатцы, рассоўваючы такім чынам ногі на патрэбную адлегласьць. Кірыл ускрыкнуў ад болю.

— Ногі!

— Шырэй!

Чуваць удары вайсковых чаравікаў. Па чарзе адрываюць ад сьценкі і праводзяць агляд. Паварочваюся тварам да разгарачаных злосьцю людзей. Чатыры маскі і два кантралёры. Каманда разьдзявацца. Дагала. Адчуваньне бездапаможнасьці і сораму. Я маруджу. Позірк направа. Позірк налева.

— Што незразумела?

У голасе таго, хто схаваўся за маскай, непрыхаваная пагроза. З рукі ў руку дэманстратыўна




Бел-чырвона-белы сьцяг грэе нашы сэрцы

перакідае гумовую палку. Тут жа зграяй галодных шакалаў кружаць падзельнікі ў чорным. Гэтыя ня спыняцца ні перад чым!

Расшпільваю гузік. Кучка на падлозе расьце. Швэдар, джынсы, майка, шкарпэткі, бялізна. Як у кінахроніцы з Асьвенціма. Не хапае толькі печы. Бэтон студзіць ступні. Кантралёр не сьпяшаецца. Абмацвае вопратку. Сантымэтар за сантымэтрам. Выварочвае кішэні. Зь пільнасьцю. Масачнікі ў гэты час забаўляюцца электрашокерамі.

— Гы-гы-гы, — самаздаволены рогат.

«Зялёны» загадвае прысядаць. Пяць, дзесяць, дваццаць. Перад вачыма паплылі зорачкі.

— Адкрыць рот! — Кантралёр зазірае, нібы пры продажы каня на рынку. — Адзявайцеся!

— Да сьцяны!

— Рукі!

— Ногі! Шырэй!

Хвілін трыццаць стаім з вывернутымі вонкі да-

лонямі. Асобныя часткі цела пачалі паступова зацякаць. Аднак любое варушэньне выклікае агрэсію з боку «добрых людзей». Барада, падышоўшы да Цітка, нечакана грымнуў каваным ботам у бэтон. Гулкае рэха рванула, як узрыўпакет. Пяцідзесяцівасьмігадовы мужчына спалохана здрыгануўся. Потым яго пачало калаціць дробнымі дрыжыкамі. За сьпінамі задаволена хіхікнулі. Барада па чарзе падыходзіў да кожнага і цяжка дыхаў у патыліцу. Я адчуваў гэтае потнае дыханьне сьпінай, зьнямелымі далонямі, кожнай частачкай цела. Яшчэ крыху — і мяне званітуе. Ня ведаю, што дапамагло стрымацца. Страху ў гэтыя імгненьні ўжо не было. Ён пакінуў мяне сам-насам з гэтымі істотамі. Але разважнасьць мяне не пакінула.

Гэта я зразумеў ужо пасьля. Маскам патрэбен быў канфлікт. Яны яго шукалі. Яны яго правакавалі.

Пад крыкі і ўдары дубінкамі па жалезных поручнях і борціках завялі назад у камэру. Тут чакаў поўны хаос і пагром. Усе рэчы былі раскіданыя па падлозе і ніжніх нарах. Знайсьці сваё было няпроста. Максім, які прысутнічаў пры гэтай вакханаліі, быў у шоку. Ён распавёў, што мае рэчы проста разьвеялі ў прасторы камэры. Матрац перамацалі па сантымэтры.

«Што гэта было, што ўвогуле адбываецца?» Гэта пытаўся чалавек, які праседзеў у «амэрыканцы» больш за год. Яго вочы былі да краёў поўныя зьдзіўленьнем, непаразуменьнем. Здаецца, ён ніяк ня мог паверыць у тое, што адбылося. Нешта падобнае адчувалі і іншыя.

* * *

З падзеяў дня варта адзначыць паход да начальніка СІЗА. Лесьвіцаю ўніз, невялікім калідорам да дзьвярэй з жалезных прутоў, налева і іншым калідорам. Перад кожным паваротам прыціскаюць тварам да сьцяны. Гэта для таго, каб выключыць выпадковыя сустрэчы зь іншымі вязьнямі. Плюс каб ты яшчэ раз адчуў на сабе рэжым ручнога кіраваньня. Каля дзьвярэй, абабітых карычневым, прыпынак. Павадыр зьнік, зноў зьявіўся, і дзьверы адчыніліся. Кабінэт не вялікі і не малы. За працоўным сталом са стосам папер — невысокі, сухарлявы, сьветлавалосы чалавек. У кіцелі палкоўніка. Шырока ўсьміхнуўся, як старому знаёмаму. Гаспадарскім жэстам запрасіў да прыстаўнога стала. Сам уладкаваўся насупраць. Відавочная дэманстрацыя палітыкі міралюбнасьці і добрасуседзтва. Палкоўнік ветліва прапанаваў выпіць гарбаты. Я ветліва адмовіўся.

— Вось вырашыў пазнаёміцца з вамі, — ціха прамовіў гаспадар кабінэта. — Я начальнік СІЗА, Арлоў... — Голас, які гэта сказаў, вібрыраваў ад важнасьці; імя і як па бацьку я не пачуў. — Мы, як бачыце, ня страшныя. А то нас часам малююць, што мы гатовыя шклянкамі піць кроў немаўлятаў, — буркаваў палкоўнік, прысёрбваючы гарбату.

Начальнік СІЗА сапраўды не здаваўся страшным. Нейкі невыразны, бясколерны. У натоўпе пройдзе — не заўважыш. Такому добра кішэньнікам працаваць. Мне здалося, што да гэтай сустрэчы палкоўнік падрыхтаваўся грунтоўна: справа ляжаў аркушык з пазнакамі, і час ад часу Арлоў касіў на яго вокам.

Між тым я агледзеўся. Ад дзьвярэй чырвона-зялёны дывановы ходнік з арнамэнтам па краях. Трэба разумець, колеры дзяржаўнай сымболікі павінны

адцяняць значнасьць кабінэта і яго гаспадара. Шырокі працоўны стол. Аляксандар Рыгоравіч са сьцяны назірае, як працуе галоўны наглядчык «амэрыканкі». Праўда, партрэт правадыра — сьціплых памераў. Можа, падагнаны пад камплекцыю гаспадара. Мы сядзім адзін супраць аднаго за малым столікам, што прыстаўлены да асноўнага. У далёкім правым куце — яшчэ адзін столік, з маніторам і кампутарам. У блізкім правым — кухонны куток: халадзільнік, электрачайнік, посуд.

Слова за слова, і гутарка пакацілася па тым, што нас атачае. Па жыцьці. Я напіраў на сацыялку і эканоміку.

— Скажыце, навошта нам трыццаць лядовых палацаў? — пытаўся я. — Або недастаткова шасьці, па адным на вобласьць? Вось у Швэцыі, перш чым пакрыць краіну павуціньнем лядовых палацаў, спачатку стварылі канкурэнтаздольную эканоміку, затым эфэктыўную сыстэму аховы здароўя і адукацыі.

Начальнік няўпэўнена перасмыкнуў плячыма і, быццам бы згаджаючыся, кіўнуў. Потым надышла чарга матэматычных разьлікаў: колькі чыноўнікаў можа пракарміць беларускі падаткаплатнік? Дацісьнуў палкоўніка прыкладамі Польшчы, у якой сілавікоў гэтулькі ж, колькі ў нас, а вось насельніцтва ў чатыры разы больш. А яшчэ Даніі, дзе колькасны склад праваахоўных органаў быў заканадаўча вызначаны адразу пасьля Другой сусьветнай вайны, і закон гэты дзейнічае да цяперашняга часу. І нішто, спраўляюцца.

На імгненьне я злавіў сябе на думцы, што прэзыдэнцкая выбарчая кампанія працягваецца і цяпер я агітую начальніка СІЗА КДБ. І, здаецца, небес-

пасьпяхова. Палкоўнік запярэчыць ня мае чаго. Ён апэляваў да СССР, я — да таго, што свой дом лепшы за любую камунальную кватэру. Ён спасылаўся на народ, я — на дзевяць з хвосьцікам мільёнаў канкрэтных людзей. З боку гэта, напэўна, выглядала як сустрэча суседзяў, якія вярнуліся з адпачынку. Аднаго — з правінцыйнай глыбінкі, другога — зь Нямеччыны ці Нарвэгіі.

Ідылію разбурыў канваір. Усё вярнулася ў рэальнасьць, і «сусед зь Нямеччыны», заклаўшы рукі за сьпіну, рушыў у мінулае, якое толькі што любоўна апісваў палкоўнік Арлоў.

Мая доўгая адсутнасьць і сустрэча з галоўным чалавекам СІЗА выклікалі непадробную цікавасьць у сукамэрнікаў. Аднак апісаньне начальніка наткнулася на сумневы бывалых. Зь іхніх словаў вынікала, што мяне бавіў нехта іншы, бо начальніка завуць Піскуноў, а ніякі не Арлоў. І мужчына ён мажны, а не сухарлявы ды невысокі. Дый наагул, не практыкуе ён такія дыспуты з падсьледнымі.

Але мне было абсалютна ўсё роўна. Нейкая разнастайнасьць жанру, і то весялей. За гады ў палітыцы вывеў правіла: працуй усюды, і гэта акупіцца. Кожнае затрыманьне сілавікамі — рэч непрыемная, але калі ўжо запакавалі ў аўтазак, прывезьлі ў РУУС — лічы, што табе далі магчымасьць данесьці сваю пазыцыю да людзей у пагонах. А заадно і іхнія настроі прамацаць.

* * *

У якасьці адступленьня. Перад знаёмствам з начальнікам (або зь ягоным двайнікам) мяне адвялі на допыт да сьледчага. Допыт зьвёўся да некалькіх пытаньняў. Адвакатка Ірына Бурак распавяла пра

сустрэчу са Сьвятланай. Хатнія просяць-моляць, каб я спыніў галадоўку.

Знайшоў, як мне здавалася, правільныя словы: «Я ня вораг сабе і не зьбіраюся займацца здароўяшкодніцтвам. Сытуацыя пад кантролем, і я даю слова, што не пераступлю лінію, за якой могуць пачацца праблемы».

Для сябе ж адзначыў, што любая інфармацыя звонку — як быццам другое дыханьне адкрылася. Праўда, на большасьць маіх пытаньняў у Ірыны не было адказу, але адвакатка ўсё запісала ў штодзёньнік і паабяцала да наступнай сустрэчы сабраць усю неабходную інфармацыю.

* * *

Сёньняшні дзень аказаўся багаты на падзеі. Дайшла першая перадача зь «Вялікай зямлі». Мне сунулі аркушык зь пералікам рэчаў. Я павінен быў азнаёміцца і падпісаць. Першае, што кінулася ў вочы, — беднасьць прадуктовай перадачы. Акрамя некалькіх агуркоў і сухароў, з прадуктаў нічога не было. Праўда, яны былі згаданыя ў сьпісе, але старанна выкрасьленыя.

«Вы ж усё роўна галадаеце!» Гэтым тлумачэньнем я павінен быць сыты! Шкада ня выкрасьленай яды, а немагчымасьці пачаставаць таварышаў па няшчасьці.

Затое адзеньне, рэчы туалету — у поўным камплекце. І ад гэтага зрабілася весялей. Калі малыя радасьці коцяцца сьнежным камяком, з гэтага можна вылепіць добры настрой.

## 25 сьнежня, субота

«Амэрыканка» па-ранейшаму ў рэжыме надзвычайнага становішча. Замест чатырох наглядчыкаў — восем. І палова ў масках. А шостай раніцы ўся гэтая кодла ўжо ля дзьвярэй. І зь першых хвілін агрэсія ва ўсім. У словах, жэстах, дзеяньнях. Нас падсаджваюць на іголку страху.

Ноч прайшла незаўважна. Першая думка раніцай: ніводная частка цела ні на што моцна ня скардзіцца. Толькі рэшткі болевых адчуваньняў ад удараў спэцназаўцаў. Значыць, вяртаньне ў жыцьцё працягваецца.

Учора пераадзеўся ў чыстую, сьвежую бялізну, якая пахне домам. У звычайным жыцьці мы робім гэта рэгулярна і машынальна. Але трэба было трапіць у жорны, у якіх апынуўся я, каб адчуць, якая разнастайнасьць пахаў у адзеньня. Аказваецца, гэта можа прыносіць ні з чым не параўнальныя эмоцыі.

Брудную бялізну, майку запхнуў у пакет і засунуў яго пад ніжнія нары.

* * *

Голад пакінуў мяне канчаткова. Выгляд ежы не выклікае ні сьлінааддзяленьня, ні якіх-колечы асацыяцыяў. Нават пахі, якія завісаюць над сталом, не казычуць сьценак страўніка. П'ю гарбату. Ад учорашняга дня — з хатняй конаўкі. Белай ёмістай паўлітэркі з чорнымі дзяленьнямі ўсярэдзіне. На вонкавым боку каляровы жоўта-чырвона-зялёны малюнак і надпіс: «*Жизнь хороша, когда ешь не спеша*». Вясёлы такі малюнак, жыцьцесьцьвярджальны.

Адразу пасьля абходу паступіла каманда рыхта-

вацца да наведваньня душа. Аказалася, гэта таксама цэлая працэдура. Пазіраю, як зьбіраюцца суседзі па камэры, і запіхваю ў пакет прасьціны і наўлечку. Гэта на абмен. А яшчэ — чыстую бялізну, вялікі ручнік. Плюс флякон шампуню і гель для душа. На падрыхтоўку — хвіліны.

Выводзяць з камэры. Пакеты ў руках. Рукі за сьпінаю. Адзін за адным. Усе ў гумовых шлёпанцах, я ў ботах. Шлёпаем па бэтоне. Пры харавым суправаджэньні людзей у масках. Спускаемся на ніжні паверх. Затым яшчэ адзін спуск, карацейшай лесьвіцай. Апынаемся ў памяшканьні ў форме невялікага круга з калёнай пасярэдзіне. Прасьціны складаем на бэтонную падлогу, побач горка наўлечак. Агрызкі гаспадарчага мыла ў несамавітай пасудзіне. Драўляныя дзьверы са шкляным вочкам. За імі — сама душавая, да якой прымыкае вузенькая разьдзявальня. На сьцяне некалькі кручкоў для адзежы. Памяшканьне падшыта белым плястыкам. Чатыры краны. Некалькі паваротаў вэнтыля — і гарачы струмень крануўся цела. Які цуд! Вада прыемна казыча макаўку і нясецца далей па жолабе сьпіны, па лытках. Пальцы ўціраюць шампунь з пахам яблыка ў валасы з пахамі падзямельля. Пена аксамітнымі шматкамі сьцякае па маршрутах, пракладзеных вадой. Трэба сьпяшацца. На ўсё пра ўсё адводзіцца хвілін пятнаццаць. Да таго ж памыўка ідзе ўперамежку з мыцьцём бялізны. Агрэсіўна тру гаспадарчым мылам шкарпэткі і сподняе.

Стук у дзьверы: «Гэй, заканчваем!» Трэба закругляцца. У тамбуры, дзе пераадзяваюцца, таўкатня і мітусьня. У дзьвярах раздражняе маска. Нават памыцца па-людзку не даюць. Сьпешна адзяемся і абціраемся ўжо на хаду.

* * *

Як і чым запоўніць суботні дзень? Пытаньне не марнае. Напружаньне, якое прыўнесьлі «добрыя людзі», трэба нечым здымаць. Так нарадзілася прапанова зладзіць шашачны турнір. Час пабег значна хутчэй. Пераможца вызначыўся толькі пад канец дня. Чэмпіёнам гэтага тыдня стаў Уладзімер Ціток. Нават чарговы шмон не паўплываў на спартыўны дух, што лунаў у сьпёртай прасторы камэры.

## 26 сьнежня, нядзеля

Адна сьвяцільня згасла, другая запалілася. Дакладная прыкмета, што надышла нядзельная раніца. За адчыненай форткай на ўсю моц дзяўбе бляшаны дах сьнежаньскі капеж. Наведаўшы прыбіральню, усе зноў палеглі на свае палаткі. Пасьля пад'ёму гэта практыкуецца, галоўнае, каб пасьцель была прыбраная. Для мяне гэта таксама магчымасьць расслабіцца. Калі раскладаю свой насьціл, то праход да стала і ўмывальніка перакрыты. Але ня хочацца ствараць іншым нязручнасьці. Так што ў мяне на працягу дня доступ да пасьцелі абмежаваны.

Кормяць у СІЗА тры разы — і, як прызнаюць знаўцы тутэйшай кухні, больш-менш нядрэнна. Нязьменны складнік рацыёну — кашы. Ячная, прасяная, аўсяная, часам грачаная. А яшчэ можна разьлічваць на 30 кіляграмаў хатніх харчоў. Гэта месячная норма.

* * *

Нядзельны дзень трэснуў з раніцы. Расколіна прайшлася якраз па дворыку. Асабіста я ігнарую шпацыры. І на гэта ёсьць прычыны. Па-першае,

сілы трэба эканоміць, а пасьля зьяўленьня масак трэба берагчы і нэрвовую сыстэму. А па-другое, ня тая ў мяне форма адзеньня.

Чацьвёра маіх сукамэрнікаў толькі пасьпелі пакінуць камэру і адразу трапілі пад раздачу.

— Стаяць! Рукі за сьпіну! Глядзець у падлогу! Я сказаў, у падлогу! Морду ў падлогу!

Крычала адно горла.

Рыпнулі дзьверы, і ўсе ўціснуліся назад у бэтонны мех. У праёме дзьвярэй, гуляючы палкай, пагойдваўся «добры чалавек».

— Будзем трэніравацца, пакуль не навучымся.

Ухмылка не ўмяшчалася ў разрэзе маскі. Сёньня мы, здаецца, станем сьведкамі паказальнага выгулу. Яшчэ адзін выхад пад улюлюканьне. І зноў раздражнёнае: «Стаяць!» Гэтым разам «добрым людзям» здалося, што самае слабое зьвяно — Уладзімер. Маўляў, недастаткова хутка рэагуе на каманды. На навуку іншым яго тут жа паставілі да сьценкі на расьцяжку. Проста ў калідоры. І зноў усе вярнуліся на стартавую пляцоўку, то бок у камэру. Цітка трэсьлі дробныя дрыжыкі, твар быў чырвоны, на ілбе пот. Няўзброеным вокам было відаць, што падскочыў ціск.

З трэцяй спробы караван сышоў у дворык для шпацыраў. Але не пасьпеў я разгарнуць кнігу, як пачуўся пасьпешлівы тупат, і задыханыя сукамэрнікі зноў вярнуліся да месца старту. Гэтым разам канчаткова. Аказваецца, у дворыку загадалі хадзіць па кругу. Народ, не прывыкшы да такога абыходжаньня, па кругу хадзіў дрэнна. Усіх зноў паднялі ў камэру. Гэтым разам на гутарку за дзьвярыма пакінулі Аліневіча. Слоў было не разабраць. Суцэльны рык. Усё гэта было падобна да дрэсіроўкі жывёл.



Цэнтральная лесьвіца «амэрыканкі»

Пад уражаньнем ад убачанага і пачутага напісаў пасланьне генпракурору, свайму старому знаёмаму Рыгору Васілевічу. Калісьці мы зь ім працавалі ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня. Я — зусім малады дэпутат парлямэнту, ён — малады і пэрспэктыўны чыноўнік, кіраўнік юрыдычнай службы Вярхоўнага Савету.

Ліст выйшаў эмацыйны і жорсткі. Перачытаў напісанае і застаўся задаволены. Апісаў, што адбываецца ў СІЗА ў апошнія дні. Пра бясчынствы масак, якіх я б не адправіў нават на самую ўбогую сьвінафэрму. Ім і з жывёламі працаваць нельга, ня тое што зь людзьмі. Гэта спадкаемцы тых, хто гаспадарыў у Асьвенціме ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя. У чый запалёны мозг магла прыйсьці такая шызафрэнічная ідэя ўвесьці ў СІЗА надзвы-

чайнае становішча і кінуць на запалохваньне падсьледных карнае падразьдзяленьне? — пытаўся я ў Рыгора Аляксеевіча, які знаходзіўся за некалькі кварталаў ад гэтага жудаснага месца. Ліст быў напісаны на адным дыханьні. І гэта, мабыць, тое нямногае, што я ў стане цяпер зрабіць.

* * *

Час абеду наблізіўся на адлегласьць чарпака. Экскаватар сподка магутнасьцю ў адну чалавечую сілу скроб па баках зь ежай. На першае — капуста з пахам мяса, якога не відаць. На другое — каша з камякамі мяса, якое мясам ня пахне. За некалькі хвілін да прыёму ежы панылы кантралёр перадаў у камэру кіпяцільнік, які — буль-буль-буль — тут жа патануў у збанку з вадой. Кіпень казённы. Гарбата хатняя. Гэта і ёсьць мой абед.

* * *

Вячэрні паход да лекара ў суправаджэньні «добрых людзей» у масках ледзь ня скончыўся бойкай. Не пасьпеў я пачаць спуск па лесьвіцы, як маска, што стаяла ўнізе, гучна і злосна загыркала. На тэмпе руху гырканьне ніяк не адбілася. Гэта не спадабалася ўзбуджанаму наглядчыку. Як толькі мая нага даткнулася да падлогі, адчуў штуршок у сьпіну. Разварочваюся і ўпіраюся вачыма ў вочы.

— Я ня конь, і ня трэба мяне паганяць, — стараюся гаварыць спакойным голасам, але ня ўпэўнены, што гэта ўдаецца.

Рука пацягнулася да мяне.

— Толькі крані… — у маім голасе зьявіліся хрыпы.

У горле — як у перасохлай студні. Здаецца, маска зразумела, што я гатовы калі не на ўсё, то на мно-

гае. Ён зрабіў крок убок. А я на ранейшай хуткасьці рушыў у кабінэт. Чалавек у белым мацаў, слухаў і нешта моўчкі запісваў у журнал.

Да лесьвіцы канваявала іншая маска, і гэтым разам абышлося без штуршкоў.

## 27 сьнежня, панядзелак

Раніцай сукамэрнікі распавялі, што ўначы маскі зладзілі шумавое прадстаўленьне. З крыкамі, лямантам, грукатам дубінак. Усе баяліся, што прасторай калідора гэта не абмяжуецца і ўварвецца ў камэры. Начных шмонаў яшчэ не здаралася. Па ўсім відаць, гэта была сплянаваная акцыя, каб паказытаць нэрвы. Але, што дзіўна, начное здарэньне ніяк не адбілася на маім сьне. Спаў як немаўля, і гэта выклікала ўсеагульнае захапленьне.

Хоць і стараюцца курцы пускаць дым у закратаванае акно, усё ж адчуваецца, што паветра насычана нікатынам.

Фортку адчыняем толькі падчас калектыўнага курэньня. Больш немагчыма, бо ў камэры і так сабачы холад. Ноччу холадна, удзень прахалода. Гэта значыць — дыскамфорт даўжынёй у 24 гадзіны.

Стук ключом па жалезнай ручцы. Гэта ўмоўны сыгнал — падрыхтавацца да наведваньня туалета. Вырашыў прайсьціся. Хоць нейкая перамена месца. Туалет на тым жа паверсе, што і камэры. У прынцыпе, гэта тая ж камэра, пераабсталяваная пад прыбіральню. Мыцельнік. Два «таўчкі» з чорнымі гумовымі шлянгамі — змываць. У кутку плястмасавая пасудзіна для сьмецьця. Два акенцы, праз якія, у адрозьненьне ад нашай камэры, відаць кава-

лак неба. Калі яго рэдка бачыш, раптам заўважаеш, што яно прыгожае. І прынаднае. Так і глядзеў бы, не адрываючыся.

Не пасьпелі мае таварышы прысесьці, як у дзьверы тут жа забарабанілі.

— Заканчваем! На выхад!

— Што за ліха, і ў прыбіральні няма спакою, — працадзіў скрозь зубы Аліневіч.

Літаральна праз хвіліну ў дзьвярным праёме стаяў чалавек у чорным. Скрозь маску прабіваліся контуры самазадаволенай усьмешкі.

— Хутчэй! Бягом!

Але народ, не пасьпеўшы адседзецца, ледзь перасоўваў ногі. Так, аматарам пачытаць газэтку ў прыбіральні тут відавочна няўтульна. Пры такім зграмаджэньні людзей у такім інтымным месцы адчуваеш сябе больш чым дыскамфортна. Але дзе ты дзенесься...

* * *

Спусьцілі ўніз, у пакой да лекараў. Тут некалькі чалавек у белым. Сказалі, што будуць браць кроў.

— Навошта?

— Каб ацаніць ваш стан.

— А калі я не хачу? Калі я не давяраю вам, калі ў мяне ёсьць асьцярогі за сваё здароўе?

Мой недавер да масак усіх расфарбовак быў выслуханы, ня больш за тое.

— Тады гэта будзе зроблена з ужываньнем сілы, — заявіў адзін зь незнаёмцаў у белым халаце.

Так, гэта гуманна, чорт вазьмі. Але, здаецца, я прыціснуты да сьцяны. За сьпінаю дзьве чорныя маскі — як сьведчаньне сур’ёзнасьці намераў лекараў. Узялі кроў з пальца, пракалупалі шпрыцам

вену. Ці то ад відовішча ўласнай крыві, ці то ад наступстваў галадоўкі непрыемна закружылася галава. Успрыманьне прытупіўся, напружаньне ўнутры апала. Горш ужо толькі ў двор, ствол у патыліцу і ў яму пад сьцяну.

* * *

Увечары павялі на чарговую сустрэчу з начальнікам СІЗА. Арлоў, ці як яго там, усё ж новы начальнік «амэрыканкі». Старога замянілі, мабыць, кіруючыся прынцыпам «новая мятла па-новаму мяце». Пачаў палкоўнік са скаргі. Маўляў, пацярпеў я з-за вас, Анатоль Уладзімеравіч! Прыйшоў час зьдзіўляцца мне. Вытрымаўшы паўзу, Арлоў распавёў, што меў сустрэчу з старшынём КДБ і той папрасіў падзяліцца назіраньнямі і высновамі па выніках сустрэч Арлова з паліткантынгентам.

— Я сказаў, што вы мне спадабаліся больш за ўсіх. Дакладней, праграма, якую мы абмяркоўвалі на папярэдняй сустрэчы. Я сапраўды гатовы падпісацца пад яе асноўнымі палажэньнямі.

Па словах Арлова, Зайцаў быў зьдзіўлены такой заявай. Потым начальнік СІЗА павярнуў на іншую тэму. Маўляў, за вас хадайнічаюць. Прагучаў намёк на сустрэчу Раманчука і Лукашэнкі. Незразумела, сустрэча адбылася ці плянуецца. Але, без аніякага сумневу, разьлік на тое, што я павінен быў учапіцца ў інфармацыю, якая выпала з рота начальніка. Я ж адрэагаваў дэманстратыўнай абыякавасьцю і ня стаў удакладняць дэталі, толькі абмежаваўся жалезабэтонным: «Я палітычны закладнік, а не злачынца». Хоць паралельна пражоўваў, асэнсоўваў пачутае.

Палкоўнік вытрымаў паўзу і змушана збочыў на іншую тэму.

* * *

Пасьля адпраўкі генпракурору пасланьня, зь якім адміністрацыя, несумненна, азнаёмілася, наступіла паўза. Маскі на паўдня схавалі кіпцюры жорсткасьці і нахабства. Тым ня менш Барада, якога адправілі забіраць з допыту Максіма, так зацягнуў кайданкі, што ксэракопія бранзалетаў была відаць у хлопца некалькі дзён. Пры гэтым канваір так арудаваў палкай, што твар небаракі ледзь не выціраў бруд з чаравікаў. Садысцкія гульні не зусім здаровых людзей. І як такога чалавека зь відавочнымі псыхічнымі адхіленьнямі трымаюць у спэцпадразьдзяленьні?

* * *

Сутыкнуўся з прыкладам, як дзейнічае цэнзура. Ігару Аліневічу вярнулі ліст, у якім было напісана, што «ў камэры холадна, не ратуюць і трое шкарпэтак». Гэтыя словы былі падкрэсьлены цэнзарам. А таксама — «я не прадаўся». Сам я не атрымаў ніводнага ліста ні ад блізкіх, ні ад калегаў па партыі. Усе прыкметы інфармацыйнай блякады. Пішу пасланьні кожны дзень, але ні найменшага ўяўленьня пра іхні далейшы лёс.

* * *

Сёньня мяне зноў вышмаргнулі на аўдыенцыю да лекара. Крыху нечакана, бо гэтага спатканьня на ранішняй паверцы я не замаўляў. Чорныя маскі вядуць да белай. У кабінэце новы лекар. Маладжавы. Твар пухнаты, як булачка. Кажа пра карысьць і важнасьць ежы. Апэтытна так кажа. Здаецца, у гэтым і палягае сэнс нашага спатканьня. Перарываю лекцыю сухой заўвагай:

— А вось мая бабуля любіла паўтараць: «Лепш недаесьці як ястраб, чым пераесьці як сьвіньня». І, уяўляеце, кіруючыся гэтым правілам, пражыла 98 гадоў.

Чалавек у белым моўчкі мерае ціск. 120 на 80. Праслухоўвае ўнутраныя органы. Чорная маска назірае праз прарэзы ў тканіне. Не безь цікаўнасьці.

## 28 сьнежня, аўторак

У галаве, сплятаючыся ў карункі, скачуць зорачкі. Дзявяты дзень у рэжыме «вада — гарбата». Але калі «зарапад» мінаецца, самаадчуваньне зусім нішто сабе. Пакуль усё пад кантролем, значыць, ідзем далей. Для сябе я вырашыў: як толькі пачнуцца перабоі ў нармальным самаадчуваньні, галадоўку буду заканчваць. Здароўе мне яшчэ спатрэбіцца. На ежу тым часам гляджу абыякава. Яна мяне не ўзбуджае.

Ня мог адмовіць сабе ў задавальненьні выгуляцца ў дворыку для шпацыраў. Дакладней, даць згоду на свой выгул. Тук-тук па ручцы дзьвярэй. Гэта каманда падрыхтавацца. Хапатлівыя зборы. Нацягваю ўсё, што маю. Тэрмабялізна, швэдар, джынсы, куртка, шапка, пальчаткі. Паравозікам выйшлі на вуліцу зь першай спробы. Суправаджэньне выглядала нейкім млявым і напаўсонным.

Што такое дворык для шпацыраў? Іх тут цэлых пяць, шостая — клетка. За скасабочанымі дзьвярыма, на якіх зялёны кружок зь лічбай «2», позірку адкрываецца прастора чатыры на два з паловай мэтры. Замшэлыя муры. Тая ж камэра, толькі бяз столі і даху. Замест іх сетка ў буйную клетку. У

другім дворыку ўпяцёх асабліва і не разгуляцца. Хадзіць яшчэ можна, але займацца ўсім разам фізкультурай немагчыма. Зьверху па драўляным насьціле пахаджае кантралёр, захутаны ў бушлат з высокім каўняром. Пэрыядычна ён спыняецца перад драўлянай скрыняй — дамком для магнітолы. Канваір можа арганізаваць плаваньне па хвалях FM-станцыяў, а можа ўсунуць сваю касэту. Грымяць дынамікі, гукі лётаюць паміж СІЗА і глухімі мурамі двух астатніх будынкаў. Зьверху падаюць сьняжынкі. Здаецца, Новы год будзе з прысмакам сапраўднай зімы, з марозам і сьнегам. Час праляцеў даволі імкліва. Лёгкія прадэзынфікаваліся, суставы разьмяліся.

Пакуль у калідоры не шалеюць, вырашылі крыху паспаць. Толькі разлажыўся, разаслаўся, толькі пачала ахінаць дрымота, у галаве нават завязаўся сюжэт сну, як праз кармушку ў камэру ўляцела, б’ючы па вушах: «На допыт!»

Не пасьпелі зачыніцца дзьверы, як мяне прыпячаталі тварам да сьцяны. Кантралёр па мянушцы Якут балюча ўдарыў па назе, выстаўляючы на расьцяжку. Пільна вывернуў кішэні. Ззаду на руках зашчапіліся кайданкі. Ды так, што кожнае варушэньне пальцамі выклікала боль. Нехта нябачны засунуў пад рукі дубінку і рэзка падняў яе ўверх. Галава хітнулася і ўткнулася ў калені. Так водзяць сьмяротнікаў. Прынамсі ў фільмах. Вядуць па маршруце: камэра — кабінэт начальніка СІЗА. На кожным павароце ўторкваюць галавой у сьцяну. Яшчэ пара куткоў, і можна атрымаць страсеньне мазгоў. Так, гутарка будзе цікавая, падумалася перад дзьвярыма, за якімі мяне, па ўсім відаць, чакаюць сюрпрызы.

Сапраўды, на твары Арлова халаднаватая суровасьць Фэлікса Эдмундавіча. Здаецца, гэтым разам пра фінансавы крызіс гаварыць ня будзем. Гарбаты мне таксама не прапанавалі. Размова ўмясьцілася ў пару фраз.

— Я чалавек прамы і канкрэтны, — сячэ начальнік трохі сьпёртае паветра кабінэта. — Пыталіся маёй думкі пра ваша магчымае вызваленьне. Дык вось, я супраць! Больш за тое, даводжу да вашага ведама, што зь сёньняшняга дня ваша камэра пераводзіцца на асаблівы рэжым. Гэта зьвязана з тым, што вы схільны да ўцёкаў і падштурхоўваеце кантынгент да аказаньня сілавога супраціву прадстаўнікам адміністрацыі СІЗА. Вам зразумела?

— Зразумела!

Да крыкаў я ўжо адаптаваўся. Увязвацца ў слоўную дуэль бессэнсоўна. Моўчкі сузіраю Арлова, які ўзяў тайм-аўт. Палкоўнік сьвідруе мяне звужанымі вочкамі, спрабуючы акунуцца ў паток маіх думак. Калі б яму гэта ўдалося, ён прачытаў бы: «Пайшоў ты ў задніцу!»

У эфір я выдаю больш дыпляматычнае.

— А пры чым тут, уласна, вы? Мне здавалася, што ўтрыманьне ў СІЗА ў кампэтэнцыі сьледзтва.

У адрозьненьне ад учорашняга дня, сёньня Арлова не цягнула на разумныя размовы з прыкметамі раўнапраўя. Я стаю, ён сядзіць. Я ў кайданках, ён дырыжыруе рукамі.

— Да таго ж у мяне ёсьць доказы, што вы не галадаеце, — голас палкоўніка зноў зашумеў гукамі вады, якая спускаецца з бачка.

Якія сюжэтныя павароты! Я адрэагаваў толькі бровамі ў форме доміка.

— Я магу вам гэта паказаць.

Палкоўнік тут жа накіроўваецца да кампутара, нейкі час корпаецца і стукае па клявіятуры, потым безнадзейна махае рукой і выціскае зь сябе:

— Глючыць. Шкада...

Мне таксама.

Убачыўшы ўсьмешку, якая прабілася скрозь шчаціньне на маім твары, палкоўнік адскочыў ад століка з крыкам:

— Выведзіце!

Мяне абы-як падхопліваюць пад локці і выводзяць у калідор. Зноў падымаюць на дыбкі. Каб пагасіць боль, пачынаю лічыць. Спачатку крокі, потым колькасьць прыступак на лесьвіцы. Адна, пяць, дзесяць, здаецца, пятнаццаць... Та-а-ак. У галаве суцэльныя пытальнікі і клічнікі. Зразумела адно: і так усё дрэнна, а цяпер будзе яшчэ горш. Адчуваю некантраляванае ўнутранае напружаньне. Як доўга гэта можа працягнуцца? Колькі мэтраў цярплівасьці трэба, каб загарнуць сябе ў бясьпечны панцыр?

* * *

Вечарэе. Візыт да лекара, ужо частка штодзённага распарадку. Навіна пазытыўная — аналізы ў норме. Зрэшты, яны могуць быць якія заўгодна. Праўда і «амэрыканка» — рэчы несумяшчальныя. Тым больш што левая нырка выклікае балючы дыскамфорт. Трэба будзе ў бліжэйшыя дні вызначацца з галадоўкай. Вага застыла на адзнацы 69 кіляграмаў у адзежы.

Падвечар настала нейкае зацішша. Прыкметнае паніжэньне актыўнасьці масак. Аказваецца, і кат можа прытаміцца.

Тым часам ідзе падрыхтоўка да вячэры. Гэта

цэлы працэс, але ў ім я пабочны назіральнік. Селядзец і бульба ў мундзірах — за кошт установы. Праўда, палова «другога хлеба» тут жа ідзе ў сьметнік. Бульба падмарожаная, таму асноўны ўпор — на «гуманітарную дапамогу» ад сваякоў. Падваконьне застаўлена кантэйнэрамі. Палова — пустыя, астатнія — зь ежаю. Тазік з садавіной і гароднінай на бэтоннай падлозе. Нож выдаецца толькі на час прыёму ежы, каб хутка настругаць сала-каўбасных вырабаў, гародніны. Дазваляецца мець плястыкавыя нажы, але яны нетрывалыя. Асаблівы попыт на салаты з гародніны. І тут кожны мае магчымасьць прадэманстраваць свае кулінарныя навыкі. Пах рэзанай цыбулі распаўзаецца па бэтонным мяшку.

## 29 сьнежня, серада

Ноч білася і грукала ў дзьверы. У літаральным сэнсе слова. Толькі заснуў, як нечы голас на ўсе лёгкія загарлаў:

— Гэй, на шконцы, павярнуцца тварам да дзьвярэй!

— А ў чым, уласна, справа? Я не магу ляжаць на правым баку. Лекары не рэкамэндуюць.

— А мяне гэта не хвалюе, я павінен бачыць твар.

— А калі мне стане дрэнна і я памру ад сардэчнай недастатковасьці?

— Памраце — пахаваем, — абыякава цэдзіць скрозь зубы Баптыст.

Яшчэ праз паўгадзіны той жа голас пеўневым крыкам зноў тузае цішыню камэры:

— Рукі паўзьверх коўдры павінны быць! Чуеце? Я сказаў, рукі павінна быць відна!

На працягу ночы мяне будзілі разоў дзесяць і патрабавалі, каб ляжаў тварам да дзьвярнога вочка. Атрымліваецца, што замест сну я павінен турбавацца праблемай, як бы зручней было на мяне глядзець «добрым людзям». Натуральна, пры кожным маім кручэньні вакол восі ўласнага цела прачыналіся ўсе астатнія. У гэтым, мабыць, і быў сэнс падзеяў: празь мяне ствараць праблемы ўсім астатнім. Плюс да ўсяго мае рукі павінны былі ляжаць паўзьверх коўдры. Гэта пры тым, што некаторыя сукамэрнікі сьпяць у пальчатках.

Апошні штрых начнога кашмару — гэта сьвятло. Усю ноч у камэры не выключаліся два асьвятленьні — і начное, і дзённае. Да катаваньня холадам ужо адаптаваліся, але такая комплексная ўвага ўсё ж нязвыклая. Катуюць холадам, сьвятлом і адсутнасьцю нармальнага сну. Не выключаю, што гэта рэакцыя на маю ўпартасьць з галадоўкай — як вынік, загад на дадатковы прэсінг. Пасьля нэрвовага дня неспакойная ноч. Пасьля кашмарных сутак няпэўнасьць наступных.

Раніца. Сукамэрнікі ўдыхнулі чарговую порцыю нікатыну. Пад галасавым прэсінгам на вушныя перапонкі пайшлі ў туалет. Добра, што мне няма патрэбы лішні раз выслухоўваць усю гэтую брыдоту.

Дзень пакаціўся па накатанай. Завізаваў дзесяць лістоў з вынікамі дактыляскапіі. Учора ўвечары пальцы адкочвалі хвілін трыццаць. У малым пакойчыку побач з душавой. Каталі двое. Пальцы, далоні. Пасьля лістападаўскай апэрацыі на правай руцэ ксэракопія далоні была невыразная. Урэшце здаволіліся тым, што выйшла. Колькасьць копіяў зьдзіўляла. Напэўна, ва ўсе ўпраўленьні і аддзелы КДБ. Цяпер адбіткі маіх пальцаў ёсьць у картатэках

усіх сілавых структураў Беларусі. Трэба меркаваць, гэта моцна прасуне краіну ў барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю.

Здаецца, сёньня сканчаецца час майго ўтрыманьня пад вартай. А значыць, стане ясна, дзе я буду сустракаць Новы год і што буду падымаць 31 сьнежня: келіх з шампанскім ці кубак з гарбатай. Але ў кожным разе гэта будзе тост за свабоду і годнасьць. Агледзеў сябе ў асколку люстэрка. Вонкавы выгляд цалкам таварны. Трохі завастрыліся скулы, вочы глянцавыя, дзесяцідзённыя зарасьці шчаціньня. Дзень пачынаецца, жыцьцё працягваецца, дружа Анатоль!

Ложак разабраны, скручаны рулёнам матрац засоўваю пад ніжнія нары. Шконка прыстаўлена вэртыкальна да сьценкі. Сёньня ўключаю энэргазьберагальны рэжым па поўнай праграме, а гэта значыць — больш гарбаты і як мага менш непатрэбных рухаў.

Лямпачка ледзь мігціць, як бы тлее. Тут увесь час паўзмрок. За выключэньнем сёньняшняй ночы. Дэпрэсіўнае сьвятло мала таго што прыгнятае, яно стварае праблемы. Хочацца чытаць, але праз паўгадзіны літары пачынаюць зьлівацца ў чорныя палосы. Таму станаўлюся на крэсла, каб быць бліжэй да крыніцы сьвятла. Збоку гэта, напэўна, выглядае забаўна. Зэдлік як пастамэнт. Я як манумэнт. Кніга ў выцягнутай руцэ.

* * *

По абедзе выклікалі на аўдыенцыю да сьледчага. Дакладней, пацягнулі, засунуўшы палку пад рукі. Лесьвіца ўніз. Лесьвіца ўверх. Два будынкі. Паміж імі дворык. Паміж імі чаканьне. Паміж імі надзея.

Павіталіся. Маёр глядзеў кудысьці ўбок. Адвакатка выглядала вінаватай. Ну што ж, усё гранічна ясна. Кропкі ня будзе. Сытуацыя была непрыемная ўсім, і ўсе хацелі ад яе пазбавіцца як мага хутчэй. Таму ўсё ўмясьцілася ў хвіліны. Я падпісаў паперы. Сьледчы буркнуў: «Гэта ўжо ад нас не залежыць. Гэтае пытаньне нават не ў кампэтэнцыі сьледчай групы». Прагучала як апраўданьне. Жалю вартае і бездапаможнае.

Адвакатка з упэўненай лэдзі ператварылася ў звычайную спагадлівую жанчыну. Яна мяне суцяшала. Але гэта мяне толькі развальвала на кавалкі. Я адчуваў, быццам стаю на адной назе. Другая вісела над безданьню. Захацелася назад у камэру.

Мяне вялі, як асуджанага на расстрэл. Але я не адчуваў ні наручнікаў, якія ўпіліся ў запясьці, ні палкі, якая вываралачвала суставы рук. Пад нагамі брудны сьнег з пратэктарамі ботаў, чаравікаў, туфляў, якія ходзяць па дзясятках распластаных целаў. Перад вачыма паколаты, вышчарблены асфальт. Вакол усё шэрае, чорнае, бруднае. Усярэдзіне хмурна і брыдка. На волі ў такім стане або напіваюцца, або зводзяць рахункі з жыцьцём.

Другая палова дня стала працягам першай. За дзьвярыма не змаўкаюць сілавыя оргіі. Увесь час нехта ў апрацоўцы. Чакаем сваёй чаргі. Канвэер працуе кожны дзень. Бесьперапынная вытворчасьць. Усё, што за дзьвярыма, — у межах вушной даступнасьці. Чуваць нават, калі размаўляюць. Але калі гарлаюць, грукаюць палкамі, гэта робіцца невыносна. Спаць немагчыма. Наагул, засяродзіцца на чымсьці цяжка. Па абедзе асабісты агляд, ці, як тут кажуць, шмон. Незразумела, ці ўсіх прапускаюць праз гэтую зьневажальную працэдуру,

але вакханалія працягваецца з абеду і практычна да вячэры. Нармальнага чалавека такі рэжым і такое абыходжаньне павінны як мінімум давесьці да кансультацыяў з псыхіятрам. Нават мне, хто пабываў, здаецца, ва ўсіх магчымых пераплётах, часьцяком робіцца не па сабе. Гледзячы на сукамэрнікаў, я разумею, што гэта катаваньне даўжынёй у 24 гадзіны. І так дзень за днём. Ноч за ноччу.

Сёньня мы, напэўна, штосьці ці кагосьці прапусьцілі. Прайшла пагалоска, што па СІЗА гуляў пракурор. Ёсьць тут такая працэдура. У канцы кожнага месяца пракурорскі работнік наведвае камэры СІЗА. Але мне не ўдалося пазнаёміцца з прадстаўніком Генэральнай пракуратуры. Пра гэта паклапацілася адміністрацыя. Мабыць, на ўсялякі выпадак. Да абеду нас так і ня выгулялі ў дворыку. Ніхто ня мог растлумачыць, чаму. Урэшце сышліся на тым, што СІЗА перанаселены і ўсіх увапхнуць у гадзіны да абеду немагчыма. Аднак потым Кірыл падслухаў, што нас спэцыяльна выправадзілі на шпацыр, калі па камэрах вадзілі пракурорскага работніка. Ну што ж, падстрахаваліся нездарма. Я быў як курок на ўзводзе і сказаў бы ўсё, што думаю пра гэтую палітычную шызафрэнію. Пра тое, што СІЗА — гэта аддзяленьне фашысцкага канцлягера. Пра тое, што кожнаму давядзецца плаціць за ўсе свае злачынствы.

І я гэта сказаў! Толькі не пракурору, а самому сабе. Больш за тое, запісаў гэта ў дзёньнік.

* * *

Сёньня пачаў выхад з галадоўкі. Прайшло дзесяць дзён. А затрымацца даводзіцца на няпэўны час. Пачаў з кашкі. Заправіў «Ролтан» кіпенем. Нішто

нібыта. Для майго страўніка якраз. Ад каўбасы і сала пакуль устрымліваюся. І, як звычайна, шмат гарбаты, якая ўсе гэтыя дні была адзінай стравай майго мэню.

## 30 сьнежня, чацвер

Удалося пазьбегнуць фізычнага кантакту з «чорна-зялёнымі». На шпацыр не хаджу. Туалет не наведваю. Лекара ігнарую. Вялікага жаданьня перасоўвацца ў кайданках і пры гэтым цалаваць уласныя калені не адчуваю.

Звыкнуцца з думкай, што я затрымаўся тут як мінімум на два месяцы, аказалася справай няпростай. Ня ведаю, чым сябе заняць. Ня ведаю, за што зачапіцца, каб пачаць караскацца ўверх. Адчуваньне безвыходнасьці і апатыі. Сам сабе агідны.

Але нават тут, у зьняволеньні, здараюцца маленькія цуды. Увечары пры раздачы карэспандэнцыі нам у камэру ў агульным стосе далі нумар «Народнай волі». Ці то нечае галавацяпства, ці то запраграмаваная выпадковасьць. Хапаю газэту і прагна глытаю інфармацыю. Вялікімі кавалкамі, ледзь пасьпяваючы пераварваць. Самая важная інфа — заява Багданкевіча, што ў гэты складаны час ён бярэ кіраваньне партыяй у свае рукі. Добрая навіна, з аздараўленчым эфэктам. У гэтай сытуацыі Станіслаў Антонавіч, бадай, постаць аптымальная. Палітык з чыстымі рукамі, вялізным аўтарытэтам і сур’ёзным кіраўнічым досьведам. Калі па партыі прасуюць бульдозэрам, патрэбны менавіта такі палітычны цяжкавагавік. Мая вымушаная адсутнасьць — вялікая спакуса, каб запусьціць пару вірусаў у аслаблены арганізм АГП. Зьнешні ціск



Ланцуг неабыякавых людзей з партрэтамі палітзьняволеных. 2010 год

і спробы падарваць сытуацыю знутры будуць толькі ўзмацняцца. Прагноз несуцяшальны, але аб’ектыўны.

Зь іншага боку, цяжкасьці — гэта магчымасьць спраўдзіць і людзей, і структуры. Яны паказваюць, якую рэальную вагу ты можаш адужаць у рэчаіснасьці. Можна колькі заўгодна адпускаць на свой адрас халвічныя кампліментаы, распавядаць, якім неверагодным патэнцыялам ты валодаеш, але рэальнасьць словам ня верыць. Выбарчая кампанія была для нас іспытам. Падзеі пасьля яе сталі выпрабаваньнем. Выпрабаваньні, як правіла, ня стукаюць у дзьверы і не пытаюцца дазволу ўвайсьці. Яны ўрываюцца і часьцяком засьпяваюць зьнянацку.

Чаго варта чакаць? Ператрусаў! У офісах, па месцы жыхарства. Канфіскацыі тэхнікі, літаратуры, дакумэнтаў, усяго таго, што служыць носьбітам інфармацыі і даводзіць антыдзяржаўную дзейнасьць Аб’яднанай грамадзянскай партыі (АГП) і яе

кіраўніцтва. Гэта як піць даць. Карыстаючыся сытуацыяй, чаму б не пашарсьціць кампутары, сэйфы, шафы? Па-другое, спэцыялісты па чалавечых душах прымусова пацягнуць людзей на гутаркі. Нераты будуць закінутыя глыбока і шырока. Цяперашняя пасьлявыбарная зачыстка — гэта цудоўны шанец нарабіць брыды дэмакратычным актывістам. Ня трэба нават ствараць бачнасьць законнасьці. Усе законы, працэдуры, правілы — набок. Мяркуючы па тым, што тут творыцца, ёсьць падставы сьцьвярджаць, што дэ-факта і ў краіне дзейнічаюць элемэнты надзвычайнага становішча.

І ўсё ж на душы паспакайнела. Дзякуй, Ёсіф Паўлавіч (рэдактар газэты Ёсіф Сярэдзіч), дзякуй, дарагі, за добрую вестку. Апошнімі днямі ў маёй галаве было цесна ад думак. Яны набухалі ад сумненьняў, трывогі і перакрылі канал для ўраўнаважанага і сьвядомага аналізу падзеяў. Пазытыўныя навіны, здаецца, прабілі гэтыя штучныя тромбы.

## 31 сьнежня, пятніца

Гэты дзень запомніцца мне на ўсё астатняе жыцьцё як прыклад вытанчанага цынізму і крывадушнасьці людзей у пагонах. Першая палова дня прайшла пад барабанны дробат палак людзей у чорных камбезах. Пасьля абеду — пераднавагодні асабісты агляд. Да спартзалі дайшлі з другой спробы. Спуск па жалезнай лесьвіцы не спадабаўся таму, хто прымаў унізе. Другі паход, аднак, нічым не адрозьніваўся ад першага. І наша камэра была далёка ня першая ў чарзе на наведваньне спартзалі. Ахова пачала стамляцца. У «пакоі катаваньняў» усё як звычайна: тварам у бэтон, далоні тыльным бокам

на сьцяне, ногі на шырыні плячэй. Па адным, зьлева направа, праходзім прыніжальную працэдуру распрананьня. Пакінуты галышом нейкі час тэстуецца тэмпэратурай градусаў трынаццаць-чатырнаццаць. Вастрыню адчуваньням павінна дадаваць бэтоннае пакрыцьцё, дакладней — босыя ступні на ледзяной падлозе. Ад холаду скура робіцца гусінай.

— Адкрыйце рот.

— Пакажыце язык. Уверх язык!

— Падніміце валасы на патыліцы. А цяпер на скронях.

— Растапырце пальцы на нагах.

— Пакажыце ступню. Другую.

— Адзявайцеся! Варушыся! Хутчэй!

І зноў барабанны дробат гумовых палак.

— Хутчэй!

— На выхад! Бягом! Бягом!

— Морду ў падлогу!

Паганятыя з палкамі выстройваюцца жывым калідорам. Мы ўваходзім у чорна-зялёны тунэль з чалавечых целаў. З абодвух бакоў навальваюцца крыкі, улюлюканьне, трэск электрашокераў. Як толькі першы ступіў на лесьвіцу, запрацавалі палкі па парэнчах.

Сіла і гвалт могуць многае. Але ня ўсё!

Не пасьпелі адысьці ад псыхапрацоўкі і расьцяжкі, як мне прыйшло ўказаньне зьбірацца на допыт. Падумалася, проста-такі ўдарнікі сілавой працы, нават 31 сьнежня ня знаюць пярэдыху. Закутага ў кайданкі, мяне вядуць уніз. Пакой для допыту. У ім сухарлявы цёмнавалосы чалавек гадоў трыццаці пяці — сарака. Прадстаўляецца Ўладзімерам. Кажа, што курыруе ў камітэце апэра-

тыўную працу. Падкрэсьлівае — маўляў, гутарка не для пратаколу, і тут жа закідае нерат:

— Не хачу апярэджваць падзеі, але сёньня вы, напэўна, сустрэнеце сьвята разам зь сям'ёй.

Пасьля гэтых слоў пад лыжачкай засмактала. Чорт, толькі б не мітусіцца і не паказваць хваляваньня. Вытрымліваю паўзу. Ня ведаю, што ў гэтыя хвіліны адлюстроўваецца на маім твары, але «Ўладзімер» працягвае ўзбуджаць апэтыт да размовы. Ідуць камплімэнты партыі, у якой «столькі вядомых людзей».

— Але вы павінны і нас зразумець: мы б не хацелі, каб вы жорстка выказваліся па некаторых момантах. — Сэкундная паўза. — Напрыклад, як ажыцьцяўлялася ваша затрыманьне. Або ацэнкі самой выбарчай кампаніі. Ня ўсё ж было дрэнна?

«Уладзімер» прафэсійна прытарможвае, робіць чарговую паўзу, вывучальна і вычэквальна глядзіць на мяне.

Без акрэсьленьня пазыцыі не абысьціся.

— Вы ведаеце, я хацеў бы, каб мы адразу расставілі ўсе кропкі над «і». Я павінен убачыць, у якім псыхалягічным стане мае родныя. Я ня маю ніякай інфармацыі пра тое, што зь імі адбывалася ўвесь гэты час. Толькі пасьля гэтага я магу сказаць, якая будзе мая рэакцыя. Што тычыцца таго, што адбылося ля Дому ўраду, то я абсалютна ўпэўнены: гэта правакацыя. Але я ня ведаю, хто за ёй стаіць. Наконт ацэнкі самой выбарчай кампаніі... Я ўвесь час казаў, што яна несумленная, несправядлівая, і ня варта чакаць, што зараз скажу іншае.

«Уладзімер» сьцьвярджальна кіўнуў. На твары ніякіх эмоцыяў. Яшчэ раз паўтарыў, што для мяне цяпер важна падумаць пра лёс і пэрспэктывы пар-

тыі. Запэўніў, што ў дачыненьні да маёй сям'і ціск і ўзьдзеяньне не ўжываліся.

Званок праз чырвоны тэлефон. «Уладзімер» расьпісаўся на паперцы, і мяне павялі. Зьмест размовы круціўся ў галаве, як рой пчол. Прайшло некалькі неверагодна доўгіх гадзін. І тут: «Рыхтуйцеся з рэчамі на выхад!»

Не згаворваючыся, усе дружна пачалі праводзіць мяне дадому. Я, хутчэй на аўтамаце, супакойваў сукамэрнікаў — маўляў, ня той хлеб, што на полі, а той, што ў гумне, але душа пачала напяваць нейкі радасны матыўчык. Зьбіраю рэчы. Абвешаны пакетамі, выбіраюся з склепа. У калідоры згрупаваліся чалавек пяць. Пажыткі скідаю ў кучу. Згорнутую пасьцель сюды ж. Вынес нават драўляную шконку. Вярнуўся па забытыя міскі. Чорт, няўжо праўда дадому? Я пачаў у гэта верыць! Спускаемся ўніз па лесьвіцы. Я, абдымаючы ложак, і суправаджэньне з масак і кантралёраў. І тут бачу адчыненыя дзьверы «пакоя катаваньняў». Блін! Адчуваю на сабе позіркі і прыкусваю губу. Да болю. Падымаюся па лесьвіцы і другой ходкай даношу пакеты.

У спартзалі выварочваю зьмесьціва пакетаў проста на бэтон.

— Распранайцеся! Прысядайце! Адзін... пяць... дзесяць... дваццаць... — Рот адкрыйце! Ступні пакажыце!

Холаду не адчуваю. Мне нават здаецца, што лоб пакрыўся потам. Раблю ўсё на аўтамаце. Нацягнуўшы швэдар, выпростваюся спружынаю, акідваю прысутных позіркам і кідаю кароткае: «Здаволіліся?»

Рэакцыі ніякай. Апускаюць вочы і бяз шуму падымаюць мяне наверх. Рыпеньне дзьвярэй рэжа па

вушах. Мяркуючы па выразе твараў, мяне сапраўды тут ужо не чакалі.

Так, вось цяпер я разумею, дзе я і што адбываецца навокал. У першыя хвіліны хацелася забіцца ў куток камэры, заплюшчыць вочы, заткнуць вушы, каб нічога ня бачыць, нічога ня чуць.

Дзякуй хлопцам, ніхто ня лезе ні з роспытамі, ні з спачуваньнем. Дзякуй за разуменьне! Я павінен пабыць сам-насам з сабой. Паступова супакойваюся. Можа, я нешта зрабіў ня так? Можа, трэба было пагуляць у кошкі-мышкі? Мне прапанавалі мяккую зьдзелку: маўчаць і ня вякаць! Змаўчаў бы — можа, цяпер быў бы дома. А я што? Я проста даў асьцярожны, але сумленны адказ. Чым даўжэй калупаў сытуацыю, тым больш знаходзіў аргумэнтаў на сваю карысьць. Лепш заставацца самім сабой. Дый нельга давяраць гэтым людзям. Нельга!

Калі я канчаткова апамятаўся, тэма набліжэньня сьвята пачала дамінаваць. Сукамэрнікі пастараліся ад душы. Стол, а яго функцыю выконвала трохногая тумбачка (пад чацьвёртай — «Малая зямля» Брэжнева), быў сэрвіраваны. Не багата, але душэўна. У цэнтры ўзвышалася двухлітровая плястыкавая бутля з пэпсі-колай. Ого! Са старых запасаў. Жоўты ананас кантрастуе зь беласьнежным салам. Тут жа кругляркі нарэзанай каўбасы. Шчыпле ноздры рэпчатая цыбуля. Настрой ня тое каб радасны, але прыўзьняты. Новы год, ён і ў «амэрыканцы» Новы год.

Ціха! Ціха! Мы замерлі ў чаканьні. І вось яны, званы з плошчы Свабоды. Дзесьці бабахнуў навагодні салют.

Гаварылі па чарзе. Падымалі конаўкі. Чокаліся і




Паводле Белтэлебачаньня, на вуліцы дзеля пратэсту выйшлі некалькі соцень «адмарозкаў»

пілі пенную колу. За тых, хто нас чакае. За здароўе. За свабоду.

Прыйшла мая чарга прамаўляць.

— Такога Новага году ў мяне яшчэ не было. Але калі гэта нам паслана, значыць, гэта трэба прайсьці. Не прашаркаць, не прапаўзьці на каленках, а менавіта прайсьці з высока ўзьнятай галавой. Я жадаю гэтага сабе, я жадаю гэтага кожнаму з вас, я жадаю гэтага нашым родным і блізкім.

Яны (вівок у бок калідора) хацелі, каб мы ненавідзелі адзін аднаго. Мы падставілі адзін аднаму плячо. Мы даказалі, што і ў турме можна захоўваць годнасьць і самапавагу, што маральныя прынцыпы мацнейшыя за страх і крывадушнасьць. Гэта вельмі няпроста ў такой сытуацыі — застацца чалавекам. І за гэта я падымаю сваю конаўку. Ніхто з нас не плянаваў гэтую сустрэчу. Тым больш у такім злавесным месцы. Кожнаму з нас цяпер нялёгка, бо нашы любімыя цяпер ня з намі. Бо, можа, у гэтыя

хвіліны нашы родныя, думаючы пра нас, змахваюць сьлязінку смутку. Мой тост — за свабоду! І ня толькі нашу. Ня толькі ўсіх незаконна і нявінна яе пазбаўленых. За свабоду нашай Беларусі! Толькі калі будзе вольнай яна, будуць вольныя і яе грамадзяне.

Мы ўскочылі як па камандзе. Счапіліся плячыма ў адзін круг, зьвязаныя адным нябачным ланцугом. Цалаваліся нашы конаўкі. Абдымаліся нашы думкі. Нам было добра на нашым невясёлым сьвяце.

Але неўзабаве сьвяткаваньне давялося згарнуць. На патрабаваньне працоўных у чорных масках. Нашы ўсьмешкі раздражнялі іхнія вочы. Нашы тосты абуралі іхнія вушы.

Забраўшыся ў кокан пасьцелі, заплюшчыў вочы. Падкаціўся клубок. Як жа мне ў гэтыя хвіліны хацелася быць у коле сям’і! Гэты стан немагчыма перадаць словамі.

## 1 студзеня, субота

Сёньня я аканфузіўся. Пасьля дзесяцісуткавай галадоўкі і некалькіх дзён умеркаванага харчаваньня схадзіў у туалет. З сур'ёзнымі намерамі. Аднак з самага пачатку ўсё пайшло наперакасяк. Просты працэс у суправаджэньні чатырох пар вачэй ператварыўся ў цяжкаадольную перашкоду. Было ў вышэйшай ступені дыскамфортна. Адчуваньні безабароннага галыша сярод натоўпу цікаўных. І хоць усе былі занятыя выключна кожны сабой, нейкае невытлумачальнае пачуцьцё сарамлівасьці глушыла ўсе жаданьні. Да таго ж хвілін праз пяць з вонкавага боку пачалі лупіць дубінкамі па жалезнай абшыўцы дзьвярэй. Пачалася невялікая паніка. А яшчэ праз пару хвілін на парозе вымаляваўся чорны сылюэт. Маска зьлёгку пахіствалася і дэманстратыўна жанглявала чорнай гумовай палкай. Усе пасьпешліва зьбіліся ў кучку, якая неўзабаве прыняла форму выцягнутага шнурка. Вядучы, Уладзімер Ціток, стараўся накрыць вядро накрыўкай. Непаслухмяныя рукі дрыжалі, і плястыкавая талерка ўпарта не жадала займаць сваё месца. Вядзёныя спачувальна глядзелі на магілёўца. Ахоўнікаў жа гэта забаўляла. Пярэдні смачна прылажыўся дубінкай па абшыўцы адкрытых дзьвярэй і загарлаў:

— Наперад! Бягом!

Уладзімер пачаў перабіраць нагамі. Паміж ім і Аліневічам тут жа ўтварылася дзірка.

— Стаяць! Назад!

Разарваны ланцуг самкнуўся.

— Што няясна? Бяжым па камандзе, не спыняючыся!

Маска голасам і целам напірала на Ўладзімера. Было відаць, як патыліца Цітка хваравіта чырванее.

— Наперад!

Гэтым разам Уладзімер быў не такі жвавы, а Ігар не такі марудлівы. Ссутулены жывы ланцуг напружыўся, спружыніў, але не разарваўся. Пераадолеў палову дугападобнага калідора, ускараскаўся па лесьвіцы на другі паверх і шмыгануў у жалезабэтонную нару. Аддыхаліся. Ва Ўладзімера на твары адбітак грымасы болю. Ціск ад ціску. Добра, што хвілін праз дзесяць прыйшоў кантралёр Вадзік і павёў Цітка да лекара. Мабыць, выгляд у нашага сукамэрніка быў настолькі непрытворна хваравіты, што нават маскі на нейкі час заткнуліся цішынёй.

На працягу дня запасіў рашучасьць і злосьць. Рэшткі сарамлівасьці змагаліся з жыцьцёвай патрэбай. І вячэрні паход у туалет прынёс жаданы вынік.

Было такое адчуваньне, што з арганізму ў каналізацыю вывалілася частка страўніка ці кішак. Нават у дол уважліва пакасіўся. Не, здаецца, усё патрэбнае засталося пры мне. Добра, што ўсё добра канчаецца. Я быў увесь мокры ад напругі, стараньня і стомы. І непрыхавана шчасьлівы. Трэба ж, якія эмоцыі і пачуцьці можа выклікаць гэбэшны сарцір.

## 2 студзеня, нядзеля

Раніцай чакаў «сюрпрыз». У дзесяцілітровым цэбры з прадуктам вадкай перапрацоўкі нашых арганізмаў. А дакладней, у падзеях, якія разгортваліся вакол пасудзіны. Сёньня маё дзяжурства

па камэры. І першая задача дзяжурнага — вызваліцца ад сьмецьця і ад зьмесьціва «біятуалета». Наведваньне прыбіральні — справа добраахвотная. Сёньня ахвотных не знайшлося. Усе дружна падышлі да вядра, у якім плавалі мандарынавыя лупіны, зрабілі сваю справу і зноў палеглі. Іду адзін. Балазе сьметніца пустая, а вядро запоўнена не да краёў. Толькі выйшаў з пасудзінай у калідор, як раздалася каманда:

— Да сьцяны!

Чаго б гэта? Паставіў цэбар і павярнуўся тварам да сьцяны.

— Рукі!

На запясьцях шчоўкнулі кайданкі. Каманда:

— Уніз!

Гэта значыць, трэба ісьці не ў бліжэйшы туалет на паверсе, а спускацца ў той, што паверхам ніжэй. Гэта значыць — спускацца ўніз па лесьвіцы ў кайданках, з запоўненым на дзьве траціны бітонам у руках.

Так, вясёлы старт новага году. Мяне экзамэнуюць усё больш вышукана. Гэта яўная правакацыя. Прычым калі я зараз завалюся, у яе будзе рэальна кепскі пах. І, паводле задумы яе арганізатараў, я, мабыць, павінен папрасіць ласкі ці хоць бы расьпісацца ў фізычным бясьсільлі. Уся зьмена тут. Сабраліся на відовішча. Як нічога ніякага, прыхопліваю пальцамі ручку плястыкавай пасудзіны і рухаюся да лесьвіцы. Унізе згрудзіліся «чорныя» і «зялёныя». Стаўлю нагу на лесьвіцу і раблю крок уніз. Мяне ніхто не падганяе. Усё праходзіць у нязвыклай цішыні. Такое адчуваньне, што зроблены стаўкі: прайду ці завалюся. Раз, два, дзесяць... Вось пад нагамі роўная паверхня. Перад дзьвярыма кан-

тралёр здымае кайданкі, а адна з масак шматзначна прамаўляе: «*Д-а-а-а!*» Гэты гук, вырваўшыся міжволі, кажа, што лік 1:0 на маю карысьць. Толькі ў прыбіральні я адчуў, што ўвесь мокры. Халоднай вадой мыю твар. Зьмесьціва пасудзіны выліваю ў адну з адтулін каналізацыі. Здымаю шлянг, уключаю ваду і мыю плястыкавае вядро. Халодныя пырскі сьцёбаюць па руках. Мяне ніхто не падганяе. Потым заліваю ў бачок хляраваны раствор. Раблю паўзу, аднаўляю дыханьне і стараюся максымальна сканцэнтравацца ў чаканьні новых правакацыяў. Сам стукаю ў дзьверы, сыгналізуючы, што гатовы падымацца наверх.

За дзьвярыма нечакана ўзьнікае дзяжурны Віктар Віктаравіч. Прапаршчык асабіста зашчоўквае кайданкі. Але цяпер мае рукі сьпераду. Трэба разумець, чарговы экзамэн я здаў. Сьведчаньнем гэтага — і маўчаньне канваіраў. Падымаюся па лесьвіцы. У камэры соннае царства. Рыхтуюся да сьняданку. На тумбачку каля дзьвярэй выстаўляю пяць місак для кашы. Чатыры мэталічныя і адну плястмасавую. Сюды ж плястыкавы слоічак з рэшткамі цукру. Кавалкі ўчорашняга хлеба завязваю ў цэляфанавы пакет. Наліваю ваду ў плястмасавы збан бардовага колеру. Гэта на гарбату. Адчыняецца фортка, і ў праёме ўзьнікае плястмасавае вядзерца, у якім кіпяцільнік. Кіпень разьліваю па конаўках з пакуначкамі гарбаты і тут жа паўторна закідаю кіпяцільнік у бардовы збан. Трэба пасьпець згатаваць ваду яшчэ раз. Гарбата — ня толькі пітво, але і сродак сагрэцца.

Чуваць, як за дзьвярыма спыняецца вазок. У адчыненую кармушку выстаўляю міскі. У кожную плюхаюць па чарпаку груцы. Аддаю рэшткі хлеба

ў абмен на тры боханы, два белага і адзін чорнага. Таксама атрымліваю пяць чайных лыжак цукру.

З-пад коўдраў выкалупваюцца, вылазяць сукамэрнікі. Твары — застылыя маскі без аніякіх эмоцыяў. Пасьля кашы і гарачай гарбаты астылая за ноч прастора камэры пачынае напаўняцца гукамі, галасамі. Органы дотыку, нюху намацваюць хоць і слабы, але ўсё ж пульс жыцьця. Каля рукамыйніка невялікая чарга. Яна ж узьнікае ля кармушкі, калі раздаецца каманда: «Лекі!» На мэдыкамэнты тут устойлівы попыт. Хтосьці глытае дзеля прафіляктыкі, а для кагосьці гэта жыцьцёвая неабходнасьць.

Дарэчы, тут чуваць дыханьне мэтро. І даволі выразна. Але толькі ноччу, пасьля адбою, калі ў камэры поўная цішыня. Адчуваецца лёгкая вібрацыя, вуха ловіць гукі цягнікоў, якія нясуцца па тунэлях.

Першыя дні новага, 2011 году ў цэлым нічым не адрозьніваюцца ад апошніх дзён старога, 2010-га. Тыя ж абшарпаныя сьцены, тое ж павуціньне мэталічных пруткоў на вокнах, тыя ж маскі за дзьвярыма, прызначаныя, мабыць, наганяць страх, тая ж бранябойная груца ў місцы. Калі чаго і чакаць, то горшага. А яно на адлегласьці працягнутай рукі. У каардынатах часу, які вымяраецца суткамі. Пазытыў праглядаецца хіба што, калі зірнуць у будучыню. Бо маразм ня можа доўжыцца бясконца. Ну месяц, ну год, два. Ува мне то гаварыў аптыміст, то слова браў пэсыміст. Часам яны спрабавалі выказацца адначасова. Ніколі я так доўга і захоплена не размаўляў сам з сабой.

Ноччу спалася дрэнна. Узбударажаны дзённымі падзеямі мозг страчыў думкі. Думаў пра дом. Як яны там безь мяне? Гэта ўсяго другое навагодняе

сьвята, якое мы не адзначалі разам з маёй Сьветай. Першае — калі адразу пасьля вясельля я надзеў кірзавыя боты і пайшоў аддаваць доўг Радзіме.

На вячэру быў селядзец. У адной місцы пяток селядцовых хвастоў, у другой — саладжавая, а значыць, падмарожаная бульба ў мундзірах. Ні першае, ні другое ня выклікала ўсплёску страўнікавых эмоцыяў. Абмежаваўся гарбатай і пернікамі. Самаадчуваньне нібыта някепскае. Хіба што лёгкае, але бязбольнае бурчаньне ў жываце. Напэўна, зараз я б добра ўпісаўся ў рэклямны ролік якога прэпарата, каб худзець.

## 3 студзеня, панядзелак

Пад шумавы акампанэмэнт «зондэркаманды» падняліся, памыліся, схадзілі ў туалет, прагрэлі вантробы гарбатай, адрапартавалі дзяжурнаму і застылі ў чаканьні прагулкі. Набягае лёгкая дрымота. Усе сядзяць з заплюшчанымі вачыма, захінуўшыся ў маўчаньне. Гульня ў даганялкі са сном, які ўцякае прэч. Пэрыядычна хто-небудзь з ахоўнікаў рэзка, мабыць, гумовай палкай, б’е па дзьвярах камэры. Абмяклыя целы ўздрыгваюць, і вочы ашалела глядзяць па баках. Непрыемныя адчуваньні. Нібы дубцом па твары. Чаканьне загрузла ў напружаньні. Спрабую пераключыцца на канспэктаваньне думак. Ручка адмаўляецца пісаць. Здаецца, ад холаду чарніла застывае. Пальцы з прыкметамі лёгкага здранцьвеньня.

Нарэшце два стукі ключом па ручцы дзьвярэй. Час прагулкі ў дворыку. Пачынаем таропка адзявацца. Дзьверы наросьцеж. Шыхтуемся паравозікам. Аднак кантралёр па мянушцы Доўгі тыкае ў

мяне пальцам і камандуе: «На выхад!» Выходжу. Каманда: «Да сьцяны!» Паварочваюся тварам да глухой сьцяны, якая вэртыкальна бяжыць уверх мэтраў на пяць-шэсьць, да купала, насунутага на будынак. Пад далонямі холад бэтону прабіваецца скрозь напластаваньні фарбы. Стаю на расьцяжцы. Сэрца бухае, як насьценны гадзіньнік. У роце — як у высахлым калодзежы. Выварочваюць пустыя кішэні. Здымаю боты. Кантралёр запускае руку ўсярэдзіну, дастае вусьцілку. Трэба ж, які старанны. Трасе ботам.

— Рукі назад!

На запясьцях шчоўкаюць кайданкі.

— Наперад!

Маскі тут жа пачынаюць грымець палкамі па жалезных парэнчах. Дзесьці збоку затрашчаў электрашокер. Канцэнтруюся на пераадольваньні прыступак. З паралізаванымі рукамі ня тое што бегчы, ісьці няпроста. Маскі зьверху, маскі зьнізу. Тыя, што ўнізе, патрабуюць: «Хутчэй!» Як ні дзіўна, але напружаньне, якое толькі што пульсавала па целе, раптам недзе расьсеялася. Іду і лічу прыступкі. Адна, дзьве... пятнаццаць... Вось нага кранулася роўнай паверхні падлогі.

— Галаву ўніз! — раве цыбаты ў зялёнай масцы.

Здаецца, ён хоча прыціснуцца сваёй глоткай да майго вуха. Да адчыненых дзьвярэй, якія вядуць у двор, мэтраў шэсьць. Адтуль цягне сьцюжай. Наша камэра якраз над выхадам на вуліцу. Напэўна, таму ў ёй так холадна. Дзіўна, чаму я пра гэта думаю. Не пра тое, што мяне зараз могуць ударыць, замкнуць у карцэр. Вось яны, асаблівасьці чалавечай псыхікі.

Перад дзьвярыма, на якіх зялёны кружок зь ліч-

бай «2», кантралёр здымае кайданкі і запускае мяне ўсярэдзіну дворыка. Разьмінаю запясьці. Чакаю астатніх. Хвіліны цікаюць. Паўза відавочна зацягваецца. Але вось перакошаныя дзьверы застагналі. На парозе Дыджэй. Новая ўводная: «На выхад!»

Рэпэтыцыя працягваецца, мільгае думка. Выходжу. Да сьцяны! Рукі назад! Спэцыфічны гук зашчоўкваньня кайданкаў. Усё ў адваротнай пасьлядоўнасьці. Тыя ж каманды. Тыя ж патрабаваньні. Падымаюся і ў думках рыхтуюся да чарговага спуску ўніз па лесьвіцы. Так можа працягвацца доўга. Але перад дзьвярыма камэры мяне вызваляюць ад жалезных бранзалетаў, і я апынаюся сярод астатніх. Кожны сьпяшаецца задаць пытаньне. Аказваецца, уводзіцца новае правіла шпацыру. Прынцып «або ўсе, або ніхто». Сёньня ніхто. Кірыл тэмпэратурыў і, натуральна, у такім разабраным стане ня мог выходзіць на вуліцу. На аргумэнт, што ён хворы і запісаўся да доктара, кантралёр толькі рукой махнуў. Зрэшты, што ён мог сказаць? Што працуе прынцып сталінскіх лягераў, калі праблему аднаго распаўсюджваюць на ўсіх? Маўляў, вы пазбаўленыя права на шпацыр і будзеце сядзець у зачумленай прасторы, таму што адзін з вас — слабое зьвяно. А мы тут зусім ні пры чым. Вырашайце праблему слабога зьвяна! Тыповае правіла савецкіх лягераў. Толькі гэта не гістарычны фільм пра мінулае, гэта ўсё сапраўднае, не прыдуманае, адбываецца тут і цяпер. Я не выключаю, што новае правіла зьвернута супраць такіх, як я. Раней я ігнараваў шпацыры, каб мінімізаваць сутыкненьні з маскамі. Зараз гэта робіцца немагчымым.

## 4 студзеня, аўторак

Кірылу палягчэла, і мы папрасілі гадзіну шпацыру. Мяне зноў вышмаргнулі першым. Патрымалі на расьцяжцы, прашманалі, закальцавалі ў кайданкі. Ды так, што пасьля кожнага, нават слабога, варушэньня мэтал яшчэ мацней урэзваўся ў запясьці. У дворык і назад вялі асобна ад усіх. Значыць, гэта ня разавы бзік адміністрацыі. Гэта стратэгія дзятла. Доўга і тупа. Па нэрвах, па кропках, за якімі пачынаецца боль. Якая рэфлексія? Ну што ж, калі гэта выклік, то ён прыняты! Што было — бачылі, што будзе — паглядзім!

Рыпеньне дзьвярных завес. На парозе — чорназялёная маса. Плянавы агляд! Гэтыя словы — як прысуд. Прысуд, які ты чуеш кожны дзень. Цяпер ужо літаральна кожны. І ўсё роўна да канца ня можаш прывыкнуць, прыстасавацца. Яны толькі заходзяць, а цябе пачынае каўбасіць. Сэрца б'ецца часьцей. Усярэдзіне напружаньне такое, што, здаецца, дакранесься — і ўдарыць токам. Да дрэннага прызвычайваесься цяжка.

Сёньня нас падзялілі. Усіх пагналі ў бліжэйшы туалет.

— А вы застаньцеся!

У мурах «амэрыканкі» любое выключэньне горшае за любое дрэннае правіла. Так і ёсьць, пагналі ўніз па лесьвіцы. З гукавым суправаджэньнем. У спартзалі прыставілі да сьценкі. З вывернутымі вонкі далонямі. Маска чаравікам прайшлася па шчыкалатцы. І не зразумець, чаго больш, болю ці злосьці. Кантралёр абмацаў, вывернуў кішэні спартыўных штаноў. Зрабіў гэта па-майстэрску. Стаяньне ля «сьцяны нянавісьці» працягвалася

даўжэй, чым звычайна. Спачатку рукі, а потым і іншыя часткі цела пачалі зацякаць і камянець.

— Ня торгаемся!

— Я сказаў, ня торгаемся! — Чыйсьці рот непрыемна апякаў маю голую патыліцу. Але ва ўсяго жывога ёсьць межы магчымага. Не магу больш трываць. Перакідаю цяжар цела спачатку на правую нагу, а потым на левую.

Тут жа ўдар чаравікам па шчыкалатцы і чарговая пагроза:

— Стаяць, або пакладу на падлогу!

— Я ня помнік!

— Ты можаш ім стаць! — надрываўся ўсё той жа голас.

— Нашто гаварыць, рабі!

Я павярнуў галаву ў бок таго, хто гаварыў. Здаецца, ён не чакаў такога. Нават адхіснуўся. Здаровы дзяцюк, вышэйшы за мяне на галаву.

— Да сьцяны галаву павярні!

— А вочы ў вочы што, слабо? — я па-ранейшаму глядзеў у прарэзы маскі. — Або вы можаце толькі ззаду і спадцішка?

Чалавек у чорным зрабіў крок да мяне. Схапіў за шыю, націснуў так, што мая галава ўваткнулася ў сьценку.

— Я табе зараз мазгі выб’ю, — прахрыпеў узбуджаны карнік.

У той момант я ўжо не кантраляваў ні сябе, ні сытуацыю.

— Давай. Вы ж гэта ўмееце рабіць. Патрэніраваліся на Ганчару і Захаранку.

Рука яшчэ мацней сьціснула мне шыю, але праз імгненьне аслабела і спаўзла. За сьпінай узьнікла



Унутраны двор «амэрыканкі», зачахлёнае корабам акно камэры

нейкае варушэньне. Я толькі пачуў іншы голас: «Канчай».

Голас кантралёра разьвярнуў мяне тварам да суправаджаючых. Тры маскі нешта ціха, але эмацыйна абмяркоўвалі ў куце каля стоса напаўірваных матрацаў. Здаецца, гаварылі пра нядаўні інцыдэнт. Нейкія рознагалосьсі, мільганула думка.

Я перайшоў ва ўласнасьць кантралёра.

— Разьдзяемся!

Я зьняў боты, шкарпэткі і ступіў на драўляны насьціл, які ляжаў на бэтоннай падлозе. Пачаў не сьпяшаючыся сьцягваць адзежу. Выварочваю шкарпэткі. Кантралёр абмацвае швы адзеньня. Стаю голы, злы, узбуджаны. Маскі скончылі гутарку. Той, хто правакаваў сілавую размову, накіраваўся ў наш бок.

— Стаў на падлогу! — раздалося ўказаньне з адтуліны для рота.

— Калі ласка.

З дошак перабазаваўся на ледзяную падлогу.

— Прысядаем! — гэта ўжо каманда ад кантралёра.

Прысеў — устаў. Прысеў — устаў. І так разоў трыццаць. Як мне ўжо патлумачылі, з дапамогай гэтай працэдуры спраўджваюць, ці не схаваў ты чаго ў заднім праходзе. І што там можа схаваць беларускі палітвязень? Хіба што асабістую нянавісьць!

— Да сьцяны!

Голага на расьцяжку?! Такога яшчэ не было. Цела імгненна пакрылася мурашкамі. Стаю хвілін пяць.

— Адзяемся!

Сьпяшацца цяпер, здаецца, няма куды.

— Хутчэй варушыся! — не сунімалася маска.

Але вастрыня моманту ўжо мінулася, я пачаў вяртаць кантроль над падзеямі. І, галоўнае, над самім сабой.

Па лесьвіцы вяртаўся не сьпяшаючыся. Грукаў палкай толькі няўрымсьлівы і злосны масачнік. Сукамэрнікі сустрэлі роспытамі, што ды як. У іх усё прайшло значна спакайней. Вось толькі ў камэры кантралёры пакінулі пасьля сябе дэманстратыўны пагром. Дый то да майго вяртаньня яго наступствы былі зьведзеныя да мінімуму. Мне ж хапіла пяці хвілін, каб сабраць і зноўку раскласьці свае няхітрыя пажыткі ў тры пакеты. Бялізна, ручнікі, мыла, туалетная папера, майкі... Пераправерыў сшыткі з запісамі, дакумэнтамі. Здаецца, усё ў наяўнасьці.

Прыпаў да ўмывальніка. Здавалася, на патыліцы засталіся чужыя пальцы. Хацелася хутчэй змыць гэтыя нябачныя брудныя адбіткі.

## 5 студзеня, серада

Вывелі з камэры. Прыставілі да сьцяны. Абшнарылі. І надзіва спакойна павялі ўніз. Я ішоў паміж маскамі з закрытымі ротавымі адтулінамі. І гэта было нязвыкла. Па вушах ня біў слоўна-шумавы паток. Ішоў сваім ходам, а ня «ластаўкай», нават без падштурхоўваньняў. Спусьціліся па лесьвіцы. Унізе павярнулі направа па калідоры. Завялі ў невялікі пакой. Стол. Дзьве табурэткі, умантаваныя ў бэтон. У куце тумбачка з чырвоным тэлефонным апаратам. У акне тырчыць кавалак даху будынка. Стоп! Ды я, здаецца, тут ужо быў. Пэўна! Памылкі быць ня можа.

Нахлынулі ўспаміны. Па мосьце часу зьбег у красавік 2006-га. Менск. Стрэлка гадзіньніка паказвае гадзіну папаўдні. На 14-ю прызначана пасяджэньне аргкамітэту па правядзеньні «Чарнобыльскага шляху». Рухаюся ў бок гаражнага кааперэтыва «Будаўнік», што на вуліцы Ціміразева. На прыпынку грамадзкага транспарту погляд вырывае з натоўпу чалавека моцнага целаскладу і з кароткай стрыжкай. Нейкае непрыемнае пачуцьцё варухнулася ўсярэдзіне. Прысьпешваю крок. Каля брамкі серабрыстае аўто. Усярэдзіне — двайнік таго, якога бачыў зараз на прыпынку. Нядобрыя прадчуваньні толькі ўзмацніліся. Набіраю адзін тэлефонны нумар, другі — безвынікова. Трубка адказвае казённым голасам: «Дадзены тып злучэньня немагчымы». Тэлефон заблякаваны. Спускаюся па прыступках у гараж. У канцы доўгага калідора бачу тры сылюэты. Прадчуваньні робяцца перакананьнем, што рыхтуецца нейкая правакацыя.

Дарогі назад няма! Выяжджаю спачатку з га-

ража, потым з будынка. Наперадзе — тыя трое, што мільгалі ў праёме дзьвярэй. Не разьмінуцца. Робяць выгляд, што хочуць нешта спытаць. Спыняюся і трохі апускаю шкло. Заўважаю ў вушах незнаёмцаў перагаворныя прылады. Бліжэйшы строіць зь сябе сапсаваны навігатар і пытаецца, як знайсьці нейкі гараж. Двое пры левай дзьверцы майго «рэно», трэці прыстройваецца да правай пярэдняй. Злавіўшы момант, калі ніхто не перагароджвае дарогу, націскаю на газ і прасьлізгваю паміж «шукальнікамі страчанага гаража». І тут жа заўважаю, як падняўся шлягбаўм і пад яго заяжджае міліцэйскі аўтамабіль. Так, здаецца, прарывацца прыйдзецца з боем. Фотаапаратам раблю некалькі здымкаў сустрэчнага аўто. Прытармажваю і мяркую, што рабіць далей. Ззаду трое невядомых, наперадзе міліцэйскае аўто. Нічога добрага ні ад тых, ні ад другіх чакаць не выпадае. У гэты час з-за рога будынка да маёй машыны кінулася постаць. Незнаёмы ўчапіўся ў ручку дзьвярэй кіроўцы і расчыніў іх. Тут жа яшчэ адзін у цывільным. Мяне выцягваюць з салёну і спрабуюць кульнуць на асфальт. Машына на аўтапілёце коціцца далей з горкі і мякка ўпіраецца ў міліцэйскую. Бакавым зрокам бачу людзей на прыпынку грамадзкага транспарту і, разумеючы, што ў гэтай няроўнай сутычцы шанцы вырвацца нулявыя, крычу, каб прыцягнуць увагу. Падасьпела тройка «шукальнікаў», мяне завалілі на асфальт, ззаду на руках шчоўкнулі кайданкі. Хтосьці насунуў мне на галаву маю ж куртку, хтосьці балюча націснуў каленам на хрыбет. Мяне закідаюць на задняе сядзеньне майго ж «рэно». Я заціснуты паміж двух выкрадальнікаў. Галаву нахілілі так, што яна легла на калені. Наперадзе яшчэ двое. Выяжджаем і паварочваем

налева. Ага, ня ў горад. Праз хвіліну машына спыняецца, мяне выцягваюць і тут жа запіхваюць у іншы аўтамабіль. Мяркуючы па парожках, гэта той серабрысты «опэль», які стаяў пры брамцы. Едзем. Стараюся ўгадаць маршрут. Няўжо за горад? На гарадзенскую трасу? На базу Паўлічэнкі (сумнавядомы камандзір «эскадрону сьмерці»)? Адразу падумалася пра Віцю Ганчара і Юру Захаранку. Пад лыжачкай непрыемна засмактала. Але вось машына пачынае пэрыядычна спыняцца. Мабыць, сьвятлафоры. Значыць, усё ж такі горад. Ехалі хвілін пятнаццаць. З нацягнутай на галаву курткай мяне дастаюць з салёну і, прытрымліваючы за локці, заводзяць у нейкі будынак. Некалькі разоў праводзяць праз рамку мэталашукальніка. Далей нейкімі калідорамі, потым пакой, крэсла і нечые рукі на плячах. Час цягнецца марудна. Спрабую засяродзіцца на абдумваньні паводзінаў адпаведна ведамаснай прыналежнасьці выкрадальнікаў. Ізноў калідорамі, кароткай лесьвіцай уніз. Новы пакой. Садзяць на крэсла. Здымаюць кайданкі. За сьпінай рыпеньне дзьвярэй, крокі аддаляюцца. Зрываю капюшон, разьмінаю рукі, якія пасьпелі зацекчы, аглядаюся. Невялікі пакой. Стол. Два крэслы. Усё гэта намёртва прыкручана да бэтоннай падлогі. На тумбачцы ў куце чырвоны тэлефон. У закратаваным акне кавалачак неба і агрызак даху. Час цікае. Няпэўнасьць. У роце пустыня, у мачавым пухіры — мора. Здымаю трубку і таму, хто падняў яе на тым канцы дроту, выказваю сваё жаданьне наведаць туалет. Праз хвіліну пракручваецца ключ, і на парозе зьяўляецца чалавек у зялёным камуфляжы. Папярэджвае, што глядзець павінен толькі перад сабой. Ідзем па калідоры. На дзьвярах, якія

выходзяць у калідор, пасьпяваю заўважыць таблічкі «Ідзе допыт». Ага, пэўна нейкая сілавая структура. І, хутчэй за ўсё, КДБ. Невялікі туалет. Умывальнік. І нават ружовы кавалачак мыла.

Вяртаемся ў той жа пакой. Але ў адзіноце застаюся нядоўга. Зьяўляецца чалавек у камуфляжы. Гучыць загад: «Глядзець наперад, рукі за сьпіну!» Зноў бранзалеты. Нехта нябачны зноў нацягвае мне на галаву куртку. Тым жа маршрутам назад. На вуліцы саджаюць у аўтамабіль. Мяркуючы па высокім парогу, гэта мікрааўтобус. Едзем даволі доўга. Нейкі час машына гойдаецца на выбоінах, потым замірае. Зноў будынак, калідоры, пакой. Пахі мэдычнай установы. Белыя халаты дазваляюць беспамылкова вызначыць месцазнаходжаньне. Шпіталь. За сталом двое. «Здыміце кайданкі», — тонам загаду просіць лекар. Ёсьць магчымасьць разгледзець сваіх выкрадальнікаў. Яны хоць і на адлегласьці выцягнутай рукі, але стараюцца трымацца да мяне бачком. Іх трое. За галоўнага — невысокі круглатвары ў чорнай скураной куртцы.

Лекар заносіць анкетныя дадзеныя ў журнал. Я ахвотна дзялюся інфармацыяй. Калі ня дай Бог што, прынамсі застанецца запіс з рэгістрацыяй майго месцазнаходжаньня. Мне належыць прайсьці агляд на прадмет наяўнасьці ў крыві алькаголю. Дзіўна ўсё гэта. Не магу зразумець, у чым фішка і чаго варта чакаць далей. Падыхаў у трубку прыбора, падзяліўся крывёю. Працэдура завершана. Усё ў адваротнай пасьлядоўнасьці. Кайданкі на запясьцях, куртка на галаве, гудзеньне мікрааўтобуса, калідоры і той жа самы пакой з чырвоным тэлефонам.

І зноў няпэўнасьць. Час распыліўся ў прасторы. Нарэшце расчыніліся дзьверы, і ўвайшоў канваір.

Перадысьлякацыя. Пакой прастарнейшы. За мной уваходзяць трое. Адзін дзелавіта ўсталяваў відэакамэру, двое па-гаспадарску селі за стол. Насупраць сьветлавалосы сярэдняга веку з зачасанымі назад валасамі, другі, круглатвары, які суправаджаў у шпіталь, прыстроіўся зьлева. Той, што цераз стол, дастаў чысты аркуш паперы і, утаропіўшы ў мяне вочы, з мэталам у голасе прамовіў:

— Прозьвішча?

— Чыё? — парырую пытаньне пытаньнем.

— Ваша, — раздражнёна кідае незнаёмы.

— А ваша? — падтрымліваю слоўны пінг-понг.

— Тут я задаю пытаньні, — у голасе дадаецца холаду.

— Ну, у такім выпадку самі на іх і адказвайце, — дэманстратыўна адварочваюся.

— Прозьвішча?

Здаецца, мы заходзім на другі круг.

— Чыё?

— Ваша!

— А ваша?

Пасадка без узьлёту. І так пяць, дзесяць, пятнаццаць разоў запар. Я ўжо зьбіўся зь ліку.

Гульня нэрваў працягвалася, можа, гадзіну, можа, больш.

— Я ня буду адказваць ні на якія пытаньні, пакуль вы не растлумачыце матывы майго затрыманьня і не прад'явіце дакумэнты, якія сьведчаць вашу асобу. Гэта маё апошняе слова.

Я перастаю рэагаваць на кадэбэшніка са звычкамі дзятла. Сьветлавалосы тут жа ўдае прыступ гневу і, кінуўшы ручку на стол, выбягае з пакоя. Яго напарнік пачынае старанна ўдаваць добрага сьледчага.




Кастрычніцкая плошча 19 сьнежня 2010 г. Від з боку «Чырвонага дому», рэзыдэнцыі беларускага правіцеля

— Анатоль Уладзімеравіч, навошта вам непрыемнасьці? — Голас прасякнуты спагадай. — У вашых інтарэсах неісьці на абвастрэньне. Мы супрацоўнікі камітэту. Пасьведчаньня паказаць ня можам, бо пры ўваходзе ў будынак здаём дакумэнты. Такая працэдура.

Я ня вытрымаў і расьсьмяяўся. Круглатвары сумеўся. Вярнуўся «дрэнны» гэбэшнік. Прысунуў ноўтбук. На экране кадры маёй паездкі ў Тбілісі. Вось я сустракаюся з дэпутатамі, вось з чыноўнікамі з блізкага атачэньня Саакашвілі.

— Хто гэтыя людзі? — пытаецца прытомленым голасам сьветлавалосы.

— Дэпутаты парлямэнту, чальцы ўраду. Тут у вас яшчэ няма кадраў маіх сустрэч з прэм’ер-міністрам Грузіі і са сьпікерам парлямэнту Ніно Бурджанадзэ. І ў чым тут крымінал?

— Вам абяцалі некалькі мільёнаў даляраў на арганізацыю дзяржаўнага перавароту ў Беларусі,

— без найменшага намёку на жарт выпальвае сьветлавалосы.

— А што, у грузінаў сапраўды ёсьць такія грошы? — стараюся быць сур'ёзным і дзелавым. — Вы б мне гэтую інфармацыю перад паездкай у Тбілісі паведамілі.

Я згубіўся ў часе. Калі чарговым разам сьветлавалосы ў гістэрыцы выбег з пакоя, я зразумеў, што начаваць давядзецца па-за сьценамі роднага дому. Дзе-небудзь на Акрэсьціна (Цэнтар ізаляцыі праваparушальнікаў) або ў «малпятніку» якога-небудзь раённага аддзелу міліцыі. А для зьнешняга карыстаньня паведамяць, што вызначалі асобу невядомага, які нецэнзурна лаяўся ў грамадзкім месцы.

Мае разважаньні перапыніў чалавек у зялёным камуфляжы, і мы рушылі па калідорах. Адчыніліся дзьверы, мяне вывелі ў двор, пасярэдзіне якога стаяў белы, можна сказаць, шыкоўны лімузын. Абедзьве палавінкі задніх дзьвярэй расчынены. І некалькі чалавек у масках. Адзін жэстам запрасіў у салён. Плюхнуўся туды і патануў у мяккіх скураных сядзеньнях. Справа і зьлева прызямліліся маскі. Наперадзе кіроўца і яшчэ адзін у масцы. Машына рванула зь месца ўсёй сваёй моцай. З Камсамольскай нахрапіста завярнула на праспэкт і панеслася ў бок плошчы Незалежнасьці. Едзем моўчкі. Той, што справа, раптам пытаецца:

— І трэба вам гэта? Сядзелі б сабе ціха, і непрыемнасьцяў не было б. Дый нас бы ня тузалі.

— Не паверыце, але па-іншаму ніяк не атрымліваецца. Слова гонару! Кожны год прыяжджаю да мамы Юры Захаранкі і разумею, што ў даўгу перад гэтай жанчынай, якая да сёньняшняга дня чакае свайго сына. Вы ж ня горш за мяне ведаеце, што на

самой справе адбылося з генэралам Захаранкам, зь Віктарам Ганчаром. Гэта палітычныя забойствы. І пра «эскадрон сьмерці» вы напэўна чулі. Як можна рабіць выгляд, што нічога гэтага няма?

— Давайце ня будзем пра палітыку, — падаў голас той, што зьлева.

— А чым вы цяпер займаецеся? Гэта і ёсьць палітыка, ды яшчэ і брудная.

Змоўклі. Машына нясецца ў бок Курасоўшчыны. Недзе на самым разрыве сьвятла і цемры спыняемся. Ускраіна Менску. Выходзім. Хочацца ўбачыць хоць адну жывую душу. Нікога. Толькі я і яны. Адзін з суправаджаючых аддае мне тэлефон, фотаапарат і сухім голасам прамаўляе, трэба разумець, афіцыйную заяву:

— Анатоль Уладзімеравіч, вы разумны чалавек і з таго, што адбылося, павінны зрабіць адпаведныя высновы.

Гэта прагучала ня злосна, але ў той жа час вельмі канкрэтна. Мне перадалі чорную метку. Я вырашыў абысьціся без камэнтароў. Вернутыя рэчы моўчкі расьпіхаў па кішэнях.

Белы лімузын растварыўся ў цёмнай ночы. Я патупаў у горад, у бок запаленых ліхтароў. Тэлефон быў разраджаны, фотаапарат вычышчаны, ніводнага кадра. Дайшоў да першага аўтамабіля з шашачкамі, стомлена плюхнуўся на сядзеньне і толькі цяпер адчуў неверагодную стому і спустошанасьць. Да лёгкай млосьці. Дома ўсе былі ў поўным няведаньні і ў вялікай трывозе. Абтэлефанавалі ўсе апорныя пункты міліцыі і дзяжуркі ўсіх сілавых структураў, усе мэдычныя ўстановы. Вядома ж, безвынікова.

Наступнага дня я рушыў на пошукі свайго

аўтамабіля. У РУУС Цэнтральнага раёну паведамілі, што машына на штрафстаянцы. Маўляў, яе эвакуіравалі ад пасольства Румыніі, дзе яна была прыпаркаваная пад знакам «Стаянка забаронена». Машына сапраўды знаходзілася на штрафстаянцы. Ключоў не было. Абышоў «рэно», звонку агледзеў салён і паехаў на Камсамольскую. У грамадзкай прыёмнай напісаў заяву на імя старшыні КДБ. Маўляў, вярніце крадзенае. Падтэкст такі: навошта паскудзіць і гадзіць у стылі дробных тралейбусных зладзюжак? Але гэты эмацыйны парыў не наблізіў мяне да руля майго аўто. Прыйшлося выклікаць спэцыялістаў па ўскрываньні. Пад'ехалі спэцыялісты, управіліся зь дзьвярыма за хвіліну, а ключы я знайшоў усярэдзіне салёна. Здаецца, усё было на месцы, за выключэньнем пасьведчаньня дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Яно зьнікла бясьсьледна. Напэўна, камусьці з выкрадальнікаў сышло за трафэй. Дакумэнту было шкада, усё ж гэта мандат даверу дзясяткаў тысяч выбарцаў. Дый ва ўзаемаадносінах з работнікамі аўтаінспэкцыі ён быў вельмі карысны.

* * *

І вось цяпер я пазнаю мінулае. Той жа падворак, той жа пакой для допытаў і нават маскі-шторкі на тварах. Час цячэ, але сёе-тое зусім не мяняецца...

Самае дзіўнае, што ў пакоі я праседзеў у адзіноце хвілін дзесяць-пятнаццаць. Потым прыйшлі кантралёр і таварыш у масцы і адвялі назад у камэру. Але ўжо ў кайданках. «Ластаўкай». Што ўсё гэта значыць? Што гэта было? Такое адчуваньне, што прывялі на нейкую сустрэчу, але яна чамусьці не адбылася, і мяне пацягнулі назад.

## 6 студзеня, чацьвер

Ужо ці ня тыдзень няма кантакту з адвакатам. Гэта раздражняе, але ўжо ня дзівіць. У сытуацыі, калі цябе прасуюць, калі зь цябе адкрыта зьдзекуюцца, ніякай уцечкі інфармацыі быць не павінна. У гэтым выпадку адвакат — слабое зьвяно, бо можа быць пераносчыкам і распаўсюднікам праўды пра тое, што адбываецца ў СІЗА. Калі я сёньня запытаў у дзяжурнага, ці ёсьць у мяне права на камунікацыі з адвакатам, чалавек у мундзіры з капітанскімі пагонамі бадзёранька адчаканіў: «Безумоўна!» І потым, ужо на парозе, кінуў: — «Вас шмат, а месцаў для сустрэч з адвакатамі мала».

Так, лёгіка жалезная. Права ў вас ёсьць, а для магчымасьці яго рэалізаваць не хапае месца.

Заплюшчыў вочы і ўявіў праспэкт Незалежнасьці, Камсамольскую вуліцу. Напэўна, там цяпер ідуць, сьпяшаюцца сотні і сотні людзей. І ніхто зь іх нават не здагадваецца, што робіцца зусім побач. За нейкую сотню-другую мэтраў. Тут сапраўды пасьля адбою чуваць, як па тунэлі мэтрапалітэна нясуцца цягнікі, як адчыняюцца і зачыняюцца дзьверы вагонаў. Вось так можна жыць у вялікім горадзе, праходзіць, праяжджаць побач з такім страшным месцам і ні пра што не здагадвацца.

Адначасова са зьнікненьнем адваката прапаў і сьледчы. Гэта таксама цалкам вытлумачальна. Пра што размаўляць? Сваё слова я ўжо сказаў на першым допыце. Дый сам “сьлядак” выдатна ведае, што я такі ж злачынец, як ён касманаўт. У мяне статус закладніка. Прышпіліць мяне да крымінальнай справы па гэтым артыкуле цяжка. Нават калі будзе рыць усё сьледчае ўпраўленьне КДБ, нарыць нічога

супрацьзаконнага немагчыма. Гэта калі арыентавацца на прававы бок справы.

Праўда, нельга выключаць, што раптам знойдуцца сьведкі, якім я ўручаў ледасекі і інструктаваў, як секчы дзьверы ў Доме ўраду. Ці спэцназаўцы, якія будуць завучана распавядаць, як я нібыта аказваў ім неймаверна жорсткі супраціў пры спробе прарвацца ў будынак.

Такога сапраўды выключаць нельга, а пакуль сьледзтва можа хіба што абсмоктваць інцыдэнт на плошчы з маім удзелам. Яшчэ перад Новым годам я ўбачыў нейкую тэлеперадачу, у якой дэманстраваліся кадры падзеяў 19 сьнежня. І ў тым ліку эпізод, дзе я закрываю рукой камэру нейкага чалавека ў цывільным. Дый Арлоў на адной зь першых сустрэч, салодка ўсьміхаючыся, прашыпеў: «Дык вы ж журналіста зьбілі. Камэру разьбілі. А гэта ўжо патыхае сур'ёзным артыкулам».

Тут калі чым і патыхае, то дробнай, таннай правакацыяй. Інцыдэнт на плошчы я памятаю ў дэталях. Каля Дому ўраду да мяне прыклеіўся «журналіст» зь відэакамэрай. Справа звыклая. Але калі ён нахабна пачаў ледзь ня тыцкаць камэрай у твар, я проста закрыў яму аб'ектыў. Цяпер мне здаецца, што апэратары былі спэцыяльна прыстаўленыя да ўсіх лідэраў апазыцыі, хто быў на плошчы. Ужо тады зьбіраліся матэрыялы для будучай крымінальнай справы.

Натуральна, на экран цяпер выкідваецца ўсё, што можа хоць неяк скампрамэтаваць удзельнікаў падзеяў. Так што відэанарэзка, якая мільганула на экране, калі каго і ўразіла, дык гэта сукамэрнікаў. Для іх сам факт маёй прысутнасьці ў тэлескрыні — гэта падзея. Для іх я кінагерой, нават калі ў мяне і

не галоўная роля ў гэтым фільме з гучнай назвай «Жалезам па шкле» (здаецца, такая назва ў гэтай стравы, якой будуць карміць гледача яшчэ не адзін дзень).

Так, на першым часе можна было хоць нешта чэрпаць з БТ. Цяпер жа, зь пераводам нашай камэры ў катэгорыю «прэс-хаты», мы пазбавіліся магчымасьці бачыць нават творы беларускага агітпропу. Тэлевізар у нас забралі і здалі на склад. На той падставе, што выйшла са строю антэна. Такое было тлумачэньне начальніка СІЗА. Няўклюднае. Мабыць, таму крыху пазьней Арлоў зьедліва заўважыў: «Вам жа ж напэўна не падабаецца беларускае тэлебачаньне, так што страта невялікая». Гэты дробны чалавечак нястомны ў вынаходніцтве. Прычым рэалізуецца ён у дэталях, дробязях. Глядзіш, тут пятлю падцісьне, тут шпільку ўставіць, там асколак ці каменьчык падкіне. Са зьяўленьнем Арлова абмежаваная прастора СІЗА скурчылася яшчэ больш. І гэта ўстойлівы трэнд. Магчымасьці сталі зьместам Чырвонай кнігі. Затое ўсюды і на ўсё забароны.

Арлоў — нядрэнны псыхоляг-паталягаанатам. Прычым практык. Для яго мы ўсе паддосьледныя. Яму падабаецца, закасаўшы рукавы, корпацца ў вантробах. Мне здаецца, ён гатовы гадзінамі разглядаць пад мікраскопам, як рэагуюць нэрвовыя канчаткі на холад, сьвятло, крык. І магу толькі ўявіць, што адчувае гэты чалавек, бачачы наступствы чалавечага страху: пашыраныя зрэнкі, дробнае дрыжаньне пальцаў, самаадвольнае апаражненьне мачавога пухіра. Такі б не згубіўся і ў 30-я гады мінулага стагодзьдзя.

## 7 студзеня, пятніца

Дзесьці побач гаворыць і паказвае ТБ. Яго гукі пераадольваюць мілімэтровыя шчыліны ў турэмных дзьвярах і пэленгуюцца лякатарамі вушных ракавін. Абмяжоўваемся паглынаньнем гукаў, бо мы па-за зонай доступу да інфармацыі. Гэта складнік узьдзеяньня праз абмежаваньні. На галодным інфармацыйным пайку чалавек робіцца надумлівым, уражлівым і, галоўнае, больш падатным на супрацоўніцтва са сьледзтвам.

Адзіная крыніца інфармацыі — лісты, якія атрымліваюць мае сукамэрнікі. Калі з гэтай крыніцы выключыць асабістае, то ўсім астатнім (а астатнія — гэта я) дастаюцца драбніцы. Пошту прыносяць каля пятай гадзіны, часам пасьля вячэры. Першыя дні, як толькі адчынялася акенца і канвэрты клаліся бязладным стосам на адвалены драўляны паднос, я інстынктыўна, у два скокі, апынаўся каля дзьвярэй. І кожны раз натыкаўся на расчараваньне. Цяпер ужо не скачу. Ды што там, імкнуся не рэагаваць, а дакладней, не дэманстраваць свайго хваравітага чаканьня. Ні жэстамі, ні словамі. Гэта цяжкая задача, але, здаецца, я навучыўся яе вырашаць. Зрэшты, а куды падзецца? Тут увесь час барацьба. За настрой, за фізычны стан і зьнешні выгляд, за годнасьць і самапавагу. І супрацьстаяньне. З адміністрацыяй, са спакусамі, са слабасьцямі, з самім сабой. Увесь час мусіш быць напагатове. Сюрпрызы і нечаканкі не прывязаныя да часу і месца. Да іх трэба быць гатовым заўсёды. Круглыя суткі. Яны могуць чакаць цябе і ў кабінэце начальніка СІЗА, і ля «сьцяны катаваньняў» у спартзалі, і пры адбоі, і падчас пад’ёму.

* * *

Пра інтэлектуальны складнік і кругаварот кніг. Тут, у адрозьненьне ад Акрэсьціна, ёсьць бібліятэка. Прыкладна раз на два тыдні кнігі мяняюць. Гэта паводле таго, што апавядаюць сукамэрнікі са стажам. Зрэшты, я ўжо меў магчымасьць назіраць, як гэта адбываецца на практыцы. Спачатку ўсе кнігі адбіраюць з камэр. Яны ляжаць штабэлямі проста на падлозе, па ўсім пэрыметры круглага калідора. Цікавае відовішча. Потым адбываецца іх пераразьмеркаваньне. Зьмесьціва турэмнай бібліятэкі вельмі пярэстае і поўнае нечаканасьцяў. Ёсьць норма — ня больш як дзьве кнігі ў адны рукі. Калі ёсьць пажаданьні, да прыкладу, запыт на Бальзака ці Дастаеўскага, то цябе выслухаюць. Моўчкі. Але прапануюць тое, што ляжыць пад рукой. Да прыкладу, мэмуары Брэжнева або «Як гартавалася сталь» Астроўскага.

* * *

Да ўмоваў, здаецца, адаптаваўся, ці, можна сказаць, прыстасаваў іх да сябе. У сьпісе праблемаў, якіх магло б і ня быць, — «нікатынавы Чарнобыль». Невялікая прастора камэры і так нашпігаваная рознай дрэньню, а тут яшчэ дымавыя выкіды з чатырох ротавых адтулін. Ледзь прадраўшы вочы, народ цягнецца да цыгарэты. Жалезны зэдлік, што каля акна, раніцай заўсёды заняты. У гэты час на ім у стойцы чаплі абавязкова хтосьці з асалодай зацягваецца. Як ні стараюцца курцы пускаць струмень у кірунку расчыненай форткі, значная частка выхлапных газаў застаецца ў камэры. Здаецца, што нікатынам пахнуць нават мае вантробы, ня кажучы ўжо пра вопратку. Ад апошняй ідзе такі




Яны зрабілі свой выбар на карысьць свабоды і самапавагі

агідны букет, што часам трохі моташна. Таму, калі атрымліваю ручнікі, майкі зь «Вялікай зямлі», перш за ўсё ўтыкаюся ў іх носам і дыхаю, як у кіслародную падушку. Пяць-дзесяць хвілін «інгаляцыі» — і самаадчуваньне на пару пунктаў вырастае.

Змагацца з курцамі няпроста. Апраўданьняў у іх мноства. Але галоўнае — гэта, маўляў, эфэктыўны спосаб барацьбы са стрэсам. Усе ўпэўненыя, што нікатын супакойвае, абвалакаючы ахоўным воблакам нэрвовую сыстэму. Гледзячы на тое, як трасецца Ціток, дый на тых, хто маладзейшы, я б паспрачаўся з гэтым сьцьвярджэньнем.

На шчасьце, сам я пазбаўлены гэтай згубнай залежнасьці. Упершыню цыгарэту паспытаў у далёкім дзяцінстве, гадоў сямі. Нармальны вясковы пацан і пачак папяросаў у надзейнай схованцы — гэта як бы само сабой разумеецца. Цяжка сказаць, як бы разьвіваліся адносіны з гэтым свавольствам,

якое часьцяком робіцца хваравітай звычкай на ўсё жыцьцё, ды нагода надарылася. Неяк забег я да свайго лепшага сябра Толіка Лапаціка. Яшчэ на вуліцы пачуў нейкі немы віск, быццам рэзалі кабана. Прачыніў дзьверы ў хату і ахнуў. Ляжыць мой друган на лаўцы са спушчанымі штанамі, ягадзіцамі дагары, а бацька яго — дабрэнны чалавек — па гэтых самых белых кругляшах чорным рэмнем хвошча. Пасьля кожнага такога пацалунку на целе заставалася чырвоная паласа. Побач на стале скамечаны пачак цыгарэт «Фільтар» як рэчавы доказ учыненай правіны. І, трэба сказаць, віск, усхліпы і галашэньне майго сябрука магічна паўзьдзейнічалі на мяне. Калі ўжо дзядзька Чэсь так лютуе, то што са мной зробіць мой баця... Я толькі на імгненьне ўявіў суровы бацькаў твар, і рука сама пацягнулася ў калашыну, дзе ляжала некалькі папяросаў, загорнутых у паперку. Рашэньне было прынята катэгарычна і незваротна. З тых часоў з курэньнем мы заўсёды на адлегласьці. Вось толькі добра б цяпер гэтую дыстанцыю павялічыць.

## 8 студзеня, субота

Дзьверы зарыпелі павольна і працяжна. І ў прачыненую шчыліну тут жа хлынула агрэсія. Маска была відавочна ня ў духу і не хавала сваёй жывёльнай ахвоты пакуражыцца над паўсоннымі арыштантамі. Зрэшты, усё было як заўсёды. Толькі з большай, чым звычайна, канцэнтрацыяй злосьці, хамства і цынізму. Зноў ва ўжытак пайшло «морду ў падлогу», відавочны доказ таго, што дзень будзе з паднятым хібам і воўчым выскалам. На зьмену заступіла «зондэркаманда» на чале з Барадой. Зна-

чыць, добрых навін чакаць не выпадае. Для гэтых людзей тое, што адбываецца, — шоў, пацеха, забаўка. Часам мне здаецца, што яны ці абкураныя, ці замбаваныя. Ну ня можа нармальны чалавек атрымліваць асалоду ад зьдзекаў зь іншых. А ім падабаецца прычыняць боль. Яны смакуюць чужыя пакуты. Тут я разумею, што беларуская талерантнасьць — гэта ў нейкім сэнсе нашы жаданьні і фантазіі. Бо людзі ў масках — гэта ж мае суграмадзяне. Большасьць — беларусы. Але зь іх можна фармаваць кантынгент для працы ў канцлягеры часоў нацысцкай Германіі. І гэта не перабольшаньне. Гэта горка-салёная праўда.

Ужо ня першы дзень спрабую ўявіць іх бяз масак, за сьценамі СІЗА КДБ. У сямейным коле, за накрытым сталом, у грамадзкім транспарце. Скажу шчыра, мне гэта не ўдаецца. Хоць, напэўна, у некаторых ёсьць свае дзеці. А значыць, яны павінны чытаць казкі сваім малым. Напэўна, ёсьць мамы і таты. А значыць, яны павінны рабіць для іх нешта добрае і прыемнае. Хутчэй за ўсё, ёсьць і суседзі па лесьвічнай пляцоўцы, зь якімі яны, напэўна, ветліва вітаюцца раніцай і, магчыма, дапамагаюць бабулі перайсьці дарогу.

Але тут яны нелюдзі. Істоты, перапоўненыя злосьцю і агрэсіяй. Можа, ня ўсе, але большасьць. Як наагул магчыма цэлы дзень зьдзекавацца зь людзей, дарэчы, не асуджаных, не прызнаных вінаватымі ў чымсьці, а вечарам быць добрым татам, клапатлівым мужам, таварыскім суседам?

Два розныя жыцьці. У якім жа яны сапраўдныя, а ў якім акторы? Раздваеньне асобы — напэўна, такі дыягназ пасуе гэтым людзям.

На шпацыр сукамэрнікі пайшлі з трэцяй спробы.

Спачатку ня так сталі. Потым не туды глядзелі. Нарэшце ня так рухаліся. Зьдзекі суправаджаліся невымоўным выцьцём і зубаскрышальным перастукам гумовых палак. Нават мне, хоць я ігнарую сёньняшні «шпацыр» (маю мэдычнае вызваленьне), было не па сабе. Я адчуваў, як ікраножныя мышцы левай нагі па-здрадніцку дрыжаць. Сволачы, як жа можна так зьдзекавацца?

Празь дзьве гадзіны чацьвёрка, гнаная перастукам палак і немым крыкам, вярнулася ў камэру. Расчараваная, узбуджаная, цяжка дыхаючы. Не пасьпелі запрасіць мяне на экскурсію ў сьвет уражаньняў, прынесеных з вуліцы, як дзьверы расчыніліся і чорная маска, ткнуўшы ў Ігара, гаркнула: «На выхад!»

Тыя, хто застаўся — Кірыл, Максім і Ўладзімер — загаварылі адначасова. Зь іхняга блытанага апавяданьня я зразумеў, што Аліневіч нешта напісаў на сьцяне ў дворыку. І гэтая насьценная творчасьць, відаць, не спадабалася вертухаям.

Зноў рыпнулі дзьверы, і ў праёме зьявіўся Ігар.

На лбе выразна чырванелі задзірыны ды сінякі. Што здарылася? Аказваецца, сапраўды падчас прагулкі Ігар вылепіў на сьцяне сьнежкамі: «Віват анархія!» Цяпер яго зацягнулі назад у двор, і адзін з «добрых людзей» загадаў:

— Здымай швэдар і выцірай напісанае.

Ахвяра заўпарцілася:

— Я сатру рукой, але распранацца ня буду.

Адмова ўзбудзіла і без таго зараджаных на агрэсію масачнікаў. Праз пару хвілін незадавальненьне перарасло ў шаленства. Дыстанцыю ад пагроз да сілавога ўзьдзеяньня пераадолелі ў лічаныя сэкунды. У ход пайшлі кулакі. Трое на

аднаго. Бяз права на ўдар у адказ. Чым больш Ігар упарціўся, тым больш злосьці выплёсквалася з-пад масак...

Прастора чацьвёртай камэры нагадвала зьмесьціва чайніка, перад тым каб закіпець. Эмоцыі віравалі. Зубы клацалі. Пісаць пракурору! Патрабаваць аўдыенцыі ў начальніка СІЗА! Неадкладна дамагацца прыходу лекара і фіксацыі зьбіцьця! У разгар нашай дыскусіі злавесна рыпнулі дзьверы. Зноў тычок пальцам у бок Аліневіча і ўказаньне, якое не абяцала нічога добрага: «На выхад!»

Крыкі з «пакоя катаваньняў» ледзянілі душу. Яны даносіліся да нас, пераадольваючы бэтонную тоўшчу сьцен. Хвілін праз дзесяць экзэкуцыя скончылася. Калі, вярнуўшыся ў камэру, Ігар сьцягнуў зь сябе мокрую разарваную майку, на целе былі бачныя новыя аўтографы «добрых людзей». Паводле ягонага прызнаньня, каб не ўмяшаньне дзяжурнага па СІЗА (якога ў залежнасьці ад сытуацыі клічам альбо Віктарам Віктаравічам, альбо Чыкага Булз), то наступствы маглі быць яшчэ і горшыя.

Калі Ігара другі раз вывелі з камэры, нэрвы спаўзьлі з катушак. Я пачаў малаціць кулаком у дзьверы: «Перастаньце зьдзекавацца з чалавека, інакш зробім бунт!» Адвалілася кармушка, і прачыненую прастору запоўніла фізіяномія Васіля.

— Прозьвішча? — Кантралёр калупаў мяне позіркам. Пачуўшы адказ, фізіяномія зьнікла.

— Пабег дакладваць, — пракамэнтаваў напаўголасу Кірыл.

Мы зноў паглыбіліся ў дыскусію і пошукі адказу, што рабіць. Калі моўчкі праглынуць тое, што адбылося, то нас альбо пазабіваюць сёньня, альбо пакалечаць заўтра. І тут нам яшчэ раз далі

зразумець, што мы — як на далоні. Праслухоўваемся і праглядаемся па гарызанталі і вэртыкалі. Па Ігара зноў прыйшлі. Гэтым разам кантралёры. Ціха так павялі. Прыкладна праз гадзіну вярнулі на месца. Вадзілі на спатканьне з... Арловым. Так, так, менавіта зь ім. Ён што, працуе без выходных? Вось гэта імпэт! Вось гэта стараннасьць! Хітры палкоўнік пачаў апрацоўваць Аліневіча, вымаючы то пернік, то пугу. Парэпанаму фігуранту «справы аб падпалах» далі зразумець, што ўсе апэляцыі і скаргі застануцца ў гэтым жа будынку, да каго б яны ні былі зьвернутыя. Хоць да самога Госпада Бога. Стала ясна, што апэляваць да пракурораў, лекараў можна з такім жа посьпехам, што і да табурэткі. І ў апошняга варыянту ёсьць несумненная перавага: жалезная канструкцыя заўсёды на адным і тым жа месцы, і да яе можна апэляваць наўпрост 24 гадзіны на суткі. Арлоў нагадаў Ігару, што наша камэра на асаблівым кантролі. Маўляў, тут сабраны кантынгент, які адзначаецца непаслушэнствам і схільнасьцю да парушэньня рэжыму. Адпаведна, і стаўленьне да нас з боку пэрсаналу адмысловае.

Пасьля гэтага паведамленьня ў Уладзімера Цітка здарылася гістэрыка. Ён і так быў ашаломлены падзеямі, цяпер жа на яго было балюча глядзець.

З абедам прыйшлі новыя тэмы для размоваў, і настрой прыкметна палепшыўся. Так ці інакш, усе разумелі, што нельга заставацца закладнікам сытуацыі і тэмаў, навязаных «добрымі людзьмі». Кірыл з Уладзімерам селі за шашачную дошку, Ігар пісаў ліст дадому, мы з Максімам уткнуліся ў кнігі.

Кожны з нас нібыта знайшоў занятак, які павінен быў адцягнуць увагу ад непрыемных падзей і навін сёньняшняга дня. Тым часам вушы лавілі

кожны гук і шоргат, які даносіўся звонку. Арганізм імгненна рэагуе на зьменлівую сытуацыю. Быць напагатове, быць гатовым да ўсяго — такую ўстаноўку даваў мозг кожнаму з нас.

* * *

Па вячэры нас пагналі ў душ. Ледзь пасьпелі скінуць у пакеты бялізну, бо не пасьпець — значыць застацца без купаньня ў гарачай вадзе. Аліневіч адмовіўся пакідаць камэру, каб не правакаваць новы канфлікт. Яго адсутнасьць адразу заўважыў дзяжурны Чыкага Булз. Мабыць, сёньняшнія падзеі яго напружвалі.

— Дзе пяты?

— Зьбілі!

Чалавек у форме прапаршчыка паспрабаваў выказаць зьдзіўленьне.

— На добры лад яму доктар патрэбны, а ня душ.

Гэта завуаляваная спроба навязаць наш плян, што можна і трэба рабіць. Віктар Віктаравіч моўчкі праглынуў гэтую «рэкамэндацыю», аднак праз хвіліну зьнік з шарападобнага пакоя. Маскі задаволена ўхмыляліся, слухаючы нашу гутарку. Як потым распавёў Ігар, прапаршчык прыходзіў у камэру зандаваць сытуацыю. Даведаўся пра самаадчуваньне, уважліва разглядаў гематомы на твары. Але на паводзінах масак інцыдэнт ніяк не адбіўся. Значыць, у іх ёсьць санкцыі на фізычнае ўзьдзеяньне ў дачыненьні да арыштантаў СІЗА. Яны весела жартавалі і ўсім сваім выглядам дэманстравалі, што зь іх як з гусі вада. Значыць, зьдзекі — частка іхняй працы. За гэта ім плацяць зарплату, а магчыма, і добрыя прэміяльныя.

І ўсё ж душ — гэта душэўна! А то ўжо пачынае здавацца, што пахі «амэрыканкі» ўсмакталіся ў кроў, пранікլі ва ўсе поры цела, убіліся ў нос, спляліся з валасамі. Спэцыфічны, ні з чым не параўнальны пах. Сумесь падзямельля, сьметніку і морга. Гэта вакол цябе. Гэта ўжо ў самім табе. Асабліва востра адчуваеш гэта, калі вяртаесься ў камэру са шпацыру або з душа. Але ўжо праз гадзіну хваравітая рэакцыя зьнікае. Ты проста рассычаесься ў гэтых брыдкіх пахах.

Скроб цела грунтоўна, недагледжанымі пазногцямі, пакідаючы чырвоныя пісягі на белай скуры. Пад вяхотку прыстасаваў губку мыць посуд. Яе жорсткі бок прыемна драпаў ногі, рукі, жывот, плечы. Хацелася фізычна выціснуць зь сябе нешта чужое і непрыемнае.

Асалода даўжынёй у 15 хвілін. Прыемнасьці, як правіла, хуткаплынныя. Цыбаты ў чорным і кантралёр узьніклі на парозе без аніякага папярэдняга стуку.

— Усе на выхад! Хутка! Пабеглі!

У вузкім тамбуры цесна ад целаў і мітусьні. Адзяваліся на хаду. Адзеньне ліпла да мокрага цела. Выціраліся ўжо ў камэры.

Тое, што адбылося днём, нагадала пра сябе і ноччу. Аліневіч крычаў: «Ня трэба! Ня буду!» і адмахваўся рукамі. Людзі ў чорным працягвалі перасьледаваць яго і ў снах. Неспакойная ноч. Сон розуму ў адных, сон адным вокам у іншых.

## 9 студзеня, нядзеля

СІЗА — рэч суровая. Пустэльна-арктычная. А гэта значыць, што чалавечы фактар набывае тут асаблівую значнасьць. Ад таго, хто побач з табой у гэтай экстрэмальнай, звышгранічна нэрвовай сытуацыі, залежыць калі ня ўсё, то амаль усё. Атмасфэра ў камэры нэўтральна-пазытыўная. Гэта як мінімум добра. Асабліва калі ўзяць пад увагу, што паміж палітычнымі і астатнімі спрабуюць убіць клін. Маўляў, усе праблемы і нязручнасьці — непасрэднае наступства знаходжаньня тут апанэнтаў улады. Так што ўсе прэтэнзіі да іх. Прэтэнзіі, безумоўна, ёсьць. Але не да палітычных. Клін не ўбіваецца. Прынамсі, пакуль і ў нашай камэры.

А сытуацыя сапраўды няпростая. Арыштаваныя праводзяць у сьледчым ізалятары ў сярэднім год і больш. Зразумела, што за гэты час звыкаеш да пэўнага ўкладу ўзаемаадносін і распарадку. Пасьля 19 сьнежня 2010 году ўсё абрынулася ў адзін момант. І гэты шокавы кантраст стаў сур’ёзнай псыхалягічнай траўмай і выпрабаваньнем для людзей. Гэта зьдзівіла іх, шакавала, прыгняло. Я бачу, я адчуваю, як пасьля кантактаў з Арловым, са сьледчымі мае сукамэрнікі неяк па-асабліваму глядзяць у мой бок. Ніхто нічога ня кажа, але зь нейкіх ледзь улоўных жэстаў, інтанацыяў разумею, што на гутарках размова ішла і пра мяне. Фіксую, бяру пад увагу ўсе дэталі, самыя драбнюткія, але вонкава стараюся прыхоўваць насьцярожанасьць і заклапочанасьць. Вядома, нехта з сукамэрнікаў павінен «стукаць» начальству. Зрэшты, справа гэтая марная і непэрспэктыўная. Уцёкаў я не пляную, адмысловымі сакрэтамі Плошчы не валодаю. Вядома, часам задаю

сабе пытаньне: а хто б гэта мог быць? Дакладней, задаваў, а цяпер мне ўсё роўна. Хай ціха «стукае», галоўнае, каб у камэры не ствараў праблемаў.

Пасьля некалькіх тыдняў у ізаляцыі магу зрабіць заяву. Пра сябе, г.зн. для асабістага карыстаньня. Мы застаёмся па адзін бок нябачнай барыкады і рэагуем на ціск салідарна. Што будзе далей — паглядзім, але сёньня гэта так. Хоць, вядома, адносіны з кожным сядзельцам індывідуальныя. Найбліжэй сышліся зь Ігарам Аліневічам, што, у прынцыпе, лёгка патлумачыць. Справы ў нас розныя, але абедзьве — з палітычнай падаплёкай. Гэты хлопец з пучком валасоў на патыліцы стрыжанай галавы мне падабаецца. Гарачы, можа і выбухнуць, дастаткова іскры, ня тое што запалкі. Але падкупляе, што мае пазыцыю, уласную думку. Не выдыгае перад пэрсаналам, не імкнецца быць меншым за свае сто восемдзесят.

Нашы адносіны мы зь Ігарам вывелі на ўзровень адкрытай, шчырай размовы. У прыватнасьці, сёньня ён распавядаў пра прыгоды беларускага анархіста ў Расеі. Гэта займальны аповед, варты грамадзкай увагі. Як толькі пачалася зачыстка анархістаў, Ігар Аліневіч на ўсялякі выпадак вырашыў зьнікнуць з поля зроку беларускіх сілавых структураў. Знайшоў прытулак у Маскве, у тамтэйшых пасьлядоўнікаў Крапоткіна і Бакуніна. Спачатку ўсё было спакойна, але, як выявілася, яго месцазнаходжаньне — гэта сакрэт палішынэля. Беларускія пінкертоны арганізавалі маштабную спэцапэрацыю ў інтэрнэце. Да прыкладу, рассылалі лісты са скрынак людзей з кола знаёмых Аліневіча, выцягваючы на кантакт часовых уцекачоў зь Беларусі. Затрымалі яго каля адной са станцыяў маскоўскага мэтро і

адразу ж этапавалі на радзіму. Людзі ў цывільным канваявалі яго закутым у кайданкі. На беларуска-расейскай мяжы іх чакалі прадстаўнікі беларускіх спэцслужбаў — адбылася перадача з рук у рукі. Пры гэтым расейцы папрасілі сваіх беларускіх калегаў больш не выкарыстоўваць падобны фармат узаемадзеяньня. Бо фактычна Аліневіча незаконна выкралі супрацоўнікі расейскай ФСБ і незаконна ж перадалі беларускаму КДБ. Потым у матэрыялах справы Ігар убачыў інфармацыю, што яго нібыта затрымалі на тэрыторыі Беларусі — і зрабілі гэта, вядома ж, беларускія праваахоўныя структуры.

«Пра што я пашкадаваў пасьля, дык пра тое, што пры перасячэньні мяжы не паспрабаваў прыцягнуць увагу супрацоўнікаў міліцыі, каля якіх мы праяжджалі. Ня ведаю, ці дапамагло б гэта, ці не, але гэта варта было зрабіць. Я проста мог бы штурхнуць кіроўцу, і гэта напэўна прыцягнула б увагу», — дзяліўся са мной Ігар. Праўда што, гісторыя майго сукамэрніка — гатовы сюжэт для захапляльнага баевіка.

Распавёў Ігар і пра некаторыя падрабязнасьці «справы аб падпалах». Аказваецца, ён асабіста ўдзельнічаў у адным інцыдэнце, які меў дачыненьне да Міністэрства абароны. І ў паказаньнях сьледзтву Аліневіч не адмаўляў, што браў удзел у несанкцыянаваным шэсьці і запуску фаера на тэрыторыю штабу Белармііі. Але ён катэгарычна адрынаў абвінавачаньні ў падпалах на тэрыторыі расейскай амбасады: «Гэта поўная бязглузьдзіца, ад пачатку да канца. Фантазіі спэцслужбаў, ня больш. У іх нічога на мяне няма. Пустая справа, бяз фактаў і доказаў. На мяне спрабуюць навесіць дохлых сабак на аснове паказаньняў практычна аднаго чалавека

па прозьвішчы Веткін. Зразумела, што чэл альбо правакатар, альбо мусіў пайсьці на бартэр, каб уратаваць уласную задніцу».

Ігар настроены аптымістычна і ўпэўнены, што ўсё абыдзецца. Не, ён, вядома, не спадзяецца, што заўтра перад ім папросяць прабачэньня і адпусьцяць яго на ўсе чатыры бакі. Хутчэй за ўсё, абвінавачваньне будзе прад'яўлена паводле артыкула «хуліганства». І напэўна ў тэрмін пакараньня залічаць час у «амэрыканцы». Што ж, з улікам таго, праз што мы ўсе тут прайшлі і, магчыма, яшчэ пройдзем, гэтага хопіць зь лішкам.

У расьсьледаваньні Ігаравай справы вялікай актыўнасьці не назіраецца. На допыты яго не выклікаюць, вочных ставак не праводзяць. Сьледчы ў яго з сыстэмы МУС. Так што пакуль ён перапрацоўвае казённыя кашы і чакае справядлівасьці. На мой погляд, нізкая актыўнасьць у «справе падпальшчыкаў» тлумачыцца тым, што на першы плян выйшла «справа дзекабрыстаў». Сёньня яна выцесьніла ўсё астатняе ў разьдзел «рознае». Ігар з гэтым згодны.

## 10 студзеня, панядзелак

Нас працягваюць прасаваць. Мяне наагул трымаюць у напрузе круглыя суткі. Ноччу зноў патрабавалі, каб ляжаў тварам да дзьвярнога вочка і рукі паўзьверх коўдры. Мусіў дэманстратыўна загарнуць рукі ў ручнік. Выйшла нешта накшталт баксёрскіх пальчатак. Крычаць на мяне, але, натуральна, прачынаецца ўся камэра. І так разоў пяцьшэсьць за ноч. Толькі пад ранак угаманіліся, і тут жа каманда: «Пад'ём!» Таму ўсе злыя, маўчаць і

ўсё робяць на аўтапілёце. Машынальна запраўляем пасьцелі, канвэерна мыемся, сынхронна ўтвараем паравозік, які сноўдае да туалета і назад. Няма ні сіл, ні ахвоты рэагаваць нават на тое, што ноччу хтосьці схадзіў міма бака і пах мачы непрыемна раздражняе насаглотку. Пасьля сьняданку, які нагадваў застольле па нябожчыку, усе дружна пачалі кляваць носам. Шторкі апушчаных павекаў. Падбародзьдзі пазвальваліся ў жолаб сонечнага спляценьня. Непрыемная, злавесная цішыня хмурнага ранку.

* * *

Шпацыр. Неба плявалася згусткамі мокрага сьнегу. Фрыске на хвалі FM сьпявала нешта пра сьпякотнае лета, бананы і какосы. Набрынялыя вільгацьцю сьцены дворыка набылі злавесны выгляд. Чорна-зялёная сьлізь шматкамі спаўзала з парэпанага бэтону. Натуральныя дэкарацыі для фільму жахаў. Пад нагамі брудная каша. Усе згрудзіліся пад пражавелым лістом жалеза, кінутым паўзьверх сеткі. Але гэта мала дапамагае. Траекторыяй падзеньня сьнежна-вадзяной масы кіруе непрадказальны вецер. Замест асалоды шпацыр ператвараецца ў чарговае выпрабаваньне. Мае калегі ў гэтыя хвіліны — вартае жалю відовішча. Чатыры мокрыя застылыя сылюэты. Я пяты. Апушчаныя плечы. Панурыя твары. Дождж размывае плаціну пазытыўных эмоцыяў, і цябе залівае ўсё большым нэгатывам. Спачатку мокры, потым злы, і нарэшце абыякавы.

Па бруку над намі ходзіць ахоўнік. Ён у цёплым бушлаце, пад паветкаю, якая засланяе ад ветру і дажджу. Гледзячы на нас, Васіль ухмыляецца. Наш




Дзясяткі тысяч людзей на праспэкце Незалежнасьці

выгляд яго забаўляе. Наша бездапаможнасьць яго весяліць.

Ад думкі, што наперадзе яшчэ добрыя паўтары гадзіны стаяньня пад халодным душам, зрабілася зусім сумна. Недзе ўсярэдзіне варухнулася гарэзьлівая думка... А што, гэта забаўна! І вось ужо думка матэрыялізавалася ў плян. Мы пойдзем іншым шляхам! Ботам расчышчаю прастору ад бруду і сьнегу. Упіраюся кулакамі ў асфальт і пачынаю адціскацца. Усё роўна ж мокнуць, дык ужо лепш у такт музыцы і з карысьцю для сябе. Пальчаткі хутка набрыньваюць вільгацьцю, з капюшона тонкім струменьчыкам агідна зьбягае вада. На памосьце да кантралёра далучаецца маска. Нейкі час яны назіраюць за мной. Ацэньваюць. Здаецца, мы памяняліся ролямі. Надышоў іхні час зьдзіўляцца, а мой — ухмыляцца.

Працягваю фіксаваць падыходы. З інтэрвалам 8–10 хвілін падаю ў брудную жыжку і адціскаюся,

адціскаюся, адціскаюся. Кожны падыход фіксую. Для гэтага на лаўцы, пафарбаванай у аранжавы колер, пакідаю каменьчыкі, выкалупаныя з бруду. Кожны каменьчык — гэта сто адцісканьняў. Да канца шпацыру на мокрай драўлянай паверхні дзесяць рознакаляровых рознагабарытных грудкоў. Вось і файна! Час, прапушчаны праз намаганьні і волю, як выявілася, рухаецца нашмат хутчэй. Пад канец заняткаў і вецер быў ужо не такі халодны, і дождж не такі агідны. І ўсё таму, што я сам зрабіўся інакшы, чым дзьве гадзіны таму.

Напэўна, упершыню не брыдзем са шпацыру, а рухаемся трушком. Як узорна-паслухмяная камэра. Хочацца хутчэй пад дах. Увальваемся ў памяшканьне, якое дыхае перагарам затхласьці і вільгаці. Па вопратцы цякуць ручаі. На бэтоннай падлозе то тут, то там лужынкі. Прасушыць мокрую адзежу няма дзе. Курткі, штаны, швэдры, бялізна праходзяць працэдуру адцісканьня. У чатыры рукі працуем над рукамыйніцай і вядром. Кручкоў разьвешваць зьнятае зь сябе не хапае. З разарваных пакетаў робім нешта накшталт вяроўкі і на ёй разьвешваем выціснутую адзежу. Але і тут нам нагадваюць, хто мы і дзе мы: ідзе каманда прыбраць адзежу, разьвешаную перад дзьвярыма. Спрабуем пярэчыць, але кантралёр непахісны: «Дзе хочаце, там і сушыце, а я павінен бачыць кожнага».

Размова скончана! Ды яе, размовы, уласна, і не было. Нас тыцнулі тварам у мокрую лужыну на брудным бэтоне.

Цяпер бы па астуджаных, прамерзлых трактах і трубах арганізму пусьціць гарачае пітво... Чаго васпан жадае — гарбаты, кавы? Эх! Такое простае і такое немагчымае жаданьне. Яшчэ як мінімум

гадзіну-паўтары трэба будзе грэцца думкамі пра гарачую ежу і гарбату. Абеду чакае ня толькі страўнік — кожная часьцінка прамерзлага цела. Як знутры, так і звонку.

Народ выцягвае з пакетаў і сумак усё, што можна напяць на сябе. Адчуваю, як па целе прабягаюць дрыжыкі. Ня грэюць ні адзеньне, ні плед. Чуваць клацаньне нечых зубоў. Ня дзіва, што ўсе хрыпяць, чхаюць, смаркаюцца. Усе без выключэньня. Абсалютна здаровым у такіх умовах быць немагчыма.

Вызваляюся ад пледа, сьцягваю з празяблых плячэй швэдар, майку. Сукамэрнікі ашалела глядзяць на мой голы торс. Абапіраюся на жалезную акантоўку нараў і пачынаю адціскацца. Потым бяруся за прэс. Так наганяю, запампоўваю цяпло ў цела. Прымусова. Гэта сытуацыя, калі прымус сябе апраўдвае.

Абед заглыналі, не перажоўваючы. Чым хутчэй, тым гарачэй. Больш за ўсё хацелася проста сагрэцца.

Па абедзе нас чакаў сюрпрыз. Калі заскрыгатаў ключ у шчыліне, мы толькі пераглянуліся. Другі шмон? Але замест маскі на парозе зьявіўся малады шчуплы хлопец. Шырачэзныя штаны боўталіся на ім, як на калу. Цёмны швэдар тоўстай вязкі на худых, касьцістых плячах. На нагах нейкія грубыя ці то чаравікі, ці то боты. З зарасьцяў чорных прамых валасоў выглядвалі ліхтарыкі бліскучых вачэй. У руках казённы посуд і белы паўпусты пакет. Калі ён зноў шмыгануў у калідор і зьявіўся са шконкай у руках, з нашых разяўленых ратоў вырваўся калектыўны вокліч-уздых: «Э-э-э!.. О-о-о!..»

Затое «зондэркаманда» цешылася нашай рэакцыяй. Стала ясна, што нас пачынаюць прэсаваць

яшчэ і цеснатой. Гэта дадатковая нязручнасьць. Шасьцярым у гэтым катушку сапраўды не разгарнуцца. Асабліва ноччу.

— Вы што там, зусім з глузду зьехалі? Тут і так як кількі ў бляшанцы! — нашы воклічы пляскаліся аб брудныя сьцены і бязгучна расьцякаліся па іх.

Выпусьціўшы эмоцыі, усе засяродзілі ўвагу на навічку: хто, адкуль? Хлопец страпянуўся, як верабейка, і горда чырыкнуў:

— Я палітычны!

Во як! Усе позіркі тут жа скрыжаваліся на юначым твары.

— Што, і на плошчы быў?

— А то!

— А велічаць цябе як?

— Малчанаў. Алесь. Я з Барысава.

Для пачатку «баевіка» накармілі. А тут і час адбою. Абмеркаваньне, як уладкаваць яшчэ адну ляжанку, доўжылася хвілін дзесяць. Шконку Малчанава ўдалося ўціснуць паміж ніжніх нараў. Выйшаў адзін вялікі ложак на трох. Адзін канец драўлянага насьцілу ляжаў на тумбачцы, а другі абапіраўся на маю шконку. З двух драўляных насьцілаў выйшла канструкцыя літарай «Т». Але любое перамяшчэньне па камэры было паралізавана. Цяпер з аднаго яе канца ў другі можна было прайсьці толькі па целах. У літаральным сэнсе. Укладваліся пад грозныя вокрыкі аховы: «Адбой! Спыніць варушэньне!» І, як заўсёды, вокрыкі суправаджаліся важкімі ўдарамі гумовых палак у дзьверы.

Давялося прыстасоўвацца да новых умоў. Малчанаў ніяк ня мог знайсьці зручную позу для сну. Усё круціўся вакол уласнай восі, і гэтыя рухі аўтаматычна перадаваліся на мой насьціл. Адчувалася

лёгкая марская гайданка. Але потым Алесь заціх і пацягнуў мяне за сабой, у бездань сну.

## 11 студзеня, аўторак

Раніца ашчэрылася, потым закрычала. Чалавечая маса ўсярэдзіне камэры заварушылася, закрахтала і прыйшла ў рух. Усталі ўсе, акрамя аднаго. Малчанаў быў нерухомы. Напэўна, знайшоў позу, якую доўга шукаў учора. Ужо расплюшчыўшы вочы, доўга спрабаваў зразумець, дзе ён. Хлопец аказаўся цяжкаваты на пад'ём. Давялося крыху панэрвавацца, бо маскі, заўважыўшы слабасьць навічка, пачалі наяжджаць з пагрозамі на ўсіх. Узьніклі пытаньні: дзе прыстроіць два «віндсэрфы»? Куды складзіраваць матрацы, пасьцельныя рэчы? Пасьля працяглых узгадненьняў з вартай адзін паставілі пры дзьвярах, а другі — на баявое вэртыкальнае дзяжурства пры акне. Два матрацы з пасьцельнай бялізнай, скручаныя рулёнам, не бязь цяжкасьцяў запхнулі пад ніжнія нары. Там зрабілася зусім цесна. Усё забіта пад завязку!

Перанасяленьне ніяк не адбіваецца на тэмпэратурным рэжыме. Надыхаць цяплом нават гэтую невялікую прастору мы ня ў стане. І хударлявы, плоскі Алесь Малчанаў тут слабая падмога. Холадна. І трохі голадна. Заўбожалі. Ратоў шмат, а ў запасьніках ня так і густа. Практычна нічога. Штабэлі пустых кантэйнэраў. Арлоў працягвае скарачаць сьпіс дазволеных для перадачы прадуктаў. Проста-такі мясцовая разнавіднасьць галоўнага санітара Расеі Анішчанкі. На дэсэрт цяпер размовы пра тое, што яшчэ год таму ў «амэрыканку» перадавалі гарачую курыцу і хатнія катлеты. А сёньня

зь меркаваньняў бясьпекі забаронена передаваць нават сала. Уяўляеце, сала ў сьпісе забароненых для перадачы ў СІЗА прадуктаў?! Абмежаваньнямі і невыгодамі цісннуць з усіх бакоў. Выпрабаваньне на цярплівасьць і выжывальнасьць. Чаго чакаць яшчэ? Якіх подласьцяў? Якіх паскудзтваў? Якіх зьнявагаў?

Навічка павялі на допыт. Ён адразу зьмяніўся. Прафэсійна скрыжаваў рукі на сьпіне, згорбіўся так, што ззаду стаў падобны да старога. Як толькі Алесь пакінуў камэру, яго пачалі прасаваць. Было чуваць, як шчоўкаюць кайданкі. І адразу ж апантаныя, жудасныя крыкі. Малчанава пагналі. Чаравікі-кайданы грымелі па прыступках, як набат. Як мы потым высьветлілі, пры засяленьні ў «амэрыканку» ў яго канфіскавалі джынсы: маўляў, заклёпак было больш, чым трэба. Прымусілі здаць і туфлі, бо абцасы пішчалі пры праходжаньні рамкі мэталашукальніка. Замест канфіскаванага выдалі нейкія жудасныя парусінавыя штаны, на два памеры большыя, і пачварнага выгляду чаравікі. Затое ўсё — айчыннай вытворчасьці.

Няглдзячы на свой юны і кволы выгляд, Аляксандар ужо мае салідны паслужны сьпіс апазыцыянэра. Пачынаў з моладзевага руху «Зубр», ня раз затрымліваўся барысаўскай міліцыяй. Ёсьць у яго ў біяграфіі і такі прыкры радок, як артыкул за хуліганства: разам зь сябрамі практыкаваўся ў кіданьні камянёў па вокнах сваёй школы. Растлумачыць, навошта і чаму яны гэта рабілі, Алесь ня змог, але тое, што хлопец ня стаў хаваць учынак, які яго не ўпрыгожвае, я асабіста ацаніў. Ён не стараўся спадабацца любой цаной.

* * *

Пара пасьля абеду. Спакуса прылегчы і паблукаць у сьненьнях. Але другая палова мозгу трымае арганізм у напружаньні і рэкамэндуе не расслабляцца. Да такога кшталту рэкамэндацыяў варта прыслухацца: шмоны ці асабістыя агляды ў гэты час сталі правілам, у якім няма выключэньняў. І гэта хутка пацьвердзілася. Упэўніўшыся, што я гэта я, кантралёр даў указаньне: «З рэчамі на выхад!» У галаве адразу закруцілася: што б гэта значыла? Вэрсіі ад аптымістычных — дадому, да рэалістычных — у іншую камэру. Згарнуў у рулён матрац з пасьцельнымі рэчамі, усе астатнія пажыткі зьмясьціліся ў тры пакеты. Мне соваюць дарожны паёк — сала, гарбату, сушкі. Гэта на ўсялякі выпадак.

— Нічога не забывайце! — папярэджвае кантралёр. — Забраць пакінутае будзе немагчыма.

Душэўна разьвітваюся з тымі, да каго прыкіпеў душой. Выстаўляю за дзьверы драўляны насьціл. Пакеты складзірую ў калідоры. Апошняе, што выношу з «прэс-хаты», — плястыкавыя міскі (белую і блакітную), конаўкі (казённую і хатнюю). Іншы кантралёр адкрывае дзьверы суседняй камэры. Нумар пяць.

— Добры дзень!

Памяшканьне па памерах практычна такое ж. Толькі з адным акном. Чатыры ложкі. Першым працягнуў руку смуглявы мужчына ў цяльняшцы:

— Максім.

— Андрэй, — пацягнулася рука зь ніжніх нараў.

— Аляксандар Кісялёў, — шырачэзнай усьмешкай знаёміцца хударлявы, з зазубінамі залысін.

Сьветлавалосы хлопец з тварам, па якім, здаецца,

брытва яшчэ як мае быць не хадзіла, ветліва прапусьціў усіх і прадставіўся апошнім:

— Дзіма!

Ягоныя нары ўнізе справа.

Распакоўваючыся і ўладкоўваючыся, выявіў адсутнасьць шэрага пледа. Гэта бяда! Зь ім я не разлучаўся ні ноччу, ні днём. Кампактнае цёплае покрыва для мяне — як палачка-выручалачка. Пастукаў у дзьверы. Пачаў тлумачыць сытуацыю, але дагаварыць мне не далі: «Вас папярэджвалі!» Ці то пытаньне, ці то адказ. А хутчэй два ў адным. Кармушка тут жа зачынілася. Ветлівасьць — як успышка сьвятла, яе проста тут не відаць.

Як выявілася, мяне абмянялі на Фядуту. Саша быў у пятай камэры да майго прыходу. Нераўнацэнны бартэр, калі параўноўваць вагавыя катэгорыі. Але з пазыцыі артыкула, па якім мы абодва праходзім, тое на тое выходзіць. Пераход у новую камэру — гэта як мінімум магчымасьць атрымаць новую інфармацыю. На адно зь першых маіх пытаньняў, ці не даводзілася перасякацца з кім-небудзь з палітычных, адказалі хорам:

— Аляксандар Ёсіфавіч!

— Няўжо Фядута?

— Ён самы.

Дык гэта, пэўна, Сашава койка-месца? Пры пераходзе мне ўручылі новую шконку са сьвежагабляваных дошак. Яна была сантымэтраў на дзесяць шырэйшая за маё папярэдняе лежала.

— Як Саша? Цяжкавата яму, мабыць?

— Так, цяжкавата. У яго букет хваробаў. Зь імі калі не ў шпіталь, дык у санаторый толькі, а ніяк не ў «амэрыканку». Але нішто, трымаўся. Нам зь

ім было цікава. Столькі нам расказваў. Вершы на ляту складае.

Уся гэтая інфармацыя — адным патокам у некалькі галасоў.

У нас з Сашам адносіны заўсёды былі нэўтральна-халодныя, але тут мне захацелася сказаць пра яго нешта асабліва цёплае. У думках уявіў яго на расьцяжцы, у прыбіральні, і зрабілася не па сабе. Калі б Фядута пачуў мае хвалебныя словы, ён бы зьдзівіўся. Але я не перабольшваў. Ён сапраўды таленавіты чалавек, а цяпер магу сьцьвярджаць — яшчэ і мужны. Да таго ж спадзяюся, што ён ужо дома і ўспамінае ўсё як кашмарны сон. Хоць, на думку новых сукамэрнікаў, хутчэй за ўсё, Фядуту пераявялі ў іншую камэру.

Атрымаўшы вычарпальную інфармацыю пра падсьледнага Аляксандра Фядуту, пашыраю зону пошуку.

— А можа, з кім яшчэ з нашых перасякаліся?

— Дзьмітрыеў! Гэты таксама, здаецца, ваш, — рэпліка ад Сашы Кісялёва.

Ба, усе старыя знаёмыя!

— Ну і як ён?

— Хлопец шустры, гэткі жыўчык. Шмат распавядаў пра выбарчую кампанію. Я так разумею, што, нягледзячы на ўзрост, менавіта ён запраўляў у штабе Някляева.

— Хто галоўны, хто другарадны, цяпер сьледзтва высьвятляе. А даўно яго перавялі ад вас?

— Ды ён ужо дома, п’е шампанскае і ўсё ўспамінае як благі сон.

— Гэта як?

— Ну вось так! Якраз 31 сьнежня і выпусьцілі. Гадзін сем быў на допыце. Раніцай забралі, і толькі

падвечар зьявіўся. Узбуджаны такі, я б нават сказаў, вясёлы. І літаральна хвілін празь пятнаццаць далі каманду зьбіраць рэчы. Я яму яшчэ даў каардынаты сваіх. Так што для яго ўсё ўжо скончылася яшчэ ў мінулым годзе.

— Ну, здарава тады! А мне 31-га такі спэктакль разыгралі, што на ўсё астатняе жыцьцё запомніцца.

Маё апавяданьне пра падзеі таго дня ўсе з апэтытам праглынулі, але не скажу, каб вельмі зьдзівіліся: «амэрыканка» адвучвае людзей дзівіцца вынаходлівасьці людзей у пагонах.

— Так, тут майстры яшчэ тыя, — зь веданьнем справы ўступіў у агульную гутарку Андрэй.

— Табе, Андруха, лепей ведаць, — уставіў шпільку былому пракурору Максім.

Так, столькі навін у адзін дзень, адным вялікім бярэмем, я яшчэ не атрымліваў. Сам факт вызваленьня палітычных усяляў, што называецца, аптымізм. Калі адпусьцілі Дзьмітрыева, то я ў гэтай сытуацыі — наагул не прышый кабыле хвост.

Адчынілася кармушка, і на нэўтральнай паласе ўзьнік шэры камяк. Перада мной ляжаў мой плед! Не пасьпеў нават сказаць дзякуй. Падобна, нешта чалавечае яшчэ засталося ў гэтых сьценах. Тут трапляюцца і людзі, а ня толькі чалавекападобныя істоты. Настрой, як чорцік з табакеркі. Выскачыў, усьміхнуўся, рагатнуў і зьнік. У новай камэры цяплей, чым у чацьвёртай, але не настолькі, каб цалкам ігнараваць тэмпэратурны фактар і адмаўляцца ад правоў на шэры плед.

## 12 студзеня, серада

Спрабую знайсьці тлумачэньні свайго пераводу ў іншую камэру. У пятай жывуць багацей. Тэлевізар, халадзільнік. Запас харчоў. Раніцай да гарбаты — печыва, сушкі, пернікі і нават арэхі. Адчуваецца, што тут іншы рэжым. Больш лібэральны, ці што, калі такая ацэначная катэгорыя наагул пасуе да гэтага месца. Прынамсі што да побыту.

Але чаму? Чаму я тут? Зразумелі, што ціснуць, прасаваць бессэнсоўна? Махнулі рукой? Можа і так.

Учорашняе паабедзьдзе, багатае на навіны, было толькі пачаткам. Сёньня «стужка навінаў» абнавілася. З украпінай маленькай сэнсацыі. І аўтарам яе стаў Дзіма, сьветлавалосы хлопец, студэнт адной са сталічных ВНУ. Родам зь Віцебску. Студэнт, хутчэй за ўсё, ужо былы. Нейкі час Дзіма сядзеў у камэры з Паўлавым.

— Во такі мужык! — вялікі палец угару. — Цяльняшку мне падарыў, калі ішоў зь СІЗА.

Паласаты цельнік прасторнай тунікай зьвісаў з хударлявых плячэй.

— Яго што, выпусьцілі?

— Ну так. Я ж кажу, пакінуў мне цельнік.

Радасьць якая! Анатоль Васільевіч дома! Дзякуй Богу! Як валун з душы скацілі. Па-першае, ну які з Паўлава штурмавік мясцовага «Зімняга»?!

Для мяне яго арышт быў суцэльным непаразуменьнем. Убачыўшы яго прозьвішча ў пераліку абвінавачаных, я адчуў шок. Адзінае, што магло стаць зачэпкай, — гэта ягоны ўдзел у сустрэчы, якая праходзіла ў офісе БХД (у кватэры побач з вакзалам). Ініцыяваў мерапрыемства Віталь Ры-

машэўскі. Яно прайшло ў два этапы. На першую сустрэчу прыехаў я. Падняўся наверх і ў дзьвярах наткнуўся на злоснага Статкевіча. Той нёсься ўніз па лесьвіцы, а ўсьлед за ім кацілася рэха моцных слоў. Выявілася, што запрасілі ня толькі прэтэндэнтаў і прадстаўнікоў камандаў кандыдатаў, але і журналістаў. Мікалай абвінаваціў Віталя ў танным піяры і пайшоў з кватэры, бразнуўшы дзьвярыма. «Гутаркі ня будзе». Я нават узрадаваўся гэтаму, бо спраў было безьліч, але і ігнараваць запрашэньне не выпадала. Цяпер жа была нагода сысьці па-ангельску. Паміж лесьвічнымі пралётамі мяне сустрэў Дзіма Дашкевіч: «Давайце пагаворым бязь сьведак і чужых вушэй. Статкевіч тут недалёка».

Мы патэпалі раскіслай ад дажджу сьцежкай у бліжэйшую кавярню. Мікалая засьпелі ў кампаніі маладой асобы. Журналістка. Мы пераселі за суседні столік, і размова пайшла на траіх. Гаварылі пра пэрспэктывы кансалідацыі намаганьняў. Мікалай прадставіў свой аналіз магчымасьцяў і намераў кандыдатаў у прэзыдэнты: «У Саньнікава галавакружэньне ад посьпеху. Някляеў у ролі лідэра Плошчы бачыць толькі сябе. Ваш Раманчук добры хлопец, але ён сам кажа, што на барыкады не павядзе. Рымашэўскі паводзіць сябе як самазакаханы паўлін, яму абы трапіць на першую паласу газэт. Пра астатніх увогуле гаварыць няма чаго. Калі не дамовімся пра сумесны плян дзеяньняў, то нічога добрага ня будзе. За ўсіх гаварыць ня буду, але асабіста я гатовы ісьці да канца».

Пасьля гэтага я вярнуўся да офіса БХД, каб даведацца, куды рушыў Някляеў. Мне ўзрадаваліся, бо, як выявілася, ішло пасяджэньне. Задні ход даваць было б дурасьцю. Прысеў на крэсла, агледзеўся.



Кожныя 15 хвілін вока кантралёра сканує прастору камэры

Акрамя Някляева, Рымашэўскага і Янукевіча, астатнія невядомыя. Кожны гаварыў пра нешта сваё. Вус, якога я бачыў упершыню, настойваў, што трэба ісьці да тэлецэнтру і патрабаваць слова ў жывым тэлеэфіры! Нейкі малады хлопец ад Міхалевіча старанна ўсё запісваў і абмежаваўся заявай, што яго кандыдат супраць Плошчы, а ягоная місія абмяжоўваецца прысутнасьцю і наступнай перадачай інфармацыі Міхалевічу. Ды ўжо ж, кампанія стракатая і вясёлая!

Для мяне так і засталося загадкай, якая, уласна, была мэта сустрэчы. Быццам бы скаардынаваць дзеяньні на плошчы, каб не дапусьціць правакацыяў. Але абмяркоўваць гэта ў памяшканьні, якое напэўна стаіць на праслухоўваньні, ды яшчэ ў прысутнасьці людзей, якіх бачыш упершыню?!

Хтосьці прапанаваў сустрэцца яшчэ раз. Усе, хто адчуваў сябе дыскамфортна, імгненна ўхапіліся за гэтую прапанову. Іншым вынік гэтай сустрэчы і ня мог быць.

Вось на гэтую другую сустрэчу я і папрасіў паехаць Паўлава, які ў штабе адказваў за каардынацыю працы па зьбіраньні подпісаў за рэгістрацыю нашага кандыдата ў прэзыдэнты. А сам зь Яраславам Раманчуком рушыў прасаваць рэгіёны. Праз тэлефон сьцісла перадаў Анатолю Васільевічу зьмест папярэдняга пасяджэньня.

Ён зьезьдзіў. Мерапрыемства зноў прайшло па сцэнары круглага стала з адкрытым парадкам дня. Пасьля гэтага мы з Паўлавым нават не сустракаліся спэцыяльна, абмежаваліся кароткай тэлефоннай размовай. «Пустая трата часу», — «праштампаваў» вынікі так званага пасяджэньня кандыдатаў у прэзыдэнты і іх прадстаўнікоў былы прарэктар Белдзяржунівэрсытэту.

Але цяпер я разумею, якія рызыкі і пагрозы засталіся ў спадчыну ад тых, здавалася б, бяскрыўдных публічных тусовак. Калі сьледзтву патрэбныя доказы калектыўнай змовы, то за гэтыя сустрэчы могуць і зачапіцца. Тое, што я, хай сабе ўскосна, мог стаць прычынай затрыманьня Паўлава, не дадавала мне пазытыўных эмоцыяў. Дый наагул запасы майго аптымізму за гэтыя дні істотна вычарпаліся. Таму, пачуўшы пра вызваленьне Анатоля Васільевіча, я гатовы быў расцалаваць гэтую бялявую галаву, якая паведаміла такую выдатную навіну.

Дзіма, натхнёны маёй рэакцыяй, тут жа распавёў пра дні, праведзеныя са Статкевічам.

— Ён галадаў ужо, калі яго перавялі ў нашу камэру. Выглядаў так сабе. І гэта сказана мякка. Я

саступіў Мікалаю Віктаравічу свой ляжак. Мяне тут жа выклікалі да начальніка. Не пасьпеў я пераступіць парог, як ён пачаў на мяне крычаць. Маўляў, ты што, сукін сын, робіш? Адказваю, маўляў, ён жа векам мне за бацьку мог бы быць, мяне так выхоўвалі — шанаваць старэйшых. Больш Арлоў проста ня даў мне нічога сказаць. «Калі ня хочаш сам спаць на бэтоннай падлозе, вяртайся на сваё месца», — прыгразіў ён. Так што пакуль мы былі ў адной камэры, Статкевіч спаў на дошцы. Тое, што ў яго праблемы са здароўем, можна было зразумець без аніякай мэдычнай адукацыі. Але ён малайчына! Мужык дужы. Не расшаркваўся перад гэтымі, — Дзіма махнуў галавой у бок калідора. — Гнуў сваю лінію!

Дзіму я абвясьціў галоўным ньюсмэйкерам сёньняшняга дня.

## 13 студзеня, чацьвер

Прыглядаемся, прыціраемся адзін да аднаго. Паступова знаёмлюся з матэрыяламі справаў новых суседзяў і іх асабістай пэрспэктывай. Вядома, зь іхніх слоў і ў іхняй інтэрпрэтацыі.

Максім. Зь цемнаватым мінулым, у якое ўпускае дазавана і асьцярожна. У яго ўжо ёсьць на руках прысуд. Як я зразумеў, чатыры гады калёніі. За эканамічныя махінацыі. Прысуд абскарджаны, і Максім чакае канчатковага вэрдыкту Вярхоўнага суду. Ён сядзіць на чамадане, дакладней — на клятчастай сумцы, зьмесьціва якой пэрыядычна выварочвае і акуратна складае зноўку. Максім у шапцы-аблавусе, чорнай робе і фуфайцы. Гэта яго новы прыкід для калёніі. Аказваецца, на шыцьці

турэмнай формы спэцыялізуецца нейкая прыватная фірма, якую ўзначальвае, здаецца, нехта Станкевіч. Яго ініцыялы значацца на спэцвопратцы.

У іншых пастаяльцаў нумара «Hilton-амэрыканкі» пытаньне будучыні пакуль адкрытае.

Аляксандар Кісялёў, з прадпрымальнікаў. Ня дробных. Яго нават жартоўна клічуць Алігархам. Саша ўжо год як у сьценах «амэрыканкі». То бок — з кагорты старажылаў. Судовая пэрспэктыва ягонай справы праглядаецца слаба. Абвінавачваецца ва ўхіленьні ад выплаты падаткаў у асабліва буйных памерах. А па сутнасьці ўсё круціцца вакол адказу на пытаньне «колькі?» Колькі бізнэсмэн гатовы выкласьці за свабоду? Сваю і сваіх падначаленых. І не ў змардаваных інфляцыяй рублях, а ў амэрыканскай валюце. Пакуль ніяк ня могуць сысьціся на агульнай лічбе.

Ва ўсіх маладых людзей, якіх я сустрэў у «амэрыканцы», адна праблема — наркотыкі. Іх збліжае ня толькі артыкул КК, але і ўзрост — крыху за дваццаць. Для Дзімы з экзатычным прозьвішчам Бэн-Гусаін (праўда, я ня ўпэўнены, што правільна перадаю пачутае) сёньняшні дзень — гэта барацьба за свабоду ці мякчэйшы артыкул прысуду. У яго ідзе судовы працэс. Раніцай канвой забірае яго, а ўвечары вяртае назад. Зь юнацкай непасрэднасьцю ён распавядае пра пэрыпэтыі судовага працэсу. Пра мілавідную пракурорку, зь якой ён нават пераміргваецца падчас слуханьня. Пра суцэльныя нестыкоўкі і разыходжаньні ў матэрыялах справы.

Андрэй, у недалёкім мінулым пракурор Дзяржынску, а яшчэ пару месяцаў таму — пасьпяховы бізнэсмэн і бацька дзьвюх дачушак. Справа Андрэя-Пракурора — у падвешаным стане. Сьледзтва

рухаецца са скрыпам. А апошнім часам увогуле застопарылася. Ведаючы ўсю кухню сьледзтва, Андрэй абраў такую ж, як і я, стратэгію абароны: калі лічыце, што я жыраф, зрабіце ласку прад'явіць доказы!

Ну што ж, публіка сур'ёзная. Людзі ў гутарцы прыемныя, інтэлігентныя. Пасьля адбою тут дазваляюць згуляць пару партыяў у даміно. Так што пасьля дваццаць другой варушэньне працягваецца. Як мінімум гадзіну. Аказваецца, у кожнай камэры свой распарадак і рытм жыцьця.

## 14 студзеня, пятніца

Кантралёры, якія суправаджаюць дзяжурнага па СІЗА, празванага Гансам, дапамаглі яму праціснуцца ўсярэдзіну камэры. Яго камплекцыя відавочна канфліктуе зь дзьвярным праёмам. Ня той маштаб. Вось Арлоў ідэальна ўпісваецца ў інтэр'ер «амэрыканкі». Вочы пачырванелага ад патрачаных высілкаў дзяжурнага нядобра блішчалі. Ноздры дробнага носіка ўздрыгвалі ці то ад абурэньня, ці то ад патоку перапрацаванага паветра.

— Нешта ў вас сьмярдзіць! — носік стаў шарыкам.

— Да вас не сьмярдзела, — фраза, прамоўленая шэптам, ударыла, аднак, па ўсіх барабанных перапонках. Усе зарагаталі.

— Вільготную прыборку! — раўнуў Ганс. — Асабіста праверу!

Мабыць, колкая фраза не праскочыла міма адтапыранага вуха дзяжурнага.

Кантралёры адціснулі дзьверы, і цела, булькнуўшы, выцекла прэч.




Нашы сьцягі за колькі соцень мэтраў ад мясцовага «райхстагу»

Празь пяць хвілін дзьверы зноў адчыніліся, і аб парог дзынкнула вядро. Нядобра так дзынкнула. Гэта ўжо інструкцыя да дзеяньня. Затое мы скарысталі сытуацыю і выпрасілі кіпяцільнік: маўляў, выконваць указаньне і паліраваць бэтон будзем з парашком, а парашок без гарачай вады — марныя высілкі. Зьмесьціва першага збана, вядома ж, адразу пайшло на гарбату. З паршывай авечкі хоць воўны жмут. Мокрай анучай прабегліся па бэтоне, як па стомэтроўцы.

Адразу па абедзе зьявіўся з інспэкцыяй Ганс. Застаючыся ў калідоры, дзяжурны праз адчыненыя дзьверы ўцягнуў у сябе порцыю паветра і вынес вэрдыкт: «Сьмярдзіць! Рабіце вільготную прыборку! Праз гадзіну спраўджу!» Здавалася, ад напружаньня на Гансавым твары адтапырыліся адразу два падбародзьдзі. Значыць, закусіў цуглі. І няма сэнсу нешта казаць, тлумачыць, даводзіць. Моўчкі ўзялі вядро. Гэтым разам разжыцца кіпяцільнікам не ўдалося. Не паложана!

Шкада, а то б мы маглі вільготную прыборку рабіць хоць штогадзіны. Без кіпяцільніка працоўны запал неяк адразу абмяк, мокрая ануча ледзь гладзіла вышчарблены бэтон.

* * *

Па абедзе мяне выпатрабаваў начальнік СІЗА. Дзіўная выйшла размова. Арлоў дэманстраваў сваю дасьведчанасьць і дзяліўся маленькімі таямніцамі з жыцьця вымушаных пастаяльцаў «амэрыканкі». Гэта або падкрэсьліваньне сваёй значнасьці, або адмысловы зьліў «патрэбнай» інфармацыі.

Спачатку палкоўнік выдаў на-гара навіну, схаваўшы яе ў абалонку пытаньня:

— Вось вы ведаеце прозьвішча рэдактара сайту «Хартыя»?

— Да сёньняшняга дня была Радзіна. А што?

— Ды ніякая ня Радзіна. Яе прозьвішча Пук. А Радзіна — гэта яе псэўданім.

— І што?

Палкоўнік глядзеў на мяне зь непрыхаваным зьдзіўленьнем, нібы вылічыў небясьпечнага варожага шпіёна, а я гэтага не магу ацаніць як мае быць.

— Ну і што ж тут дзіўнага? — цяпер ужо я раблю зьдзіўлены твар. — Гэта распаўсюджаная сярод журналістаў практыка, дый ня толькі ў гэтым карпаратыўным асяродзьдзі. Але, наколькі я ведаю, у матэрыялах справы яна фігуруе пад прозьвішчам Радзіна. Дык што, выходзіць, у вас у СІЗА трымалі іншага чалавека?

У адказ раздражнёна:

— Тут праблемаў няма. Каго трэба, таго і затрымалі і ўтрымліваюць пад вартай. Мы не памыляемся!

Было, аднак, відаць, што гэта не адзіная навіна, падрыхтаваная начальнікам СІЗА. І сапраўды, ён працягнуў апавяданьне пра вялікія і малыя таямніцы апазыцыянэраў, якія сядзяць у «амэрыканцы».

— Вось вы ведаеце, што Бандарэнка ніякі не дэмакрат?

— Ну і хто ж ён цяпер?

— Дзяржаўнік. Ён мне сам пра гэта сказаў. І лічыць, што нам трэба вяртаць усе беларускія землі. І Вільню, і Смаленск. А вось вы падтрымліваеце, каб усе гэтыя землі вярнуць Беларусі?

— Якому богу верыць — справа чыста асабістая. Я вось дэмакрат па перакананьнях. І навакольнае асяродзьдзе ніяк не ўплывае на мой сьветапогляд. Што да прырастаньня Беларусі новымі землямі, дык мы і на гэтай тэрыторыі ня можам уладкавацца так, каб нашым грамадзянам было камфортна. Нашто рабіць няшчаснымі новых людзей? Вось межы прыбраць — гэта іншая справа. Беларусы павінны мець магчымасьць вольна падарожнічаць па Эўропе. Гэта было б справядліва. І, галоўнае, карысна.

— Дык мы і так у той Эўропе ўжо былі. Ня трэба было адтуль сыходзіць з ганьбаю.

— З ганьбаю для каго?

— Для арміі. Для народа.

— Ды хто ў таго народа пытаўся? І асабіста мне незразумела, хто такі гэты народ. Вось я разумею, ёсьць амаль дзесяць мільёнаў грамадзян Беларусі. Цалкам канкрэтных. Са сваёй біяграфіяй, са сваёй пазыцыяй. Але калі я чую, што беларускі народ нешта падтрымлівае, нешта ўхваляе, я не магу зразумець, пра каго ідзе гаворка. Бо я не падтрымліваю

гэтага, сусед мой не ўхваляе. І такой жа думкі сусед майго суседа. Тады пра каго гаворка?

Паглыбляцца ў дыскусію і высьвятляць, хто ж хаваецца пад словазлучэньнем «беларускі народ», Арлоў ня стаў і рэзка перайшоў на Насту Палажанку.

— Калі на допыце зайшла размова пра Статкевіча, яна нават прыўзьнялася: «Я хачу зрабіць афіцыйную заяву: Статкевіч вялікі м...к!»

Гэта, як я зразумеў, наконт ягонага закліку ісьці да рэзыдэнцыі Лукашэнкі — «Чырвонага дому». Ну, Наста — дзяўчына сапраўды прынцыповая, але ў дадзеным выпадку начальніку СІЗА відавочна хацелася пагаварыць не пра яе, а пра Мікалая, якога ён на дух не пераносіць. Гэта я ўжо зразумеў з папярэдніх гутарак. Таму вырашыў пакінуць гэтую заяву палкоўніка без камэнтароў.

Але тут Астапа панесла.

— На апошняй сустрэчы ён пачаў нешта казаць пра афіцэрскі гонар. Хто?! Статкевіч, які развальваў войска!

— А ён што, быў міністрам абароны?

Маё пытаньне ня надта зьбянтэжыла палкоўніка.

— Вы ж ня горш за мяне ведаеце, чым ён займаўся, колькі бруду выліў на войска, якое дало яму ўсё.

— А Мікалай па-ранейшаму галадае? — хачу адысьці ад тэмы, якая немінуча прымусіць нас узяцца ў рожкі, як тых бараноў.

— Ды пазёрства ўсё гэта. Адгаладаў ужо. Есьць, як і ўсе. Паўпарціўся для прыліку пару дзён, а цяпер выконвае распарадак і не выпендрываецца. Тут жа няма тэлекамэраў і журналістаў.

Па выразе твару, па сухасьці голасу, па ўсім адчувалася, што начальнік СІЗА ненавідзіць Статкевіча. Ведаючы Мікалая, думаю, гэтае пачуцьцё ўзаемнае.

Спрабуючы закрыць тупіковую размову, я спытаў, ці не зьбіраецца сьледзтва праявіць гуманнасьць і адпусьціць зь СІЗА жанчын. Твар палкоўніка памякчэў, але яснасьці гэта ня ўнесла. Адказ быў абцякальны: маўляў, сьледзтва працуе. Вось Паўлава і Корбана адпусьцілі.

Пакуль вялі ў камэру, яшчэ раз пракруціў сустрэчу з палкоўнікам. А ён не такі ўжо прасьцячок, гэты Арлоў. Цікава, што ён іншым кажа пра мяне?

Дарэчы, да пытаньня пра нянавісьць. Імкнуся дыстанцыявацца ад гэтага пачуцьця. Не скажу, што заўсёды ўдаецца, але ў цэлым сабой задаволены. Хоць, да прыкладу, мне страшна непрыемны кантралёр па мянушцы Баптыст. Калі ён чарговым разам адмовіўся даць кіпяцільнік, каб разагрэць ваду паласкаць горла, я ледзь стрымаўся, каб ня плюнуць у яго самазадаволеную фізіяномію. Маўляў, у журнале не адзначана, што трэба выдаваць кіпяцільнік. Хоць чорным па белым напісана: паласканьне горла. Але як гэта рабіць без гарачай вады? Халоднай вадкасьцю з-пад крана?! Зьдзекуецца, мярзотнік!

Нянавісьць асьляпляе. І ў такім стане лёгка страціць кантроль над сытуацыяй, лёгка справакавацца на непрадуманыя крокі і дзеяньні. Я стараюся, я вучуся кіраваць гэтым пачуцьцём. «Амэрыканка» — гэта мой новы досьвед. Ні з чым незраўнаны. Унікальны і балючы.

## 15 студзеня, субота

Нас паставілі на праветрываньне. Учора давялі да ведама, што пасьля каманды «Пад'ём!» трэба адчыніць усе форткі, каб праветрыць камэру. Гэта выклікала спачатку нэрвовы сьмех, а потым і дыскусію: што б гэта значыла? Прыйшлі да агульнай высновы, што гэта чарговы вывіх або заварот чыхсьці мазгоў. У камэры пад раніцу і так зябка, а калі дакладней, то халадрыга. На мне тэрмабялізна, байка з капюшонам, укручваюся ў плед, коўдру нават не распраўляю, залажу ў яе, як у спальнік, і ўсё роўна фізычна адчуваю, як холад скрабе па целе. Выйду на волю — адразу ж забуруся на вясковую печку. На некалькі дзён. Мару пра гэта. Пару абярэмкаў бярозавых пален — і можна цешыцца цяплом, якое прыемна пячэ прыліплыя да ляжанкі часткі цела.

Але выявілася, што абвешчаная ўчора навацыя — ня жарт.

— Пад'ём! — Шырокі Вадзікаў твар не ўмяшчаецца ў праёме кармушкі. — Адчынілі форткі!

Гэта не прапанова, гэта загад.

— Дык жа ж ня горача!

— Не на курорце! Хутка адчынілі форткі!

Ідзем на маленькую хітрасьць. Адчыняем толькі створку, якія выходзіць у камэру. Можа, абыдзецца паўмерай?

Празь пяць хвілін Вадзікаў голас зноў запоўніў прастору адчыненай кармушкі:

— Абедзьве форткі адчынілі! Я што, незразумела кажу?

Дзьверы здрыганулася ад udараў дубінкі. Куды ўжо больш зразумела! Але неяк ня хочацца вось так

адразу здавацца і прымаць умовы, якія пагаршаюць і без таго паршывае становішча. Градус дыскусіі прыкметна перавышаў тэмпэратуру ў камэры. Але ўсё скончылася тым, што дзяжурны па камэры палез адчыняць і другую створку.

Ранішняе падмарожанае паветра папаўзло ў камэру. Аказваецца, любое катаваньне можна ўдасканаліць і ўразнастайніць. Брава, таварыш Арлоў!

Народ пачаў загортвацца, захутвацца ў швэдры і коўдры. Вонкава выглядаем пацешна: нешта сярэдняе паміж капуснымі качанамі і палоннымі немцамі пад Масквой. Хвілін праз сорак дазволілі зачыніць форткі.

Затое гарачая каша пайшла на ўра. Ёю безь перабольшваньня адагравалі вантробы. Пакуль быў кіпяцільнік, кожны сьпяшаўся ня толькі выпіць кубак гарбаты, але і згатаваць кіпеню на запас. Ці мог я яшчэ пару месяцаў таму падумаць, што буду радавацца конаўцы кіпеню! Ажно радуюся, як у дзяцінстве радаваўся першаму плюшаваму мішку або халве ў бліскучай бляшанцы.

## 16 студзеня, нядзеля

Менш за ўсё чакаеш выходных. У іх запаволены рытм. Тэмп стаера-марафонца. Адзіная аддушына — лазьня. Як правіла, увечары ў суботу, часам раніцай у нядзелю. Але лепш першае. Пасьля нядзельнай душавой ты лёгка можаш апынуцца на вуліцы, у дворыку для шпацыраў. І такая пасьлядоўнасьць відавочна не на карысьць здароўю. Якраз гэта і здарылася сёньня. Як ні цёр ручніком валасы, выцерці насуха, натуральна, не ўдалося. І толькі вывелі на шпацыр, адчуў, як іх прыхоплівае марозік. Добра,

што куртка — з капюшонам, вялікім, аблямаваным штучным мехам. Замок зацягваю да ўпору, так што толькі частка твару сутыкаецца з атмасфэрай. Здагадаўся прыхапіць з сабой невялікі махровы ручнік. Абматаў ім ніжнюю частку твару. Нядрэнна! Стараюся актыўна разьмінацца, каб не астыць канчаткова. Добра яшчэ, што сёньня замовілі гадзінны шпацыр. Дзьве гадзіны па такім надвор'і і пасьля душа — гэта ўжо клацаньне зубамі і соплі на тыдзень наперад.

Другі плюс сёньняшняга шпацыру — нам выпала клетка. У адрозьненьне ад змрочных сьцен дворыкаў жалезныя пруткі — добры заменьнік гімнастычных снарадаў. З аднаго боку клетку падпірае мур «амэрыканкі», з другога — глухая сьценка-плот, увянчаная вязанкаю калючага дроту. А з двух астатніх бакоў — жалезныя пруткі таўшчынёй з палец. Яны вельмі зручныя, каб адціскацца. Можна прасунуць паміж пруткамі ногі і адціскацца рукамі ад вышчарбленага асфальту. Можна павіснуць на руках і пампаваць прэс, падымаючы ногі да простага кута. Можна зачапіцца нагамі за гарызантальныя пруткі, павіснуць галавой уніз і потым згінаць цела папалам. Адным словам, разнастайнасьць.

Мінус клеткі — падрэзаны час прагулкі. Калі выпала клетка, то цябе выводзяць на шпацыр апошнім, каб ня змог убачыць нікога зь іншых камэр. І, адпаведна, першым вядуць назад у камэру. Так што замест гадзіны рэальна выходзіць чыстымі хвілін сорак шпацырнага часу. А калі каго з падсьледных з дворыка выклікаюць на допыт, то ўсіх, хто ў клетцы, выводзяць у прыбіральню на першым паверсе.

Праўда, у прыбіральні дзьверы прылягаюць да праёму няшчыльна, і ў маленькую шчылінку можна на пару імгненьняў убачыць канваяванага. Але мне яшчэ ні разу не пашчасьціла ўбачыць некага зь фігурантаў нашай справы.

У пятай камэры крэатыўна падышлі да ліміту часу, вызначанага аховай на наведваньне прыбіральні. Першы раз я ажно сумеўся, калі Андрэй-Пракурор, толькі зайшоўшы ў туалет, тут жа сеў на бачок, які выносяць з камэры. Такім парадкам зьяўляецца ня два, а тры пасадачныя месцы. Можна сказаць, у яго асабісты пераносны «біятуалет». Затое прычапіцца немагчыма, усё ўкладаецца ў жорсткія часавыя нарматывы масак. Можа з гэтай прычыны, але маскі ня надта прэсінгуюць, пакуль мы ў прыбіральні. Прынамсі, калі праводзіць паралелі з чацьвёртай камэрай.

## 17 студзеня, панядзелак

Спачатку было слова. Патрабавальнае і бескампраміснае. Кінутае ў праём кармушкі: «Адчыніць фортку!»

Уляцела і разьбілася аб цішыню. Ніхто не варухнуўся. Зьнешні выгляд людзей, апранутых у швэдры, курткі, загорнутых у пледы і коўдры, казаў больш, чым словы. Праз пяць хвілін дзірка вочка запаўняецца чалавечым вокам. І тут жа грыміць завала, круціцца ключ, выцягвае жалезнае джала з замка. На парозе кантралёр. Натуральна, у зьвязцы з маскай. За ёй яшчэ адна. І зноў словы. Злыя і пагрозьлівыя. Тандэм гарлае:

— Хутка адчынілі фортку! Дзяжурны!

— Вы ж бачыце, што тут і так, як у халадзільніку!

Словы счапіліся са словамі ў перапалцы. Зрэшты, дыскусія пра карысьць і шкоду ранішняга праветрываньня працягвалася нядоўга. Наш слоўны супраціў быў хутка здушаны. Абедзьве форткі расчыніліся наросьцеж. Нас працягваюць выхоўваць холадам. Усе як па камандзе пачалі перабіраць нагамі, размахваць рукамі. Броўнаўскі рух у закаркаванай пасудзіне. Мы натыкаліся на нары, на табурэткі, адзін на аднаго. Натыкаліся, чартыхаліся і чакалі. Чакалі званоў з плошчы. Як толькі "дзінь-дзінь" уляцела ў закратаваную дзірку форткі, дзяжурны кінуў сваё цела ў амбразуру. Бразь! Бразь! Форткі зачыненыя. Роўна сёмая раніцы. За гадзіну паветранай вэнтыляцыі з камэры высмактала рэшткі цяпла, і цяпер усе проста моляцца на кіпяцільнік. Аднак ніхто не сьпяшаецца перадаваць яго. Толькі хвілін празь дзесяць у акенцы зьявілася, ухмыляючыся, фізіяномія кантралёра, а потым і плястыкавая банка з-пад селядца з кіпяцільнікам усярэдзіне.

* * *

Вось ужо каторы дзень ня маю нават намёку на тое, у якой прорве зьнікаюць мае лісты. Мне не па сабе. Ад таго, што да іх датыкаюцца чужыя рукі, што на тэрыторыю маёй шчырасьці, маёй асабістай прасторы ўрываецца староньняя цікаўнасьць. І гэты хтосьці, нябачны, варожы, вырашае лёс маіх пасланьняў. Напляваць, ці на свой одум, ці на нечае распараджэньне. Мне гэта непрыемна.

Я пішу. Мне пішуць. Цікава, як абыходзяцца з карэспандэнцыяй? Падшываюць у асобную тэчку?

Складзіруюць у склеп? Адпраўляюць на ўтылізацыю ў паперарэзку?

Але я ўсё роўна пішу! Радкі — гэта будаўнічы матэрыял, зь якога я спрабую пабудаваць для сваіх адчуваньне, што ўсё ў мяне добра. Пішу зычлівыя, пазытыўныя пасланьні. Калі ня ведаць кантэксту, то, прачытаўшы некаторыя, можна падумаць, што я недзе... ну, скажам, у санаторыі. Добра сілкуюся, шпацырую, чытаю кнігі, раблю гімнастыку. А потым разгортваю дзёньнік і апісваю тое, што адбываецца ў чорна-белым сьвеце рэальнасьці.

А яшчэ пісаньне лістоў дазваляе вырашыць праблему часу. Калі яго не ператвараць у нешта, то можна і розумам хітнуцца.

Але вернемся да сытуацыі — лісты ў нікуды. Трэба аддаць належнае людзям сыстэмы: яны нядрэнныя псыхолягі і спэцыялісты па намацваньні ўразьлівых месцаў. Мяне б'юць па балючым. Нясьцерпна і невыносна чакаць і не дачэквацца інфармацыі пра тых і ад тых, хто табе дарагі. Ніколі ня думаў, што гэта можа выяўляцца ў такой балючай форме.

Кожны вечар нехта з сукамэрнікаў атрымлівае лісты. Я бачу іхнія прасьвятлелыя твары, іх усьмешкі. Я ім зайздрошчу! Зайздрасьць белая, але мне ад гэтага не лягчэй. Вось і сёньня адкінулася кармушка, і на яе леглі канвэрты. Але там няма почырку, які я пазнаю з тысячы.

* * *

Вось ужо колькі дзён, як я зьмяніў драўляны насьціл на стацыянарныя нары. Клясна! Дошка ўсё ж ня самы зручны матэрыял для адпачынку і сну. Балазе маю добрую школу — ці не дзясятак адсе-

дак на Акрэсьціна. А там умовы больш жорсткія. Ніякіх матрацаў, падушак, бялізны. Голая дошка, адпаліраваная чалавечымі целамі. Тут мне крыху пашанцавала. Матрац, коўдра ня самыя старыя, падушка ня самая худая.

Месца вызвалілася нечакана. Павезьлі на судовы працэс Аляксандра — яшчэ аднаго тутэйшага сядзельца, маладога хлопца з мутнай гісторыяй пра садзейнічаньне ў перавозе наркотыкаў праз мяжу. У мяне было такое адчуваньне, што ён да ўсяго прынюхваецца, прыслухоўваецца, прыглядаецца. Не зьдзіўлюся, калі даведаюся, што ён рабіў сякія-такія паслугі адміністрацыі. Так бы мовіць, інфармаваў пра стан клімату ў працоўным калектыве. Раніцай яго павезьлі на працэс у суд Менскага раёну, а ўвечары кантралёр загадаў сабраць Аляксандравы рэчы — пэўны доказ, што ён сюды ўжо ня вернецца. Дай божа, каб ніколі. Кепскае гэта месца, «амэрыканка».

Я быў адзіным прэтэндэнтам на вызваленае месца. Здаў дошку кантралёрам і выцягнуў з-пад нараў свой пасьцельны камплект. Навасельле на другім паверсе стала падзеяй нечаканай, але прыемнай. Шчыра кажучы, надакучыла кожны дзень складаць і раскладаць, скручваць і раскручваць пажыткі. Раніцай і ўвечары. Дый на працягу дня адчуваеш сябе кватарантам у прысутнасьці гаспадароў. Ні прысесьці, ні прылегчы.

Бліжэй да вечара адзначылася дама-паштальён. Прапанавала расьпісацца ў ведамасьці. Аказалася, грашовы перавод з дому. Ня ведаю, чаму ўзрадаваўся больш — паляпшэньню свайго фінансавага самаадчуваньня ці самому факту пераводу. Што гэта? Частковае зьняцьцё блякады? Выпадковасьць?

Але грошы прысьпелі вельмі дарэчы. Бо пасьля выхаду з галадоўкі я фактычна на забесьпячэньні ў іншых. А грошы на рахунку — гэта асабістая харчовая бясьпека, гэта магчымасьць замовіць прадукты і сёе-тое з дробных рэчаў. Для гэтага трэба напісаць заяву на імя начальніка СІЗА, і пры яго найвышэйшай згодзе вам могуць даставіць сала, пернікі проста ў нумар! А могуць і не даставіць...

## 18 студзеня, аўторак

Завесы на дзьвярах заскрыгаталі, і ў праёме ўспыхнуў аранжавы факел матэрыі. Потым яго засланілі сьвежагабляваныя дошкі драўлянага насьцілу. Праз імгненьне дзьверы, яшчэ раз усхліпнуўшы, канчаткова зачыніліся за чалавекам у чорным бэрэце і яркай куртцы. Навічок, абвешаны торбамі, назваўся добра пастаўленым голасам: «Аляксандар».

Ды гэта ж Аляксандар Арастовіч! Бач ты, якая нечаканасьць! Мы замерлі ў абдымках. Ляпалі адзін аднаго па лапатках. Убачыць Сашу я ніяк не чакаў. Падобна, што ён мяне таксама. Фігуранты адной гучнай справы і ў адной камэры — гэта з звышгранічнага. Пагатоў, як значыцца ў абвінавачаньні, паводле папярэдняй змовы рыхтавалі захоп улады.

Нашу гутарку магла спыніць толькі каманда «Адбой!» Што ні кажы, а знайсьці роднасную душу ў гэтым падзямельлі страшэнна прыемна.

Перш за ўсё вярнуліся ў ноч з 19 на 20 сьнежня. У Сашы на вуснах усьмешка, а ў вачах зімовая замець. Яму хацелася выгаварыцца.

— Мне патэлефанаваў Мікалай (Статкевіч),

папрасіў, каб забраў яго з плошчы. Узялі таксі. Ля чыгуначнага вакзалу нас заблякавалі машынамі. Сьпераду і ззаду. З салёну выцягнулі ўсіх, уключна з таксістам. Малацілі палкамі без разбору. Памятаю толькі, што закрыў твар рукамі. Ачуняў ужо ў аўтазаку. Адвезьлі на Акрэсьціна. Доўга трымалі ў машыне. Людзей там — як селядцоў у бочцы. Камусьці стала дрэнна. Галовы пабітыя, адзеньне парванае. Але на кожны рух, слоўны пратэст рэагавалі імгненна — дубінкай і кулаком. Не цырымоніліся. Усіх пад адну палку, і жанчын, і старых, і маладых. Было страшна і вусьцішна. Дзікі зьвер, і той не заўсёды такі агрэсіўны і злосны, як тыя людзі ў чорным камуфляжы. Мне здаецца, яны былі чымсьці нашпігаваныя, бо нармальны чалавек такім быць ня можа.

Праз пару дзён на Акрэсьціна мяне наведалі сьледчыя, і вось я тут. Сам ня ведаю, нашто і чаму. Першыя дні не знаходзіў сабе месца. У прэзыдэнцкай кампаніі я, бадай, толькі лічыўся. Мікалай папрасіў быць даверанай асобай. Па старой дружбе адмовіць я яму ня мог, але часу сур’ёзна займацца выбарамі не было, бо спраў на сваёй працы па горла. Як ты, Анатоль, думаеш, колькі нас яшчэ тут пратрымаюць? Я толькі цяпер пачаў памалу адыходзіць ад благіх думак і прадчуваньняў. Нават паліграф пагадзіўся прайсьці.

Саша пазіраў на мяне з надзеяй. Я ня стаў яго расчароўваць. Ляпнуў па плячы і выдаў порцыю аптымізму са сваіх трохі ўжо вычарпаных радовішчаў.

— Нават не сумнявайся, у цябе ўсё будзе добра. Зразумела, што цябе ўзялі як дадатак да Мікалая. Але калі ўсё ідзе так, як ты кажаш, і немагчыма



На абароне Леніна-Лукашэнкі

выявіць сьляды тваёй прысутнасьці ў кампаніі, то ім давядзецца цябе адпусьціць. Хутчэй за ўсё, знойдуць каго-небудзь, хто рэальна працаваў у зьвязцы са Статкевічам. Табе проста не пашанцавала. Ня ў тым месцы апынуўся 19 сьнежня. Яны, вядома, беспрынцыповыя стварэньні, але ва ўсім ёсьць мяжа. Да таго ж, у адрозьненьне ад мяне, цябе няма ў сьпісе асабістых ворагаў Лукашэнкі.

Усё гэта было сказана ўпэўнена і, здаецца, зрабіла на калегу належнае ўражаньне. Аляксандар павесялеў. Тут жа для ўсёй аўдыторыі распавёў гісторыю з свайго выкладчыцкага жыцьця. Трохі пошлую. Сарваў сьмех.

— Вы сапраўды дацэнт? — спытаў недаверліва Кісялёў.

— А дацэнты што, ня людзі? — рагатнуў Арастовіч і па-гаспадарску прымераў драўляны насьціл на становішча «сон».

На душы запанаваў поўны штыль. Запхнуў захутанае ў адзежыны цела ў самаробны спальнік. Сон павінен быць хуткім.

## 19 студзеня, серада

Мяне вышмаргнулі з камэры. У галаве ніякіх пытаньняў. Ні куды, ні навошта, ні чаму. Гэта ў першыя дні ў «амэрыканцы» я абвострана рэагаваў літаральна на ўсё. Спрабаваў угадаць, што там, за наступным паваротам калідора, за зачыненымі дзьвярыма, за маскай твару насупраць. Цяпер жа ня тое каб усё роўна, але ўжо без хваравітага напружаньня і лішняй узбуджанасьці. Напэўна, абрастаю ахоўным панцырам. На самой справе толькі надзвычайныя сытуацыі дапамагаюць нам зразумець, дзе сапраўды праходзяць межы нашых магчымасьцяў і наколькі наша слоўная самаацэнка супадае з тым, што мы робім ці, наадварот, ня робім у экстрэмальных умовах.

Адразу па абедзе вышмаргнулі з камэры. Вядуць моўчкі. І гэта ўжо нязвыкла. Здаецца, гэта чарговы візыт да Арлова. Так, вось і дзьверы знаёмага кабінэту. У калідоры здымаюць кайданкі, і ўсё бяз звыклага тузаньня, штурханьня. Уваходжу. Перада мной высокі сухарлявы чалавек у дыхтоўным шэрым гарнітуры. Кароткі вожык пасыпаны мукой сівізны. Шырокі лоб, правільныя рысы твару. Трэба прызнаць, сустрэў бы недзе ў буціку ці рэстаране — адазваўся б усьмешкай на паўусьмешку, якая агаляе моцныя белыя зубы. Зьнешні выгляд незнаёмца спрыяў даверліваму фармату гутаркі. Каб ня гэты кабінэт...

— Анатоль Уладзімеравіч, добры вечар. Мяне завуць...

Яго імя і імя па бацьку праляцелі міма, тут шмат што несапраўднае. А вось наступная фраза падалася мне сапраўды цікавай і вартай увагі:

— У камітэце я адказваю за аналітыку, і, ня буду хаваць, мне вельмі цікава пагаварыць з вамі. Праўда, вы можаце адмовіцца ад гэтай гутаркі. Гэта ваша права. І гэтая гутарка не для пратаколу.

Вычэквальны позірк.

— Ды мне, шчыра кажучы, усё роўна, дзе бавіць час. Але, па-першае, тут хоць цяплей. Па-другое, я ніколі не кажу таго, чаго не хачу казаць. Але, ня буду хаваць, вы мяне заінтрыгавалі словам «аналітыка». На мой погляд, гэта рэч, якая ніяк не стасуецца з тым, што адбываецца на практыцы.

Незнаёмец зноў усьміхнуўся. Размашыста, як у ведамасьці за прэмію.

— Можа, гарбаты ці кавы?

— Не, дзякуй.

— Я шчыра спадзяюся, што наша гутарка будзе зьмястоўнаю. Да самога сьледзтва я ня маю ніякага дачыненьня. Гэта не прадмет нашай гутаркі. Таму я прапанаваў бы іншыя тэмы для размовы. Ня буду хаваць, мы зазнаем калясальны ціск з боку Расеі. І пагрозы сувэрэнітэту краіны як ніколі вялікія. Пасьля выбараў сур'ёзна сапсаваліся адносіны з Захадам, і Расея не прамінула гэтым скарыстацца. Як вы разумееце, у першую чаргу яе ўвага накіраваная на нашу ўласнасьць. У нас нават ня просяць прадаць, ад нас гэтага патрабуюць. Вам можа здацца дзіўнай мая заява пра неабходнасьць аб'яднаць намаганьні ўсіх, хто хоча жыць у незалежнай краіне. І тых, хто пры ўладзе, і тых, хто ў апазыцыі. Нам

усім павінна быць неабыякава, што здарыцца зь Беларусьсю заўтра.

Пад гэтай заявай я сапраўды гатовы быў паставіць свой аўтограф, у чым шчыра і прызнаўся. Аналітык (так я пра сябе акрэсьліў свайго суразмоўцу) задаволена кіўнуў кароткім вожыкам сівізны.

З боку гэта, напэўна, выглядала як мілая гутарка двух старых знаёмых. Заядлых рыбакоў ці шалёна захопленых лесам грыбнікоў. Аналітык прадэманстраваў нядрэннае веданьне гісторыі. Ён добра арыентаваўся ў падзеях. Пры гэтым на стале ніякіх папер з пазнакамі. Чалавек або добра падрыхтаваўся да гэтай сустрэчы, або сапраўды займаецца аналітыкай. Размова ў асноўным тычылася рызыкаў і пагрозаў сувэрэнітэту Беларусі. З акцэнтам на тое, што разумныя людзі, незалежна ад палітычных поглядаў і прыхільнасьцяў, павінны думаць пра будучыню.

Новы знаёмы згарнуў размову акуратна і элегантна:

— Ня буду больш стамляць вас. На першы раз досыць, але калі вы ня супраць, я хацеў бы вярнуцца да нашай гутаркі.

— У мяне шмат свабодных вечароў. Галоўнае, каб тэма была зьмястоўная.

— Можа, у вас ёсьць нейкія асабістыя просьбы?

Пытаньне засьпела мяне зьнянацку. Адказаў машынальна:

— Ды якія просьбы ў такім райскім кутку? Зрэшты, газэты б не зашкодзілі.

— У вас няма прэсы? — шчырае зьдзіўленьне. — Ну, вырашым, вырашым гэтае пытаньне.

Пакуль мяне вярталі ў камэру, я паглыбіўся ў аналіз прамінулай сустрэчы. Што б гэта ўсё азначала? Зьнешне ўсё выглядала прыстойна і нават інтэлігентна. Ні запалохваньняў горшым, ні намёкаў на «ўсё можа быць», ні спакушэньняў свабодай. Цалкам цывілізаваная размова з чалавекам, неабыякавым да лёсу краіны. Але чым больш аддаляўся ад кабінэту, тым цьверазейшы рабіўся мой мозг.

Стоп, бацюхна, не расслабляцца! Новы знаёмы казаў тое, што не выклікала алергіі і непрыманьня. Гэта і было яго задачай. Ён сьвядома ствараў кантраст з тымі, з кім даводзіцца кантактаваць штодзённа, кругласутачна. Навошта і дзеля чаго? Пабачым, што запяе Аналітык наступным разам. А што гэты наступны раз будзе, я ўжо не сумняваўся. Толькі што мне прадэманстравалі зусім іншую мадэль паводзінаў і пазыцыянаваньня. Адчувалася, што гэта птушка высокага палёту. Чалавек калі не з кіраўніцтва камітэту, то з суседняга зь імі кабінэту.

На ўваходзе ў камэру падумалася: дзе ты яшчэ, Анатоль, пагутарыш з гэтымі хлопцамі? Гэта нават забаўна, сутыкнуцца зь імі твар у твар. Інтэлектуальны двубой калі не за жыцьцё і не за свабоду, то за права чалавекам звацца.

Гаварыць з сукамэрнікамі пра сустрэчу не хацелася. Дый, хутчэй за ўсё, запіс тут жа трапіць на экран Аналітыка. А даваць пажытак для аналізу майго ўспрыманьня сустрэчы было ня варта. Таму адбрахаўся чаргой кароткіх фразаў пра сустрэчупустышку з начальнікам СІЗА. Праўда, сказаў, што ў камэры, магчыма, зьявіцца прэса.

## 20 студзеня, чацьвер

Чацьвер — цырульны дзень. Ёсьць магчымасьць убачыць сябе ў люстэрку, атрымаць доступ да кіпяцільніка і, адпаведна, да гарачай вады. Пакуль сукамэрнікі заказваюць адзін аднаму «мадэльныя стрыжкі», я абзавёўся гарлачыкам гарачай вады. Агрызкам мыла намыліў шчаціньне. Любата! Малыя радасьці вязьняў падзямельля. Гляджуся ў аскепак люстэрка. Жменя сьнегу на скронях. Кавалак лёду ў вачах. Ці то пастарэў, ці то ўзмужнеў. А можа, проста даўно не сустракаўся са сваім адлюстраваньнем.

У Аляксандру Арастовічу знайшоў вельмі добрага спарынг-партнэра для фізычнага гвалту над арганізмам. Ён зь першых хвілін жыва рэагаваў на маю фізіятэрапію. У першы дзень гэта была слоўная рэакцыя, а цяпер ужо пасьля пад'ёму мы працуем у чатыры рукі, махаем чатырма ніжнімі канцавінамі і прэсінгуем брушны прэс.

Перад прыёмам падмарожанай бульбы і перасоленага селядца ў акенца далі стос газэт. «Саўбелія», «Звязда», «Рэспубліка», «Камсамолка». На мясцовай арыштанцкай біржы мой аўтарытэт падрос яшчэ больш. Пацан сказаў — пацан дамогся. Праўда, як выявілася, «Камсамолку» папярэдне пачытаў цэнзар. Не без наступстваў. Першая старонка зеўрала пустотамі. Два матэрыялы былі выразаныя, даўшы падставу для вячэрняй дыскусіі пра тое, што ж адцялі нажніцы. Сышліся на думцы, што гэта была інфармацыя пра фігурантаў гучнай палітычнай справы. Я таксама не выключаю, што артыкулы маглі тычыцца пазыцыі і ацэнак міжнародных арганізацый. У любым выпадку гэта нешта

аптымістычнае для палітвязьняў «амэрыканкі» і ня вельмі прыемнае для ўлады.

Адразу па вячэры ў расчыненую прастору кармушкі зазірнуў сам начальнік СІЗА. Зьява надзвычай рэдкая. З пацучынай ухмылкай на тонкіх вуснах Арлоў адшукаў у турэмным паўзмроку мяне і ўрачыста працягнуў два аркушы фармату А4: «Прачытайце!» Створка бразнула. Гэта была інтэрнэт-раздрукоўка, зь якой вынікала, што сёньня Лукашэнка правёў «нараду па ўнутрыпалітычных пытаньнях». «*Супраць нашай дзяржавы была арганізаваная змова. Спансіравалі яе замежныя спэцслужбы, а ролю выканаўцаў адвялі мясцовым адшчапенцам і жулікам ад палітыкі,* — вяшчаў Лукашэнка. — *Я вымушаны сёньня сказаць аб тым, што ўсе праграмы і вялізная частка грошай ішлі зь Нямеччыны і Польшчы або празь Нямеччыну і Польшчу. Там жа пісаліся і праграмы зрынаньня канстытуцыйнага ладу. І гэта ня выдумка спэцслужбаў*».

Інфармацыя быццам бы сьвежая, але з тухлінкаю. Здаецца, я ўжо гэта чуў. Прычым не аднойчы. Калі рэтрансьляваць напісанае на сябе, то рэфлексія нэгатыўная.

Праўда што, адмаўляць наяўнасьць праграмы бессэнсоўна. Толькі ў нас, да прыкладу, яна называлася «Мільён новых працоўных месцаў для Беларусі». І сярод тых, хто яе ствараў, шліфаваў, сапраўды былі людзі з польскімі каранямі. Прынамсі адзін — кандыдат у прэзыдэнты Яраслаў Раманчук. А вось немцаў заўважана не было. І, мушу прызнаць, праграма «Мільён новых працоўных месцаў» аказалася вельмі прывабнай для выбарца. І калі ва ўспрыманьні ўлады гэта плян зрынаньня канстытуцыйнага ладу, то насельнікам «Чырвонага

дому» пара пакаваць чамаданы. А вось бюджэтам кампаніі, на жаль, пахваліцца не магу. І калі Лукашэнка на свае выбары нахабна і бессаромна марнаваў грошы беларускага падаткаплатніка, то мы маглі разьлічваць толькі на сродкі, выдзеленыя праз ЦВК, і ахвяраваньні сваіх прыхільнікаў. Ніякіх левых або чужаземных рэсурсаў! І калі б было інакш, я быў бы ня ў статусе закладніка, а ў становішчы арыштанта з пухлай справай і доўгім тэрмінам.

Перададзены мне тэкст быў ня толькі цікавы, але і інфарматыўны. Так, я даведаўся, хто асабіста ўпёк мяне ў ізалятар. Лукашэнка заявіў: «*Ніякіх дзеяньняў па навядзеньні парадку ў краіне праваахоўныя органы не прадпрымалі, ня робяць і ня будуць прадпрымаць бяз санкцыі прэзыдэнта*». Хто б у гэтым сумняваўся! Мне, чалавеку са сьпісу асабістых ворагаў Лукашэнкі, пазьбегнуць арышту было немагчыма. Я гэта разумею! Я не кандыдат у прэзыдэнты. Не кіраўнік выбарчага штабу. Але я асабісты вораг кіраўніка, і гэтага дастаткова. Гэтая частка тэксту нічога пазытыўнага для мяне не зьмяшчала.

Ну, і самае галоўнае. Мабыць, дзеля гэтых радкоў Арлоў і зьявіўся да мяне ў камэру. «*Я хачу сказаць, што мы не крыважэрныя. І лёс тых, хто цяпер арыштаваны, выключна ў іхніх руках,* — сказаў Лукашэнка. — *Тут ні пры чым ні сілавыя структуры, ні прэзыдэнт. Толькі ў іхніх руках. Хочуць сядзець у сьледчым ізалятары — хай сядзяць. Хочуць быць са сваімі сем'ямі — гэта таксама ад іх залежыць. Гэта не праблема. Яна вырашаецца сёньня сьледчымі органамі,* — працягнуў кіраўнік дзяржавы. — *Але ня толькі ў сьледчых органаў, але і ў краіны ў цэлым ёсьць шэраг пытаньняў, на якія*

*мы чакаем ад іх адказу. І сядзець у сьледчым ізалятары, як мышы пад венікам, і думаць, што заўтра амэрыканцы або эўрапейцы прыйдуць і вызваляць іх, беспэрспэктыўна*».

Ад гэтай часткі пасланьня адкрыта пахла шантажом. Нават ня пахла, а сьмярдзела. Шантаж — улюбёны занятак гаспадара «Чырвонага дому». Маўляў, прызнайцеся, што вы нямецкія ці польскія агенты, і валіце на ўсе чатыры бакі. Толькі зрабіце гэта публічна, а лепш на тэлекамэру. Уладам трэба апраўданьне крывавага пабоішча, арганізаванага на плошчы Незалежнасьці ў ноч з 19 на 20 сьнежня, яны шукаюць апраўданьня ўсяго гэтага прававога бязьмежжа, у якое акунулі Беларусь. Ім неабходна пераканаць краіну і яе грамадзян у сваёй праўдзе. А дзеля гэтага трэба наша пакаяньне і прызнаньне.

Так, тыя, хто гатовы каяцца і поўзаць на каленях, напэўна, тут не затрымаюцца. А што рабіць табе, сябар Анатоль? Зрэшты, выбар невялікі. Адціскацца па тысячы разоў. Пісаць вершы. Успамінаць мінулае. Думаць пра будучыню. І заставацца самім сабой. Бо да таго, як мы ўсе тут апынуліся, кожны з нас гаварыў правільныя словы! Хто больш, хто менш. Хто гучней, хто цішэй. Але ўсе. З нас расплёсквалася мужнасьць, выпірала годнасьць. З кандыдатаў у прэзыдэнты можна было пісаць партрэты для галерэі герояў. Карціна алеем у поўны рост! Вось зараз і трэба будзе высьветліць, хто ёсьць хто на самой справе. Раз гэтыя цяжкасьці нам пасланыя, значыць, іх трэба пераадолець. Альбо перайсьці ў іншую лігу — дзе гуляюць па іншых правілах.

Папера пайшла па руках. Народ ацэньвальна зацокаў языкамі. Ды тут чорным па белым апісаны сцэнар твайго вызваленьня, Правадыр (я не выклю-

чэньне, да мяне таксама прыляпілася мянушка). Ну што ж, людзі ўмеюць чытаць паміж радкоў.

Вось такі ён быў, гэты студзеньскі дзень — інфармацыйна насычаны.

## 21 студзеня, пятніца

Прачынацца не хацелася. Я ведаю, што будзе праз гадзіну, празь дзьве, празь пяць. І гэта не натхняе. На душы нейкая безнадзейнасьць і абыякавасьць. Ці можна да гэтага прывыкнуць? Ня ведаю. Здаецца, у мяне дэпрэсія. Хацелася б памыліцца, але дыягназ, хутчэй за ўсё, правільны. Нейкі час ляжу з заплюшчанымі вачыма. Рухаюцца толькі думкі. Пад'ём, туалет, сьняданак, ранішняя паверка — усё на аўтапілёце.

Ідзём праз шыхт людзей у зялёным і чорным. Пад перастук палак. Лаўлю сябе на думцы, што ўсе глядзяць на мяне. Здаецца, разглядаюць мае слабасьці, чуюць мае сумневы. Сапраўды, яны нават ухмыляюцца. Мяне нібы апяклі кіпенем. Быццам вывернулі навыварат. Хрэн вам, пальцы правай рукі скручваюць канфігурацыю пад вядомай назвай. Зь ёй я горда ступаю да выхаду ў дворык для шпацыраў.

— Што, весела?

Спачатку нават не зразумеў, што сказана ў мой адрас. Відаць, думкі міжвольна выскачылі на паверхню твару, і гэты слайд не спадабаўся канваірам.

— Мне зусім добра, дзякуй за клопат.

Пры гэтым пальцы па-ранейшаму сьціснутыя ў пратэстную дулю. Напэўна, гэта выглядае па-

дзіцячы, прымітыўна і трошкі па-хуліганску. Але мне цяпер хочацца хуліганіць і быць дзёрзкім.

Дыскусія з ахоўнікамі ня мела працягу. Маска адкрычалася кароткім:

— У падлогу глядзім!

Настрой у рэжыме ручнога кіраваньня. У дворыку ядрана. На казырку няіснага акна суседняга будынка варушыцца голуб Лёлік. Зь ім мы пазнаёміліся, як толькі я першы раз выйшаў на вуліцу. Птушка варушылася ў праёме закладзенага цэглай і тынкам акна. На вышыні некалькіх мэтраў. З таго часу ці ня кожны раз я бачу на шпацыры знаёмага голуба.

Добры дзень, дружа! Птушка трасянула галавой і весела забуркавала. Удыхаю паветра так, што ў грудной клетцы робіцца цесна. Раблю дыхальную гімнастыку. Падгледзеў у Кісялёва. У яго гэта добра выходзіць.

Добрая, энэргічная музыка. Пакуль усе ходзяць па крузе, я акупаваў цэнтар дворыка. Спачатку рухаюся ў такт музыцы, потым пачынаю прытанцоўваць. Разагрэўшыся, паводжу сябе, як на танцполе. Тыя, што ходзяць па крузе, заўсьміхаліся, прыплясkваюць у ладкі. Ну, Правадыр, дае! Кінуўшы позірк угару, натыкаюся на два зьдзіўленыя вокі. Усе свае думкі кантралёр выклаў на твары: «Ён, напэўна, вар'ят. Нармальны чалавек ня можа быць задаволеным і шчасьлівым у пекле. Скача! Яму што, сапраўды так весела?»

Як пазірнуў на гэты зьнявечаны зьдзіўленьнем твар, мне сапраўды зрабілася весела. Такой дыскатэкі ў маім жыцьці яшчэ не было. Скачу, значыць, жыву. Жыву, значыць, змагаюся.

«Амэрыканка» — гэта тэрыторыя, дзе настрой на

працягу дня зьмяняецца, як надвор'е на балтыйскім узмор'і. Яшчэ хвілін дзесяць таму я быў як муха ў павуціньні. Мне рэальна было хранова! Я задыхаўся ад хандры, а цяпер ад мяне прэ такой энэргетыкай, што я нават іншых здольны зараджаць.

Астатні час шпацыру прайшоў пад знакам гвалтоўнага ўсталёўваньня новых рэкордаў. У сшытку зафіксаваў выніковыя лічбы 1000 — 1000 — 500. Ува мне прачнулася самапавага, і зь ёю я правёў рэшту дня.

## 22 студзеня, субота

Трэба прызнаць, гутаркі прыносяць шмат цікавага і павучальнага. Сёньня Саша Кісялёў распавёў гісторыю, якую трэба чытаць на спэцкурсе для будучых судзьдзяў, пракурораў і ўсіх, хто атрымлівае права распараджацца свабодай іншых.

Аднаго дня ў камэру, дзе сядзеў арыштант Кісялёў, прывялі навічка. Справа звыклая. Незвычайным было тое, што ён знаў мяне. «Я прыгледзеўся да суседа і дзіву даўся, — распавядаў Саша. — Гэта быў начальнік сьледчага ўпраўленьня Камітэту дзяржкантролю Беларусі Адамовіч. Праўда, мяркуючы па месцазнаходжаньні, начальнік ужо былы. Менавіта гэты чалавек санкцыянаваў маё затрыманьне. Не ўяўляеш, што рабілася ў маёй стрыжанай галаве! Ад жаданьня тут жа прыдушыць гэтага гада да прагі зразумець, што кіравала ім, калі ён падпісваў паперы аб маім арышце.

Убачыць мяне ён ніяк не чакаў. Ды гэта ня тое слова. У першыя хвіліны яго паралізавала. На твары адначасова былі замяшаньне, зьдзіўленьне і асуджанасьць. Вось такая нечаканая сустрэча».

Тут Аляксандар узяў невялікі тайм-аўт. Напэўна, яшчэ раз праганяў у памяці тую дзіўную сустрэчу. Ну, а мне, натуральна, не цярпелася даведацца, што ж было далей.

«Ведаеш, Анатоль, у прасторы два на чатыры немагчыма ўцячы ад тых, хто побач. Ты бачыш, чуеш суседзяў ледзь не 24 гадзіны ў суткі. Ты дыхаеш адным паветрам, ясі з аднаго катла. Я тады перасіліў асабістыя крыўды. Засунуў у аддаленыя куткі душы эмоцыі і пачуцьці. Праўда, праз пару дзён ня вытрымаў і, гледзячы проста ў вочы былому высокапастаўленаму сілавіку, спытаў: “Вось гляджу на цябе і губляюся ў здагадках. Чалавек ты разумны, адукаваны і быццам бы зусім не зласьлівы. Мне важна зразумець: пра што ты тады думаў, калі падпісваў паперы, якія перавярнулі маё жыцьцё? А яшчэ жыцьцё дзясяткаў іншых людзей, а таксама іх родных. Тым больш што санкцыя на арышт грунтуецца на абсурдных дапушчэньнях. Гэта адкрыты заказ на ліквідацыю пасьпяховага бізнэсу”. Адамовіч падняў вочы і безнадзейна махнуў рукой: “Ды нічога я ня думаў. Да мяне ў гэты дзень прыехалі сябры. Я сьпяшаўся на сустрэчу і гэтую паперу падпісаў на бягу. Ня гледзячы”. — Што тут яшчэ можна дадаць, — уздыхнуў Аляксандар. — Гэта ўжо сыстэма, а значыць, у наступстваў — размах эпідэміі».

Саша сказаў таксама, што Адамовіч па-ранейшаму дзесьці тут, у «амэрыканцы».

Я яшчэ доўга пракручваў у галаве пачутае. Першае, што кідалася ў вочы, — гэта своеасаблівы стыль узаемаадносін сілавікоў. Здаецца, тут дагэтуль пануюць норавы часоў Цанавы, беларускага Лаўрэнція Берыі. Відавочна, што не выпадкова ката

кінулі ў камэру да ягонай ахвяры. Не маглі ня ведаць гісторыю іх ранейшых узаемаадносін. На што разьлік? На тое, што Кісялёў у прыпадку праведнага гневу калі не задушыць, то кінецца на Адамовіча з кулакамі? Або каб даставіць былому начальніку ўпраўленьня псыхалягічныя мукі і няспынны дыскамфорт ад прысутнасьці ў адной прасторы з тым, хто мае права цябе ненавідзець?

А з другога боку, усе гэтыя людзі, якія наўпрост ці ўскосна ўдзельнічаюць у стварэньні сыстэмы, робяцца спачатку яе закладнікамі, а потым і ахвярамі. Хто раней, хто пазьней. Яна іх разбэшчвае, яна іх калечыць і ўрэшце паядае. Сыстэма не папярхнецца.

* * *

Сёньня шкарпэткамыйны дзень. Сумясьціў паход у душ з пральнай працэдурай. Дзеля гэтага прыхапіў з сабой пакет зь нясьвежымі шкарпэткамі. У гарачай вадзе мыць — адна асалода. І цяпер цэлых шэсьць пар упрыгожваюць маё лежала, як гірлянда навагоднюю ёлку. Дні два як мінімум будуць сохнуць. А то і больш.

## 23 студзеня, нядзеля

У нядзелі сваё нясьпешнае варушэньне. Мне здаецца, што па выходных нават маскі гарлаюць неяк працяжней і жаласьней. Але з правіла бываюць выключэньні. Цяперашняя зьмена вырашыла ажывіць запаволена-нудны дзень.

Шпацыр стаўся чарговым кашмарам. Апынуўшыся ў дворыку, разьбіліся на групкі па інтарэсах. Я заняў месца ля аранжавай лаўкі. Зрабіў рась-

цяжку, упёрся кулакамі ў зямлю. І тут зьверху па плячах, як бізуном, ударылі камандай: «Устаць!»

Узьняў вочы ўгару. Адтуль мяне сьвідравалі дзьве злыя адтуліны. Баптыст!

— Усім хадзіць па крузе!

— На якой падставе?

— Таму што так хачу я.

— У нас што, ужо няма права займацца фізкультурай?

— У вас тут наогул няма ніякіх правоў.

Баптыст вытрымаў паўзу і дадаў злосьці ў голасе:

— Я апошні раз папярэджваю: усім хадзіць па крузе! Ніякіх заняткаў. У адваротным выпадку да вас будуць ужытыя спэцсродкі.

Маска, якая зьявілася побач з кантралёрам, павінна была надаць вагі пагрозе, якая толькі што прагучала. Мы мусілі пашыхтавацца ў патыліцу адзін аднаму. Настрой быў паршывы. Нікога не цягнула на размовы, толькі на лаянку. Тая і чулася час ад часу. Дзьве гадзіны, як ідыёты, маршыравалі адзін за адным. Як толькі спыняліся, тут жа зьверху сыпаліся пагрозы і папярэджаньні. Хвілін праз пятнаццаць кругавога хаджэньня курцы акупавалі куток і зацягнуліся першай зацяжкай. І тут жа прарэзьлівы крык зьверху:

— Усім працягнуць рух! Ніякіх перакураў!

Хвілін праз пяць тытунёвы бунт быў здушаны патокамі адкрытых абразаў і пагрозаў.

І, вядома ж, нам зладзілі вучэбна-паказальнае вяртаньне ў камэру. Паравозік чалавечых целаў толькі пасьпяваў разагнацца, як маска наперадзе сэмафорыла: стоп! І нас, як статак, гналі назад. Паганятыя ці то пасьля бурнай суботы, ці то про-

ста ад дрэннага настрою былі ў стане падвышанай узбудлівасьці з усімі наступствамі, якія адгэтуль вынікаюць.

Затое па вяртаньні ў камэру я пачаў зацята наганяць скрадзены час зарадкі. Да першых кропель поту, якія скаціліся па шчаціньні. Потым, агаліўшыся па пояс, мыюся, абліваюся халоднай вадой з крана, ручніком расьціраю цела да чырвані. Здорава!

Хтосьці часьцей, чым звычайна, зазірае ў вочка. Я адчуваю, я ведаю, што гэта Баптыст. Наша завочная дуэль працягваецца. І я буду ў ёй пераможцам!

## 24 студзеня, панядзелак

— Пытаньні ёсьць? — дзяжурнае пытаньне дзяжурнага. Без інтанацыяў, аднымі вуснамі.

— Ёсьць!

Я вырашыў змагацца за права займацца на шпацыры фізкультурай. Пакуль словам. Гэта тое мізэрнае, што яшчэ засталося, чаго яшчэ не адабралі.

Капітан замёр на паўразвароце.

— Ну, — незадаволена варухнуліся тонкія вусны.

— На падставе чаго ўведзена забарона на заняткі фізкультурай падчас шпацыру? Чаму мы павінны хадзіць па крузе, як асуджаныя? Чаму ў камэры курыць можна, а на вуліцы забаронена?

Капітан моўчкі праглынуў пачутае. Здаецца, зашмат пытаньняў адразу. Рыпнуўшы абцасамі, разьвярнуўся і ўжо на выхадзе, гледзячы ў дзьверы, буркнуў:

— Разьбяромся.

Праз гадзіну пагналі на шпацыр. Як толькі дзьверы зачыніліся, разбрыліся па кутках трэцяга дворыка. Мы з Аляксандрам замахалі рукамі і нагамі, астатнія заляскалі запальнічкамі. Хвіліна, другая, пятая... Зьверху ніякай рэакцыі. Значыць, усё ж такі вырашылі абсурд не ўзмацняць. Гэта была маленькая, але перамога. І ад усьведамленьня гэтага на душы зрабілася цяплей.

Вернутым правам на фізіятэрапію скарыстаўся да другога і трэцяга поту.

Пасьля абеду, пакуль не прыйшлі «добрыя людзі», выцягнуў з-пад матраца сваю бібліятэку. Вяду паралельнае чытаньне. Маркес і Булгакаў — добры кактэйль. Насычаны. Інтрыгуе. Праўда, не задавальняе прагу чытаньня — толькі яе ўзмацняе.

* * *

З інфармацыяй усё па-ранейшаму. Устойліва дрэнна. Вось ужо колькі часу працягваюцца бесконтактныя адносіны з адвакатам. А значыць, няма і сувязі зь «Вялікай зямлёй». Усё закаркавана з адмысловай пільнасьцю. Даводзіцца лавіць любыя шоргаты, урыўкі чутак, абрыўкі слоў. Нешта пралічваецца з афіцыйнай прэсы. Калі-нікалі ў кармушку зваліцца то «Саўбелія», то «Рэспубліка». Бывае, нешта выскачыць у блёк навінаў на FM-станцыі, пакуль мы топчам брудны сьнег у дворыку.

Па абедзе павялі на сустрэчу з тым, каго, калі шчыра, бачыць зусім ня хочацца. Гаворка пра начальніка СІЗА. Але што зробіш, калі ў яго жаданьне зусім супрацьлеглае. Праўда, я не іду, мяне вядуць.

Цікаваю выйшла гэтая сустрэча. Зь першых




Пяць хвілін да «фінішу». Карэ «касманаўтаў», загнаныя людзі, вытаптаны сьнег. Чысты! Ау, стваральнікі «Жалезам па шкле»?

хвілін здалося, што Арлоў быў нечым заклапочаны. Перад маім прыходам ён разглядаў нейкія паперы. Можа, нечы рапарт ці нейкую даведку. Некалькі старонак тэксту палкоўнік адклаў убок, а сам перайшоў да століка для гутаркі.

— Гарбаты? — прапанова адтуль.

Адмоўны ківок галавы адсюль.

— Гарбатка, ведаеце, заўсёды добра. Для здароўя. А за здароўем трэба сачыць. Вось на волі ўсе былі здаровыя, усе ў прэзыдэнты хацелі. А як толькі трошкі прыціснулі, усе адразу хворымі сталі. — Тут палкоўнік прыпыніўся і адразу паправіўся: — Ну, вас гэта ня тычыцца. Мне дакладваюць, вы рэгулярна займаецеся фізкультурай і нават іншых уцягваеце.

— Гэта як у каго выходзіць. Не санаторый усё ж.

— Так, пэўна не санаторый.

Аднак тэму здаровага ладу жыцьця палкоўнік

працягваць ня стаў і рэзка перайшоў да спраў асабістых.

— Вам трэба думаць пра будучыню. Бо вы ж не самотны халасьцяк. Ваша жонка, ваш сын чакаюць вас. І я ўяўляю, як перажываюць вашы бацькі. Яны, здаецца, жывуць у Стаўпецкім раёне?

Хоча паказаць сваю дасьведчанасьць?

— Вы, уласна, на што намякаеце?

— Ды ні на што. Мае калегі лічаць вас непапраўным і таму беспэрспэктыўным. Так што ніякіх падтэкстаў.

Твар насупраць мяне агарнуўся задуменнасьцю. На імгненьне. Потым, звузіўшы вочы да мілімэтровай шчылінкі, палкоўнік спытаў амаль шэптам:

— А што вы можаце зрабіць, знаходзячыся тут, калі з вашымі роднымі нешта здарыцца?

Здаецца, яму захацелася чарговым разам пабыць у халаце псыхіятра.

— Але калі-небудзь я ўсё роўна выйду адсюль! Нэльсан Мандэла праз 25 гадоў, але выйшаў на волю. Думаю, у мяне гэта атрымаецца значна раней... Чуеце?

— Што? — начальнік зьлёгку насьцярожыўся.

— Сыстэма трашчыць па швах.

Мая колкая заўвага не спадабалася Арлову. Тонкія вусны пагрозьліва надзьмуліся:

— І што вы зробіце, калі ўсё ўжо адбудзецца? Потым можна будзе толькі шкадаваць аб дапушчаных памылках.

— Уласнымі зубамі горла перагрызу таму, хто зробіць балюча маёй жонцы, майму сыну, маім бацькам.

Я таксама перайшоў на шэпт. Ён здаваўся мне зьмяіным шыпеньнем. У роце перасохла. Я з зайз-

драсьцю кінуў позірк на кубак палкоўніка зь недапітай вадкасьцю.

Начальнік пільна глядзеў мне ў вочы. Ёсьць такая форма гутаркі — вачыма. Калі суразмоўцы разумеюць адзін аднаго без усялякіх слоў. Гэтая частка размовы не для друку...

— Так, вы, напэўна, сапраўды непэрспэктыўны, — сказана так, што нельга зразумець, ці то гэта расчараваньне, ці то камплімэнт.

На гэтым, уласна, усё і скончылася. Мяне павялі.

Але гутарка зачапіла за жывое. І калі гэта было мэтай Арлова, то ён яе дасягнуў. У галаве куча бязладных думак. Прыкладаю намаганьні, каб усё раскласьці па паліцах. Занятак не з прыемных. Нічога добрага ад гэтых хлопцаў чакаць не выпадае. Трэба быць рэалістам.

Так. Чаго чакаць, што можа здарыцца? Могуць пасадзіць на суткі сына. Фармальныя падставы ёсьць: 19-га быў на Плошчы. Зрэшты, і раней яны моцна не турбавалі сябе пошукам прававых падстаў, каб прыцягнуць каго да адказнасьці. Цяпер і пагатоў. Вунь дзьверы высадзілі без аніякіх ордэраў. Калі яго пасадзяць, то калегі Арлова наведаюцца і на Акрэсьціна. Будуць прэсінгаваць, шантажаваць. Нават ня ведаю, як будзе паводзіць сябе Арцём. Сьвятлана звар'яцее, застаўшыся ў адзіноце! Два сядзельцы для сям'і з трох чалавек — гэта ўжо занадта. Для бацькоў гэта яшчэ адна дадатковая траўма. Яны ўжо ў тым веку, калі душэўныя косьці і храсткі не зрастаюцца.

Так, здаецца, Арцём — самае слабое месца. На працы ў Сьвятланы наўрад ці стануць нешта рабіць. Гэта нічога істотнага ня дасьць. Матэрыяльна будзе

цяжка, але выкараскаюцца. Спадзяюся на салідарнасьць калегаў, сяброў, сваякоў. У такіх сытуацыях робіцца ясна, у якім ты рэальным асяродзьдзі. Што і хто вакол цябе, людзкія адносіны ці кляака. Калі ўсё добра — твой тэлефон не змаўкае, у сенцах увесь час нехта таўчэцца. А як толькі задажджыцца, ахвотных падставіць парасон ня так ужо і шмат. Але пра кожнага зь іх можна сказаць без сумневу: гэта мой сябар!

З сваякамі таксама няпроста, а часьцяком і яшчэ больш складана. У адрозьненьне ад сяброў і прыяцеляў, іх не выбіраюць. У маім жыцьці была сытуацыя, калі блізкія сваякі папрасілі не прыяжджаць на пахаваньне майго роднага дзядзькі. Дзіўная просьба, праўда? Паводле іхняй вэрсіі, мая прысутнасьць магла паўплываць на становішча родзіча, які займаў салідны пост у адным дзяржаўным ведамстве. Пасьля гэтага сямейнае фота было разарвана напалам. Бацька як чалавек прынцыпаў адразу адсек гэтую сваяцкую галіну ад свайго жыцьця.

Але для мяне ў гэтай сытуацыі ня ўсё так відавочна. Мае прэтэнзіі ўсё ж не да сваякоў, дакладней — ня толькі да іх. Я абвінавачваю сыстэму: яна — сапраўдная прычына таго, што адбылося. Паводзіны сваякоў — гэта ўсяго толькі вынік. Але ўсё роўна дзіка! Усё роўна брыдка! Усё роўна агідна! І ўжо адно гэта матывуе не сядзець склаўшы рукі, не назіраць абыякава за тым, што вакол нас.

Чорт, зноў успамінамі разьвярэдзіў душу.

## 25 студзеня, аўторак

У камэру праціснуўся Ганс. Для яго гэта заўсёды праблема: як сваё вялікае, грузнае цела занесьці ў прастору дзьвярэй, якія дрэнна адчыняюцца. На твары дзяжурнага напружаньне. Значыць, на ранішняй лятучцы ў начальніка абмяркоўвалася чарговае паскудзтва. Прадчуваньні не падманулі.

Ільсьняныя Гансавы шчокі пакрытыя барвовымі плямамі. Кантралёр кантралёраў быў рашучы і сек прастору кароткімі, як аўтаматная чарга, фразамі:

— Зь сёньняшняга дня ўводзіцца новае правіла. Камэра дзеліцца чырвонай паласой на дзьве часткі. Як толькі ключ устаўлены ў замочную шчыліну, вы павінны неадкладна прайсьці за чырвоную лінію. Калі не пасьпелі, гэта будзе лічыцца парушэньнем рэжыму і да вас могуць быць ужытыя спэцыяльныя сродкі ўзьдзеяньня. Зразумела?

Адказ яго не цікавіў. Ён тут жа павярнуўся ўкормленай патыліцай, па якой сьлізгала зьдзіўленьне чатырох пар вачэй.

Так, трэба аддаць належнае Арлову. Начальнік СІЗА нястомны ў генэраваньні праблемаў для сваіх паддосьледных. Яго прызначэньне на пасаду ад самага пачатку не выглядала выпадковым. Пражытыя ў «амэрыканцы» дні толькі пацьвярджаюць гэтую здагадку.

Прыкладна праз паўгадзіны нас вывелі ў бліжэйшы туалет. Па вяртаньні насы ўлавілі рэзкі і непрыемны пах фарбы. Ярка-чырвоная паласа шырынёй сем-восем сантымэтраў дзяліла камэру на дзьве часткі. Крывавая метка на чорна-бруднай бэтоннай падлозе глядзелася злавесна. Вось яна, лінія новых узаемаадносін. Цяпер мы заўсёды на

адлегласьці адзін ад аднаго. Можа, гэта мера засьцярогі? Каб зубы ахвяраў не ўчапіліся ў горла катаў? Ці каб насаглотка ня плюнула ў фізіяномію, схаваную за чорна-зялёным сукном маскі? Хто ведае, дзе тая нябачная рыса, за якой сканчаецца цярпеньне і пачынаецца нянавісьць. І ня проста нянавісьць пачуцьцяў, а нянавісьць дзеяньняў. Але, хутчэй за ўсё, гэта дадатковы сродак узьдзеяньня на псыхіку, якую штодня расхістваюць і правакуюць на самапаяданьне.

І тут жа пачалася праверка засваеньня новых правілаў. У замочнай шчыліне хруснуў ключ. На парозе чорны сылюэт. Да ўсіх нас можна было ўжываць спэцсродкі, бо ніхто ня кінуўся на злом карку за разьдзяляльную рысу. Каб зваліцца зь верхняй паліцы, усунуць ногі ў абутак і перанесьці цела за чырвоную рысу, трэба час і, самае галоўнае, жаданьне. А мы адразу дамовіліся, што выконваем загад Ганса без усялякага фанатызму і лішняга імпэту.

— Вы што, не зразумелі? — маска паказвала зьдзіўленьне на мяжы зь недаўменьнем.

— Вам нешта незразумела? — гэта ўжо наяжджаў чалавек у чорным.

Улічваючы, што я стаяў бліжэй за ўсіх да трэнэра па пераадольваньні чырвонай паласы, трэба было неяк рэагаваць.

— *Не разумею*, — выдыхнуў я па-беларуску.

Пераход на беларускую — даволі эфэктыўны спосаб самаабароны. Ужо выпрабавана.

— Я зараз дадаткова растлумачу тым, хто не зразумеў, — у голасе недвухсэнсоўна гучала пагроза.

— *Калі ласка*, — мне нічога не заставалася, як дэманстраваць абыякава-спакойнае стаўленьне да пагрозаў.

Гэтым, аднак, усё і скончылася. Маскі і кантралёры сышлі. Але гадзіны праз паўтары — новая спроба. У камэру ўкаціўся чорна-зялёны клубок, ашчаціні́ўшыся гумовымі палкамі. І зноў нам незалік. Мы не пасьпелі. Не таму што не маглі, а таму што не хацелі. Менавіта цяпер вырашаецца, якім будзе практычнае выкананьне новай дырэктывы. Здаецца, на нас махнулі рукой. Як на беспэрспэктыўных.

Але тут адчыніліся дзьверы, і ў праёме зьявіўся кантралёр Лысы. Усе пачалі валіцца з нараў, як куры з жэрдак. Першая рэакцыя: зусім, маўляў, пашалелі са сваімі рэпэтыцыямі. Але заўважаем ля ног кантралёра груду пакетаў. Гэта значыць, што ў камэры маленькае сьвята. Больш за тое, выявілася, што два пакеты — мне. Гэта як кампэнсацыя за сапсаваны дзень! Адзін пакет — з прадуктамі, у другім — чыстая бялізна, ручнік, а яшчэ пальчаткі, грабянец, шапка. Расьпісваюся за атрыманую перадачу. Раблю гэта аўтаматычна, не зацыкліваючыся на штуках, грамах, пазначаных у паперы.

Першае, што зрабіў, — апрабаваў плястыкавы грабянец. Сеў на халодны зэдлік і пачаў расчэсваць валасы. Зьдзічэлыя, непаслухмяныя, як зарасьнікі хмызьняку. Направа-налева. Уверх-уніз. Нават вочы заплюшчыў ад асалоды. Напэўна, так чуецца наш кот Цімка, калі па ягоных шаўкавістых баках гуляе скрабок. Вось яно, маленькае чарадзейства! Людзі, вы можаце атрымліваць задавальненьне ад самой будзённай працэдуры. Трэба толькі па ёй засумаваць. У звычайнай сытуацыі мы робаты, аўтаматы. У незвычайнай — зусім іншая вастрыня ўспрыманьня. Тут наагул усё іншае!

## 26 студзеня, серада

Першая раніца з чырвонай паласой. Новая зьмена «чорна-зялёных» пачала на паўтона гучней і на паўашчэра зласьней. Відавочны доказ, што ёсьць жорсткая ўстаноўка на дрэсіроўку кантынгенту СІЗА па пераадольваньні паласы. Належала замацаваць учорашнія навыкі. Да абеду нам зладзілі пяць рэпэтыцыяў. Кашмар!

* * *

Камунікацыяў з адвакатам няма зь мінулага году. Відавочная прыкмета кропкавай, мэтанакіраванай інфармацыйнай блякады. Катаваньні бываюць розныя. І тут я ўжо прайшоў, пераадолеў, асіліў шмат што. Але катаваньне адсутнасьцю інфармацыі — адно з самых вытанчаных. І для мяне гэта вельмі балюча. У галаву пачынаюць лезьці самыя ідыёцкія, самыя агідныя думкі. Яны як чарвякі, як саранча. Кішаць, скачуць. Ты іх душыш, адкідаеш, але гэта нашэсьце цэлага полчышча.

Калі на ўсё гэта накласьці дэпрэсіўнае сьвятло, катаваньні холадам, шумавы прэс з боку «зондэркаманды» ў масках, перамяшчэньне «ластаўкай», расьцяжкі ля «сьцяны гвалту» ў спартзалі, правакаваньне на бескантрольныя эмоцыі... Усё гэта ўмяшчаецца ў адно кароткае, але ёмістае слова — кашмар.

Я гатовы да таго, што ў дачыненьні да мяне будуць ужытыя фізычныя катаваньні. Было ўжо некалькі сытуацыяў, калі ўсё вісела на валаску. Пакуль абышлося высьпяткамі ды падштурхоўваньнямі. Праўда, і гэта ўжо фізычнае ўзьдзеяньне і гвалт. У мяне быў час, каб падумаць над стратэгіяй паводзін. Што мяне стрымлівае ад рэагаваньня на

правакацыі? Нават ня ведаю. Спрацоўваюць нейкія ўнутраныя стрымліваньні і процівагі.

Ня выключана, што на кожнага з нас існуе дасье. Хутчэй за ўсё, так і ёсьць. І, напэўна, мае каты сёе-тое ведаюць зь мінулага маіх узаемаадносін зь сілавікамі. Я трапляў пад раздачу ня раз і ня два.

Упершыню мяне мэтанакіравана зьбілі ў пад’езьдзе ўласнага дому зімой 1996-га. Зайшоў у пад’езд, выклікаў ліфт. Падняўся на трэці паверх, адчыніў дыплямат і пачаў даставаць ключы ад дзьвярэй. У гэты час створкі ліфта расчыніліся, і я толькі пасьпеў заўважыць дзьве постаці ў цёмных вязаных шапках, насунутых да самых вачэй. У наступнае імгненьне ўваччу пацямнела, потым яшчэ некалькі ўдараў, і тупат ног па лесьвіцы чорнага ходу. На шум выскачылі сусед і мае сямейнікі. З носа і разьбітай губы лілася кроў. Прыехала міліцыя. Распачалі крымінальную справу, якая натуральным чынам здохла зь цягам часу. Мне не дапамаглі ні статус дэпутата парлямэнту, ні даволі ляяльнае стаўленьне сьледчых. Азнаёміўшыся з маімі публікацыямі «Мафія ад улады» ў газэце «Свободные новости», яны адкрыта сказалі, што мяне «заказалі» зьверху. Тыя, хто быў фігурантам гэтых самых артыкулаў. Хтосьці палічыў, што такая форма зносін найбольш эфэктыўная, каб я зачахліў асадку. У адказ паслаў сваю «Мафію ад улады — 3», а потым і чацьвёртую публікацыю. Найлепшая абарона для палітыка — публічнасьць. Гэтае правіла я грунтоўна засвоіў яшчэ ў першыя гады свайго дэпутацтва і няўхільна яго прытрымліваюся.

Празь некаторы час нешта падобнае паўтарылася. Потым яшчэ. Самыя балючыя наступствы — пасьля акцыі пратэсту супраць рэфэрэндуму аб па-

даўжэньні паўнамоцтваў Лукашэнкі. У той вечар на мяне было адкрыта сапраўднае паляваньне. Спэцназаўцы ў цывільным зацягнулі мяне ў «Патыёпіцу», што каля ГУМа. Некалькі чалавек павалілі мяне на падлогу і спрабавалі надзець кайданкі, а іншыя блякавалі дзьверы, не пускаючы людзей усярэдзіну. На вуліцы сабраўся нейкі натоўп. Потым мяне па падлозе пацягнулі на кухню. Там раптам аднекуль з боку службовага ўваходу зьявіўся Падабед, сталічны жандар, начальнік спэцназу. Па яго камандзе мяне паднялі на дыбкі. «Ну што, сука, дабегаўся?» Спэцназавец некалькі разоў наводмаш ударыў мяне па твары. Апрытомнеў я ў машыне, справа і зьлева — людзі ў цывільным. Прывезьлі ў Ленінскі РУУС. Пакой у сутарэньні быў напханы людзьмі.

Галава гула, цела ныла. Побач апынуўся Статкевіч. Відаць, выглядаў я зусім ніякава. Мяне завялі ў туалет, там мяне званітавала. Мясцовыя міліцыянты забегалі і вырашылі выклікаць хуткую дапамогу. Тыдзень я праляжаў у бальніцы са страсеньнем мозгу, гематомамі на нырках, расколінамі рэбраў.

Прызнаюся, я ня з тых, хто, атрымаўшы па шчацэ, тут жа падстаўляе другую. Мяне так выхоўвалі мае бацькі, простыя вясковыя людзі: калі кагосьці крыўдзяць, ня трэба рабіць выгляд, што ты ня чуеш ці ня бачыш. Калі на адным з «Чарнобыльскіх шляхоў» невядомы ў цывільным на маіх вачах ударыў жанчыну, я адказаў яму тым жа. Як выявілася, гэта быў афіцэр спэцназу. Ня ведаю, наколькі гэта правільна, але ведаю іншае: калі не рэагаваць на хамства і гвалт, то гэта спараджае ўсёдазволенасьць.

* * *

Сёньня на аднаго прыемнага суразмоўцу паменела. Пайшоў Саша Кісялёў. Яго павялі па абедзе. Расставаліся зь непрыхаваным сумам.

Самыя сэйсмаўстойлівыя міжлюдзкія адносіны выбудоўваюцца ў экстрэмальных сытуацыях. Перад гэтым нас з Сашам прагналі праз асабісты агляд. Праўда, разьвялі ў розныя месцы. Мяне — у спартзалю, яго — у «пакой цішыні». Барада зноў правакаваў на эмоцыі. Мне здаецца, ён увесь час шукае зачэпкі, каб завязаць бойку. Але я ўжо навучыўся адэкватна рэагаваць на падзеі. Галоўнае — не мітусіцца. Загады фільтрую. Крычаць «Бяжы!» — я іду. Па баках не разглядаюся, усё роўна нічога цікавага. На шумавыя спэцэфэкты ўжо зусім не зьвяртаю ўвагі. Разьдзяюся і адзяюся без трапятаньняў. Прысядаю, пакуль ім не надакучыць. Стаю ля сьценкі, пакуль ня знудзяцца.

Фізыкай мяне дадзець немагчыма. Здаецца, гэта зразумелі амаль усе. Вось толькі Барада не суніма-ецца. Дый сярод кантралёраў ёсьць некалькі асабліва заклапочаных.

Дарэчы, пра «ціхі пакой». Гэта такая асаблівая камэра ў сутарэньні, дзе і душавая. У ёй усё павысьцілана тоўстымі матамі — падлога, сьцены, столь. Усё ў сьветла-карычневым колеры. Ніякіх вокнаў, нават закратаваных цёмных. Наколькі я разумею, гэта «пакой спатканьняў» для асаблівых пастаяльцаў. Вонкі адсюль нічога, акрамя цішыні, не вылятае. З чалавекам можна рабіць усё што заўгодна, і ён сам з сабой можа рабіць, што заманецца. Ізаляцыя ідэальная. Глуха, як у танку. Зрабіць сабе калецтва практычна немагчыма.

Пасьля каманды «з рэчамі на выхад» Саша

трэніраваным рухам згарнуў пасьцельныя рэчы, акуратна склаў сваё майно ў сумкі. На твары спакой чалавека, які накіроўваўся ўжо ў трынаццатую па ліку камэру «амэрыканкі». Вось толькі звыклая шырачэзная ўсьмешка адсьвечвае непадробным сумам. І праўда ж сумна.

## 27 студзеня, чацьвер

Шостая раніцы. З гарызантальнага становішча перайшлі ў вэртыкальную стойку. Паўдня на нагах. Яшчэ гэтулькі ж седзячы. І тое, і другое не заўсёды прыемна. Асабліва калі стаіш галяком каля «сьцяны катаваньняў» у спартзалі. Або сядзіш, чакаючы прыходу масак.

Шостая вечара. Усе лепшыя месцы занятыя. Усе позіркі зьвернутыя да кропкі вышэй дзьвярэй, на невялічкі тэлеэкран. У нядаўнім мінулым на гэты час прыпадаў гарантаваны прагляд ТБ. Потым фармат памяняўся. Замест беларускага ТБ пускалі DVD з загадзя падрыхтаванымі тэлепраграмамі. Апошнія пару вечароў — зусім нічога. Дробныя паскудзтвы таксама непрыемна казычуць нэрвы. Аднастайнасьць прыгнятае. Вось і сёньня экран сьняжыў і шумеў, не пакідаючы ніякіх шанцаў на тое, што можна будзе нешта ўбачыць.

Але, здаецца, мы знайшлі эфэктыўны сродак супрацьдзеяньня. Гэта здарылася мэтадам выпадковага тыку. Учора, гледзячы ў сьляпы экран, Максім знарок гучна прапанаваў:

— Раз няма кіна, давайце хоць мітынг правядзем. Анатоль, паагітуйце нас, каб мы прагаласавалі за праграму вашай партыі.

Я не прымусіў доўга сябе ўгаворваць. Мая ка-

роткая, але палкая прамова пра заганы і хібы цяперашняй сыстэмы, пра тое, як уладкаваць Беларусь, трэба разумець, зрабіла ўражаньне ня толькі на сукамэрнікаў. Хвілін праз дзесяць тэлевізар загаварыў.

Сёньня рушым шляхам, пракладзеным учора. Толькі гэтым разам у якасьці заказчыка выступае Андрэй-Пракурор. Тэма: «У колькі абыходзіцца беларуская ўлада падаткаплатніку?» Паглыбіцца ў статыстыку не пасьпеў — па экране паплылі тытры чарговага дакумэнтальнага фільму пра ворагаў беларускага народу. Чым сёньня будуць паласкаць мазгі? Нас чакала шмат цікавага пра дзейнасьць разьмешчанага ў Гарміш-Партэнкірхэне амэрыканскага Цэнтру імя Маршала па праблемах бясьпекі. Апавядалі прадстаўнікі Міністэрства абароны Беларусі, якія там жа і праходзілі стажыроўку. Фільм быў нафаршыраваны нарэзкай з фразаў беларускіх афіцэраў і прыперчаны камэнтарамі закадравага голасу. Гэтым прадуктам нас і частавалі. Фільм выкрываў хітры і падступны Захад, які запрашае вайскоўцаў з краін постсавецкай прасторы і выцягвае зь іх глыбінныя сакрэты, а то і ўвогуле спрабуе зацягнуць у сеткі, хітрамудра расстаўленыя прафэсійнымі вярбоўнікамі.

Фінал быў адпаведны. Памочнік міністра абароны Беларусі ў генэральскім званьні (прозьвішча непрыкметна праскочыла ў тытрах) заклікаў тэлегледачоў быць пільнымі. Бо ў цэнтры — о жах! — стажыраваліся Лябедзька са Статкевічам. Самае цікавае, што казаў гэта выпускнік Цэнтру Маршала.

Народ тут жа скіраваў позіркі ў мой куток. Пасьля селядца на вячэру ўсім хацелася «дэсэрту»,

то бок смачнага аповеду пра нешта незвычайнае. Я меўся выступіць у ролі экспэрта, які прыпадымае заслону таямніцы над гэтым загадкавым цэнтрам. Прыйшлося вярнуцца ў далёкі 1997 год, калі нас зь нябожчыкам Генадзем Карпенкам запрасілі ў Нямеччыну на двухтыднёвыя курсы вышэйшых чыноўнікаў. Толькі мы і былі ў статусе апазыцыі, а астатнія краіны прадстаўлялі дзейныя генэралы, высокапастаўленыя чыноўнікі МЗСаў. Гэта былі першыя курсы такога ўзроўню. Сярод лектараў — міністры, вядучыя экспэрты ў сфэры бясьпекі з Францыі, Бэльгіі, Расеі. Сам генэрал Кларк, камандуючы войскамі НАТО ў Эўропе, чытаў нам лекцыю. Дарэчы, як выявілася, чалавек зь беларускімі каранямі.

Гарміш-Партэнкірхэн — незвычайна прыгожае месца. Райскі куток! Горы пакрытыя зялёнай шавялюрай лясоў, гаючае паветра, утульныя сымпатычныя дамкі мясцовых жыхароў.

Сёньня яго аблюбавалі ня толькі вайскоўцы, але і расейскія алігархі.

Я абмаляваў хараство прыроды, расказаў пра тых, з кім пашчасьціла пазнаёміцца ў Гармішы, пра дыскусіі на сустрэчах і занятках. Мае сукамэрнікі аказаліся вельмі ўдзячнымі слухачамі. Згодна з прынцыпам «апэтыт прыходзіць зь ядою», жыва праглынуўшы «дэсэрт», яны запатрабавалі дабаўкі. А паколькі пусты час трэба было чымсьці запаўняць, я пераказаў другую сэрыю прыгодаў, якая мела дачыненьне да тэмы Цэнтру Маршала.

Гэта здарылася 5 лістапада 2002 году ў Менску. Я выйшаў з амбасады ЗША, дзе толькі што сустрэўся з кіраўніком дыпмісіі гэтай краіны Майклам Козакам. Уключыў тэлефон, набраў нумар офіса

і, не сьпяшаючыся, пабрыў уніз да Старажоўскай. Размаўляючы, падышоў да сваёй машыны, але не пасьпеў націснуць на кнопку сыгналізацыі, як з двух прыпаркаваных побач аўтамабіляў выскачылі людзі ў чорным камуфляжы і масках. Пасьпеў падумаць: ну, гэта па маю душу. І не памыліўся. Праз імгненьне мяне ўжо трымалі пад рукі. Тут жа перада мной замаячыў старшы, у цывільным і з адкрытым забралам, махнуў перад вачыма сюды-туды нейкі корачкай, і мяне тут жа пачалі ўпакоўваць. Я ледзь пасьпеў крыкнуць у слухаўку, што мяне затрымалі невядомыя. Мой тэлефон тут жа апынуўся ў чужой кішэні. Спробы атрымаць тлумачэньні наконт таго, што адбываецца, разьбіліся аб сьцяну маўчаньня. «Хутка ўсё даведаецеся» — адзіная фраза-рэакцыя.

Калі мы заехалі ў двор будынкаў на Камсамольскай, я ажыў душой. Вось ужо ня думаў, што буду радавацца дастаўцы ў КДБ. Але, прынамсі, гэта хоць не Паўлічэнкавы сокалы з «эскадрону сьмерці», а, хутчэй за ўсё, спэцыялісты па барацьбе з тэрарызмам з «Альфы». Відаць, падзарабляюць на затрыманьні палітычных.

Мяне заводзяць у будынак, потым у кабінэт. Вызваляюць ад кайданкаў. Стацыянарная відэакамэра насупраць тарашчыцца проста ў вочы. Побач чалавек у сінім кіцелі з капітанскімі пагонамі. Ён разгортвае ўбраную ў чорную скуру тэчку, у якой ляжаць аркушы з аддрукаваным тэкстам. Афіцэр чытае тэкст афіцыйнага папярэджаньня КДБ грамадзяніну Лябедзьку. Калі апусьціць канстатацыйную частку, то вэрдыкт наступны: я папярэджаны, што калі ня стану на шлях выпраўленьня, то ў дачыненьні да мяне будзе ўзбуджаны крымінальны

перасьлед паводле артыкула 356 Крымінальнага кодэксу «Здрада дзяржаве». Пакараньне неслабое, аж да сьмяротнай кары. Мне прапаноўваюць расьпісацца, што я азнаёмлены з папярэджаньнем. Я адмаўляюся. Афіцэр робіць пазнаку і ўручае мне некалькі аркушыкаў зь пячаткай унізе. Па заканчэньні працэдуры выводзяць на вуліцу і пакідаюць сам-насам з думкамі. Яшчэ раз перачытваю копію дакумэнту. У пратаколе зафіксаваны час вынясеньня папярэджаньня — 16.59, супрацоўнік КДБ — капітан Аляксандар Чупахін. Лухта сабачая! Мне ставяць у віну, што я сустракаюся з прадстаўнікамі пасольстваў, місіі АБСЭ. Аказваецца, тое, што я праходзіў двухтыднёвую стажыроўку ў Эўрапейскім цэнтры па пытаньнях бясьпекі імя Дж. Маршала, — таксама хаджэньне па мяжы Крымінальнага кодэксу. Далей ідзе спасылка на нібыта распаўсюджаную ў інтэрнэце заяву Статкевіча пра фінансаваньне, якое я атрымліваю ў амэрыканскім пасольстве. У інтэрнэт выплюхваецца шмат чаго. Там можна разьмясьціць што заўгодна і ад імя каго заўгодна.

Перачытваю яшчэ раз, і абсурд набывае абрысы нейкай лягічнасьці. Гэта тэст на псыхалягічную ўстойлівасьць. Як мінімум казычуць нэрвы. Хоць, калі шчыра, ад словазлучэньня «сьмяротная кара» пахне дрэнна, нават калі ты і ня перад цаглянай сьцяной з кулявымі сколамі. Пакуль дабраўся да аўтамабіля, умацаваўся ў думцы, што адзіная эфэктыўная абарона — публічнасьць. Думкі матэрыялізаваліся ў дзеяньні. Іду ў суд! Рашуча і ўпэўнена.

Суд я, вядома, ня выйграў, але задавальненьне атрымаў немалое. Прысутны ў судовым пасяджэньні прадстаўнік КДБ зь нецярплівасьцю пазіраў на

гадзіньнік, чакаючы, калі гэтая прыкрая для яго дзея скончыцца. На ўсе мае аргумэнты і заявы ён паўтараў адну-адзіную фразу: «Гэта апэратыўная інфармацыя, яна ня можа быць раскрытая ў судзе». Але ніякай дзяржаўнай таямніцы ў ніводным з эпізодаў не праглядалася. Папярэджаньне зьляпілі ня дзеля разгляду па сутнасьці ў судзе, а дзеля адпаведнага ўзьдзеяньня на Лябедзьку і тых, хто ў нэўтральнай зоне паміж апазыцыйнай дзейнасьцю і кухняй. Я падаў у суд сьпіс з больш як шасьцідзесяці прозьвішчаў супрацоўнікаў беларускага Міністэрства замежных спраў і Міністэрства абароны, якія прайшлі стажыроўку ў тым самым злашчасным Цэнтры Маршала. І, у адрозьненьне ад апазыцыянэра Лябедзькі, яны сапраўды мелі доступ да дзяржаўных таямніц і сакрэтаў. Вось жа, паводле лёгікі КДБ, ім усім таксама трэба выносіць папярэджаньні, каб чаго ня здарылася.

З статуту Аб’яднанай грамадзянскай партыі, зарэгістраванага Міністэрствам юстыцыі, вынікала, што старшыня партыі, то бок я, ажыцьцяўляе кантакты як унутры краіны, так і за яе межамі. Місія АБСЭ або пасольства — гэта не масонская лёжа і ня філія Аль-Каіды. Гэтыя арганізацыі і структуры легальна працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У матэрыялы суду легла і заява Мікалая Статкевіча пра тое, што ніякіх зьвестак ён у інтэрнэце не распаўсюджваў і што гэта чыстай вады правакацыя.

Права і здаровы розум былі на маім баку, а вось судзьдзя — на іншым, там, дзе працавала тэлефоннае права. Афіцыйнае папярэджаньне КДБ засталося вісець на мне кайданамі. Трэба разумець, пры

неабходнасьці яго выцягнуць з дна шуфляды. Змахнуць пыл і, паклаўшы на стол зь зялёным сукном, скажуць: ну што, спадар Лябедзька, даскакаўся? Не зьдзіўлюся, калі яно нейкім бокам вылезе ў маёй цяперашняй справе. Бо не выпадкова сьледчы ледзь не на першым допыце прадэманстраваў кадры маёй паездкі ў Тбілісі. Пры адсутнасьці якіх-колечы доказаў маёй віны ў падзеях 19 сьнежня яе будуць шукаць без прывязкі да часу і тэмы.

### 28 студзеня, пятніца

Атрымаў ад Люды Гразновай перавод на 300 тысяч рублёў. Расчуліўся. Справа, вядома ж, ня ў грошах, а ва ўвазе, абазначанай некалькімі словамі. Аказваецца, простая паперка ў форме паштовага пераводу можа выклікаць эмоцыі. Трэба цаніць тых, хто побач з намі, ня толькі калі ўсё ОК, але і калі ім дрэнна, калі цяжка.

Адчуваньне, што ты ў заваленай шахце. Зьнясілены, раструшчаны, кінуты. І раптам у апраметную імглу пранікае малюпасенькі праменьчык сьвятла. І гэта дае табе сілы, веру і надзею. У слабеючых руках зьяўляецца сіла. Ты скрабеш пароду і паўзеш да сьвятла і жыцьця. І гэта ня мой пэрсанальны сэнтымэнталізм.

Побач са мной Аляксандар Арастовіч, разгублены і зьдзіўлены. А ў руках прадмет, які выклікаў гэтае зьдзіўленьне, — паведамленьне аб грашовым пераводзе. Ад незнаёмай яму жанчыны. «Якія яны ўсё ж такі малайцы!» Здаецца, зараз пырсьне на паперку сьлязой. Я яго разумею. Мы абодва ўбачылі адно і тое ж сьвятло, якое пракралася ў наша падзямельле.

* * *

Зьбіраю брудныя рэчы. Для іх прыстасаваў чорны поліэтыленавы пакет. Сартаваньне па пакетах з выкарыстаньнем каляровай гамы — гэта эўрапейскія тэхналёгіі на рэжымным аб’екце з савецкага мінулага. Заўтра паспрабую здаць у пральню. Гэтае права дэ-юрэ распаўсюджваецца на іншагародніх, не менчукоў, але дэ-факта залежыць ад таго, зь якой нагі ўстаў начальнік СІЗА. Гэта на яго імя трэба пісаць прашэньне, каб узялі ў пральню брудныя рэчы. Дарэчы, наконт любой драбніцы, будзь гэта замена лямпачкі або набыцьцё прадуктаў за свае ж грошы, трэба зьвяртацца да начальніка. Кожная чалабітная павінна нагадваць пра тваю залежнасьць і твой паднявольны статус.

* * *

Камэра — памяшканьне шматфункцыянальнае. Гэта і спальня, і кухня, і пральня, і спартзаля. Сёньня ў яе статус цырульні. Выдалі машынку для стрыжкі.

Абставіны не спрыяюць манікюру-пэдыкюру, але і апускацца да стану занядбанага калгаснага саду ня хочацца. Кажуць, некалі можна было замовіць цырульніка проста ў «амэрыканку». Пішаш заяву, і чалавек з наборам нажніц да тваіх паслуг. Адзіная ўмова — стрыжка праходзіць у прысутнасьці кантралёра, і ты ня маеш права гутарыць з цырульнікам. Але гэта ў мінулым. Сёньня можна спадзявацца толькі на спрыт калегаў па няшчасьці.

Я вырашыў не падстаўляцца пад нажніцы і брытву. Прынамсі ў агляднай будучыні. Гэта свайго кшталту экспэрымэнт па стварэньні новага іміджу. Раз ужо так склаліся абставіны, чаму б не пабыць такім, якім ня можаш быць у звычайным жыцьці?

У такі дзень ёсьць магчымасьць бачыць сябе ў люстэрку. Расьліннасьць ужо пакрыла значную тэрыторыю твару. Здаецца, гэта надае абрысу дадатковую суровасьць і жорсткасьць. А гэта якраз тое, што трэба ў маім становішчы.

Сукамэрнікі ж бяз жалю расстаюцца з валасяным покрывам. Працэс адбываецца наступным чынам. На бэтоне расьсьцілаюць газэту, на яе ставяць крэсла. Паддосьледны «кліент» з тунікай-прасьцінаю на плячах, усьмешлівы практыкант-цырульнік, машынка гудзе ў руках. Усе астатнія жыва камэнтуюць падзеі і не скупяцца на парады. Самая папулярная прычоска — бокс. Машынку выстаўляеш на двойку — і пайшоў гуляць па чэрапе. Туды-сюды.

* * *

Баюся сурочыць, але, здаецца, мае лісты даходзяць дадому. Гэтую аптымістычную выснову я зрабіў на падставе зьмесьціва перадачы. Анучныя рукавіцы, шапка, грабянец. Гэта ўсё тое, пра што я прасіў у лісьце. Дзякуй Богу! Я бясконца рады хай сабе і аднабаковаму руху інфармацыі, і таму застаюся ў добрым гуморы. І ў камэры ўжо ня так зябка, і ў кашы нейкі іншы водар, які ўзбуджае яго вялікасьць апэтыт.

Зараз на шпацыры буду адчуваць сябе значна камфортней. Дагэтуль на зарадцы мусіў выкарыстоўваць скураныя пальчаткі, цяпер жа ў анучных рукавіцах будзе нашмат спрытней. Яшчэ адна шапка — добры дадатак да капюшона курткі. Грабянец — наагул рэч неабходная для маіх валасоў, якія вяртаюцца ў юнацтва.

## 29 студзеня, субота

Мэдычнае абслугоўваньне ў СІЗА мае сваю спэцыфіку і асаблівасьці. Лекарскі пакой — на ніжнім ярусе. Невялікія сенцы і сам кабінэт. Два сталы. Два акны. На падваконьнях парачка вазонаў. Некалькі шафаў з прэпаратамі. Кушэтка. Крэслы. Белая вага. Перасоўная шырма. На сьцяне некалькі плякатаў. Трэба прызнаць, дзіўнага зьместу. Да прыкладу, набор рэкамэндацыяў парадзіхам. «Амэрыканка» ніяк ня цягне на радзільнае аддзяленьне. Хутчэй тут падабенства да моргу.

Лекар — змрочны тып з гумовым тварам. На ім адзін і той жа застылы выраз. Штампоўка ліцейнага цэху. Што адчувае гэты чалавек, зразумець немагчыма. Твар не чытаецца. Ні жалю, ні раздражненьня, ніякіх эмоцыяў, нічога. Вочы, здаецца, не міргаюць і хутчэй скануюць, чым глядзяць на цябе. Ён таксама носіць свайго кшталту маску і вельмі арганічна ўпісваецца ў чорна-зялёную тканіну, у якую зацягнутыя твары ахоўнікаў. Мабыць, такі і павінен быць лекар СІЗА КДБ. Ён частка агульнага інтэр’еру. І калі ёсьць задача стварыць у чалавека, які трапіў у «амэрыканку», адчуваньне безвыходнасьці, то зь ёй ён спраўляецца бліскуча. Ужо на першай сустрэчы ў мяне зьявілася аналёгія зь лекарам канцлягера. І ў далейшым яна толькі ўмацоўвалася. Гэта тыпаж.

А вось яго асыстэнтка выбіваецца з інтэр’еру і ў гэтай чорнай зграі выглядае крыху напужанай белай варонай. Можа, гэта ўзроставае і яна яшчэ не пасьпела прасякнуцца тутэйшымі традыцыямі. Зь цягам часу людзі робяцца падобнымі да рэчаў, якія іх атачаюць.

Калі ж зірнуць на сытуацыю без прывязкі да майго цяперашняга становішча, то я з задавальненьнем канстатую, што тутэйшы лекар — гэта ўсё ж выключэньне, а ня правіла. Ён складае рэзкі кантраст мэдыкам, зь якімі мне давялося сутыкнуцца падчас прэзыдэнцкай кампаніі. У лістападзе я мусіў легчы на апэрацыйны стол. Перасунуць дату было ніяк немагчыма, і так гэтай апэрацыі чакаў паўгода.

Сустрэлі мяне ў мэдычнай установе з сумесьсю зьдзіўленьня і ветлівасьці. Зьдзівіліся, што я адстаяў у агульнай чарзе. Узрадаваліся самой магчымасьці непасрэднай гутаркі. Прынамсі, мне так здалося. Кіраўнік цэнтру зладзіў гадзінную экскурсію. Трэба сказаць, паглядзець было на што. І ўбачанае на свае вочы, пачутае на свае вушы захапляла і натхняла. Без перабольшваньня.

Дарэчы, мяне паспрабавалі зьмясьціць у VIP-палату, супраць чаго я запярэчыў. Не таму, што сьціплы, проста ў гэтым не было ніякай неабходнасьці. Палата на чатырох — цалкам камфортная. Хоць, не схаваю, прапанову пачуць было прыемна.

На суседнім ложку ляжаў здаравенны дзяцюк. Падумалася — напэўна, спартовец. Практычна не памыліўся. Спартсмэн, але былы. Выпускнік інстытуту фізкультуры. А цяпер... капітан спэцназу. Гэта быў свайго роду маленькі сюрпрыз. Па маёй правай, праблемнай руцэ ў свой час патапталіся капітанавы калегі. Сам кэп аказаўся зусім сабе прасунуты. З ноўтбукам у здаровай руцэ. Падзараджаўся спэцназавец навіннай стужкай «Хартыі» і «Белпартызана».

Мы абодва часова аднарукія. Ён бязь левай, я бяз

правай. Гаворым пра выбары. Капітан мае намер аддаць свой голас альбо Саньнікаву, альбо Раманчуку. І тут у палату ўвайшоў, не, хутчэй укаціўся, кругляк. Твар расьпілаваны ўсьмешкай напалам, у кулачышчы — вялікая сетка з аранжавымі апэльсінамі.

Пасьля сыходу калегі капітан апэтытна зарагатаў: «Толькі наш брат мог прынесьці апэльсіны! І што мне цяпер зь імі рабіць?» — бездапаможна тыцкаў ён у аранжавыя шары белай павязкай.

Пасьля апэрацыі я быў аточаны ўвагай і клопатам мэдпэрсаналу. Праўда, не абышлося без кур'ёзу.

Рэч у тым, што на Кастрычніцкай плошчы была заплянаваная сустрэча некалькіх кандыдатаў у прэзыдэнты з выбарцамі. Свайго кшталту рэпэтыцыя Плошчы. І тут да мяне зачасьцілі лекары. Зазіраюць у палату кожныя паўгадзіны. Спачатку я не зразумеў, у чым справа, пакуль адзін зь іх не раскрыў карты: «Анатоль Уладзімеравіч, сёньня ў горадзе акцыя, дык вы ўжо нас не падвядзіце. Да нас тут прыходзілі... Ну, самі разумееце... Адным словам, трэба, каб вы не пакідалі палаты».

Так, КДБ адпякае! У мяне далонь прашытая, рука па локаць запакаваная ў жорсткую павязку. Кропельніца, прылада адводзіць кроў ад раны, абязбольвальныя ўколы. Вядома ж, я даў слова! Але, мабыць, начальства вырашыла падстрахавацца — на працягу дня галава мэдсястры, нібы зязюля ў гадзіньніку, рэгулярна зазірала ў прастору дзьвярэй і, зафіксаваўшы маю прысутнасьць у палаце, зьнікала.

Маё вымушанае знаходжаньне ў мэдычнай установе мела практычны працяг. У праграму кан-

дыдата ў прэзыдэнты Яраслава Раманчука мы тут жа ўнесьлі пункт аб стварэньні ў кожнай вобласьці спэцыялізаваных мэдычных цэнтраў. І, трэба прызнаць, гэтая прапанова мела посьпех і падтрымку на наступных сустрэчах з выбарцамі. Прычым катэгарычную.

Мэдыцына можа і павінна быць адным з прыярытэтаў беларускай дзяржавы. Кваліфікацыя мэдпэрсаналу пакуль яшчэ дазваляе ставіць самыя амбітныя задачы. Можна ня толькі ліквідаваць гэтыя ганебныя чэргі ў паліклініках, але і зарабляць добрыя грошы. Пры разумнай палітыцы мэдыцына можа стаць візытоўкай Беларусі, аналягам швайцарскіх гадзіньнікаў або фінскай сыстэмы адукацыі.

Сёньня я не ўтрымаўся ад спакусы праверыць гэты пункт праграмы на сукамэрніках. Бліскучы вынік! Калі б гэта было ў пэрыяд выбарчай кампаніі, я б забраў усе галасы. Стоадсоткавая падтрымка.

## 30 студзеня, нядзеля

І ў звычайным, будзённым жыцьці бывае паўсякаму. У становішчы ж вязьня СІЗА ўсе рамкі рассоўваюцца, расьцягваюцца. Часам да стану нечаканага і нязвыклага.

Няпроста знаходзіцца ў абмежаванай прасторы чатыром-пяці мужыкам. Часьцяком зусім розным — па характары, па поглядах. Часам узьнікаюць перапалкі, здараюцца і ўспышкі гневу. Але ўсе разумеюць, што паасобку ня выжыць. І гэта аб'ядноўвае, робіць нас лепшымі, чым мы ёсьць на самой справе.

У нашым становішчы людзі робяцца шчырэй-

шымі. Ім хочацца выгаварыцца. Ёсьць попыт на спагаду, на разуменьне. Адчыняюцца дзьверы, у звычайным жыцьці зачыненыя для іншых. Ува мне бачаць таго, каму можна паспавядацца.

Я павінен ведаць усё. У мяне на ўсё павінен быць адказ і парада. Натуральна, я ўсяго ня ведаю. Але расчароўваць не магу. І так навокал столькі нэгатыву. Хай даруюць, але часам я хітрую. Часам прыдумляю. Галоўнае, каб даць чалавеку, які зьвярнуўся да мяне, пункт апоры, усплёск надзеі, порцыю аптымізму.

Мяне называюць Правадыром. Можа, гэта не выпадкова?

Часу было цалкам дастаткова, каб ня толькі скласьці думку пра тых, хто побач, але і сыстэматызаваць кантынгент «амэрыканкі» па групах. Па-першае, кідаецца ў вочы даволі вялікая колькасьць прадстаўнікоў бізнэсу. Відавочны доказ таго, што прадпрымальніцтва ў Беларусі — справа рызыкоўная і небясьпечная. Як правіла, гэта людзі ад трыццаці да сарака з хвосьцікам. Адукаваныя, з наборам здольнасьцяў, якія дазволілі дамагчыся немалога нават у неспрыяльных умовах беларускай рэчаіснасьці.

Другая група — гэта чыноўнікі, людзі з кіраўніцтва прадпрыемстваў. Зразумела, з прыстаўкай «экс». Нядаўнія ўладальнікі кабінэтаў на некалькі вокнаў, пэрсанальных аўто і асабістых сакратарак. Чыноўнікі — гэта людзі з прыемным мінулым, цяперашчынай, якая страшыць, і невядомай будучыняй. Асабліва тут стаяць чыноўнікі ў пагонах. У асноўным МУСаўцы.

Трэцяя група — маладыя людзі, якім ледзь за дваццаць. Сядзяць на наркатычнай іголцы і пад-

саджваюць на яе іншых. Наконт першай часткі можна было б сказаць: чорт з вамі, а наконт другой — нашто ж вы іншых губіце? Як правіла, паводле прысуду атрымліваюць на поўную катушку. Восем-дзесяць гадоў. Але пры адсутнасьці нейкіх надзвычайных здарэньняў гады праз чатыры іх чакае воля.

І чацьвёртая група — гэта мы, «ворагі народу».

Сярод чынавенскіх пэрсанажаў я б вылучыў былога намесьніка мэра Магілёва Ўладзімера Цітка. Недурны, таварыскі на мяжы балбатлівасьці. У той жа час даволі скрытны.

Ху із містэр Ціток, я даведаўся толькі, калі мы рассталіся. Пакуль мы разам сядзелі ў чацьвёртай камэры, экс-чыноўнік граматна і прафэсійна граў ролю пакрыўджанага лёсам і ўладамі пажылога чалавека. Маўляў, прывёз на лецішча трохі пяску зь дзяржаўнага кар'еру, вось і ўсе грахі. Потым, праўда, пад настрой выціснуў зь сябе апісаньне пагоні і далейшага затрыманьня. Гадзінная аўтамабільная гонка-перасьлед па прасёлкавых дарогах. З маячкамі, віскам тармазоў і ляжаньнем на капоце. Гэтай гісторыі было дастаткова, каб засумнявацца, што ўсе праблемы — толькі ў кучы пяску.

Пры гэтым Уладзімер дэманстраваў нядрэннае веданьне агульнапалітычнай і эканамічнай сытуацыі ў краіне. Арыентаваўся ў калодзе беларускай апазыцыі. Даў зразумець, што на «ты» з нашым Валодзем Шанцавым (лідэр Магілёўскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі).

Пасьля таго як над пяшчанымі кар'ерамі Ўладзімера Цітка была прыўзьнята заслона таямніцы, усё стала на свае месцы. Будаваў экс-чыноўнік, вядома ж, ня лецішча-хацінку, а сучасны катэдж.

І, трэба разумець, ня толькі за кошт працоўных ашчаджэньняў. Зрэшты, гэта ўжо справа кампэтэнтных органаў. Магчыма, у гэтай справе, без палітычнага складніку, яны будуць бесстаронна прытрымліваца літары закону.

Мне ж стаў зразумелы скепсіс, які Ўладзімер Ціток дэманстраваў у дачыненьні да палітычнай апазыцыі. Лягічнымі выглядалі цяпер і выказваньні ў абарону ўладнай вэртыкалі, і рэвэрансы ў бок «добрага цара». Нават у СІЗА ён заставаўся часткай той самай сыстэмы, якая спачатку яго выгадавала, а потым кінула на нары «амэрыканкі». Беларускі чыноўнік — збольшага істота баязьлівая. Яго адметная рыса — прыстасаваньне да навакольнага асяродзьдзя. У лесе ён будзе зялёны, у пустыні — жоўта-карычневы. У вадзе ў яго вырастуць жабры, пры наяўнасьці мух і камароў ён абзавядзецца хвастом.

Зь бізнэс-групы самае моцнае ўражаньне на мяне зрабіў Саша Кісялёў. Алігарх, як паўжартам-паўсур’ёзна, але паважліва называюць яго ў СІЗА, аказаўся вельмі пазытыўным хлопцам. Па беларускіх мерках у Кісялёва быў прыстойны бізнэс: пастаўкі садавіны. І гэта далёка ня ўсё, чым займаўся бізнэсмэн Аляксандар Кісялёў. Асноўны профіль — стварэньне бізнэсу з нуля, а затым яго продаж. У Аляксандра расейскі пашпарт. Ён скончыў Гомельскі каапэратыўны інстытут. У Беларусі знайшоў сваю другую палавінку, і цяпер у іх чатыры дачкі. Жаночы батальён, як жартаваў Алігарх падчас нашых шчырых гутарак за кубкам гарбаты. Бацькі жывуць у Расеі. У «амэрыканцы» ўжо больш за год. На фірму наляцелі людзі ў масках і павезьлі з сабой больш за трыццаць чалавек. Усіх

разьмясьцілі на «Валадарцы», Кісялёва адправілі ў «амэрыканку». Сярод затрыманых апынуўся і брат Аляксандра, які прыехаў пагасьцяваць да сваяка ў Беларусь. Вось такая беларуская гасьціннасьць!

Саша — чалавек камунікабэльны. Як высьветлілася, мы зь ім маглі пазнаёміцца раней. «Я неяк бачыў вас на аўтазапраўцы на другім кальцы. Нават хацеў падысьці павітацца, але не наважыўся. А вось цяпер абставіны зьвялі нас».

У мяне склалася думка, што з Кісялёва выбіваюць грошы. Яму адкрыта і цынічна прапануюць выкупіць свабоду. Сваю і падначаленых. Цана прыстойная — 30 мільёнаў даляраў. Аляксандар гатовы на дваццаць. Такі, на яго думку, кошт ягонага асабістага самалёта. «Прадам самалёт і разьлічуся. І не таму, што вінаваты. Хачу, каб адпусьцілі людзей, за якіх я адказваю». Але, як сьцьвярджае Аляксандар, такі фармат не задавальняе дзелавых людзей з «канторы». Ідзіце і думайце, кажуць яму. Але нічога іншага прадпрымальнік прыдумаць пакуль ня змог. Больш як за год Аляксандар зьмяніў тут дванаццаць камэр. Разам мы былі два тыдні, потым яго перавялі ў трынаццатую. Можа, яна адчыніцца ў прастору, якая завецца свабодай?

Кісялёў выявіўся ня толькі цікавым, таварыскім чалавекам, але і кантрастуе з вобразам багатага расіяніна. Я такі ж, як усе, чыталася ў ягоных учынках і меркаваньнях. Ніякай распальцоўкі і бравады. Яму падабалася кухарыць. З асаблівым задавальненьнем Алігарх гатаваў салаты. Ён стругаў, чысьціў, рэзаў, зьмешваў, саліў, перчыў. Адным словам, калдаваў! І, дзеля справядлівасьці трэба сказаць, выходзіла ў яго смачна.

У суботу Кісялёў, надзеўшы хірургічныя паль-

чаткі, старанна цёр халодны і вечна брудны бэтон. Ён усё рабіў грунтоўна. У свае трыццаць восем меў уласнасьць ня толькі ў Менску, але і ў Маскве і Лёндане, пасьпеў пабываць у шмат якіх кутках плянэты. У тым ліку за штурвалам асабістага самалёта. І калі мяне сукамэрнікі прасілі распавесьці пра ўнутраны сьвет беларускай і замежнай палітыкі, то Аляксандра — пра падарожжы па белым сьвеце.

## 31 студзеня, панядзелак

Апошні дзень студзеня. Тут, у казэматах «амэрыканкі», слова «апошні» афарбавана прыемнымі тонамі і нясе пазытыўную сэнсавую нагрузку. Хочацца, каб усё, што адбываецца вакол цябе, было апошнім. Апошнія месяц, тыдзень, дзень у СІЗА, апошняя вячэра, апошні шпацыр. Лаўлю сябе на думцы, што жыву чаканьнем імгненьня, калі пайду адсюль. Зрэшты, зразумець няцяжка, бо думаю пра гэта ўвесь час. І ня я адзін.

Я хачу сысьці. Сысьці і не вяртацца сюды ніколі. Ніколі! Ніколі не адчуваць гэтага спэцыфічнага паху «амэрыканкі», ня чуць гэтых крыкаў ашалелых ахоўнікаў. Ніколі ня бачыць гэтых чорназялёных масак, гэтай сеткі над галавой у дворыку для шпацыраў.

Максім ужо каторы дзень дастае з баулаў акуратна складзеныя рэчы і перакладае іх зноўку. У яго ўсё выверана і рассартавана паводле доўгага сьпісу. У кіляграмах, у штуках. З дня на дзень у яго этап. Наперадзе чатыры гады калёніі. А пакуль ён чытае нам курс зэка, які ўпершыню адпраўляецца ў зону. Матаю інфармацыю на вус. Хто ведае, што чакае




Страшнавата, але я ня мог застацца дома

мяне праз месяц-другі. СІЗА, калёнія, турма — усё гэта клясы адной школы. Школы выжываньня.

А тым часам нас пакінуў Андрэй-Пракурор. Дакладней, адбылася ратацыя. Пракурор пайшоў

дадому! А замест яго ў той жа дзень у камэры зьявіўся Раманоўскі Аляксандар Аляксандравіч. Чалавек з акадэмічнай бародкай.

Андрэя ў той дзень выклікалі на допыт. Але ўсё зьвялося да кароткага інфармаваньня пра новы паварот у расьследаваньні. Справу панізілі ў статусе. З рэспубліканскага спусьцілі на абласны ўзровень, і цяпер яе будзе весьці сьледчы Камітэту дзяржкантролю па Менскай вобласьці. Гэта можа азначаць толькі адно: справа развальваецца. Адпаведна, утрыманьне пад вартай замянілі падпіскай аб нявыезьдзе. Андрэй быў шчасьлівы! І мы адкусілі па кавалачку ягонага шчасьця.

Скарыстаў сытуацыю і напісаў у сшытку Пракурора хатні тэлефон. Я папрасіў. Ён паабяцаў. Застаецца спадзявацца, што Андрэй патэлефануе, і гэта будзе падарункам ад мяне маім любым.

Андрэй прабыў у «амэрыканцы» больш за чатыры месяцы. Яму прад'явілі сур'ёзныя абвінавачаньні ва ўтойваньні даходаў. Нібыта ён сапраўдны ўладальнік чатырох камэрцыйных структураў. Па мерках невялікага Дзяржынску зусім нішто сабе. Дакумэнтальна ж ён усяго толькі кансультант па юрыдычных пытаньнях адной структуры. Адпаведна, ніякіх фінансавых дакумэнтаў зь ягоным подпісам не існуе. Уся доказная база — на ўзроўні слоў «ну мы ж ведаем». Андрэю па-сяброўску прапанавалі выплаціць больш за 20 мільярдаў рублёў, потым зьнізілі гэтую суму да сямі. Ён упёрся і запатрабаваў прад'явіць доказы ягонай віны. Час ішоў. Тыя чакалі — гэты сядзеў. Так што, падобна, бралі на змор.

Але, відаць, цярпеньне экс-пракурора выявілася мацнейшым за чаканьні сьледчых. Да таго ж пача-

лося актыўнае абмеркаваньне зьмякчэньня крымінальнага перасьледу за эканамічныя злачынствы. У прэсе нават былі апублікаваныя тэзы будучай лібэралізацыі. Андрэева адвакатка перадала гэты дакумэнт, і вечарамі народ вывучаў яго з алоўкам у руках. Хутчэй за ўсё, гэта і стала галоўным аргумэнтам на карысьць разгрузкі сьледчых ізалятараў ад Андрэя і яму падобных.

## 1 лютага, аўторак

Мы з Раманоўскім селі кідаць косьці. Апошнім часам гэта стала абавязковым пунктам майго распарадку дня па абедзе. Справа гэтая, трэба прызнаць, азартная і апэтытна пажырае час. Пяць белых касьцей у чорную крапінку, аркуш паперы з раскрэсьленай табліцай — і наперад! Трасеш косьці ў стуленых далонях і потым выкідаеш на вышчарбленую паверхню крэсла ці тумбачкі. А паралельна гутарым. Збольшага ні пра што звышнатуральнае, але часам трапляем на жылу цікавай тэмы. Як, напрыклад, сёньня. Слова за слова, і на язык трапіўся даволі вядомы, а дакладней — скандальна вядомы генэрал-пісьменьнік Чаргінец. Пачуўшы гэтае прозьвішча, Сан Саныч скрывіўся так, быццам яго прымусілі жаваць гнілую дзічку. Убачыўшы такую рэакцыю суразмоўцы, я мазнуў штрых да партрэта «вэтэрана аўганскай вайны»:

— Вельмі адыёзная фігура...

— Анатоль Уладзімеравіч, я з гэтым чалавекам не адну бочку алькаголю выпіў. У маёй асабістай бібліятэцы ўсе яго тварэньні з асабістымі аўтографамі пыляцца, — пры слове «тварэньні» Сан Санычаў твар прадэманстраваў рэакцыю на яшчэ адну надкушаную дзічку.

Так, здаецца, канкураваць у напісаньні партрэта Чаргінца я наўрад ці змагу: выпіваць зь ім не выпіваў, кніг ягоных ня маю.

— Надзвычай непрыемны тып, павінен вам сказаць, — працягваў разгортваць тэму Сан Саныч. — Вы ведаеце, чым ён займаўся ў Аўганістане?

— Магу толькі здагадвацца. Але пэўна ж не сядзеў у засадзе з кулямётам.

— А я не здагадваюся, я ведаю! Пастаўкамі алькаголю. У бляшанкі з-пад глыбоцкай згушчонкі закочвалі гарэлку і пастаўлялі ў Аўган. Нядрэнны, я вам скажу, бізнэс. І гэта толькі невялікая частка таго, што я ведаю.

— Алькаголь у бляшанкі з-пад згушчонкі? Ня можа быць!

— Можа, — катэгарычна адрэзаў мой суразмоўца.

Адчувалася, што некалі іх сапраўды зьвязвалі адносіны як мінімум прыяцельскія. Я глядзеў у немігучыя вочы суразмоўцы і спрабаваў зразумець: гэта праўда — ці крыўда трэснутай дружбы?

— Ды вы проста скарбонка эксклюзіўнай інфармацыі!

Гэты камплімэнт відавочна спадабаўся Раманоўскаму, і ён агаліў кранутыя жаўцізной зубы.

— Дайце мне магчымасьць пабыць начальнікам карнага атрада новай улады, і вы даведаецеся столькі цікавага, што галава пойдзе кругам. Я гэтулькі сволачаў ведаю. Усю іх паднаготную. Працы хопіць надоўга.

— На жаль, расчарую, ня будзе ў нас такой пасады.

— Тады пракурорам ці хаця б начальнікам «амэрыканкі». Усё прыпомню, нічога не прапушчу. Памяць на дрэннае ў мяне выдатная.

— Злы вы, Аляксандар.

— А вось вы добры, але сядзім мы з вамі ў адной камэры і на адну парашу ходзім. Сьвет вакол нас такі: чалавек чалавеку — воўк. І вы альбо прыкідваецеся, што гэтага ня ведаеце, альбо жывяце ў сваім, але прыдуманым вамі ж сьвеце.

Цікавая штучка, гэты Аляксандар Раманоўскі. У меркаваньнях рэзкі, а часам настолькі катэгарычны, што размова адразу заходзіць у тупік. Думаю, раней ён дзесьці ў сілавых структурах працаваў, а потым ужо выйшаў на бізнэс-арбіту. Але, напэўна, запуск аказаўся не зусім пасьпяховы.

На ягоным твары — суровасьць, катэгарычнасьць, жорсткасьць. Праўда, акуратная сівая прафэсарская бародка крыху зьмякчае ўспрыманьне. Дый інакшы выраз часам відаць. Ня часта, але здараецца. У прыватнасьці, калі Раманоўскі чытае лісты ад дачкі, твар зьмяняецца да непазнавальнасьці. Відаць, што гэтых людзей зьвязваюць пяшчотныя пачуцьці, ня толькі роднасныя, але і сяброўскія. Дачка яшчэ школьніца. Дзіця позьняга каханьня.

Сан Саныч мае вялікую цікавасьць да Арастовіча. Недзе на беразе Менскага мора нядаўні бізнэсмэн набыў апэтытны кавалачак зямлі. Былі і, здаецца, яшчэ застаюцца пляны, каб яго ўпарадкаваць. У камэру Раманоўскі прыйшоў з інфармацыяй, што сярод палітычных ёсьць нехта Арастовіч, бясплатны кансультант па будаўніцтве. Калі Сан Саныч пазнаў у Сашу таго самага экспэрта, тут жа ўзяў яго ў абарот. Схапіў паперу і пачаў крэсьліць схемы, пляны будоўлі. Арастовіч у нас папулярны, што тут скажаш. Яго цяпер так і клічуць — Архітэктар, і інфармацыя пра яго і ягоныя бясплатныя кансультацыі ўжо вандруе па сарафанным радыё «амэрыканкі».

Вось і цяпер яны схіліліся над табурэткай з аркушыкамі, нібы над плянам найважнейшай апэрацыі. Яны ў іншым сьвеце — там, дзе будуюць, там, дзе ствараюць.

Але рэзкі крык і прыглушаны тупат за дзьвярыма вяртае ўсіх у рэальнасьць. Пачынаецца чарговая дрэсіроўка кантынгенту «амэрыканкі». Так што будоўля пакуль адкладаецца!

## 2 лютага, серада

Уцягваем Арастовіча ў сьвет азартных гульняў. І ў кіданьні касьцей яму сёньня няма роўных. Флэш, пара, дзьве пары, біг — што ні кідок, то фігура. Пачаткоўцам шанцуе! На шырокім Аляксандравым твары ёсьць дзе разьмясьціцца эмоцыям, і яны ўсе там.

У самы разгар косьцекіданьня ўварваліся «чорна-зялёныя». А перад гэтым за тым, што адбываецца ў камэры, назірала нечае вока ў жалезнай акантоўцы дзьвярэй. Сапраўды, не выпадае пазытыўным пачуцьцям разгульваць па камэрах СІЗА. Усіх пагналі ўніз. Мы дамовіліся, што з гэтага часу на чале калёны ідзе толькі Раманоўскі. Яго цяжка асядлаць і прымусіць рухацца рысьсю або галёпам. Дый сівая расьліннасьць у спалучэньні з глыбокімі зморшчынамі можа стаць падставай для паблажкі, некаторай зьніжкі на ўзрост. Вярнуўшыся з спартзалі, давялося поўзаць на карачках і зьбіраць раскіданыя па падлозе косьці. Праўда што, паскудзіць можна па-рознаму, у тым ліку і па-дробнаму.

— Трэба ж, колькі разоў ужо разьдзяюць і прыстаўляюць да сьценкі, а не магу да гэтага прывыкнуць. Калоціць усярэдзіне, і, здаецца, нават рукі дрыжаць. Як у алкаша апошняга, — Раманоўскі пільна разглядае свае далоні.

— Ну хочацца ім на нашы дупы ўзірацца, хай узіраюцца. Хоць, вядома, непрыемна, нэрвы могуць



Пікет пад крамай «Рыга». І мой голас за перамены!

здаць у кожную хвіліну, — гэта ўжо Арастовіч выказвае свой погляд на сытуацыю.

А я падзяліўся сваім досьведам. Бо для мяне гэта не першыня. З чымсьці падобным я ўжо сутыкаўся. Такія ж працэдуры робяць і на Акрэсьціна. Толькі адсюль усё, што адбывалася там, выглядае цалкам бяскрыўдным, можна сказаць, ніштаватым.

Успомнілася, як пасьля прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году нас даставілі на Акрэсьціна. Перш чым адправіць у камэру, правялі агляд. Сярод тых, хто праходзіў працэдуру абмацваньня, быў і Валер Мазынскі. Масьціты рэжысэр бліскуча разыграў сцэнку. Як толькі ахоўнік дакранаўся да яго, ён удаваў, быццам шалёна баіцца козыту. І тады ўсьлед за Мазынскім рагаталі ўсе затрыманыя, якія стаялі ў вольных позах уздоўж сьцяны ў калідоры. Сьмяяліся і ахоўнікі.

А вось тут не да сьмеху. Нават усьміхацца ня хочацца.

## 3 лютага, чацьвер

Сёньня дзень цырульніка. Сан Саныч дэманструе ўпэўненае валоданьне машынкай для стрыжкі, прынамсі на словах. У доказ прыводзіць прыклады з досьведу мінулых гадоў. Арастовіч таксама выказвае гатоўнасьць стаць удзельнікам конкурсу на званьне лепшага цырульніка камэры. Беручы пад увагу абмежаваную колькасьць кліентаў, яны згаджаюцца пабыць ня толькі экспэрымэнтатарамі, але і навучальнымі дапаможнікамі. Гэта значыць, пакажуць сябе адначасова ў дзьвюх іпастасях. Мне таксама дастаецца роля ў дзьвюх асобах — судзьдзі і гледача. Машчуся зручней на другім паверсе нараў і патрабую відовішчаў!

Аляксандры нетаропка абсталёўваюць працоўнае месца. На бэтон кладуцца дзьве глянцавыя «Саўбеліі» (трэба прызнаць, газэта шырокага ўжытку), на газэтную падложку ставіцца крэсла. Першым сядае Раманоўскі. На ягоныя худыя плечы накідаюць прасьціну. Сан Саныч настройвае машынку і паралельна інструктуе Архітэктара. Шчыра кажучы, на караткашэрснай галаве Сан Саныча машынцы няма дзе асабліва разагнацца. Але сам працэс!

Ну што ж, Арастовіч нядрэнна ўправіўся. Можна сказаць, асвоіў сумежную прафэсію. Пасьля выхаду зь СІЗА можа адкрываць салён-цырульню «Архітэктар».

Цяпер надыходзіць Арастовічава чарга сядаць у крэсла кліента. Ягоная хвалістая шавялюра — гэта ўжо нешта! На гэтай пляцоўцы ёсьць дзе разгарнуцца. Машынка натужна паўзе па Сашавай макаўцы, за ёй застаецца глыбокая разора.

Я заліваюся сьмехам. Галава, расьпілаваная напалам! Правадыр індзейцаў Архітэктар! Прапаную на гэтым стрыжку скончыць.

Але тут з боку калідора нэрвова забарабанілі: «Што, надта весела?»

Чаго хаваць, вядома, весела. Але гукі эмоцыяў давялося прыглушыць: чаго добрага, забяруць машынку, і тады ў Арастовіча на галаве так і застанецца пракос на ячменным полі.

* * *

Сёньня зрабіў генэральную прыборку ў сваёй гаспадарцы, перабраў зьмесьціва ўсіх пакетаў. Зрэшты, гэта толькі да наступнага агляду, то бок да заўтрашняга дня. Запасаў туалетнай паперы хопіць на паўгода, калі ня больш. Гэта, вядома, стратэгічны тавар, але яго колькасьць мяне палохае.

Перад абедам прынесьлі замоўленае ў спэцкрамах. У поўным аб'ёме. Выкананьне заказаў цалкам залежыць ад капрызу і настрою начальніка: ён вырашае, што пакінуць у сьпісе, а што выкрасьліць. Такая ж сытуацыя і зь перадачамі зь «Вялікай зямлі». Тут нехта з тых, хто сядзеў у адной камэры зь Дзімам Бандарэнкам, распавёў, што ў першай перадачы, якую перадалі палітвязьню, былі два агуркі і ёршык мыць посуд. Усё астатняе выкрасьлена.

Гэтым разам усё паводле сьпісу, нічога не забралі, нічога ня выключылі. Сала — нават зь мяснымі прожылкамі, смачнае да багатага сьлінааддзяленьня. А можа, гэта рэакцыя на беднасьць нашага рацыёну. Як бы там ні было, але ўжо па вячэры белы кіляграм паменшаў на траціну. Хвалебныя прамовы на адрас беларускага сала не змаўкалі да самага адбою.

* * *

Дачытаў «Белую гвардыю» Булгакава. Раман абрываецца літаральна на паўслове, далей толькі твае ўласныя здагадкі наконт таго, што сталася з галоўнымі героямі.

Уласна, гэта вельмі сугучна з маім цяперашнім становішчам. Магу толькі меркаваць і здагадвацца, што здарыцца ў недалёкай будучыні.

## 4 лютага, пятніца

На ранішнім разводзе Раманоўскі замовіў сустрэчу зь лекарам. Час ішоў, а спатканьня з доктарам усё не давалі. У Сан Саныча нездаровая чырвань на твары. А калі яму дрэнна, ён ня ўмее чакаць. Спачатку ён пастукаў у дзьверы і нагадаў пра сваю просьбу, дадаўшы «калі ласка». Але калі і праз паўгадзіны не было ніякай рэакцыі, Сан Саныч забарабаніў па дзьвярах так, што рэха адгукнулася на ніжніх паверхах сьледчага ізалятара. Кантралёр Васіль паспрабаваў утаймаваць Раманоўскага, але дзе там. Слова за слова, і яны ўжо нагадвалі двух разьюшаных сабак па розныя бакі плота з калючага дроту.

— Ты ўлічы, Васіль, што ў адрозьненьне ад іх (меліся на ўвазе таварышы ў масках) я ведаю, дзе ты жывеш. Глядзі, як бы чаго ня здарылася.

Гэта была адкрытая пагроза. Як ні дзіўна, яна спрацавала. Кантралёр гучна зачыніў вечка, і хвілін праз пяць Раманоўскага запрасілі да лекара. Але Сан Саныч дэманстратыўна, не здымаючы ботаў, выцягнуўся на нарах і заявіў, што адмаўляецца ад наведваньня лекара і будзе паміраць у сваёй пасьцелі.

У гэтай сытуацыі мне падаліся цікавымі паводзіны кантралёраў. Сутыкнуўшыся з жорсткім, на мяжы адчаю, супрацівам пэнсіянэра, яны калі не спужаліся, то вырашылі лепш ня зьвязвацца. Да таго ж, па ўсім відаць, яны ведаюць, хто такі Раманоўскі ці кім ён быў насамрэч і што стаіць за ягонай пагрозай наведаць Васіля ўдома.

Сан Саныч «паміраў» вяла. Пры гэтым не забываў кожныя паўгадзіны зьвяртацца з кароткай казаньню да сваіх прыгнятальнікаў, сканчаючы яе словамі: «І хай гэта будзе на вашым сумленьні».

«Сумленьне» ў камэры больш не зьяўлялася, толькі нечае вока часьцей, чым звычайна, зазірала ўсярэдзіну. Раманоўскаму было дрэнна, але сыходзіць у іншы сьвет ён відавочна не зьбіраўся. А займеўшы ў абед свае лекі, ужо да вечара запатрабаваў ад мяне матчу-рэваншу ў косьці.

* * *

Сёньня ў мяне абноўка: зь перадачай атрымаў шлапакі. Новыя, аранжавыя. Зроблена ў Кітаі. Гэта дадае ўпэўненасьці. Не, не краіна-вытворца, а гумовыя сланцы пад падэшвай. Бо хадзіць у душавой басанож па шчыкалатку ў вадзе, мякка кажучы, не зусім прыемна. Цяпер жа рызыка падхапіць якую заразу зьмяншаецца ў разы.

У парадку адступленьня. Нядаўна хтосьці з асабліва вострым позіркам выкалупаў з рашоткі для сьцёку вады прэзэрватыў, што стала нагодай для ажыўленай дыскусіі пра тое, каму гэта Арлоў здае ў арэнду душавую. А хутчэй за ўсё, лазьню. Дзьверы ў яе вядуць проста з нашай памывачнай. Канцлягер і прытон пад адным дахам, а дакладней, пад адным купалам. КДБ — погляд знутры.

## 5 лютага, субота

Хто яны, людзі, якія глядзяць у вочка? Сцэнарысты, рэжысэры, выканаўцы? Працуюць на сталай аснове або прыкамандзіраваныя? Адміністрацыя СІЗА КДБ. Зразумела, што месца спэцыфічнае. І нават вельмі.

Пра сябе магу сказаць са стоадсоткавай пэўнасьцю, што ніколі б не пайшоў працаваць сюды. Ні за якія пернікі. Але ж нехта павінен рабіць і гэтую працу. Зрэшты, тое, што адбываецца вакол нас і з намі, гэта ўжо ня праца, гэта нешта з арсэналу вайны ці прыёмаў барацьбы без аніякіх правілаў.

Вось жа, давайце пазнаёмімся. Адміністрацыя СІЗА. Ху із ху? Ну, з Арловым усё зразумела. Здаецца, гэтая праца яму сапраўды даспадобы. Ня раз быў заўважаны ў «амэрыканцы» нават у выходныя. Ён тут і бог, і воінскі начальнік. Гэткі Лукашэнка ў мініятуры. Чалавек-матрошка. Такі імпэт ня можа застацца незаўважаным і павінен быць узнагароджаны. Мне здаецца, я нават упэўнены, што як толькі скончыцца ўся гэтая сумятня, Арлоў сыдзе. Ён чалавек-спэцзаданьне. Хутчэй за ўсё, перасядзе на жэрдку вышэй. Так што быць Арлову на добрай пасадзе. Праўда, калі новае спэцзаданьне не падвернецца.

З намесьнікамі Арлова разабрацца пакуль не магу. Гэта непублічныя людзі. Выключэньне — Палкоўнік. І па званьні, і па мянушцы. Ён, здаецца, займаецца гаспадарчымі пытаньнямі. Сярэдняга веку, мажнага целаскладу. Няшумны. Яму пасуе ўсьмешка. Кажуць, да ўвядзеньня ў СІЗА «надзвычайнага становішча» ён усьміхаўся значна часьцей.

Пару разоў заступаў на зьмену ў якасьці дзяжурнага.

А цяпер партрэтная галерэя дзяжурных па СІЗА.

Адзін у званьні прапаршчыка — Віктар Віктаравіч, або Чыкага Булз. Высокі, чарнявы, сымпатычны мужчына. Часам можа нават пажартаваць. Дэманструе ўменьне слухаць, прынамсі зьнешне. У адрозьненьне ад іншых пры абходзе не таўчэцца каля дзьвярэй, а чаканіць два-тры страявыя ўглыб камэры, тым самым як бы скарачаючы дыстанцыю паміж сабой і намі.

Другі — у званьні старшага лейтэнанта. Малады чалавек, які хоча выглядаць старэйшым, чым пазначана ў пашпарце. Старанны служака. Добры на падхваце. Начальства цэніць такіх. «Чаго жадаеце?» — і стук абцасікаў.

Трэці — капітан, або Ганс, здаравеннае, перакормленае медзьведзяня. Аб'ект жартаў і досьціпаў. Чалавек настрою. Але той чамусьці зь ім не сябруе.

Яшчэ адзін капітан — Міхал Міхалыч, невысокі, сьветлавалосы, негаваркі таварыш. Такі растворыцца ў натоўпе — і не заўважыш. Скажа, і не адразу зразумееш, чыя гэта думка.

На кожнай зьмене, акрамя дзяжурнага, яшчэ чатыры кантралёры. Яны ў сталым кантакце з падсьледнымі. Выводзяць на шпацыр, у туалет, раздаюць ежу, праводзяць асабісты агляд, назіраюць, кантралююць. У асноўным гэта маладыя людзі 25–35 гадоў. А яшчэ ў абавязкі кантралёра ўваходзіць кожныя 15 хвілін падглядаць у дзьвярное вочка. Ідэнтыфікацыйных бірак у іх няма, толькі зялёны камуфляж. Затое ў кожнага ёсьць мянушка. Прычым, як правіла, адных і тых жа

кантралёраў кожная камэра называе па-рознаму. Да прыкладу, сёньня на зьмене Баптыст, Васіль, Вадзік, Дыджэй.

У дваіх, трэба разумець, сапраўдныя імёны, дадзеныя бацькамі пры нараджэньні. Баптыст — малады, вонкава сымпатычны хлопец, але адзін з асноўных прэтэндэнтаў на тытул «Галоўная сволач СІЗА». Васіль — весялун і жартаўнік, але, як і Баптыст, разам з маскамі бярэ актыўны ўдзел у стадных оргіях. Вадзік — невысокі, чарнявы, з круглявымі формамі. Негаваркі, ва ўчынках залежыць ад настрою. У зьдзеках актыўнасьці не праяўляе. Дыджэй старэйшы за сваіх таварышаў па зьмене і найбольш адэкватны з усёй чацьвёркі. У імпэце насаліць і напаскудзіць не заўважаны. Калі іншыя шалеюць ад усёдазволенасьці, гэты лепш пабудзе ўбаку. Яго можна пра што-небудзь папрасіць, напрыклад, даць кіпяцільнік або таблетку ад болю, і пры гэтым не нарвацца на хамства і абразы. Аматар музыкі — адсюль і мянушка. Ягоныя зьмены самыя музычныя: можна пачуць і Шаўчука, і Цоя, што, безумоўна, выклікае сымпатыю.

* * *

Сан Саныч сёньня зноў «паміраў» і патрабаваў лекара. Дайшло да таго, што дзяжурны прыйшоў з апаратам мераць ціск і на нейкі час ператварыўся ў сястру міласэрнасьці. Раманоўскі міма свайго ня пройдзе — лекі, кіпяцільнік і ашчадны прагон праз «камэру катаваньняў». З паршывай авечкі хоць воўны жмут.

## 6 лютага, нядзеля

Новы дзень — новая зьмена. Кантралёры заступаюць на дзяжурства а шостай раніцы, і нейкі час у СІЗА знаходзяцца адначасова дзьве зьмены. Сёньня самая адэкватная: Раман-малодшы, Раман-старэйшы, Малады, Капцёршчык.

Два Раманы наагул здаюцца чужароднымі ў гэтым асяродзьдзі. Старэйшы зь першага дня зьвяртаецца да мяне выключна на імя і па бацьку. Ураўнаважаны, я б нават сказаў, інтэлігентны. Так-так! Разумею, што гэта гучыць непраўдападобна, але хачу быць справядлівым да ўсіх без выключэньня.

Раман-малодшы з таго ж цеста. Да сёньняшняга дня ня бачыў яго датычным да ніводнай подласьці, да ніводнай несправядлівасьці. Здаецца, ён імкнецца жыць паводле правілаў, якія да 19 сьнежня віселі ў кожнай камэры. І гэта яму ўдаецца. Малады вонкава вельмі падобны да Рамана-старэйшага. Мне часам здаецца, што гэта яго сын. Як правіла, яны ў адной зьмене. На ўсё, што адбываецца вакол, ён глядзіць шырока расплюшчанымі вачыма.

Капцёршчык — адкрыты каньюнктуршчык і кар’ерыст. Трымае нос па ветры. У прысутнасьці начальства крыклівы і прыдзірлівы, у каапэрацыі з маскамі паводзіць сябе разьвязна і цынічна.

Калектыўны партрэт кантралёраў будзе няпоўны без апісаньня яшчэ адной зьмены: Цыбаты, Вялікі, Якут, Лысы.

Першыя два — закончаныя флегматыкі. Здаравенныя дзецюкі, у рэжыме раскладанкі — пад два мэтры кожны. Прымітыўныя і старанныя. У параўнаньні з тым жа Баптыстам ня шкодныя, але

калі загад атрыманы, то будуць рыць. Нетаропка, але старанна і пільна.

А вось у барацьбе за тытул самага шкоднага кантралёра «амэрыканкі» канкурэнцыю любому можа скласьці Якут. Несамавітага выгляду, шырокі ў касьцях, вузкавокі. І бясконца злы.

Нарэшце, Лысы. Ён доўга быў за капцёршчыка. Насіў перадачы, а гэта, трэба разумець, прывілеяваная функцыя. Нічым надта не вылучаецца — так, ні тое, ні сёе. Хіба што вонкава запамінаецца: лысы чэрап, як голае калена.

Ёсьць яшчэ жанчына ў зялёным. Яна, здаецца, стаханаўка і шматстаночніца: і сакратар-справавод пры начальніку СІЗА, і паштальён, і канваір падсьледных жанчын. Вонкава прыемная, бялявая. Але як яна можа працаваць, жыць, дыхаць у гэтай агіднай, сьлізкай сыстэме, дзе лёгка зрабіць хібны крок, дзе можна хутка стаць чэрствым мярзотнікам?! Ня ведаю, але пра гэта думаю.

Ёсьць яшчэ і байцы нябачнага фронту — цэнзары. На іх у мяне, здаецца, самы вялікі зуб. Я іх ня бачу, але адчуваю. Уяўленьне чамусьці малюе такога таўстамордага, раскормленага лысага таварыша. Над верхняй губой шчотачка вусоў, на буйным мясістым носе — пэнснэ. Зрэшты, якія накіды ні рабі, на партрэце ўсё роўна выходзіць Лаўрэнці Берыя.

* * *

Выходжу з хваробы. Гэта мой новы рытм жыцьця — увайсьці, каб выйсьці. І як мага хутчэй. Зноў уваходжу ў стан хваробы і зноў зь яго выкараскваюся. Ніколі ў жыцьці зь мяне не вылазіла столькі балячак, колькі тут, у СІЗА. Як толькі робіцца лепш,

даю арганізму фізычную нагрузку. Па поўнай праграме. Напэўна, гэта насуперак усялякім правілам і мэтодыкам, але тут я сам сабе рэжысэр.

* * *

Чытаю Бальзака і знаходжу паралелі з днём сёньняшнім. Глытаю Анарэ маленькімі глыточкамі. Як каву. Цешуся стылем. Часам нават забываю, дзе я. Гэта хвіліны, але дзякуй Богу, што яны ёсьць, бо, выйшаўшы са сьвету віртуальнага, ты знаходзіш сябе там, дзе ня хочацца быць і хвіліны. Бальзак — пісьменьнік з далёкага дзяцінства. Бацька сабраў нядрэнную хатнюю бібліятэку. І я чытаў запоем усё спрэс. Францускі пісьменьнік быў адным зь першых, каго я адужаў. Некаторыя апавяданьні перачытаў вось толькі цяпер, гадоў праз сорак.

* * *

Злавіў сябе на тым, што даволі доўга разглядаю таўшчыню жалезных пруткоў на акне. Цікава, за колькі хвілін я змог бы перапілаваць іх? Пры ўмове, што калі зраблю гэта за фіксаваны час, то платай будзе свабода.

## 7 лютага, панядзелак

Дзень коціцца па нахіленай. У апраметную цемры. Няма пазытыву, за які можна было б зачапіцца ўвагай альбо эмоцыямі. Караскаесься да лепшага, але ўвесь час зрываесься, сасьлізгваеш альбо ў спартзалю да «сьцяны катаваньняў», альбо ў дворык для шпацыраў з шэрымі, дэпрэсіўнымі сьценамі, альбо ў бачок, дзе плаваюць мандарынавыя лупіны. Дый фізычны стан пакідае жадаць лепшага. Моцна баліць горла. Да абеду так і не

ўдалося ўгаварыць ахоўнікаў прынесьці кіпяцільнік, каб згатаваць вады. Кожны глыток адгукаецца болем. А хандра і балячкі — слабая матывацыя, каб расчахліць асадку і перавесьці тое, што адбываецца, на мову застылых на паперы словаў і фразаў. Таму да вечара на старонцы дзёньніка, пазначанай сёньняшнім днём, усяго дзясятак радкоў...

Але цуды здараюцца! Усё зьмянілася. У лічаныя сэкунды. З апраметнай я ўзьляцеў на найвышэйшую вяршыню чалавечага шчасьця. Вышэй толькі зоркі. Вось дык так! Здарылася неверагоднае! Нечаканае, але страшэнна радаснае і прыемнае.

Прынесьлі пошту. Я ўжо выпрацаваў імунітэт да гэтага балючага для мяне пункту распарадку дня. У гэтыя хвіліны стараюся заняць сябе хоць нечым. Вось і цяпер, пакуль разьбіралі пачак канвэртаў, я нырнуў думкамі і рукамі ў пакет і пачаў наводзіць парадак сярод акуратна складзеных маек і шкарпэтак. Калі за сьпінай пачуў: «Анатоль, танцуй!» — нават не адразу зрэагаваў. Відаць, пачулася. Трохі насьцярожыўся, але нават не павярнуўся. Але тут калектыўны выдых зь некалькіх глотак: «Ліст, табе ліст!» Толькі тут мяне ўдарыла, страсянула.

Крутануўся вакол восі і на адлегласьці выцягнутай рукі ўбачыў даўгаваты канвэрт. Нyраю наперад, выхопліваю каштоўны чатырохкутнік. Вядома ж, я пазнаў гэты почырк. Гэта рука майго сынулі. Дрыготкай рукой разрываю канвэрт. Палавінка аркуша фармату А4. Тры радкі.

*Прывітаньне! У нас і сваякоў усё добра!*
*Сумуем. Любім!!!*
*Арцём. Сьвета.*

Упершыню я не кантраляваў сябе! Душуся сьлязой. Лыпаю вільготнымі вейкамі. Мяне расьпірае

ад эмоцыяў. Зрабілася горача. Фу ты! Вакол мяне шчасьлівыя твары сукамэрнікаў, і я разумею, што гэта люстэрка мяне самога. Я шчасьлівы! Божа мой, аказваецца, нават тут, у клетцы, можна адчуваць сябе абсалютна шчасьлівым чалавекам. Няхай хвіліну, няхай чвэрць гадзіны. А да гэтага было столькі пахмурных дзён, захутаных у чорны вэлюм тыдняў. І дзень сёньняшні быў ксэракопіяй папярэдніх. З шумам у вушных ракавінах, з хрыпамі ў горле, з стрэмкай тугі. І раптам такі кульбіт! Шчасьце ўвалілася ў камэру ахапкам пазытыўных эмоцыяў.

Кожныя паўгадзіны бяру ў рукі канвэрт, вымаю аркушык. Чытаю. Перачытваю. Хутка. Павольна.

Тое, што навокал, перастала для мяне існаваць. Сышло кудысьці на задворкі ўвагі. ТБ «амэрыканкі» вяшчае пра таталітарныя сэкты і шпіёнаўздраднікаў. Але мяне сёньня тут няма. Я ў сваіх разважаньнях, я ў сваіх марах.

Часам у нас пытаюцца: што такое шчасьце? Сёньня я ведаю адказ на гэтае пытаньне!

## 8 лютага, аўторак

Узьніклі праблемы з страваваньнем. Уночы прачнуўся ад непрыемнага бурчаньня ў жываце. Потым бурчаньне зьмянілася рэзьзю. Дзіўна, раней такіх праблемаў не было. Учорашняя трапэза, у прынцыпе, нічым не адрозьнівалася ад рацыёну папярэдніх дзён. На просьбу прынесьці актываваны вугаль ахоўнікі параілі дачакацца сустрэчы зь лекарам. Чакаць давялося на бачку з мандарынавымі лупінамі. Дэманстратыўная абыякавасьць людзей у пагонах спараджае такі згустак адмоўных эмо-

цыяў, што яго хочацца неадкладна выплюнуць, і пажадана ў твар, што па той бок дзьвярэй. Бо тут, калі чалавек сыгналізуе пра праблему, значыць, яму сапраўды дрэнна. І што ў адказ? За табой назіраюць у адтуліну кармушкі. І калі бачаць, што ты рухаесься, чуюць, што ты можаш падтрымліваць размову, гэтым цалкам задавальняюцца. Ня ведаю, у якім стане трэба быць, каб гэтыя самцы, маладыя, здаровыя, аказалі элемэнтарную дапамогу. Проста адчынілі шуфляду і выдалі твае ж лекі. Сукі! Мярзотнікі! Зь мяне перла лаянка.

Да лекара я трапіў толькі пад абед. Раніцай абмежаваўся моцнай гарбатай, але гэта мала дапамагло. Я вінавата прасіў прабачэньня перад хлопцамі і пэрыядычна мусіў сядаць на бачок. Попыт на мандарынавыя лупіны рэзка павялічыўся.

Новы твар у камэры — заўсёды падзея. Ён — крыніца сьвежай інфармацыі і новых тэмаў для гутарак. Калі чалавек трапляе ў «амэрыканку» адразу зь «Вялікай зямлі», то ўсё ім сказанае пазначаецца як «навіна». Але, бывае, перасяляюць зь іншых камэр. Тады можна даведацца, чым жыве наш сусед або сусед суседа. Мабыць, ёсьць унутранае правіла пэрыядычна тасаваць кантынгент «амэрыканкі». У дадзеным выпадку гэтае правіла нам на руку.

Сёньня такі дзень. У нас папаўненьне. Уладзімер Яроменак. Яшчэ адзін з Плошчы. Навічок невысокага расточку, такі сабе баравічок са сьветлай шапкай валасоў. Этапаваны з аднае спэцустановы ў іншую. З Акрэсьціна ў «амэрыканку». Сьледчы, які вядзе яго справу, — з сыстэмы МУС. Выходзіць, на «Валадарцы» зусім дрэнна з койка-месцамі.

Перш за ўсё прапанавалі навічку «падсілкавацца». Адчувалася, што на Акрэсьціна сядзельцы

не жыруюць. Валодзя з апэтытам грыз каўбасу, жаваў сала, храбусьцеў абаранкамі. Скончыў трапэзу — і па твары паводкаю разьлілася ўсьмешка. Твар сапраўды шчасьлівага чалавека! Ну, гэты прыжывецца і адаптуецца без праблемаў, падумаў я, гледзячы на Ўладзімера, які ўжо сядзеў за шашачнай дошкай.

Інтэграцыя ў новае асяродзьдзе — працэс няпросты, а часьцяком і балючы. Далёка ня кожны здатны адаптавацца. І палітычныя — не выключэньне. Гэта не здагадка, гэта дакладная інфармацыя, якая працочваецца праз сядзельцаў, якія мігруюць сюдытуды. За гэты час мне ўдалося скласьці ўяўленьне, у якім фізычным і маральным стане большасьць фігурантаў гучнай справы. І, магу сказаць, дыяпазон настрояў вельмі шырокі. Мне распавядалі, як вядомыя, публічныя людзі ў камэры ператвараліся ў зацкаваных, замкнёных у сабе зьвяркоў. Іншыя палка даводзілі сукамэрнікам, што на плошчы яны апынуліся зусім выпадкова. Трэція нэрваваліся так, што ледзь прытомнасьць ня трацілі.

Ня буду казаць, хто, па назіраньнях сядзельцаў, слабое зьвяно. Ня буду гэтага рабіць зь дзьвюх прычын. Па-першае, таму, што маці нараджаюць сваіх дзяцей не на тое, каб зь іх рабілі цьвікі. Каб судзіць іншых, трэба пабыць тут. Тыя, хто тут прабыў хоць пару тыдняў, судзьдзямі быць не імкнуцца. Не патрабуйце немагчымага. Сьляпы ня можа бачыць. Глухі ня ў стане чуць. Нямы ня здольны размаўляць. Мы ўсе бываем у становішчы глуханямога сьляпога. Галоўнае, каб ня ўсё жыцьцё. І, па-другое, нельга выключаць, што інфармацыю нам пастаўляюць з пэўнай мэтай.

Але ні хвіліны не сумняваюся, што Ірына Халіп,

Мікалай Статкевіч, Дзіма Дашкевіч, Паша Севярынец, Наста Палажанка, Дзіма Бандарэнка, Наташа Радзіна дый многія іншыя фігуранты «справы дзекабрыстаў» годна выйдуць з гэтай больш чым складанай сытуацыі. Проста я ведаю іхнюю «крэдытную гісторыю».

## 9 лютага, серада

На шпацыры заўважыў, як адзін з сукамэрнікаў падкаціў да Яроменка і шэптам стаў пра нешта пытацца. Нешта пра Плошчу. Мы тоўпіліся ў пятым дворыку. Тут не разгонісься. Ідучы, кожны сядзіць на плячах таго, хто папераздзе. Мусім хадзіць па крузе паравозікам. Я прыпыніўся, прапусьціў пару чалавек і, прыладзіўшыся за Уладзімерам, шапнуў яму: «Ты, дружа, ня надта пускайся ў шчырасьць. Тут гэта небясьпечна». Хлопец з разуменьнем кіўнуў, і мы пакаціліся далей па нябачных рэйках.

Як выявілася, Валодзю забралі ўжо другім наваратам, на акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі, то бок з намі.

— Чаго цябе панесла нялёгкая яшчэ раз на плошчу? — пытаем мы з Аляксандрам Арастовічам Уладзімера.

— Ну а як жа інакш? — у вачах шчырае зьдзіўленьне. — Мы ж павінны быць разам, мы павінны падтрымліваць адзін аднаго.

Далей было апісаньне таго, што адбылося.

— Нас выйшла чалавек дзесяць. Прастаялі на плошчы Незалежнасьці нядоўга, пару хвілін. Невядомыя ў цывільным і спэцназаўцы літаральна занесьлі ўсіх нас у аўтазак. Потым хуткі суд. Нам нават рота не далі адкрыць. Усіх на Акрэсьціна.




Працоўная сустрэча бэк-офіса

Справа звыклая. І калі я ўжо смакаваў выхад на свабоду, прыйшлі ў цывільным і павезьлі. Цяпер вось я тут. І, здаецца, надоўга.

Эх, Воўчык, Воўчык! Вядома, прыемна, што ты хацеў выказаць салідарнасьць з намі, тымі, хто ўжо сядзіць. Але рызыкаваць і ахвяраваць сабой ёсьць сэнс тады, калі гэта можа нешта зьмяніць, а ня з кожнай нагоды. Бо ўжо было зразумела, што па краіне пайшла хваля пагромаў, што гэты каток працягвае душыць усіх, хто хоць неяк пазначае сваю пазыцыю, свой пратэст, сваю нязгоду. А тут ясна, што ў трэцякурсьніка-бюджэтніка Яроменка будуць вялікія праблемы з працягам вучобы. Наўрад ці гэтая навіна ўсьцешыць ягоных бацькоў у Мёрах. Яны і не здагадваюцца, дзе цяпер іх сын і што яго можа чакаць у пэрспэктыве. Адвечнае пытаньне «бацькі і дзеці». Далёка не заўсёды тут кансэнсус і паразуменьне.

І ўсё ж у гэтай бесшабашнай ахвярнасьці Ўладзімера было нешта такое, з-за чаго язык не паварочваўся моцна лаяць яго. Хутчэй наадварот, недзе

ўсярэдзіне варухнулася нейкае цёплае пачуцьцё да гэтага мацака. Каб жа болей такіх хлопцаў!

* * *

Час па абедзе правялі ў гутарках з навічком. Яроменак у падрабязнасьцях распавёў пра свае адседкі спачатку ў Жодзіне, а потым на Акрэсьціна. Зь ягонага аповеду я зразумеў, што ў ЦІПе на Акрэсьціна сядзеў і наш Сева Шашэрын. Яны перагаворваліся праз вэнтыляцыйную выцяжку. Там гэта лякальная тэлефонная сувязь.

## 10 лютага, чацьвер

Яшчэ адна навіна ад Раманоўскага. Аказваецца, Сан Саныч — аднаклясьнік экс-пракурора Сьнегіра, чыя справа была рэзананснаю і гучнаю. Як я зразумеў, апошнім разам Сан Саныч перасякаўся са Сьнегірам ужо тут, у сьценах «амэрыканкі». «Добры мужык! Моцна стаіць на нагах і ўдар трымаць можа» — гэта характарыстыка ад Раманоўскага.

Мае ўспаміны пра Сьнегіра таксама ня самыя горшыя. У Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня ён хоць і ўваходзіў у прапрэзыдэнцкую парлямэнцкую фракцыю «Згода», але ў якіхсьці адыёзных дзеяньнях заўважаны ня быў. Ня пырскаў сьлінаю ад мікрафона, абараняючы «Чырвоны дом». Да таго ж яго прозьвішча часта было сярод тых, хто падтрымліваў ініцыятывы нашай апазыцыйнай фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне», асабліва калі справа тычылася законапраектаў у эканамічнай сфэры.

Праз былога намесьніка генпракурора і экс-дэпутата Сьнегіра зачапіліся за тэму парлямэнту і выбараў. Угрузьлі ў дыскусіі. Галоўнае пытаньне: удзельнічаць ці ігнараваць? Думкі падзяліліся. Калі

Арастовіч абгрунтоўваў важнасьць камунікацыяў і працы зь людзьмі, то Рамаоўскі са звыклай катэгарычнасьцю адрэзаў: уладу трэба браць сілай! Уладзімер, здаецца, больш быў схільны падтрымаць радыкальную пазыцыю Сан Саныча.

На мой жа погляд, праўда была недзе пасярэдзіне. Вось у 2001 годзе мы ігнаравалі, байкатавалі выбарчую кампанію. І тады гэта было лягічна, бо нам навязвалі новыя правілы гульні. Праз незаконны антыканстытуцыйны рэфэрэндум, праз фізычны разгон парлямэнту і Канстытуцыйнага суду.

У 2004 і 2008 гадах апазыцыя брала ўдзел у выбарчых кампаніях. І гэтаму было сваё тлумачэньне. Уладзе ўдалося прапанаваць насельніцтву сацыяльны кантракт, які задавольваў большасьць людзей. Любыя радыкальныя, катэгарычныя сцэнары выбаршчык адрынуў бы альбо не пачуў.

Я толькі хачу падкрэсьліць, што ідэальных рашэньняў не існуе. Правільнае рашэньне — такое, калі плюсы пераважаюць над мінусамі.

Але калі б сёньня мне прапанавалі прыняць рашэньне аб удзеле ў парлямэнцкай кампаніі, то мой адказ быў бы — «не». Гэтаму ёсьць абгрунтаваньне. І абломкі прэзыдэнцкай кампаніі, пад якімі мы цяпер апынуліся, тут ні пры чым. Зразумела, што параўноўваць прэзыдэнцкія і парлямэнцкія выбары нельга. Большасьць выбаршчыкаў разумеюць, што толькі ў парадку дня прэзыдэнцкіх выбараў стаіць пытаньне ўлады, а значыць, і пераменаў. У краіны зьяўляецца шанец, а ў людзей, адпаведна, матывацыя рызыкаваць, змагацца, выходзіць на плошчу.

Зусім іншая рэч — Палата прадстаўнікоў, якая па сваёй сутнасьці і функцыі — аддзел адміністрацыі Лукашэнкі. Гэта пятае кола ў сыстэме кіраваньня.

Прызначаныя дэпутаты — як тыя сланечнікі, увесь час зьвернутыя тварамі да таго, хто іх прызначыў. Зразумела, што ў такой пазыцыі выбаршчык бачыць хіба што пятую кропку «народнага абраньніка». За гэтыя гады адбылася моцная дэвальвацыя інстытуту парлямэнтарызму. Лукашэнка адсек тры незалежныя галіны ўлады. Замест іх цяпер адзін ствол — збройны.

У парлямэнцкай кампаніі 2008 году мы мелі вельмі моцную каманду кандыдатаў у дэпутаты, разумную, добра прапрацаваную праграму, накіраваную ня толькі на прыхільнікаў пераменаў, але і на тых, хто вагаецца. А што на выхадзе? Што ў выніку? Нашы мандаты скралі. Нахабна і бесцырымонна. Улада адабрала і прызначыла 110 дэпутатаў. Правільна было б называць іх не дэпутатамі, а чыноўнікамі. Больш за тое, наш удзел дазваляў частцы людзей даць веры, што ў краіне сапраўды праходзяць выбары. Мы, вядома, гаварылі пра фальсыфікацыі, пра загадзя выведзеныя патрэбныя выніковыя лічбы ў пратаколах. Але трэба прыняць да ўвагі, што кандыдату ў дэпутаты даецца ўсяго толькі пяць хвілін, каб выступіць на тэлебачаньні, і столькі ж — на радыё. Гэта мізэрны час. Сказаць усё фізычна немагчыма. Таму асноўная вестка гучала так: прыйдзі і прагаласуй за мяне! Яна была дамінуючай і глушыла заявы, што, маўляў, у нас няма выбараў, што ніхто ня лічыць галасы. Людзі ішлі на выбарчыя ўчасткі, і многія, сьмею сьцьвярджаць — большасьць, аддавалі свае галасы Сашу Дабравольскаму, Станіславу Багданкевічу, Людміле Пецінай, Марату Афанасьеву, Юрыю Істоміну, Валодзю Шанцаву, Валянціне Палевіковай, Васілю Палякову і іншым маім паплечнікам. Нашы про-

зьвішчы ў выбарчых бюлетэнях сталі падставай для разважаньняў. Тым, хто прыйшоў на выбарчы ўчастак, ніхто не выкручваў рукі з патрабаваньнем галасаваць за кагосьці канкрэтна. Выбаршчыкі самі рабілі свой выбар. І раптам праз некалькі дзён яны даведваюцца, што іхні кандыдат-апазыцыянэр так і ня стаў дэпутатам. Як жа так?! За яго ж галасаваў сам выбаршчык, яго жонка, яго сусед, калега па працы! І ў ходзе наступных сацыялягічных апытаньняў большасьць выбаршчыкаў казалі, што выбары былі свабодныя і справядлівыя.

Што рабіць у такой сытуацыі? Выйсьце адно: не гуляць па правілах улады, а прапаноўваць свае сцэнары. Альтэрнатывы я ня бачу.

* * *

Зноў чакаю паштальёна. Ужо трэці дзень. Мой арганізм, цела, мозг патрабуюць новай энэргетычнай падзарадкі. Чакаў ліста пазаўчора. Учора. Чакаю і сёньня. Адразу па вячэры на вечка, што адвалілася ад дзьвярэй, упаў канвэрт. Усяго адзін. Я ўжо пасьпеў падумаць, што ня мой дзень, як раптам вокліч: «Анатоль, танцуй!» Я хуценька выдаў нешта накшталт танцавальных па і выхапіў з рук Аляксандра даўгаваты канвэрт. Гэтым разам некалькі радкоў напісаныя рукой маёй любай.

*Родны наш, прывітаньне!*

*Вельмі коратка: у нас усё добра.*

*Усе жывыя і здаровыя. Перажываем і хвалюемся толькі за цябе!*

*Беражы сябе! Цалуем!!!*

Не стрымаўся, прыпаў вуснамі да ліста. Здалося, што адчуваю пахі. Дома, Сьвятланы. Яны прыемна казыталі, узбуджалі, бударажылі. За-

кружылася галава. Гэта не хваравітае, гэта прыемнае галавакружэньне. Усяго пяць радкоў, але на іх перачытваньне пайшоў увесь астатні вечар.

Адзінае, на што адхіліўся, дык гэта на чатырохрадкоўе, якое нарадзілася падчас чытаньня ліста:

*Семь недель — большое расстояние.*
*Слабый не пройдёт его.*
*Бог даёт нам испытание,*
*И получим всё иль ничего.*

А з падзеяў дня, які я не без задавальненьня закрэсьліў крыжыкам у самаробным календары, можна згадаць хіба што харчовы паёк са спэцкрамы. У пару ён прыбыў, бо прадуктовыя запасы вычарпаліся да крытычнага мінімуму, нават хлеба не застаецца, на стале адны крошкі. Праўда, забіваньне страўніка хлебнай масай не праходзіць бясьсьледна — усе калектыўна цярпім на пякотку.

### 11 лютага, пятніца

Дзень згасае. Вецер вылятае аднекуль з-за рога і бездапаможна ўдараецца ў глухую сьцяну будынка. І кожны такі ўдар суправаджаецца гукам, падобным да ўсхліпу дзіцяці. Жудасны сьпеў стыхіі, якая заблукала ў падваротнях КДБ.

Пад гэты акампанэмэнт спрабую засяродзіцца на пісаньні ліста. Перад вачыма застылі радкі: «Я не зрабіў нічога, за што мне асабіста, вам ці бацькам было б сорамна. І ноччу я сплю як чалавек, які ў згодзе са сваім сумленьнем».

Напісанае — не перабольшаньне. Ня раз даводзілася тут чуць: «Ну, Правадыр, у цябе і нэрвы! Толькі даткнуўся да падушкі — і ўжо сьпіць». Што ж, гэта сапраўды мой плюс. Каб арганізм акрыяў

пасьля дня на нэрвах, патрэбен паўнавартасны сон. Калі ў студзені мне не дазвалялі спаць па начах, то дзень быў — як сплюшчаны ў гармонік пасьля аварыі аўтамабіль. І тады — дзе сеў, там і заснуў. Урыўкамі, кавалкамі, шматкамі. Цяпер начныя катаваньні спыніліся, і арганізм карыстаецца момантам.

Што мне дапамагае? Сярод іншага — здольнасьць пераносіць боль і фізычныя нагрузкі. Гэтыя якасьці не набудзеш з уласнай ахвоты, не пазычыш у суседа, ня возьмеш у крэдыт у банку. Іх я зьбіраў у сабе паўстагодзьдзя. У хакейных баталіях на замерзлай сажалцы, у штодзённых шасьцікіляметровых «марш-кідках» у школу і назад, за штурвалам збожжаўборачнага камбайна, на ўпараным кані, які нясецца па сельскай бездаражы, у вайсковых ботах і гімнасьцёрцы з рагамі поту пад пахамі.

Гучыць непраўдападобна, але ў войска я трапіў праз блат. Пасьля інстытуту — лепшы студэнт гістарычнага факультэту, імянны стыпэндыят, круглы выдатнік — я павінен быў атрымаць накіраваньне ў асьпірантуру. Аднак паводле добрай савецкай традыцыі ў апошні момант яго аддалі дачцэ міністра лясной гаспадаркі. Дзьверы ў навуку зачыніліся, затое адкрылася пэрспэктыва бліжэй пазнаёміцца зь цешчай. Так мы з жонкай Сьвятланай, выпускнікі гістфаку, апынуліся ў Ашмянах, якія меліся стаць маім галоўным палітычным унівэрсытэтам. Для пачатку атрымаў пасаду — стаў намесьнікам дырэктара па выхаваўчай працы ў школе-інтэрнаце. Кантынгент няпросты: дзеці-сіроты і дзеці зь няўдалых сем’яў. Але я знайшоў зь імі агульную мову, дамогся паразуменьня.

Мы вычысьцілі ад сьмецьця падвалы. Памяш-

каньні, якія засталіся ў спадчыну ад панскіх часоў, аказаліся вялікімі, прасторнымі. Так зьявілася выдатная трэнажэрная заля, зь вялікімі люстрамі, у якіх мае выхаванцы не безь цікаўнасьці разглядалі свае худыя целы. І, што самае галоўнае, там заўсёды было поўна народу — выхаванцы спачатку адно пазіралі, а потым і саплі, крахталі над жалезам.

З школы зьнік камсамол, затое зьявіўся аматарскі тэатар, і на сцэну пацягнуліся юныя таленты. Пазьней аднаго зь іх, Ваню Ўшакевіча, я сустрэў у Менску ўжо акторам сталічнага тэатру.

А яшчэ цэлы год усе, ад малога да вялікага, рыхтаваліся да мерапрыемства, якое завецца «Кляс-кілямэтар». Палягала яно ў тым, што першаклясьнік павінен быў прабегчы кілямэтар, а дзесяціклясьнік — дыстанцыю ў дзесяць разоў даўжэйшую. Бегалі ўсе, і выхаванцы, і выхавальнікі!

І неяк неўпрыкмет зьніклі з спальняў «бычкі». Курыць ужо не лічылася чымсьці крутым. Крута было разоў дзесяць зрабіць пад'ём пераваротам або 24-кілярамовую гіру падняць разоў гэтак …наццаць.

Усё было добра. Бянтэжыла мяне адно. У маім уяўленьні мужчына павінен не ўцякаць ад цяжкасьцяў, а пераадольваць іх. Сапраўдны мужык і армія — у тыя часы гэтыя паняцьці былі для мяне, як патроны з адной абоймы. Але мой тагачасны бос, дырэктар школы, меў іншыя ўяўленьні пра абавязак. Да таго ж у яго былі на мяне сур'ёзныя віды. У раёне ў Захаркевіча ўсё было схоплена, у тым ліку і ваенкамат.

Але бязвыходных сытуацыяў не бывае. Калі вы штурхаеце дзьверы, а яны не адчыняюцца, не канечне трэба выносіць іх плячом. Часам дастат-



Пікет зьбіраць подпісы 29 кастрычніка 2010 г. Прыўкрасная Выбарніца, Анатоль Лябедзька і Яраслаў Раманчук

кова пацягнуць дзьвярную ручку на сябе. Давялося маім бацькам праз знаёмага ў сілавых структурах у сталіцы арганізоўваць мой прызыў у войска. Як на цяперашні час, гэта здаецца неверагодным, і шмат хто можа пакруціць пальцам ля скроні. Але так было! Пасьля званка зь Менску пытаньне вырашылася ў лічаныя дні. Апынуўся пад Падольскам,

у вучэбнай часьці, дзе рыхтавалі спэцыялістаў для войскаў СПА.

Войска адкрыта расчаравала. Крыклівыя прапаршчыкі, балбатлівыя палітрукі. Усё проста, прымітыўна, зь перавагай шэрых тонаў. Ніякіх інтэлектуальных вяршыняў, суцэльныя спускі. Мусіў пайсьці на пошукі нішы для самарэалізацыі. І я налёг на спорт! Прычым грунтоўна. Спачатку зьявіўся энтузіяст зь Берасьця, у якога замест вушэй вісела нешта бясформеннае, зморшчанае, быццам шматкі анучы, якой падлогу мыюць. Майстар спорту па вольнай барацьбе. Потым адшукалі на складзе прафэсійны барцоўскі дыван. Пасьля гэтага арганізавалі чэмпіянат часьці па барацьбе. Мой новы прыяцель зь Берасьця навучыў мяне парытройцы прыёмаў, і я пайшоў валіць-крышыць разраднікаў і кандыдатаў у майстры. Зь першага заходу стаў прызэрам часьці па вольнай барацьбе. Потым падсеў на гіры і праз месяц меў першы разрад па гіравым спорце. Заняўся пад’ёмам пераваротам на перакладзіне і праз паўгода круціў пад дзьвесьце разоў.

Вайсковая служба — гэта ня тое каб страчаны час, хутчэй гэта час малых набыткаў. Такія былі тады мае адчуваньні. Праўда, паступова яны праходзілі рэвізію і карэкцыю.

Вярнуўся ў Ашмяны праз паўтара года. Па кватэры бегаў паўтарагадовы карапуз, мой сынуля Арцём. Ён нарадзіўся праз месяц пасьля таго, як мяне пастрыглі нагала і выдалі камплект абмундзіраваньня, уключна зь белымі анучамі.

Аднак потым факт службы ў войску сыграў для мяне пазытыўную ролю. Гэта было ўжо ў парлямэнце. Сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га

скліканьня была група квотнікаў — вэтэранаў вайны. У парлямэнт іх ніхто не выбіраў, яны трапілі сюды праз адмысловую квоту. Некалькі генэралаў і палкоўнікаў. У запале палемікі, калі заканчваўся боекамплект аргумэнтаў, яны выдзіралі чэку галоўнага пытаньня: а ты ў арміі служыў? Адмоўны адказ аўтаматычна ставіў на табе крыж. Яны цябе проста не заўважалі. Ты імгненна рабіўся другога гатунку чалавекам.

І вось цяпер я, здаецца, паўторна атрымліваю дывідэнды з таго далёкага мінулага. Фізычны капітал, набыты даўным-даўно, пачынае аддаваць працэнты.

## 12 лютага, субота

Сёньняшні дзень прынёс новую займальную гісторыю на тэму таго, што здаралася з палітвязьнямі ў «амэрыканцы». Распавёў яе таварыш Раманоўскі, і прысьвечана яна была таварышу Вазьняку.

Трохі абжыўшыся ў камэры і акрыяўшы, Сяргей Вазьняк заступіў на дзяжурства. І, па ўсім відаць, былы вайсковец, а цяпер палітвязень вырашыў зрабіць уражаньне на сукамэрнікаў і дзяжурнага па СІЗА. Маўляў, глядзіце, як трэба рабіць узорнапаказальныя даклады!

Не пасьпеў дзяжурны Ганс занесьці сваё цела ў камэру, як Вазьняк страявым, чаканячы крок, рушыў насустрач і добра пастаўленым голасам пачаў рапартаваць атарапеламу капітану. А ў канцы дакладу паставіў тлустую кропку: «Даклад скончаны. Маёр Савецкай Арміі Сяргей Вазьняк».

Задаволены сабой маёр трымаў грудзі як кола. І раптам па ўкормленым Гансавым твары прабегла

зьдзіўленьне, якое зьмянілася непаразуменьнем: «Што-о-о?!» — закрычаў кадэбэшнік. «Маёр Вазьняк», — Сяргееў голас зрабіўся на паўтона ніжэйшы і цішэйшы. «Што-о-о?!» — перакошаны ад шаленства твар капітана торгаўся і гарлаў адначасова. «Падсьледны Вазьняк», — патухлы голас Сяргея быў блізкі да шэпту.

Як толькі за Гансам зачыніліся дзьверы, камэра захлынулася рогатам. Вось гэта ўзорна-паказальны даклад!

Ну што ж, людзі, якія ня страцілі ў «амэрыканцы» здольнасьці сьмяяцца, — рэальныя аптымісты. Люблю я гэтую катэгорыю людзей. Напэўна, пэсымісты дакладней могуць апісаць тое, што тут адбываецца, але толькі аптымісты нясуць перамены.

* * *

Апошнім часам ледзьве ня штодня ў нас праходзяць дыскусіі, якія ня маюць нічога агульнага зь перасоленым селядцом, сіняй анучай-дыванком ля ўваходу з маляўнічым надпісам «Сапраўдны палкоўнік» і вячэрнім наведваньнем сарціра. Выходзім на парадак дня агульнабеларускага і міжнароднага гучаньня. Не сядзець жа ўвесь час у дрыгве дробных побытавых праблемаў і буйнамаштабнага гвалту і цынізму.

Сёньня абмяркоўвалі такую істоту, як прызначаны дэпутат. Забаўная выйшла размова. Для пачатку правялі гульню: колькі дэпутатаў ты ведаеш? Я наскроб прозьвішчы чатыры, зь іх парачка знаёмых з часоў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. У астатніх — практычна па нулях. Розум тужыцца, але нічога ў галаву не прыходзіць. Але ж калі ве-

рыць афіцыйным дадзеным, то ў 2008 годзе за гэтых людзей прагаласавала большасьць выбаршчыкаў, 50 адсоткаў ад сьпісу ўсіх выбаршчыкаў плюс адзін голас. Прычым ужо ў першым туры. Гэта абсалютны эўрапейскі рэкорд! Трэба быць супэрпапулярным і вядомым, каб заручыцца такой фантастычнай падтрымкай людзей. Ды яшчэ з улікам таго, што адначасова за мандат змагаюцца яшчэ чатырыпяць прэтэндэнтаў. І раптам выяўляецца, што праз два гады ў выбаршчыкаў поўная амнэзія. Яны ня памятаюць, ня ведаюць гэтых папулярных палітыкаў. Гэта можа азначаць толькі адно: у 2008 годзе кандыдатаў не выбіралі, іх прызначылі. Выбарчая кампанія яшчэ не стартавала, а сьпіс «дэпутатаў» ужо ляжаў на стале ў беларускага кіраўніка. Таму няцяжка здагадацца, якая місія такога «дэпутата». Яна вельмі простая: моўчкі націскаць на кнопку пры галасаваньні. Наўзамен яму дазваляюць чатыры гады пасьвіцца на лужку каля «Чырвонага дому». Праўда, усе, хто скубе зеляніну, — на моцнай прывязі і пад пільным наглядам паганятага. Заклікаць да сумленьня такога «дэпутата» бескарысна. Нагадваць пра ягоныя абавязкі — бессэнсоўна.

Адзін час у асобных міжнародных арганізацыяў была спакуса навучыць гэтых дэпутатаў-чыноўнікаў асновам дэмакратыі. Ды тыя і самі палка падтрымлівалі гэтую ідэю, яшчэ ў 2000 годзе, калі вырашалася пытаньне, ці даць Палаце прадстаўнікоў месца ў Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ. Тады лукашэнкаўскія прызначэнцы прысягалі, што жадаюць вучыцца дэмакратыі. Але як гэта зрабіць, калі ты не прадстаўлены ў Асамблеі? У каго браць урокі? І вось ужо дзесяць гадоў палатнікі «вучацца», а Ута Цапф (кіраўніца рабочай групы па Беларусі) іх

вучыць у ПА АБСЭ. Менавіта ў гэтыя дзесяць гадоў і было прынята заканадаўства, якое дазваляе ўладзе ажыцьцяўляць шырокамаштабныя рэпрэсіі па ўсёй Беларусі і якое ператварыла краіну ў тэрыторыю савецкага мінулага. Дый наша тут прысутнасьць так ці інакш фармальна запакаваная ў папяровыя законы, праштампаваныя палатнікамі.

* * *

Сёньня дзень генэральнай прыборкі. Камэра атрымлівае інвэнтар: швабру, вядро, анучу. Часам і жменю парашку. Выдаецца кіпяцільнік грэць ваду. Усе кешары, пакеты з-пад нараў перакачоўваюць наверх. Адзін падмятае вышчарбленую падлогу, другі пеністай гарачай вадой спрабуе ня толькі вымыць, але і трохі адагрэць халодны бэтон пад нагамі. Астатнія, каб ня блытацца пад мяцёлкай, — на верхніх нарах. Яны чакаюць, калі можна будзе трапіць на гэтую вільготную падлогу і атрымаць дадатковы кубак гарачай гарбаты.

## 13 лютага, нядзеля

На вуліцы жудасныя маразы. Шпацыр робіцца не асалодай, а выпрабаваньнем, таму гуляем гадзіну. Але мне і гэта ня ў кайф. Зноў захварэў. Ужо ў суботу паплыў. Ноччу спаў урыўкамі, адным вокам. З трэцяй спробы ўпрасіў зьмену даць лекі. Пашанцавала, што трапіў на Рамана-малодшага. Прыняў конскую дозу — трохі палягчэла, і адразу прыйшоў сон. Раніцай давялося адклейваць цела ад таго, што тут служыць за ложак.

У гэтай будцы з бэтону, затхласьці і холаду арганізм робіцца ўразьлівым і безабаронным, да яго ліпне любая інфэкцыя. А ў выходныя трэба разь-

лічваць толькі на самалячэньне. Прагназую, што ў панядзелак у мэдпункт выстраіцца чарга.

Хвароба паралізавала ўсякую фізычную актыўнасьць. Падзеі ёсьць, думкі ёсьць, але ня пішацца, не працуецца.

Грэемся размовай. Пасьля абеду традыцыйная гадзіна дыскусіяў. Гэтым разам спрабуем вывесьці аптымальную формулу колькасьці кандыдатаў у прэзыдэнты. Я пераканана і пасьлядоўна адстойваю адзінага кандыдата ў прэзыдэнты — кандыдата ад прыхільнікаў пераменаў. Хоць, калі шчыра, па энэргетыцы, па драйву апошняя прэзыдэнцкая кампанія была ярчэйшая і мацнейшая за папярэднія. Так што ня ўсё вызначаецца колькасьцю.

Гэтым разам улада, здаецца, перайграла саму сябе. У «Чырвоным доме» вырашылі дапусьціць да выбараў ледзьве ня ўсіх носьбітаў прэзыдэнцкіх амбіцыяў. Як выявілася, камандам ня трэба было абцяжарваць сябе зьбіраньнем 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў. А справа гэтая цяжкая і клапотная. Ані ў кога не ўзьнікала пытаньняў па факце збору неабходнай колькасьці галасоў да штабоў трох кандыдатаў — Саньнікава, Някляева, Раманчука. Плюс Лукашэнка. Да ўсіх астатніх такія пытаньні былі. Мы, да прыкладу, перасягнуўшы адзнаку ў 128 тысяч, мусілі спыніць збор подпісаў: не дазваляў бюджэт. Так што аб’ектыўна працэдуру рэгістрацыі павінны былі прайсьці чалавек пяць, ня болей. Але ў тых, хто пісаў сцэнар прэзыдэнцкай кампаніі, былі іншыя мэты і задачы.

Кандыдатам у прэзыдэнты трэба было не сабраць 100 тысяч рэальных подпісаў, а фармальна даць такую колькасьць няважна адкуль узятых аўтографаў. Ярмошына атрымала ўказаньне рэгістраваць усіх

прэтэндэнтаў з прыкметамі апазыцыйнасьці. Ярмошына зарэгістравала! Разьлік на расфакусоўку ўвагі выбаршчыка. Адзін кандыдат ад улады і тузін — ад апазыцыі. У Лукашэнкавых апанэнтаў былі розныя магчымасьці весьці кампанію. Хтосьці працаваў па ўсёй краіне, хтосьці проста абазначаў сваю прысутнасьць. Але кожны выбаршчык мог выбраць таго кандыдата і тую праграму, якія адпавядалі ягоным уяўленьням пра новага прэзыдэнта Беларусі. Іншымі словамі, выбар аказаўся больш разнастайны, чым у 2001 і 2006 гадах. Да таго ж адчувалася псыхалягічная стомленасьць ад адной асобы, ад адных вусоў. Плюс улада вырашыла трохі адпусьціць цуглі. І ў выбаршчыкаў, у кандыдатаў у прэзыдэнты галава пайшла кругам. Людзі цешыліся самім малюнкам: самотныя зьбіральнікі подпісаў за Лукашэнку і чэргі з ахвотных падтрымаць лідэрскую тройку ад апазыцыі. Далей — болей. Перапоўненыя залі з ужо забытай энэргетыкай пачатку 90-х. Трыццаціхвілінныя выступы ў жывым эфіры і без цэнзуры. Можна толькі здагадвацца, што адчуваў беларускі кіраўнік, бачачы ўсё гэта. Уяўляю, колькі высілкаў спатрэбілася Лукашэнку, каб суняць свае страхі, каб не пачаць махаць шабляй яшчэ да 19 сьнежня. Ён дацярпеў. А паралельна ішла інтэнсіўная праца па падрыхтоўцы пляну разгрому апазыцыі.

У мяне пытаюцца: ці можна было выйсьці на адзінага кандыдата ў прэзыдэнты ад прыхільнікаў пераменаў? Так, такі шанец быў. Адзіны кандыдат — гэта пытаньне працэдуры. Мы яшчэ ў 2005 годзе прапаноўвалі рэалізаваць працэдуру праймэрыз (народнага галасаваньня). Тады не пракаціла. Але напярэдадні новай прэзыдэнцкай кампаніі было

відавочна, што ісьці на выбары ў адзежцы пяці- і дзесяцігадовай даўніны нельга. Пасьля кожнай кампаніі зьяўляўся попыт на працэдуру зь вялікай колькасьцю ўдзельнікаў. У 2001 годзе адзіны кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Ганчарык быў вынікам дамоўленасьці ў кулюарах. У 2006-м пэрсанальная альтэрнатыва вызначалася на Кангрэсе дэмсілаў. Каля тысячы чалавек прымала ўдзел у працы самога кангрэсу і некалькі тысяч было задзейнічана ў яго падрыхтоўцы.

У 2010 годзе гэтага было ўжо недастаткова. І гэта разумелі ня толькі ў Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Прадстаўнікі больш як дзясятка палітычных і грамадзкіх арганізацыяў распрацавалі і ўзгаднілі працэдуру народнага галасаваньня па выбарах адзінага кандыдата ў прэзыдэнты ад прыхільнікаў пераменаў. Якія яе галоўныя і бясспрэчныя вартасьці?

Давайце ўявім, што ўсе зарэгістраваныя кандыдаты ў прэзыдэнты (вядома, за выключэньнем аднаго) сталі ўдзельнікамі праймэрыз за год-паўтара да пачатку прэзыдэнцкай кампаніі. Першае, што яны мусілі б зрабіць, — гэта пакінуць офіс і пайсьці ў народ. Бо паводле працэдуры патэнцыйным удзельнікам галасаваньня мог быць кожны грамадзянін Беларусі, які дасягнуў васямнаццацігадовага ўзросту. Але яго ўвагу трэба заваяваць. Яго давер і падтрымку трэба заслужыць. Такім чынам, у палітычных структураў і носьбітаў прэзыдэнцкіх амбіцыяў зьяўляецца моцная матывацыя для працы зь людзьмі.

Па-другое, кандыдатам ад прыхільнікаў пераменаў катэгарычна не хапае часу! Месяца агітацыйнай кампаніі відавочна недастаткова для таго,

каб данесьці і растлумачыць выбаршчыку сваю праграму. Праймэрыз дазваляюць павялічыць гэты час у разы.

Народнае галасаваньне прыўносіць у асяродзьдзе апазыцыі зусім іншую якасьць узаемадзеяньня. Замест валтузьні пад дыванам прыходзіць канкурэнцыя на здаровай аснове. Калі вы прыйдзеце да прахадной трактарнага заводу, каб знайсьці там сваіх прыхільнікаў, але ў сваіх прамовах акцэнт будзеце рабіць на тым, што Мікалай Іванавіч такі, а Ігар Пятровіч сякі, то пралетарыят, і ня толькі ён, пашле вас коратка, але вельмі далёка. Людзям трэба іншая вестка. Ім патрэбная ваша пазыцыя па прыватызацыі. Яны хочуць ведаць, як вы будзеце прыцягваць у краіну непасрэдныя інвэстыцыі, як вы зьбіраецеся змагацца з карупцыяй. Гэта значыць, што кандыдатам трэба мець не набор лёзунгаў і заклінаньняў, а выразныя, прапрацаваныя праграмы. Гэта яшчэ адзін стымул нешта рабіць.

Што мог бы мець пераможца праймэрыз, якія так і не адбыліся?

1. Высокі рэйтынг пазнавальнасьці і падтрымкі яшчэ да старту прэзыдэнцкай кампаніі.

2. Статус ня толькі адзінага кандыдата ў прэзыдэнты, але і лідэра прыхільнікаў пераменаў. Высокую легітымнасьць забясьпечвала б вялікая колькасьць людзей, якія возьмуць удзел у галасаваньні: паводле задумы арганізатараў — ня менш за 100 тысяч чалавек.

3. Каманду, якая ўваходзіла б у выбарчую кампанію ўжо мабілізаванай і працаздольнай.

4. Шырокі рух, часткай якога маглі быць усе, хто паставіў свой подпіс у яго падтрымку.

Чаму гэтага ня здарылася?

Ня ўсе пагадзіліся ставіць свае подпісы пад ужо ўзгодненым дакумэнтам. Зь цяжкавагавікоў адмовіўся Аляксандар Мілінкевіч.

Магчыма, калі б мы патрапілі правесьці народнае галасаваньне і ўвайсьці ў прэзыдэнцкую кампанію з адзіным кандыдатам, удалося б пазьбегнуць таго, што мы цяпер перажываем.

## 14 лютага, панядзелак

Сёньня сышоў Арастовіч, і ў мяне зьмяшаныя пачуцьці. З аднаго боку, я рады за яго. Шчыра. Як ня цешыцца, калі чалавек вырываецца зь пекла, вяртаецца ў сям’ю, да ўлюбёнай працы. А з другога — гэта страта, якую цяжка запоўніць. Мы добра адчувалі і разумелі адзін аднаго, мы рэальна дапамагалі адзін аднаму. Мяне, вядома, вельмі зьдзівіла, што нас з Аляксандрам зьмясьцілі ў адну камэру. Я яшчэ падумаў: значыць, нехта з нас не ўяўляе ніякай цікавасьці для сьледзтва. Праўда, у адрозьненьне ад мяне, Арастовіча сьледчы не забываў. Яго нават прапусьцілі праз дэтэктар хлусьні. Дарэчы, пытаньні збольшага тычыліся не самога арыштанта, а Статкевіча, у тым ліку і асабістага жыцьця Мікалая.

У апошні тыдзень сустрэчы Аляксандра са сьледзтвам зрабіліся часьцейшымі. Так што рашэньне лунала ў паветры.

Сёньня Сашу чарговым разам выклікалі на допыт. Вярнуўся ўсхваляваны, твар у чырвоных плямах, нават зьлёгку заікаецца. Адчувалася, што ў яго ёсьць нейкая важная інфармацыя. Тут кожны баіцца спудзіць удачу, бо столькі і столькіх падманваюць. Але калі прагучала: «Рыхтуйцеся з рэчамі на вы-

ход», стала зразумела, што Саша сыходзіць зусім. Ён тут жа раздаў усё што можна: цёплыя шкарпэткі, фільтар для вады, гарбату, сухары, шакаляд. Я ўпісаў яму ў сшытак тэлефон і шапнуў: патэлефануй маім. Упэўнены, ён выканае маю просьбу!

Валодзя Яроменак тут жа запхнуў ногі ў цёплыя вязаныя шкарпэткі ад Арастовіча. Твар распоўзься ва ўсьмешцы. У гэтага хлопца дзіўная здольнасьць шчыра радавацца нават малому пазытыву. Дзьверы за Аляксандрам зашпіліліся на замок, і ўсе паглыбіліся ў маўклівыя роздумы. Я ведаю, пра што думае кожны. Кожны б хацеў быць на месцы Аляксандра. І я не выключэньне.

* * *

Час каціўся да адбою. Вячэрняя чыстка пёраў. Я ўжо рыхтаваўся залазіць у свой кокан. Нішто не прадвяшчала сюрпрызаў. Але неспадзяванка здарылася. Заскрыгаталі завесы, у прачыненыя дзьверы ўвагнулася нечае цела і, выпрастаўшыся, абярнулася чарнявым чалавекам. Не малады і не стары, у доўгім цёмным паліце, якое чымсьці нагадвала салдацкі шынель. Позірк ягоны разгублена і бездапаможна сьлізгаў па прасторы, па навакольных прадметах, але ні на чым не затрымліваўся. Ноздры ўздрыгвалі. Ці то ад холаду, ці то ад пахаў. Здавалася, нейкая невядомая сіла перамясьціла чалавека з аднаго сьвету ў іншы, і гэтыя два сьветы зусім не падобныя адзін да аднаго. Гэта як падарожжа з раю ў пекла. Зрэшты, сіла гэтая вядомая. Перасоўваецца на мікрааўтобусе. Можа і молатам пастукаць у дзьверы. Можа і ў лес вывезьці. І гэта залежыць не ад закону, а ад фантазіяў і настрояў тых, хто мае карт-бланш.

Навічка велічалі Ігарам. Акрамя казённага рыштунку (пасьцель, кухоннае начыньне) у руках у хлопца быў невялікі пакет. Можна было меркаваць, што ў лепшым выпадку там толькі туалетныя рэчы — зубная шчотка ды паста. Перш за ўсё яго абрадавалі, што яму пашанцавала, бо мае свой ложак. Няхай жалезны, няхай цьвёрды, але ўсё ж не драўляны насьціл. Ён стомлена ўсьміхнуўся. Мэханічна заслаў сваю новую пасьцель. Разьдзеўся да бялізны. «А вось гэта ты дарма, тут ня Рыё-дэ-Жанэйра». Гэтая бясплатная парада не спатрэбілася. Навічок зарыўся ў тое, што павінна было б называцца падушкай. Усё! Адбой! Усё астатняе на заўтра.

## 15 лютага, аўторак

Раніцай нашым вачам адкрылася забаўная карцінка. Учора Ігар клаўся спаць у бялізьне, як і мае быць у нармальным, звыклым асяродзьдзі. Зранку ж ён ляжаў цалкам апрануты, зашпілены на ўсе гузікі. Больш за тое, паўзьверх коўдры ўкрыўся яшчэ палітом накшталт шыняля. Што ж, карысьней адзін раз адчуць на сваёй скуры, чым слухаць чужыя парады, нават калі яны ад чыстага сэрца.

Першая рэакцыя навічка на каманду «Пад’ём»: «Чорт, як можна спаць пры такой тэмпэратуры?!» Аказваецца, можна. І ня толькі спаць, але і шмат чаго яшчэ рабіць.

Пры дзённым асьвятленьні разгледзелі папаўненьне бліжэй. Сымпатычны брунэт. Густыя бровы, правільныя рысы твару, дагледжаныя рукі. Пазнаёміліся яшчэ раз. Ігар Каранеўскі — намесьнік дырэктара камэрцыйнай фірмы. Недзе тут і яго начальнік. Учора ўвечары ўзялі. З тэчкай фінанса-



Пікет пад ГУМам. Стваральнік канцэрну «Амкадор» Васіль Шлындзікаў і прэс-сакратар выбарчай кампаніі Яраслава Раманчука Ганна Красуліна. Добры настрой

вых дакумэнтаў. Адзінае, што дазволілі, — заехаць дадому літаральна на пяць хвілін. Схапіў шчотку, пасту зубную ды паведаміў родным. Ну што ж, хоць гэта па-хрысьціянску.

Ігар уладкоўваецца на нарах, якія вызваліліся пасьля Сашы Арастовіча. Зрэшты, акрамя туалетных рэчаў, у Каранеўскага нічога няма. Знаёмая сытуацыя. Будзем дапамагаць адаптавацца. У першыя дні асабліва дыскамфортна і няўтульна, тым больш калі ўпершыню сутыкаесься твар у твар з пэнітэнцыярнай сыстэмай. Ад такога прыёму, як цяпер пад дахам СІЗА КДБ, можа і ўласны дах паехаць. Ці ёсьць у навічка загартоўка і запас трываласьці, даведаемся ў бліжэйшыя колькі дзён.

Першае, пра што Ігар заявіў рашуча і катэгарычна, — што не гуляе ў азартныя гульні. Гэта была рэакцыя на запрашэньне згуляць у косьці. Так што ў гэтым пляне нашы чаканьні зьмяніліся

расчараваньнем. Давядзецца нам з Раманоўскім рэзацца адзін з адным. А зь ім гэта заўсёды няпроста. Патрэбен нехта яшчэ ў якасьці падушкі бясьпекі. Без Арастовіча вясёлая цяпер будзе гульня!

З даволі блытанага аповеду Каранеўскага мы зразумелі, што іх з шэфам абвінавачваюць у фінансавых махінацыях. Але ён спадзяецца, што не затрымаецца надоўга ў сьценах «амэрыканкі». Ну што ж, так думае кожны, хто сюды трапіў. А вось статыстыка сьцьвярджае, што большасьць праседжвае ў СІЗА год і даўжэй.

Паступова знаёмім Ігара з распарадкам яго новага жыцьця. Ён на ўсё глядзіць круглымі вачыма. На трохногую тумбачку з наборам жалезна-пластыкавага посуду. На жалезны зэдлік, на якім, калі не падкласьці пару газэт, сядзець немагчыма. Пятая кропка элемэнтарна падмярзае. На горку мандарынавых лупінак каля дзесяцілітровага цэбра.

## 16 лютага, серада

Нас сталі радзей ганяць у спартзалю. Перадышка доўжыцца ўжо некалькі дзён. Але градус напружаньня не спадае, па-ранейшаму чакаеш, калі па цябе прыйдуць. Пагатоў у суседзяў справа кожны дзень — ксэракопія папярэдняга. Зь імі працуюць без выходных і безь перапынку.

Чакаць пакараньня часта не лягчэй, чым цярпець само пакараньне. Калі на парозе паўстаў мікст «чорных» і «зялёных», усе міжволі пацягнуліся да абутку. Аднак кантралёр вышмаргнуў толькі Ігара. Як толькі той зьнік за дзьвярыма, да нашых вушэй данеслася звыклае гіканьне, ляпаньне, бразгат. Каранеўскага прымушалі бегчы ўніз па лесьвіцы.

Але праінструктаваны намі сукамэрнік, падобна, выяўляў упартае непаслушэнства. Яго спусьцілі. Паднялі. Зноў спусьцілі. Празь нейкі час шум канчаткова перамясьціўся на паверх ніжэй.

Вярнулі Ігара толькі хвілін праз сорак. Яго трэсьлі дробныя дрыжыкі. Ён абураўся, чартыхаўся. Увогуле, нармальная рэакцыя нармальнага чалавека. Як і ўсіх нас, Каранеўскага прапусьцілі праз распрананьне, прысяданьні, а потым нейкі час пратрымалі ў «ціхім пакоі».

— Калі б яшчэ пазаўчора мне нехта сказаў, што такое магчыма ў нашых турмах, я б засьмяяўся яму ў твар. А вось цяпер зусім ня сьмешна. Мяне гналі, як жывёлу, як барана, і я нічога ня мог зрабіць, — Ігараў голас дрыжаў. — І што, такое часта здараецца?

— Да нядаўняга часу — кожны дзень, а то і па некалькі разоў. Цяпер вось разы два-тры на тыдзень. Зразумела, што непрыемна, але лічы, што ты трапіў сюды ў не найгоршы час.

Ігар падышоў да крана, узяўся за вэнтыль.

— Што, толькі халодная?

Убачыўшы нашы вясёлыя твары, адказу чакаць ня стаў.

— Нягорача. А чай можна зладзіць?

— Можна, але толькі паводле жорсткага раскладу. Тры разы на дзень. Адну магчымасьць ты ўжо скарыстаў а сёмай раніцы.

— Жорстка...

Усё, на што ні натыкаўся Ігар, выклікала ў яго шчырае зьдзіўленьне. Мы ўжо неяк адвыклі ад такіх натуральных і таму нечаканых пытаньняў.

Пра тое, што адбываецца ў краіне, Каранеўскі ведаў павярхоўна. Так, чуў, што некага з кандыдатаў

у прэзыдэнты пасадзілі ў турму. Было бачна, што палітыка — не прадмет цікавасьці бізнэсмэна.

Перад абедам Ігара выклікалі на допыт. Вызвілася — сустрэча з адвакатам. Заўтра яму павінны альбо падоўжыць знаходжаньне пад вартай, альбо адпусьціць на ўсе чатыры бакі.

Вячэра выклікала ў навічка новыя пытаньні. І галоўнае: як гэта можна есьці? Нячышчаны селядзец і прымарожаная бульба ў мундзірах, трэба меркаваць, зрабілі на яго ўражаньне. Ён не безь цікаўнасьці касавурыўся на Раманоўскага, які дзелавіта намотваў на палец кішкі даўно спачылага селядца. І на тое, як Сан Саныч смакавіта выплёўваў у кошык для сьмецьця лішне салодкія кавалкі падмарожанай бульбы.

Адбой. Гэтым разам засынаў доўга і цяжка. Ляжаў, паўдрамаў, паўспаў у паўзмроку-паўсьвятле з усіх сьцен. У галаве шматкі думак. У страўніку рэшткі ежы.

## 17 лютага, чацьвер

Грыміць вядро каля дзьвярэй суседняй камэры, той, што справа. За сьценкай, у «прэс-хаце», сядзіць маладняк з Плошчы. У іх усё бязь зьменаў. Той жа рэжым, тое ж быдлячае ўтрыманьне, тое ж варожае стаўленьне пэрсаналу і масак. Па некалькі разоў на дзень іх прымушаюць драіць бэтон — вільготная прыборка з парашком і далейшымі праверкамі-прычэпкамі.

І кожны божы дзень іх ганяюць у спартзалю. Вось зноў гоняць. Да нас даносіцца нечы хрып, частае перарывістае дыханьне нечых лёгкіх. Нехта хлюпае закладзеным носам. Чувань, як уніз па

лесьвіцы скочваюцца, звальваюцца целы. І тут жа, грукаючы абуткам па жалезных прыступках, падымаюцца наверх. Раз, другі... пяты... Туды і назад. Усё гэта суправаджаецца такой какафоніяй, што рэакцыяй нармальнага чалавека павінна быць патрэба як мінімум пагутарыць з псыхолягам. Затым усё перамяшчаецца ў спартзалю, прыстасаваную пад камэру катаваньняў і зьдзекаў.

І што цікава, на ўсіх паверхах у калідорах усталяваныя відэакамэры, але гэта ані не бянтэжыць катаў у масках. Гэта можа азначаць толькі адно: усё начальства, і СІЗА, і камітэту, у курсе таго, што адбываецца. Гэта калектыўнае злачынства ўлады.

Але гэта прыдумана ня сёньня — рабіць балюча адным, каб адчувалі ўсе астатнія. У такой сытуацыі немагчыма заставацца спакойным. Немагчыма спаць, чытаць, пісаць, наагул думаць пра штосьці. Слых душыць усё астатняе. Ён ловіць кожны гук, які даносіцца звонку.

Чуем, як жывы паравозік чалавечых целаў шумна ўлятае ў камэру. Здаецца, чалавек пяць ці шэсьць. Значыць, камэра пад завязку. Напаўголасу спачуваем нябачным суседзям. І раптам... Што гэта? З-за сьценкі, куды толькі што з экзэкуцыі прыгналі маладых людзей, раздаецца выбух... Аглушальны выбух сьмеху! Гэта было так заразьліва, так смачна, што і мы зарагаталі. Потым рэха сьмеху данеслася з камэры, што зьлева ад нас, ужо дзявочымі галасамі. Вочка ў дзьвярах нэрвова затузалася. Не, ім, па той бок, нас не зразумець. Сьмех з камэры катаваньняў — гэта жывое сьведчаньне таго, што страх пакінуў цела, ён ідзе вон з гэтых сьцен.

— Цішыня! — гарлае кантралёр.

— Ха-ха-ха! — Сьмех катаецца па нарах, ба-

рабаніць па сьценах камэр, праз вэнтыляцыйныя шахты вылятае ў калідор.

Кулак нэрвова і бездапаможна стукае ў нашыя дзьверы. Ха-ха-ха — сьмех, заціснуты ў далонях.

А з суседняй камэры чуваць, як танцуе вядро па бэтоннай падлозе. Чарговая вільготная прыборка. Пад акампанэмэнт музыкі сьмеху. Сьмяяцца быццам бы не забаронена. Але сьмех — гэта больш чым сьмех. Тут гэта сымбаль жыцьця і супраціву. Сьмяесься — значыць, не баісься. Сьмяесься — значыць, пратэстуеш. Сьмяюцца ўсе. Хто ў кулак і трохі гістэрычна, хто да сьлёз з вачэй, раскаціста і гучна. Сябры, давайце часьцей сьмяяцца! Мне падабаецца сьмех. Я закаханы ў сьмех!

## 18 лютага, пятніца

З учорашняга дня не магу ні на чым засяродзіцца. Канцэнтрацыя нулявая. Ні за што не магу зачапіцца. Усё з рук валіцца. А ўсё таму, што заканчваецца тэрмін утрыманьня пад вартай. Вецер надзеі гоніць думкі ў адным кірунку. Павінны вызваліць! Мусяць вызваліць! Ужо два месяцы ў закладніках. Пры гэтым ніякіх сьледчых дзеяньняў. Тупое, бессэнсоўнае зьняволеньне.

Я ведаю, як гэта — невінаватаму быць за кратамі. А колькі людзей у такім становішчы! Сотні, калі ня тысячы. Пры такой сыстэме правасудзьдзя, пры такім стаўленьні да закону гэта запраграмаваная непазьбежнасьць.

Пасьля абеду доўгачаканая каманда: «На выхад!» Каменем звальваюся зь верхніх нараў. Ногі ўскокваюць у боты.

Спускаемся ўніз. Усярэдзіне напружаньне і

чаканьне. Пакой для допытаў. За сталом нейкі недалужны юнак з чырвоным носам. Маланкай пранізвае думка: нешта тут ня так. Пасьля кароткага прывітаньня ён моўчкі падсоўвае мне некалькі аркушаў паперы і асадку. «Вось, расьпішыцеся, што азнаёмленыя», — нібы выбачаючыся, прамаўляе недалужны. Усё зразумела... Але стараюся трымаць сябе ў руках. Толькі падумалася: «Так, знайшлі крайняга для выкананьня непрыемнай місіі».

Праглядаю паперы на васьмі аркушах. У правым верхнім куце запіс: «Тэрмін папярэдняга сьледзтва па крымінальнай справе № 10011110362 падоўжыць да 5 месяцаў».

Далей ідуць прозьвішчы: Саньнікаў Андрэй, Севярынец Павал, Статкевіч Мікалай, Фядута Аляксандар, Бандарэнка Дзьмітры, Лябедзька Анатоль, Міхалевіч Аляксей, Класкоўскі Аляксандар, Марцэлеў Сяргей, Федаркевіч Уладзімер, Ліхавід Мікіта, Хамічэнка Ўладзімер, Лобан Уладзімер, Пазьняк Андрэй, Квяткевіч Аляксандар, Васілевіч Ільля, Вінаградаў Павал. У дачыненьні да гэтых людзей утрыманьне пад вартай падаўжаецца да пяці месяцаў.

«Папярэднім расьсьледаваньнем устаноўлена, што Статкевіч М., Саньнікаў А., Міхалевіч А., Лябедзька А., Бандарэнка Д., Арастовіч А., Севярынец П., Палажанка А., Класкоўскі А., Федарковіч А., Хамічэнка У., Марцэлеў С., Лобан У., Пазьняк А., Квяткевіч А., Вінаградаў П., Някляеў У., Халіп І., дзейнічаючы групай асобаў па папярэдняй змове зь іншымі асобамі, у пэрыяд з 19 па 20 сьнежня 2010 году на тэрыторыі Менску арганізавалі і прынялі актыўны ўдзел у масавых беспарадках, якія суправаджаюцца зьнішчэньнем маёмасьці, збройным

супрацівам прадстаўнікам улады, што выявілася ў непасрэдным учыненьні названых дзеяньняў».

Кінулася ў вочы несупадзеньне прозьвішчаў у двух сьпісах. Як і тое, што вызваленаму Арастовічу па-ранейшаму ставіцца ў віну злачынная змова. Ды ўжо ж — відаць, што ніхто не замарочваецца дэталямі.

На аркушы некалькі жывых подпісаў тых, хто ўжо азнаёмлены з тэкстам пастановы. Саньнікаў, Бандарэнка, яшчэ нехта. Вяртаю паперы ўжо з маім аўтографам. Недалужны пацягнуў чырвоным прыпухлым носам. Напэўна, часнаку ня любіць, мільганула яшчэ адна думка-маланка.

Я сыходжу. Дакладней, мяне сыходзяць. Выглядаю, мабыць, несамавіта, бо сукамэрнікі здаволіліся толькі навіной пра тое, што сьледзтва працягнута да пяці месяцаў, і ня сталі больш ні пра што пытацца.

У камэры яшчэ раз уважліва перачытваю паперы. Чым даўжэй чытаю, тым больш пытаньняў. Якое абсурднае абвінавачаньне! З васямнаццаці чалавек, зьвязаных адным абвінавачаньнем, дзевяцёх я наагул ня знаю, а з чатырма толькі перасякаўся падчас выбарчай кампаніі. Кантакты зь Фядутам, Марцэлевым і Міхалевічам зафіксаваныя ў стэнаграме. Дастаткова ўзяць раздрукоўку выступу на радыё, дзе мы ўсе ўдзельнічалі ў дэбатах.

Матывацыя ж самога рашэньня ўцісьнулася ў шэсьць радкоў. «*Неабходна дапытаць ня менш за 40 сьведак, атрымаць заключэньні прызначаных 23.12.2010, 10.01.2011, 18.01.2011, 25.01.2011 комплексных, кампутарна-тэхнічных, судова-наркалягічных экспэртыз, агледзець і далучыць да матэрыялаў крымінальнай справы рэчавыя доказы,*

*вынятыя падчас ператрусу і іншых сьледчых дзеяньняў».*

Першае пытаньне: а чым тады займаліся ўвесь гэты час сьледчыя? Сталічныя і тыя, якіх загадзя камандзіравалі з Магілёва, Віцебску і іншых рэгіёнаў у сталіцу. І колькі трэба чалавека-гадзін, каб далучыць да матэрыялаў справы рэчы, забраныя падчас ператрусу?

Вось толькі пытаньні задаць няма каму. Уся гэтая бязглузьдзіца заверана начальнікам аддзелу расьсьледаваньня злачынстваў супраць жыцьця, здароўя і ўласнасьці грамадзян сьледчага ўпраўленьня падпалкоўнікам А.Н.Сукалам і начальнікам сьледчага ўпраўленьня ПР ГУУС Менгарвыканкаму падпалкоўнікам міліцыі Г.А. Казакевічам. Два палітычныя кілеры. Але ў гэтым ланцужку яны толькі зьвяно. Уся інфармацыя па галоўных фігурантах справы сьцякаецца да Лукашэнкі, і ён асабіста прымае рашэньні па кожным. Так, у прысутнасьці чатырох-пяці чалавек, у тым ліку старшыні КДБ, генэральнага пракурора, міністра ўнутраных спраў. Гэта і ёсьць арганізатары спэцаперацыі «Плошча».

Ну што ж, гэта далёка ня першая паршывая навіна, і, вядома, не апошняя.

Што на шалях у пазытыве? Прыйшло паведамленьне з дому, што тэлефанаваў Аляксандар Арастовіч. Дзякуй табе, Саша! Вестачка зь першых вуснаў павінна стаць прыемнай падзеяй для тых, хто мяне чакае.

## 19 лютага, субота

З раніцы заступіў на дзяжурства. Для сугрэву ўдарыў прэсам па жываце, адцісканьнямі па біцэпсах і трыцэпсах. Арганізм добра ўзварушыўся. Цяпер ён ня сьпіць, у ім нічога не засталося ад сну. Нават успамінаў. Той выпадак, калі фізычнае ўсьмерчвае эмацыйнае.

Дастаў міскі. Працёр іх сурвэткай ад учорашняга дня. Падрыхтаваў збан з вадой. Засунуў у пакет пару кавалачкаў чорнага хлеба. Адкрыў цукарніцу з салодкімі крупінкамі, што прыліплі да сьценак плястыкавай пасудзіны. Гатоўнасьць нумар адзін.

Недзе ў калідоры грыміць вазок з бачком кашы. Ёсьць хвілін дзесяць вольнага часу. Паўзу можна запоўніць добрай справай. Вымаю «інтэлектуальны пакет». Вывеў на паперы першыя радкі чарговага ліста. Ёсьць у пасланьня пачатак, будзе і канец.

Сьнедаем груцай. Белы хлеб амаль увесь ідзе на падтрымку чаяваньня. Галадна. Толькі пасьнедалі — і ўжо чакаем абеду.

Ранішні абход. Грыміць завала. Шыхтуемся ў прасторы, якую называем кухняй. Дзяжурны капітан Міхал Міхалыч, выслухаўшы маё традыцыйнае «*на шпацыр дзьве гадзіны*», раптам выпаліў: «*Не коверкайте белорусский язык. Нет такого слова “шпацыр”. Это польское заимствование*».

Я і рот адкрыў. Прызнаюся, нават не знайшоў, што адказаць. Вось так, маўчыць капітан два месяцы, а потым раз — і выдаў на-гара свае лінгвістычныя пазнаньні.

* * *

Пасьля двухгадзіннага шпацыру было чуваць, як ляскае зубамі Каранеўскі. Ад холаду і голаду.

Мы так згаладаліся, што пасьля абеду міскі можна было ня мыць. Вылізалі ўсё да бляску. Страўнік запоўніўся супам з пахам тушонкі, кашай, гарбатай і вялікай колькасьцю кіславатага хлеба. На нейкі час прыйшло пачуцьцё сытасьці.

Мяркуючы па звону з плошчы, восьмая вечара. Каманда: у душ! Як заўсёды, на зборы хвіліны. Ігар, як старанны вучань, капіюе нас. Раманоўскі, як звычайна, у сваіх клятчастых ці то шортах, ці то сямейных трусах па калена. Каранеўскі нерашуча пераводзіць позірк зь летняга прыкіду барадача на свой строгі дзелавы гарнітур. Але ў дзьверы ўжо грукаюць, і, махнуўшы рукой, Ігар робіць выбар на карысьць голых каленак. Праўда, у адрозьненьне ад Раманоўскага, на ім засталіся трусы, больш падобныя да плавак. І зьверху кашуля. Так, выбар у яго абмежаваны. Гарнітур, кашуля ды паліто — вось і ўвесь гардэроб падсьледнага Каранеўскага.

Гляджу на сукамэрнікаў і не магу стрымаць усьмешку. Ды ўжо ж, відон яшчэ той. У такім прыкідзе добра дзе-небудзь на Сэйшэльскіх астравах. Але тут! Зіма, СІЗА КДБ і два дарослыя мужыкі ў трусялях. Побач яшчэ пяток у масках. Нейкі сюр!

Дзьверы наросьцеж. Экстравагантны выгляд нашай каманды паралізаваў кантралёраў і масачнікаў. Пачынаем рух. «Джэнтэльмэны ўдачы» на маршы. Я замыкаючы. Палкі, глоткі канваіраў бязьдзейнічаюць і маўчаць. Спускаемся на трэці, ніжні ўзровень «амэрыканкі». Тут нас сустракае дзяжурны Ганс. Пры выглядзе Раманоўскага крыху скрывіўся, але як толькі ў прастору круга ступіла доўгая аголеная нага Ігара ў чорным скураным боце, дзяжурнага перакасіла. Ён зьбянтэжыўся, і на нейкі час ягоны разбухлы язык страціў здоль-

насьць вымаўляць словы. Але ненадоўга. Праз пару хвілін невялікі пакой-прылазьнік завібрыраваў і запоўніўся ровам:

— Гэта што?! Што гэта за выгляд?! Зусім абнаглелі!

— Ды мне надзець няма чаго, — паспрабаваў унесьці яснасьць зьбянтэжаны Ігар.

— Маўчаць! Не дазволю! У карцэр захацелася?

У карцэр не хацелася нікому. Гэтаксама як не хацелася чуць і гэтае выцьцё. Мы тут жа пакідалі прасьціны, наўлечкі ў стосы і шмыгнулі ў душавую. Далей ад гэтай крыклівай тушы. Пасьля такой слоўнай парылкі мыліся самі і мылі бялізну бязгучна. У вільготнай прасторы душавой павісла чаканьне — правакацыі, бурчаньня, слоўнага нетрыманьня. Але, здаецца, нас пранесла. Пасьля апалосквaньня і мыцьця бялізны вельмі хутка запакавалі целы ў адзежу і дысцыплінавана замерлі на старце. Ганс па-ранейшаму стаяў у прасторы круга і глядзеў на Ігара. Нядобра так глядзеў. Таму, як толькі прагучала каманда «Наперад!», ірванулі так, быццам у камэры нас чакаў сэрвіраваны стол з бутэлькай бардо і фуагрой.

Уляцелі ў камэру, пазірнулі адзін на аднаго і палеглі на нарах ад сьмеху. Гэта быў прыступ гістэрычнага, некантраляванага рогату. Сапраўды, трэба было бачыць выраз твару дзяжурнага. Гэта неперадавальна! Рэшта вечара прайшла ў смакаваньні вэрсіі пра неразьдзеленае каханьне камітэтчыка Ганса да падсьледнага Кораня.

## 20 лютага, нядзеля

Гэтай ноччу мне прысьніўся сон. Дзіўны. Зачапіў. На волі сны рэдка заставаліся ў нераце маёй памяці. Раніцай ледзь расплюшчыш вочы, ногі ўжо нясуць цела. Справы наслойваюцца на праблемы. Праблемы чаргуюцца са справамі. Але ў «амэрыканцы» нешта недзе замкнула, і сны пайшлі на запіс. Вось і гэтым разам сон быў поўнамэтражны, выразны і з галавакружным сюжэтам. Падзеі адбываліся ў далёкім замежжы. Амэрыка. Лос-Анджэлес. Вялізная канфэрэнц-заля, запоўненая па самыя берагі. Мужчыны ў гальштуках, дамы ў строгіх сукнях. Заля варушыцца і гудзе, потым выбухае апладысмэнтамі. Успышкі, блікі. На подыюм падымаецца... Алесь Міхалевіч. Тут жа, у сьне, я пачынаю разважаць і спрачацца сам з сабой. Не магу зразумець, чаму ён, самы ціхі з кандыдатаў у прэзыдэнты, які найбольш фліртаваў з уладамі, — тут, у цэнтры ўсеагульнай увагі. Міхалевіч гаворыць пра злачынствы рэжыму, пра падзеі 19 сьнежня. Энэргічна так гаворыць, правільна. Пра несумленныя выбары, пра грубы, жорсткі разгон людзей на плошчы. І зрывае авацыі.

Прачнуўшыся, яшчэ доўга зьбіраў лега з дэталяў сну. Што б гэта ўсё значыла? Вячэра была нібыта сьціплая і аскетычная. І нельга сказаць, што на працягу дня была перадазіроўка эмоцыяў і ўражаньняў. Было ясна, што нічога ня ясна. І маіх ведаў відавочна недастаткова, каб прачытаць гэты сон. Нават між радкоў. Можа, перавядуць у адну камэру з Алесем? А чаму не? Так да суду я з усімі фігурантамі справы пагутару.



Бел-чырвона-белы сьцяг над плошчай

* * *

Бывала і горш. Значна горш. Гэта да пытаньня: як справы, Анатоль? Апошнімі днямі быў эмацыйна ўзьвінчаны. Чаканьне невядомасьці напружвае. Не чалавек, а клубок аголеных нэрваў. А голы — значыць, неабаронены. Але пасьля таго, як заўчора тэрмін майго знаходжаньня ў «амэрыканцы» падоўжылі, напал чаканьня спаў. Наперадзе яшчэ некалькі месяцаў у СІЗА. І цяпер зьявілася пагроза: каб з вышыні чаканьня не зваліцца ў бездань абыякавасьці і апатыі. Патрэбныя нейкія нетрадыцыйныя захады. Трэба нешта мяняць. Але што і як? Прымаю рашэньне ў бліжэйшы аўторак пусьціць пад нож сваю бараду.

А пакуль давялося тармасіць Каранеўскага, якога апанавала гэтая самая хандра. Відаць было, што яму зусім нядобра. Ігар распавядаў пра малога сына, а вочы вільготныя. Здавалася, яшчэ крышачку, і

адтуль ліне ўся туга і ўсе перажываньні, што назьбіраліся за гэты час. «Ён чакаў мяне кожны вечар. Я распавядаў яму казку, а ён цягнуў мяне пад коўдру, прыгаворваючы: «*Плячься, папа, а то вольк нас скусает!*» Відаць, паток усё ж прарваў плаціну, бо Ігар змоўк і на нейкі час уткнуўся ў сьцяну.

Прыйшлося распавесьці некалькі забаўных гісторый з свайго турэмнага мінулага. Напрыклад, як на адной з сустрэч я настойліва раіў начальніку Акрэсьціна не чапаць рамонтам хоць адну камэру Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў. Гэта трэба пакінуць для гісторыі. А там і праўда было на што паглядзець. Пасьля масавых затрыманьняў у пазамінулую прэзыдэнцкую кампанію да нас у камэру прабіўся кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі Ёка Пэтэрсан. Гэта было поўнай, але прыемнай неспадзяванкай. Немагчыма перадаць рэакцыю швэда. Камэра перапоўненая настолькі, што ўначы маглі спаць толькі на баку і пераварочваліся па агульнай камандзе. Жудасны смурод з прыбіральні. Абсыпаны са сьцен тынк. Нямытыя чалавечыя целы. Калі мы сустрэліся зь Ёка ўжо па маім вызваленьні, ён не стрымаў сьлёз.

Мае гісторыі зь мінулага, здаецца, паспрыялі псыхалягічнай рэабілітацыі. Прынамсі, ужо праз гадзіну Ігар дэманстраваў гатоўнасьць стойка пераносіць нягоды і нястачы, якія так нечакана зваліліся на яго і ягоную сям'ю.

Крызіс настрою — і ў звычайным жыцьці зьява распаўсюджаная, а тут і пагатоў. Галоўнае, умець гэтым працэсам кіраваць і не дазваляць яму душыць усё астатняе.

## 21 лютага, панядзелак

Сёньня атрымаў ліст. Свой жа, напісаны ў пятніцу і перададзены сёньня дзяжурнаму. Не прайшоў цэнзуру. Нечая рука падкрэсьліла наступныя радкі: «*Тым больш што ніякіх працэсуальных дзеяньняў са мной зь мінулага году не праводзіў ніхто. Як бы нікому не патрэбны. Пытаньняў да мяне няма, але і на волю не адпускаюць. Такое адчуваньне, што я рэч для нейкага бартэру*».

Кожнае напісанае слова — праўда! Бо сапраўды аблічча сьледчага расфакусавалася ў маёй памяці да нейкай размытай плямы. Маіх сукамэрнікаў каго часьцей, каго радзей, але адпраўляюць калі не на душэўную гутарку са сьледчым, то на размову з адвакатам. У мяне ж сытуацыя больш чым дзіўная. Сьледзтва дэманструе поўную адсутнасьць цікавасьці да маёй пэрсоны, а адвакатаў трымаюць ад мяне на дыстанцыі. І гэта таксама зразумела. Перакрыты ледзь не адзіны і, здавалася б, гарантаваны канал інфармацыі. Няма зносін — няма інфармацыі. Ні туды, ні назад. Няма інфармацыі — ёсьць нявызначанасьць, няўпэўненасьць, трывога. Я нэрвуюся, яны ўхмыляюцца.

Улады сталі закладнікамі сытуацыі, якую стварылі сваёй галавой, сваімі рукамі. У неўтаймоўным жаданьні расправіцца з апанэнтамі, прыцісьнуць іх, зьняважыць, растаптаць яны пайшлі на рэстаўрацыю парадку і ўзнаўленьне працэдур часоў гітлераўскай Нямеччыны і сталінскага СССР. Праўда, на невялікай, закрытай тэрыторыі. Калі мэханізм быў запушчаны, калі палітвязьні і ўсе астатнія арыштанты «амэрыканкі» былі аддадзеныя ў поўнае распараджэньне схаванага пад маскамі «эскад-

рону страху», паўстала пытаньне, як не дапусьціць працёку інфармацыі пра тое, што адбываецца ў сьледчым ізалятары КДБ. Як вынік — шматлікія табу і забароны. На кантакты з адвакатам, на карэспандэнцыю, на магчымасьць апэляцыі ў пракуратуру.

Праўда стала праблемай для ўлады. І яе, як і нас, ізалявалі ад людзей, ад грамадзкай думкі. Для цяперашняй быдлячай улады праўда — гэта наагул адзін зь лютых ворагаў. Гэта значыць толькі адно: калі ўсё трымаецца на хлусьні, падмане, фальсыфікацыях і маніпуляцыях, то праўда — гэта выгнаньніца, гэта істота, пазбаўленая ўсіх правоў.

Мы ня толькі палітзьняволеныя «амэрыканкі», мы яшчэ і тавар. Для продажу, для бартэру. На нас пакуль яшчэ няма цэньнікаў, але гэта пытаньне часу. Такая практыка папярэдніх гадоў, і няма падстаў сьцьвярджаць, што зараз будзе па-іншаму.

Мала таго, што тыя, хто сядзіць у «Чырвоным доме», хочуць, каб усе маршыравалі шыхтам, яны яшчэ жадаюць кіраваць нашымі думкамі.

Адвярнуўшыся да сьцяны, невялікім цьвіком надрапаў «Свабоду слова!» Сваім пратэстам застаўся задаволены. Нам патрэбны маленькія перамогі незалежна ад нашага месцазнаходжаньня і палітычнага календара.

## 22 лютага, аўторак

Здаецца, пазбыўся балячак. Зарадка прайшла паводле формулы 1000–200–580. Нядрэнна! Тысяча практыкаваньняў на прэс, дзьвесьце — брусы, 580 адцісканьняў ад падлогі. Дарэчы, пра брусы. Каб

хто не падумаў, што ў камэрах «амэрыканкі» стаяць спартовыя трэнажэры, растлумачу. Функцыю брусоў выконвае жалезная акантоўка двух верхніх нараў. Спачатку адчуваеш пэўныя нязручнасьці, бо жалеза ўпіваецца ў далоні, але потым звыкаеш і маеш толькі станоўчыя эмоцыі.

Шчыра кажучы, калі ўлічыць стан майго арганізму, я не разумею, як мне ўдаецца так інтэнсіўна займацца. Хутчэй за ўсё, гэта ідзе насуперак усталяваным правілам і рэкамэндацыям. Але часам правіла і выключэньне мяняюцца месцамі. Цяпер я ведаю, так бывае.

* * *

Разам з усімі палашчу горла вадой зь ёдам. Раніцай і ўвечары стаім, задраўшы галаву, і выдаём гартанныя гукі.

Г-р-р-р-р.

Да абеду дачытаў «Зоркі над балотам» Пікуля. Потым прыступіў да другой кнігі «На задворках вялікай імпэрыі». Тэмп чытаньня перарывісты. Падсьлепаватае сьвятло самотнай лямпачкі прымушае рабіць перапынкі, якія запаўняю пісаньнем лістоў і практыкаваньнямі ў рыфмаваньні.

Зь дзяржавай ніякага ліставаньня не вяду. Ня бачу ў гэтым сэнсу. Выключэньне — адміністрацыя СІЗА. Але гэта вымушаная неабходнасьць.

Ад хандры знайшоў «абязбольвальнае». Як толькі нойдзе маркота, вымаю з пакета і перачытваю тры лісты і дзьве запіскі, атрыманыя з дому. Дзейсныя лекі.

Тэма сёньняшняй вечаровай дыскусіі тычыцца ня толькі бэтонных муроў «амэрыканкі». Гутарым

пра тое, як здарылася, што ў цэнтры Эўропы існуе такі бэтонны, аўтарытарны рэжым.

Мая бясплатная лекцыя на тэму «Лукашызм як экспартны тавар на міжнароднай арэне» авацыяў ня выклікала, але аўтарытэту дадала. Перадаю амаль даслоўна.

* * *

Міжнародная супольнасьць відавочна недаацэньвае «беларускую праблему». Для многіх палітыкаў беларускае пытаньне — ня пункт эўрапейскага парадку дня, а так, лякальная праблема, якая не выходзіць па-за межы тэрыторыі Беларусі. Гэта памылка. Беларусь надалей застаецца экспэрымэнтальнай лябараторыяй па вытворчасьці і распаўсюджваньні нэааўтарытарнай ідэалёгіі — «лукашызму». «Лукашызм», які ўяўляе сабой сумесь камунізму, фашызму і лацінаамэрыканскага папулізму, — галоўны экспартны тавар беларускага рэжыму. І, трэба прызнаць, ён карыстаецца вялікай папулярнасьцю на постсавецкай прасторы. Тое, што Беларусь прайшла восем-дзесяць гадоў таму, у той ці іншай форме сёньня ўзнаўляецца ў Расеі і іншых постсавецкіх рэспубліках. Гэта небясьпечная тэндэнцыя, і ў сталіцах цывілізаваных дзяржаў яе наступствы да канца не пралічваюцца.

(Пры слове «лукашызм» Сан Саныч напружыўся, а Ігар закруціў галавой. Я ж увайшоў у ролю.)

У Беларусі ўжо шмат гадоў ідзе паўнавартасная «халодная грамадзянская вайна». Малалікая група людзей (клан Лукашэнкі) трымае пад кантролем дзяржаву і зь яе дапамогай зьнішчае любую альтэрнатыву. Нэасавецкая дзяржава ўзурпавала ўсе правы грамадзян. Укаранілася манаполія дзяржавы

(клана Лукашэнкі) на палітычны, эканамічны і сацыяльны сэктары. Адсутнічае грамадзкая дамова. Мае месца прававая няроўнасьць: Лукашэнка, а не незалежныя суды, прызначае вінаватых. Грамадзяне фактычна не бяруць удзелу ў кіраваньні дзяржавай. Улада не абнаўляецца. Усталявана фундамэнтальная аўтарытарная ўлада «прэзыдэнта» Лукашэнкі, пры якой ён знаходзіцца 16 гадоў.

Лукашэнка дэ-факта і дэ-юрэ забараняе любую палітычную канкурэнцыю. Уся апазыцыя выціснутая ў пазасыстэмныя нішы і ня мае магчымасьці быць абранай у мясцовыя і рэспубліканскія органы ўлады. Любая палітыка-сацыяльная альтэрнатыва зазнае сыстэмны ціск з боку спэцыяльных службаў, паўнамоцтвы якіх надзвычайныя і дазваляюць агентам без адпаведных судовых рашэньняў сачыць за любым грамадзянінам і арыштоўваць любога.

За 16 гадоў свайго кіраваньня Лукашэнка стварыў жорсткі аўтарытарны рэжым з украпінамі дыктатуры. Гэткі Савецкі Саюз у мініятуры, які геаграфічна разьмясьціўся ў самым цэнтры эўрапейскага кантынэнту. Гэты факт толькі ўзмацняе жаданьне зразумець, у чым жа сакрэт палітычнага даўгалецьця рэжыму, які ёсьць адкрытым выклікам усёй Эўропе. Рэжым гэты трымаецца на трох кітах. Па-першае, на страху. І гэта не спэцыфічна беларускае ноў-хаў. Гэта эфэктыўная зброя ўсіх таталітарных рэжымаў, на якую Лукашэнка зрабіў галоўную стаўку. Маленькі, але вельмі паказальны штрых. Беларусь — адзіная краіна на постсавецкай прасторы, дзе ў спэцслужбаў засталася ранейшая абрэвіятура — КГБ. Адзін гэты факт не дазволіць устаць з каленяў мільёнам беларусаў, якія выраслі пры савецкай сыстэме.

Па-другое, фінансава-эканамічная залежнасьць насельніцтва ад улады. Каля 80 працэнтаў грамадзян свае зарплаты, пэнсіі, стыпэндыі атрымліваюць у Лукашэнкі. Людзі пазбаўленыя альтэрнатывы, іх ставяць у жорсткую залежнасьць ад улады. Яшчэ адзін штрых да партрэта беларускай рэчаіснасьці. У сярэдзіне 90-х, калі па краіне пракацілася першая хваля судовых працэсаў над апанэнтамі ўлады, было нямала судзьдзяў, якія адмаўляліся выносіць палітычна матываваныя судовыя рашэньні. Але тады ў людзей у чорных мантыях была альтэрнатыва: у выпадку адміністрацыйнага ціску яны маглі сысьці ў прыватны натарыят або адвакатуру. Лукашэнка тут жа выдаў указ, які практычна зьнішчыў прыватную адвакатуру і натарыят. І судовы канвэер запрацаваў без аніякіх збояў. Тэлефоннае права ператварыла судовую сыстэму ў аддзел адміністрацыі Лукашэнкі.

Па-трэцяе, штогадовы энэргетычны грант з Расеі, які да нядаўняга часу складаў каля 8 мільярдаў даляраў. Гэта дазваляла беларускаму кіраўніку ажыцьцяўляць сацыяльны подкуп значнай часткі насельніцтва Беларусі. І нягледзячы на тое, што дабрачыннасьць Крамля апошнім часам крыху зьмізарнела, тым ня менш за кошт рознасьці цэнаў на энэрганосьбіты «Чырвоны дом» працягвае атрымліваць вялізныя сумы. Цалкам відавочна, што бяз гэтай сур’ёзнай фінансавай падтрымкі рэжым Лукашэнкі ня змог бы існаваць так доўга.

Калі рэзюмаваць рэакцыю нешматлікай, але ўважлівай публікі, то яна зводзіцца да дзьвюх фраз: «Ну ты, Праўдзір, даеш!» і «А я цяпер не дзіўлюся, чаму ты, Анатоль, у “амэрыканцы”, а ня дома».

* * *

Дзень цырульніка. Два месяцы істотна зьмянілі маё вонкавае аблічча. Гляджу ў люстэрка і стараюся захаваць сябе ў файле памяці. Доўгія валасы. Вяртаньне ў далёкае студэнцкае мінулае. Барада — гэта ўжо з сучаснасьці. Такой я ніколі не адгадоўваў. Праўда, нешта падобнае назіралася на маім твары, калі адразу па заканчэньні ўнівэрсытэту быў на лесасплаве ў Пермскім краі. Тады мяне таксама не было два месяцы, але ў кішэні ляжаў зваротны білет, у якім з дакладнасьцю да хвіліны быў пазначаны час вяртаньня. А тут — два месяцы зь невядомай пэрспэктывай. Як кажуць у Адэсе, адчуйце розьніцу.

Цяпер мой люстраны адбітак — такі сабе палявы камандзір Налібоцкай пушчы часоў праўленьня Аляксандра з-пад Шклова. Меў намер такім і паўстаць перад роднымі і паплечнікамі па партыі. Але, відаць, ня лёс. Патрэбныя перамены і абнаўленьне. А што мяняць? Самае простае — згаліць бараду.

Плястыкавы кубачак з гарачай вадой. Аднаразовы станок. Балёнчык зь пенай. Гляджуся і нейкі час не наважваюся. Але вось узмах памазком — валасяныя зарасьці пакрыліся бельлю. Праводжу лязом раз, другі, трэці. Лязо не бязь цяжкасьці адрывае валасы ад скуры. Добры дзень, а вы, уласна, хто?

Меркаваньні падзяліліся. Каранеўскаму абноўлены Анатоль Лябедзька спадабаўся, а вось барадаты Раманоўскі сказаў, што ў ранейшым вобразе было больш брутальнасьці і мужнасьці. Гэта і ёсьць плюралізм думак. Як на мяне, дык нічога, хіба што скура нейкая бледная. Але гэта непасрэдны вынік адсутнасьці сонца і сьвежага паветра.

* * *

Атрымаў ад Антаніны Кавалёвай віншавальную паштоўку з Днём абаронцы Айчыны. Наагул, гэтае савецкае сьвята я не адзначаю чырвоным колерам у сваім календары. Але цяпер — зусім іншая рэч. Паштоўка з офіса, літаральна пару слоў віншаваньня, прыйшла зусім нечакана. Гэта першае пасланьне ня з дому. Прыемна! Пэрспэктыўна! Можа, за гэтым ручайком адбудзецца прарыў інфармацыйнай плаціны? І будзе зьнятая забарона на карэспандэнцыю, накіраваную на адрас: г. Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8, Лябедзьку Анатолю?

Але далейшыя развагі былі не такія аптымістычныя. Хутчэй за ўсё, сьціслась тэксту абяззброіла і падкупіла цэнзара. Дый сьвята такое, вельмі ўжо набліжанае да пагонаў нашых прыгнятальнікаў. Так што гэта ня зьмена маршрутаў карэспандэнцыі, гэта дакладнае пападаньне ў слабую кропку і псыхалягічны нэрв сыстэмы і цэрбэраў, якія яе ахоўваюць.

У мяне ёсьць вялікае падазрэньне, на мяжы з упэўненасьцю, што нейкі падвал СІЗА завалены мяхамі зь лістамі, якія не дайшлі да палітвязьняў «амэрыканкі». Заплюшчваю вочы і ўяўляю, як з паштамта дастаўляюць у СІЗА некалькі цюкоў карэспандэнцыі. Гэта нэрвуе Арлова і ягоных паплечнікаў. Яны глядзяць на мяхі з роспаччу і злосьцю. А заўтра ўсё паўтараецца.

## 23 лютага, серада

Прачнуўся з думкай пра лёс ліста зь віншаваньнем для бацькі. Праз два дні яму семдзесят тры. Для беларускага мужыка ўсё, што за шэсьцьдзесят, гэта

ўжо дата. Ліст — найлепшы падарунак, які толькі можна прыдумаць у нашай сытуацыі, і вельмі хочацца, каб бацькі прачыталі яго. Я ведаю, як яны перажываюць за мяне. Для іх гэта ўсё па жывым. Прычым кожны рэагуе па-свойму: у маці — сьлёзы, у бацькі — маўчаньне. У яе ўсё на твары, ён жа ўсёператраўляе ўнутры сябе. Але ў кожным разе ўсё, што здарылася са мной, гэта выдраны жыўцом кавалак іхняга здароўя. Без аніякай анэстэзіі.

Госпадзе, ды што ж гэта такое! Нейкі чынуша-цэнзар вырашае лёс майго ліста! Ад бездапаможнасьці хочацца выць ваўком у неба, якога не відаць.

У любым цэйтноце я заўсёды адшукваў магчымасьць прыехаць 25 лютага ў родны Трылес. Але сёньня гэтая традыцыя дасьць збой.

Перад вачыма бацькоўская хата ў цэнтры вёсачкі, патанулай у зеляніне. Дыхтоўны дом пад жалезным дахам і ў кальчузе сайдынгу колеру кавы. Бэтонная дарожка расьсякае падворак на дзьве часткі. Трохі ссутулены ад часу хлеў, у якім заўсёды мычала, бляяла, рохкала ўсякая жывёла. Крыху наўскос — гумно. Звычайна яно пад самы дах забіта сенам, якое пахне ўсім суквецьцем траў Стаўпеччыны, тут і цюкі з саломай. Сон на сенавале — нешта асаблівае. Незвычайнае. Гэта пацьвердзіць кожны, хто хоць адну летнюю ноч правёў у дурмане пахаў і водараў.

У кутку — сячкарня, прыстасаваньне рэзаць сена і салому. Гэта мой першы трэнажэр, на якім я пампаваў свае цяглiцы. У драўляны латок загружаеш травяную масу, уключаеш матор магутнасьцю ў адну падлеткавую сілу, і два жалезныя нажы сякуць, крышаць усё без разбору.

Вёска прачынаецца рана. Улетку а чацьвёртай

раніцы бацька ўжо на нагах. Пачынае з абходу — падворак, хлеў, куратнік, гумно, склеп, ангар для тэхнікі. Усё жывое вітае гаспадара на ўсіх магчымых мовах. Яны разумеюць адно аднаго. Часам нашмат лепш, чым людзі людзей.

Уладзімер Міхайлавіч Лябедзька, гаспадар, працаголік і зацяты антысаветчык. Ён ніколі ня ўпісваўся ў сыстэму. Ні ў савецкую. Ні ў лукашэнкаўскую. Ні думкамі, ні ўчынкамі, ні ўяўленьнямі аб справядлівасьці. Дзіця прыроды з прыроджаным пачуцьцём свабоды. Нават прыяжджаючы да нас у Менск, ён адчувае дыскамфорт ад гарадзкога туалета і з большай ахвотай наведваецца ў лес, што каля рэзыдэнцыі «Дразды». Усё ягонае жыцьцё — гэта канкурэнцыя і барацьба. З уладамі, з сыстэмай, з самім сабой.

Бацькі беларускага палітыка ня могуць жыць у зоне нэўтралітэту. Жыцьцё дзяцей так ці інакш закранае і іх. Да прыкладу, у чарговай сваёй прапагандысцкай перадачы рэспубліканскае радыё паведаміла, што ў гады вайны мой бацька быў паліцаем. У краіне, дзе да гэтага часу не прыйшлі да канчатковай высновы, колькі загінула ў вайну, кожны трэці ці кожны чацьвёрты, абвінавачаньне больш чым сур'ёзнае. Але вось незадача... Бацька нарадзіўся ў 1938 годзе і, натуральна, у трохгадовым веку супрацоўнічаць з фашыстамі ніяк ня мог. Але махровая хлусьня не бянтэжыць, не абурае мясцовых прапагандыстаў. У гэтым сэнсе справа вядомага Ёзэфа Гебэльса адчувае сябе ў сучаснай Беларусі, як гародніна на гідрапоніцы. Бо сапраўды некалькі разоў у розных рэгіёнах краіны вэтэраны і экзальтаваныя жанчыны, чальцы клюбу імя Аляксандра Лукашэнкі, кідалі мне гэтае абвінавачаньне.

Даводзілася тлумачыць, што вайна, вядома, пакінула свой сьлед на басаногім дзяцінстве бацькі. Яна забрала двух ягоных братоў, Івана і Язэпа. Магілы абодвух — на вясковых могілках на Стаўпеччыне. Абодвум было па васямнаццаць. А маленькі басаногі Воўка ў пасьляваенныя гады, калі было холадна, грэў ногі ў мачы кароў, якія толькі што аправіліся. Хадзіў за бараной з прыплюшчанымі вачыма, заблукалымі ў сьне.

У бацькавай галаве бібліятэка і архіў за аднымі дзьвярыма. Ён гадзінамі ў падрабязнасьцях можа расказваць гісторыю вёскі, гісторыю кожнага яе жыхара. Шкада, усё ніяк не зьбяруся запісаць ягоныя ўспаміны. А гэта варта зрабіць.

Наагул, колькі нязробленага, неапраўдана засунутага ў далёкі куток заўважаеш у такіх экстрэмальных сытуацыях. Вось зьбіраліся з бацькам паехаць у Латвію шукаць магілу мамінага бацькі. Знайшлі старую, пажоўклую ад часу пахаронку. Дзесьці недалёка ад хутара Дэтрнэкі ягоная магіла. «Сын, гэта наш абавязак знайсьці магілу і прывезьці зямлю на нашы сямейныя могілкі!» — я чую бацькаў голас. У ім ні ценю сумневу, што мы гэта зробім. Вось толькі выберуся з гэтай пасткі, і мы абавязкова рушым на пошукі дзедавай магілы.

Ва Ўладзімера Міхайлавіча Лябедзькі заўсёды, ва ўсе часы зямлі было больш, чым дазволеныя сорак сотак. Хлапчуком памятаю, як прыходзілі на падворак дзядзькі-каморнікі з палкай-меркай. Бацька глытаў таблеткі і запрашаў іх да стала. Сыходзілі каморнікі няцьвёрдай хадой — і напаўзаплюшчанымі вачыма ня бачылі лішкаў зямлі. І так з году ў год.

Акрамя сядзібы, бацька заўсёды меў некалькі

надзелаў няўлічанай зямлі. У лесе раскарчоўваў дзялянку, араў, сеяў. Палітая потым, аблашчаная ўвагай, яна плаціла кіляграмамі, цэнтнэрамі. Бацька быў шчасьлівы, калі ўдавалася сабраць увесь ураджай, на які паляваў і зьвер лясны, і старшыня калгасу. Апошні ганчаком гойсаў па акрузе ў пошуках «непрацоўных даходаў» вяскоўцаў. Знайшоўшы ў лесе надзел, пасылаў трактар, і той бязьлітасна заворваў зялёныя парасткі азімых, якія толькі былі прабіліся з чорнай зямлі. У такія дні на бацьку было балюча глядзець. І лепш не трапляцца пад гарачую руку. Ён перажываў, але не здаваўся. Наступным годам ізноў карчаваў буралом і ўпотай прыяжджаў палюбавацца, як калосіцца дзялянка. Вось гэта ўпартасьць! Яна вартая пераймання!

Да таго ж ён быў і найлепшым працаўніком калгасу. Вымпеламі, граматамі, падзякамі забітая паліца ў шафе. Для бацькі гэта хоць і прыемная, але ўсё ж паперка. Ня больш. Проста такое ў яго стаўленьне да працы: заўсёды і ўсё рабіць грунтоўна і дыхтоўна і пры гэтым выкладвацца без астатку. Вось гэта непрытворная любоў да зямлі!

А яшчэ для мяне вёска — гэта печ. З пышнымі формамі, якія запоўнілі паўкухні і прыцягваюць усіх магіяй цяпла і апэтыту.

Раніца. Вочы яшчэ не расплюшчыліся, а ногі ўжо ідуць на пахі, якія родзяцца на кухні і распаўзаюцца па ўсіх кутках. Гарачыя блінцы зь вясковай печы! З карычняватым загарам на пухлых шчоках. Адарваныя кавалкі запечанага цеста апякаюць пальцы, і ты топіш іх у халоднай, густой, беласьнежнай сьмятане, каб потым апэтытна запхнуць у жорны рота. Я нават сьліну зглынуў на гэтым месцы ўспамінаў, якія цяплом разьліваліся па ўсім целе.

Асабліва ў раёне страўніка. Чорт вазьмі, захацелася ў дзяцінства!

Дзяцінства ў вёсцы — гэта галерэя, у якой засталіся самыя яркія і маляўнічыя палотны-ўспаміны. Суцэльны Пікаса. І я разумею, чаму. Гэтае разуменьне прыйшло з гадамі. Мая бабуля Агрыпіна (вясковыя велічалі яе баба Грыфа) пражыла 98 гадоў. З пагардай ставілася да мэдыцыны і яе дасягненьняў. Мела дзівосную працаздольнасьць. Яна захлёбваючыся распавядала, як добра было пры цару і памешчыках. І я ёй шчыра ня верыў. Маё піянэрскае цяперашняе не хацела прымаць яе буржуазнага мінулага. Прайшоў час. Цяпер я ведаю, пра што казала бабуля. Памешчыкі і іншыя аксэсуары мінулага — гэта быў усяго толькі фон. Галоўнае, яна была маладая, здаровая, прыгожая. Вакол сакавіта шамацела лісьце бярозавага гаю. Паветра бяз паху выхлапных газаў. Маладосьць біла жыватворнай крыніцай, наталяючы прагу жыцьця. Шчоўкала праблемы моцнымі зубамі. Лётала над зямлёй, не адчуваючы кілямэтраў і вёрстаў. Яна была цэнтрам сусьвету.

Асаблівае месца сярод усёй жыўнасьці трылескага падворку займае Нуар, здаравенны дванаццацігадовы каўказец. Гэта правая лапа і надзейны памочнік Уладзімера Міхайлавіча. Нуар — наш падарунак на бацькаў дзень нараджэньня. З маленькага шчанюка, якога мы на руках прывезьлі ў вёску, ён вымахаў у вялізнага сабаку, з магутнымі лапамі, густой белай шавялюрай і шэрымі дызайнэрскімі ўстаўкамі. Каўказец — гэта гарант бясьпекі і спакою бацькоў, бо адышлі ў нябыт часы, калі ў вёсцы можна было і дзьвярэй не замыкаць. Для вяскоўцаў Нуар — мясцовы шэрыф, і зь ім лічаць за лепшае ня

зьвязвацца. Праўда, і ў яго здараліся канфузы. Неяк сабака наадрэз адмовіўся ад ежы. Ляжыць, віляе хвастом, але ежы не кранае. А вочы гарэзьлівыя. Выявілася: Нуар наведаўся з інспэкцыяй у суседзкі куратнік. Паспытаў курацінЫ — спадабалася. Паўтарыў нашэсьце. І тут суседка выявіла масавае зьмяншэньне пагалоўя курэй. Усушку-ўтруску аднавілі ў колькасных паказчыках, а Нуар з тых часоў не расстаецца з масіўным ланцугом. Такія сабе каралі на валасатых шырокіх сабачых грудзях.

Нуар заўсёды апавяшчае ўсіх вакол пра наш прыезд. Варта нам выйсьці з машыны — і мы ў плыні гукавога вадаспаду, які льецца з сабачай пашчы. Гэта ягоныя вітаньні. Па іх бацькі беспамылкова вызначаюць, што ў вёску прыбыў сталічны дэсант. Як на мяне, то душэўна, але іншыя кажуць, што ад гэтага брэху ледзянеюць падэшвы. Мабыць, туды ў гэты час хаваецца душа.

Сагрэўся ўспамінамі. Але думка пра ліст бацькам не дазваляла засяродзіцца ні на чым іншым. Праўда, я арганізаваў псыхалягічную атаку на нябачнага цэнзара, якога за час роздуму пасьпеў зьненавідзець. У канцы ліста напісаў: «Калі нечая рука адважыцца не прапусьціць гэты ліст, хай яму аукнецца і адплаціцца. Усявышні знойдзе магчымасьць пакараць таго, хто сее зло». Цяпер мне здавалася, што я атрымаю ліст назад, і якраз гэтыя словы будуць у ім падкрэсьленыя цэнзарскім алоўкам. Зрэшты, а ці ёсьць у мяне альтэрнатыва?

* * *

Сёньня ў нас быў сьвяточны сьняданак. Нам далі рыс! Ваў! Напэўна, канфіскат. Або сярод пад-

сьледных зьявіўся гандляр гэтымі крупамі. Рыс такі смачны, халвічны, здаецца, растае ў роце!

А яшчэ дзяжурны зайшоў раніцай увесь бліскучы. Твар, чаравікі, пагоны, гузікі — усё зьзяла, як начышчаны самавар. У нашым падзямельлі бляск гэты адсьвечваў нейкім ненатуральным сьвятлом. Цікава, гэта стан душы ці зьмест загаду? Дзяжурны, здаецца, нават нешта буркнуў пра сьвята. Але, зноў жа, словы былі нейкія ненатуральныя, казённыя.

Затое шпацыр выйшаў адмысловы. Нас нібыта акунулі ў СССР. Як прамакатку. Музыку падабралі з асаблівай вытанчанасьцю. Песьні пра непераможную і легендарную — гэта яшчэ сяк-так, але пра мудрага Сталіна... І гэтак дзьве гадзіны бесьперапыннага даўбеньня па вушах.

Такі песенны рэпэртуар не выпадковы. І наагул, з кожным пражытым у ізаляцыі днём я разумею, што ў нашым цяперашнім жыцьці няма месца выпадковасьцям. Ёсьць галава, а можа, і не адна, якая займаецца пісаньнем сцэнару на дзень, на тыдзень для адмысловага кантынгенту «амэрыканкі». Сядзяць гэтыя дзядзькі ў пагонах на шакалядна-масьлянай зарплаце і прыдумляюць, як яшчэ прыціснуць, прыплюснуць, размазаць гэтых ненавісных апазыцыянэраў. А можа, нічога і не прыдумляюць, усё ўжо даўно расьпісана і зафіксавана ў рознага роду мэтадычках і дапаможніках. Яшчэ на Акрэсьціна я даведаўся, што там дагэтуль дзейнічаюць інструкцыі сталінскіх часоў. І гэта сымбалічна.

А калі так, то застаецца толькі намаляваць псыхалягічны партрэт паддосьледнага і накласьці яго на інструкцыю. Колькі спэцыялістаў па выбіваньні патрэбнага выніку, па катаваньнях і зьдзеках выкар-

міла і выпеставала таталітарная сыстэма! У шмат якіх дзяржавах постсацыялістычнай прасторы яны ўжо згрыбелыя старыя, а вось у Беларусі гэта і тыя, каму крыху за дваццаць. З такім генафондам цяжка канструяваць будучыню.

## 24 лютага, чацьвер

Новая ўводная ад адміністрацыі. Абвяшчаецца забарона ляжаць на нарах ад пад'ёму да адбою. Цяпер можна толькі сядзець! Гэта поўны піпец! У сытуацыі няспыннага стрэсу і напружаньня магчымасьць упасьці на нары і падрамаць паўгадзіны дазваляла хоць часткова аднавіць сілы, супакоіць нэрвы. І вось чарговае табу ад таварыша Арлова.

Новыя правілы былі даведзеныя да нашага ведама на разводзе і, вядома ж, выклікалі гул незадаволенасьці. Зразумела, што цяпер на вуснах толькі гэтая тэма. Гэта чарговая вайна, і пазьбегнуць яе немагчыма. Ахова заточаная на спыненьне найменшых спробаў разаслаць цела на нарах. Аж да пагрозаў ужыць спэцсродкі. Пачалося супрацьстаяньне. Пасьля шпацыру вырашылі ня здраджваць звыкламу ладу жыцьця, але больш за дзьве хвіліны пратрымацца не ўдалося. У камэру ўкаціўся чорназялёны клубок і хутка трансфармаваўся ў каток. Мы адступілі. Расьселіся на ніжніх нарах і так паўдрамалі-паўспалі. Плячо ў плячо.

Сёньня Ігар сустракаўся з адвакаткаю, і тая шапнула яму, што ўвесь інтэрнэт бурліць, кіпіць і абураецца. Аказваецца, туды выплюхнулася інфармацыя пра катаваньні і зьдзекі ў «амэрыканцы», і цяпер гэта тэма, якая найбольш абмяркоўваецца ў

прэсе і сацыяльных сетках. Быццам бы інфармацыю зьліў нехта з кандыдатаў у прэзыдэнты.

Ну што ж, гэта сапраўды важная навіна. Прычым падобна, што годная веры. Апошнім часам маскі зрабіліся нейкія млявыя, дый шмоны цяпер мала таго што ладзяцца радзей, дык і бяз звыклага імпэту. На апошнім загоне ў спартзалю адна з масак нават зьвярнулася да мяне па бацьку. Маўляў, Анатоль Уладзімеравіч, колькі гадоў вы змагаецеся, не надакучыла? Дый сытуацыі тыпу цяперашняй нічога не даюць, ні здароўя, ні кар'ернага посьпеху.

Мяне ўразіла ня столькі тое, *што* было сказана, колькі — *як*. Роўным, спакойным, *людзкім* голасам.

— Уявіце, не надакучыла. Мне ёсьць за што змагацца. І ня толькі мне. Жыць у Эўропе і жыць пахалопску — не для мяне. І, думаю, не для мільёнаў маіх суайчыньнікаў. І калі гэта не для вас, то гэта не азначае, што не для тых, хто атачае вас.

— Ну што ж, можа і ня згодны, але паважаю.

Такая вось размова.

Пасьля столькіх дзён, тыдняў, месяцаў зьдзекаў пачуць такое з вуснаў «чорных» — гэта нешта зь вялікім-вялікім пытальнікам.

Масачнік далёка ня першы, хто задае мне пытаньне, ці не надакучыла мне змагацца. Яго мне задавалі і на волі, і тут. Шмат хто разьвівае гэтую тэму далей і глыбей — маўляў, прыйшоў час «старой апазыцыі» саступіць месца іншым. Тэма амаладжэньня і абнаўленьня беларускай апазыцыі — рэч сэзонная. Асаблівы попыт на яе — калі на календары прэзыдэнцкая кампанія. Зразумела, што з асаблівым імпэтам яе падаграе і прасоўвае ўлада. Але і сярод апазыцыі ёсьць нямала ахвотных па-




Людзкая хваля пракацілася ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасьці

жаваць гэтую тэму. Не падыскутаваць, а менавіта пажаваць, як жуйку, якую праз пару хвілін можна выплюнуць. Толькі слоўны сьлед у чаце.

Як на мяне, дык тэма гэтая штучная і навязваецца звонку. Хоць у гэтай дыскусіі я і сам як бы зацікаўленая асоба. З крыла «старой гвардыі». Але права на пазыцыю ў гэтым пытаньні я не пазбаўлены. А яна ў тым, што беларускае апазыцыйнае асяродзьдзе — самае спрыяльнае для рэалізацыі палітычных амбіцыяў. Тут за вельмі кароткі тэрмін можна зрабіць галавакружную кар’еру. І дзеля гэтага ня трэба атрымліваць дазвол у Калякіна, санкцыю ў Лябедзькі, дабро ў Статкевіча. Для гэтага зусім не абавязкова быць даляравым мільянэрам. І пры гэтым на вашай візытоўцы лёгка можа адсутнічаць сымболіка вядомай палітычнай арганізацыі краіны.

Прыкладаў, якія пацьвярджаюць вышэйсказанае,

больш чым дастаткова. Шмат пра што сьведчыць і той факт, што адзіныя кандыдаты ў прэзыдэнты ад апазыцыі ў 2001 і 2006 гадах не былі сябрамі палітычных партыяў. Генэрал Фралоў напісаў заяву ў адну з сацыял-дэмакратычных партыяў, а праз год ужо быў намесьнікам старшыні БСДП(Г).

Былы рэктар Белдзяржунівэрсытэту Аляксандар Казулін ані ў кога не прасіў ліцэнзіі на тое, каб займацца палітычнай дзейнасьцю, але гэта не перашкодзіла яму за фантастычна кароткі тэрмін (некалькі месяцаў) узначаліць апазыцыйную партыю, стаць кандыдатам у прэзыдэнты, а потым і адным зь лідэраў апазыцыі.

Аляксандар Мілінкевіч. Хто пра яго ведаў за паўгода да прэзыдэнцкіх выбараў у 2006 годзе? Я не кажу пра краіну ў цэлым — хаця б у апазыцыйным асяродзьдзі. Вельмі нямногія. Тыя, хто працаваў на «тылавых прадпрыемствах», у рэсурсных цэнтрах ды ў няўрадавых арганізацыях.

Ня стала выключэньнем і выбарчая кампанія 2010 году. Мікалай Статкевіч — адзіны прадстаўнік «старой гвардыі». Усе спрэс астатнія — або зусім новыя твары (паэт Уладзімер Някляеў, бізнэсмэн Вус), або людзі з другога, а то і трэцяга эшалёну беларускай палітыкі (былы намесьнік міністра замежных спраў Андрэй Саньнікаў, эканаміст Яраслаў Раманчук, Рыгор Кастусёў, Віталь Рымашэўскі, Алесь Міхалевіч). У кожнага зь іх быў шанец. І ўсе яны па-рознаму ім распарадзіліся. Як? Неўзабаве даведаемся. Ад часу ўцячы немагчыма.

Я тут магу толькі дазволіць сабе некалькі камэнтароў адносна Мікалая Статкевіча. Ягоны прыклад сьведчыць, што працяглая прысутнасьць у палітыцы не адносіцца да абцяжваючых абставін.

Праўда і тое, што яна не дае ніякіх прэфэрэнцыяў. А вось наяўнасьць або адсутнасьць у чалавека стрыжня — гэта вельмі індывідуальна і не залежыць ад палітычнага стажу.

З усіх кандыдатаў Мікалай Статкевіч вёў самую жорсткую і агрэсіўную кампанію. Адны прэтэндэнты рабілі стаўку на пазытыўную альтэрнатыву для людзей і Беларусі, іншыя крытыкавалі недахопы цяперашняй сыстэмы, трэція акцэнтавалі ўвагу на неабходнасьці канструктыўнага супрацоўніцтва з уладай. Мікалай Статкевіч атакаваў асабіста Лукашэнку. Ён гаварыў з Лукашэнкам у манеры і голасам самога Лукашэнкі. Думаю, гэта была вымушаная неабходнасьць. Толькі так Мікалай мог зачапіць выбаршчыка. У іншых вобразах яму было б цяжка канкураваць з Раманчуком або Саньнікавым. Пры такой манеры пазыцыянаваньня месца ў сьпісе асабістых ворагаў кіраўніка Статкевічу было гарантаванае. Ці прадбачыў Мікалай, што ўсё складзецца так, як склалася? Тут мы ўсе ў аднолькавай сытуацыі. Асабіста я выявіўся дрэнным аракулам і прадказальнікам.

І яшчэ мне асабіста да канца незразумела, ці ўзгадняў Статкевіч з кім-колечы з кандыдатаў у прэзыдэнты свой заклік пакінуць Кастрычніцкую плошчу і рухацца да «Чырвонага дому», а затым на плошчу Незалежнасьці. Гэта частка пляну? Тады чыйго? Экспромт? Пытаньні ёсьць. Няма адказаў.

## 25 лютага, пятніца

Каманда «Пад’ём!» праляцела, як шалёная куля, і нікога не зачапіла. Адрэагаваў толькі дзяжурны па камэры. Астатнія, заправіўшы пасьцелі, тут жа

разьлегліся зноўку. Кантралёры мусілі літаральна выкалупваць кожнага. Вайна за права ляжаць на нарах працягваецца. Дасыпаем седзячы.

На ранішнім разводзе новая порцыя іньекцыяў для кантынгенту з шпрыца запалохваньняў. Забароны, забароны, забароны. Пагрозы, пагрозы, пагрозы. У нас хочуць адабраць тое нямногае, што яшчэ засталося, — маленечкую аўтаномію дзеяньняў унутры закупоранай прасторы.

Адкрыўшы ў сабе некаторыя здольнасьці рыфмаваць, вырашыў папрацаваць і ў жанры прозы. Тым больш што ў галаве даўно высьпеў сюжэт апавяданьня. Яго галоўны герой — голуб Лёлік. Пэрсанаж ня выдуманы. Птушка рэгулярна прылятае да нас падчас шпацыру. Заўсёды сядае ў адным і тым жа месцы і адтуль назірае за падзеямі. У маім апавяданьні Лёлік — голуб ня просты. Птушка шляхетнай крыві. З моцным радаводам.

Суседзямі ў яго груганьнё. Шматлікае і крыклівае. Лёлік лічыць за лепшае не сядзець зь імі на адной галінцы. І ня дзеля фанабэрыі і снабізму. Груган голубу вока лёгка выдзеўбе. Проста так, дзеля хохмы. Чорныя птушкі аблюбавалі гэтыя месцы яшчэ ў 30-я гады, калі людзей забівалі проста ў цесных дворыках НКВД і можна было ўдосталь падзяўбці салодкай чалавечыны. Груганьнё высесьніла з навакольля ўсю жыўнасьць. Ні вераб'я пужлівага, ні сарокі балбатлівай. Толькі Лёлік меў адвагу залятаць у гэтую забароненую зону. Яму падабаліся рызыкоўныя палёты.

Неяк сьнежаньскім вечарам Лёлік, прысеўшы перадыхнуць на галінцы насупраць паўадчыненай форткі будынка колеру жаўтухі, стаў сьведкам сцэны, якая шмат у чым зьмяніла звыклы лад яго-

нага жыцьця. Па той бок тоўстых сьцен, у доўгім, як дула аўтамата, кабінэце сядзеў дзясятак мужчын у мундзірах. Прыглушанае сьвятло. Россып зорак на зялёных пагонах. Дакладваў вусаты. Чорныя як смоль вусы рухаліся. Прысутныя парыпвалі асадкамі. Так Лёлік даведаўся пра тое, пра што ніхто не павінен быў ведаць. Ён чуў прозьвішчы людзей, якіх ваенныя мелі намер ізаляваць у ноч з 19 на 20 сьнежня. Статкевіч, Саньнікаў, Лябедзька, Някляеў, Севярынец — усяго больш за дваццаць прозьвішчаў. «Прэзыдэнт загадаў дзейнічаць хутка і рашуча, — вусаты чаканіў фразы, скануючы твары падначаленых. — У нас ёсьць неабмежаваныя паўнамоцтвы, аж да прымяненьня зброі. І мы выканаем загад нашага галоўнакамандуючага. Ніякіх сумневаў быць не павінна. Гэтае права даў нам беларускі народ. Мы абараняем яго».

Лёліку здалося, што вусаты павярнуў галаву да акна і глядзіць на яго. Не міргаючы. Ён ледзь стрымаўся, каб баязьліва не зьляцець з галінкі. Але цікаўнасьць была мацнейшая за страх.

Птушынае сэрца адчувала бяду, але людзі яшчэ ня ведалі пра яе. Наступнага дня Лёлік, прысеўшы на казырок аўтобуснага прыпынку, бачыў іхнія ўсьмешлівыя, мірныя твары. Людзі стаялі шчыльнай масай і слухалі тых, каго ўчора пайменна называў вусаты. На ветры матляліся і біліся бел-чырвона-белыя сьцягі. Адзін зь іх, прыстаўлены да сьцяны ГУМа, пахіснуўся і ўпаў. Лёліку здалося, што гэта чырвоная кроў на белым сьнезе. Палотнішча тут жа падхапіў кірпаты юнак. Глынуў паветра і выдыхнуў: «Жыве Беларусь!» І рэхам адгукнуліся сотні галасоў. Птушынае сэрца кальнула, але валідол галубам не належыцца.

Вось такі сюжэт закручваўся ў маёй галаве. Кожны раз, калі на шпацыры я бачыў птушку, у той жа дзень на паперу клаліся некалькі радкоў аповеду пра Лёліка і беларускія рэаліі. Здаецца, мае патугі цягнуць на тое, што некаторыя называюць літаратурным творам. Мне падабаецца. Думаю, і іншыя сядзельцы ацэняць мой літаратурны дэбют.

* * *

Пасьля абеду прайшлоператрэсваньне камэры. Усё працякала будзённа-прадказальна. Хіба што забралі мае сшыткі. Мабыць, кантралёр перастрахаваўся, затое ніхто не папракне яго, што страціў пільнасьць. Лепш патэнцыйныя праблемы для сваёй пятай кропкі перакласьці на галаву таго, хто глядзіць на цябе зьверху ўніз са сваёй пасады.

У мяне і так далёка не каліграфічны почырк, а цяпер я яшчэ наўмысна імкнуся сапсаваць яго. Ужываю скарачэньні. Часам пункцірам пазначаю асноўную думку, код да шыфру якой застаецца ў мяне ў галаве. Вядома, пры некаторых намаганьнях і наяўнасьці навыкаў зразумець, пра што ідзе гаворка ў тым ці іншым апавяданьні, можна. Але ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Вяду адразу некалькі сшыткаў. У адным дзёньнік, зь ім працую кожны дзень. Другі аддадзены літаратурнай творчасьці. Трэці — для ліставаньня зь дзяржаўнай бюракратыяй. Усё гэта складаю ў пакет, які вісіць у галавах.

Ну што ж, забралі дык забралі. Гэта першы раз я перажываў і хваляваўся за наступствы, цяпер не нэрвуюся. Сшыткі забраць можна, але што такое радкі? Гэта думкі. Між іншым, мае думкі. А іх не канфіскаваць. З галавы іх можна выбіць хіба што

кавалкам сьвінцу. Вырашыў, што ўсё роўна буду пісаць дзёньнік, працягну пісаць вершы, калі толькі не забяруць асадку і паперу. Дый у гэтай сытуацыі можна драпаць цьвіком на сьцяне, пазногцем на табурэтцы. Гэта патрэба і неабходнасьць. Да таго ж і гімнастыку шэрага рэчыва ніхто не адмяняў. Так што тут жа выняў новы сшытак і зрабіў першы запіс.

## 26 лютага, субота

Па сьняданку вярнулі сшыткі, забраныя пры ўчорашнім аглядзе камэры. Здаецца, усё на месцы. Начальнік СІЗА неяк намякнуў, што нейкія рукапісы перадавалі на волю Севярынец і Фядута. Я ў гэтым ня ўпэўнены. Дый адна справа — вершы пра бярозавы гай, а іншая — дзёньнік з апісаньнем таго, што адбываецца ў казэматах «амэрыканкі». Але, зь іншага боку, калі запісы і дзёньнікі ўжо трэці ці чацьвёрты раз вяртаюць, значыць, рыса недазволенага яшчэ не пераступлена.

Адзначыўся візытам Арлоў. І не адзін, а ў кампаніі таварыша пракурора. Прыход плянавы. У канцы кожнага месяца камэры інспэктуе пракурор у суправаджэньні начальніка «амэрыканкі». На казённай мове гэта гучыць так: для кантролю за выкананьнем заканадаўства ў СІЗА і забесьпячэньня правоў падсьледных. Насамрэч гэта чыстая фармальнасьць. Дзеля птушачкі. Пракурор, кажуць, адзін і той жа. Прыкамандзіраваны да СІЗА.

Я бачу яго ўпершыню. Даўгалыгі дзяцюк. Сярэдняга веку. Сіні кіцель, чорная папка са скуразамяняльніка пад пахай. Увайшоў і адразу кінуў якар. Вачыма сюды-туды. «Скаргі ёсьць?» Голас вялы

і абыякавы. Гэта адзінае пытаньне, працэджанае скрозь зубы. Сумна яму тут. На гадзіньнік пазірае. Маўляў, прабачце, сьпяшаюся да спраў больш важных і цікавых. І каб не Арлоў, то размова, хутчэй за ўсё, скончылася б, так і не пачаўшыся. Але начальнік СІЗА, наадварот, быў актыўны і гаваркі. Ён па-гаспадарску прабегся па камэры, запускаючы позірк пад стол, у вочы, пад нары. Адчувалася, што ў палкоўніка ёсьць нешта такое, пра што хочацца сказаць. І сапраўды, пасьля некалькіх дзяжурных фразаў наконт побыту Арлоў скараціў дыстанцыю да адлегласьці выцягнутай рукі.

— Не пашанцавала вам. Не пашанцавала... — Паўза. Мабыць, палкоўнік разважаў над маім нешанцаваньнем. — Дык вось, давядзецца вам застацца тут надоўга. Дзякуйце свайму таварышу. Яго выпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе, і толькі яго і бачылі. Уцёк з краіны. Як пасьля гэтага каго-сьці адпускаць? Усё, цяпер дзьверы зачыненыя!

А сон у руку, мільганула думка.

— Вы ня хочаце даведацца, пра каго ідзе гаворка? — адчувалася, што Арлоў яшчэ ня выгаварыўся.

— Міхалевіч?

Па выразе твару палкоўніка я зразумеў, што трапіў у дзясятку.

— Так, сапраўды Міхалевіч. Той яшчэ тып.

Вось гэта навіна! Вось дык так! Вось яна, разгадка сну. Гэта мяне ашаламіла, напэўна, больш, чым сама навіна, прынесеная палкоўнікам Арловым.

Працэсія на чале з цыбатым пракурорам і каратка081ім начальнікам СІЗА рушыла далей. А ў камэры завязалася дыскусія: добра гэта ці дрэнна, што чалавек ламануў за мяжу? Думкі падзяліліся.



Пацісьнем рукі. Экс-прэм'ер-міністар Беларусі Міхаіл Чыгір і Анатоль Лябедзька

— Малайчына, — сканууў Сан Саныч. — Пакінуў гэтых казлоў з носам. Уяўляеце, хлопец цяпер гуляе недзе па Парыжы ці Бэрліне.

Так, Элізэйскія палі — сур'ёзны аргумэнт ва ўспрыманьні тых, хто закупораны ў «амэрыканцы».

— Ды ён жа здрадзіў сваім таварышам, — запратэставаў Каранеўскі. — Цяпер на вас могуць адыгрецца па поўнай праграме.

Дыскусія зрабіла тры абароты вакол восі тэмы і пытальнікам зьвярнулася да мяне. Адвакатам быць я ня мог, а пракурорам не хацелася.

— Хай судзьдзёй будзе час. Міхалевіч падумаў пра сябе, і гэта яго законнае права. Але, напэўна, у яго не было часу, каб падумаць пра іншых. Пра тых, хто застаўся тут. Гэта ягоны выбар, але гэта ня мой выбар!

На гэтым дыскусія практычна вычарпалася. Раманоўскі пад уражаньнем ад нядаўніх гасьцей

распавёў пра нейкага Васіля. Адчайдушнага падпалкоўніка МУС, які вядзе зацятую барацьбу з адміністрацыяй СІЗА КДБ. Праўда, сёньня ён у такім жа становішчы, як і мы. Але гэта не перашкаджае Васілю пэрыядычна падымаць лякальныя паўстаньні і бунты. Калі ў ізалятар з інспэкцыяй прыбыў сам намесьнік генпракурора Швед, Васіля на ўсялякі выпадак адправілі ў «ціхі пакой». Выпадкі могуць быць розныя, таму вырашылі не ствараць праблемаў ні сабе, ні высокапастаўленаму чыноўніку Генпракуратуры. Праўдаруб Васіль тут жа расьпісаў тое, што адбылося, у лісьце. Маўляў, адзін клоўн прыйшоў, іншыя клоўны да яго далучыліся і зладзілі цэлае цыркавое прадстаўленьне. Ліст трапіў у рукі Арлову. Выбухнуў скандал. Падпалкоўніка абвінавацілі ў паклёпе і абразах. Васіль разыграў зьдзіўленьне і запатрабаваў прадставіць доказы. Яму прад’явілі ягоны ж ліст. Васіль тут жа парваў паперу і сплавіў усе доказы і сьведчаньні ў каналізацыю. Вайна эмвэдэшніка Васіля і кадэбэшнікаў працягваецца!

Дарэчы, мяне ня сталі пазбаўляць прыемнасьці сустрэчы з намесьнікам генпракурора Шведам. Ён сапраўды нечакана ўзьнік у нашай камэры. З адным-адзіным пытаньнем: ці ёсьць скаргі на ўмовы ўтрыманьня? Я паспрабаваў скарыстаць нагоду і спытаў, чаму Генпракуратура не адрэагавала на мае звароты па факце незаконнага пранікненьня невядомых у маё жыльлё і прымяненьня фізычнага гвалту ў дачыненьні да людзей, віна якіх не даказаная. «Гэта зусім іншая тэма, і калі вы яшчэ не атрымалі адказ па сутнасьці, то атрымаеце. Чакайце! Мэта ж майго візыту — устанавіць, ці ёсьць у вас прэтэнзіі, заўвагі па бытавых пытаньнях». Пасьля

такога адказу стала ясна, што намесьнік генэральнага пракурора прыбыў не вырашаць праблемы, а аформіць іх сьпісаньне ў архіў.

У думках яшчэ раз вярнуўся да ўцёкаў Алеся Міхалевіча. Ва ўсім гэтым, здаецца, ёсьць і свой плюс. Трэба думаць, зьяжджаючы зь Беларусі, Міхалевіч пакінуў інфармацыю пра тое, што дзеецца ў «амэрыканцы». Але чаму тады пра гэта на поўны голас не заявілі астатнія, каму зьмянілі меру стрыманьня? Іх запалохалі? Падвесілі перад судом на кручок чаканьня? Хутчэй за ўсё, так і ёсьць. Ну, трэба прызнаць, вясёлы выйшаў дзянёк.

## 27 лютага, нядзеля

Не адразу даўмеліся, што да нас прыйшлі перамены. З «амэрыканкі» зьніклі маскі. Гэтак жа нечакана, як і зьявіліся. Тады не сказалі «добрага дня», цяпер не сказалі «да пабачэньня». Проста сёньня іх не аказалася за адчыненымі дзьвярыма.

Але больш за два месяцы менавіта яны былі галоўнымі дзейнымі асобамі, яны фізычна і эмацыйна запаўнялі прастору СІЗА КДБ. Кожны сантымэтар. Кожную хвіліну. Сваімі хрыплымі галасамі. Сваёй чорнай уніформай і чорна-зялёнымі маскамі. Сваёй агрэсіўнасьцю і злосьцю. Што гэта за людзі? Хутчэй за ўсё, спэцпадразьдзяленьне КДБ «Альфа». Байцы элітнай структуры, створанай для барацьбы з тэрарызмам, самі сталі дзяржаўнымі тэрарыстамі. Вядома, не па сваёй волі, па загадзе. Але што гэта мяняе? Анічога! Гэта толькі паказвае ступень дэградацыі ўсёй дзяржаўнай сыстэмы. Баец спэцназу апусьціўся да плянкі наглядчыка канцлягера. Дакладней, яго апусьцілі. Недзе такія падразьдзя-

леньні — гонар краіны; у нас, пасьля ўсяго таго, што я ўбачыў на свае вочы, яны — ганьба Беларусі. Ім прапанавалі пагуляць у катаў, і яны не адмовіліся.

Так, вядома, гэта не НКВД з 30-х гадоў. Палохалі электрашокерам, а маглі і на электрычнае крэсла пасадзіць. Ставілі на расьцяжку, а маглі да сьцяны, сцалаванай сьвінцом. Каталі сьвятлом, холадам, а маглі тым жа, але значна больш жорстка і балюча, да сьлепаты і адмарожаных канечнасьцяў. Білі гумовымі палкамі, а маглі жалезным прыкладам, ды так, каб зубы вышчоўкваліся са сківаць.

І вось цяпер за дзьвярыма цішыня. Вушам прыемна, але нязвыкла. Сёньня ў «амэрыканцы» іншыя гукі. Не такія прарэзьлівыя і гістэрычныя. Кантралёры пачалі размаўляць, а не крычаць, хадзіць, а не грукатаць танкавай калёнай. Некаторыя, як Баптыст і Якут, выглядаюць садзьмутымі шарыкамі.

Галавой разумею, скурай адчуваю, што экватар чорнай паласы ўжо недзе за плячыма. Значыць, я змог! Значыць, вытрымаў, выстаяў!

Не магу сказаць, што прыйшоў час белага колеру. Хутчэй, перамяшчаюся ў шэрую зону. Ведаю, што ўсё можа здарыцца, паўтарыцца, але ўжо, здаецца, ня тут, ня ў гэтых сьценах.

Мы ішлі рукі за сьпіну, галаву ўніз. Але мы ішлі, нас ня гналі, як атару авечак. Я чуў, як соп Раманоўскі, як шоргаў ботамі Каранеўскі. Раней я гэтага ня чуў, бо гэта было немагчыма. Цяпер цешуся тым, што вярнулася.

Дворыкі для шпацыраў — без дэкарацыяў. Над імі больш не зьвісаюць чорна-зялёныя маскі. Карнавал, які доўжыўся больш за два месяцы, скончыўся. Над галавой толькі шэрае неба!

## 28 лютага, панядзелак

Сёньня апошні дзень зімы. Гэты факт і на воліварты ўвагі і абмеркаваньня. Ну, а тут... А тут гэта падзея! Прыемная ва ўсіх дачыненьнях. На смак, на пах, на колер, навобмацак. І галоўнае, на чаканьне. У зімы сьвежы прысмак лёгкага шаленства. Ёсьць адчуваньне, што апошнія два месяцы па няцотных днях жыў у вар'яцкім доме, а па цотных — у рэканструяваным канцлягеры.

З гэтай зімой ня толькі тэмпэратура, але і ўсё астатняе са знакам мінус. Так што пра першы дзень вясны гаворым як пра нешта абавязкова прыемнае і пазытыўнае. Гэта ўнутраная саманастройка арганізму.

Настрой трансфармуецца ў радкі ліста на «Вялікую зямлю». «*Час не стрымаць. Ён то бяжыць, то цярушыць, ледзьве перабіраючы нагамі. І мы разам зь ім крочым у будучыню. З чыстым сумленьнем, годна і прыстойна*».

Я ў тых жа геаграфічных каардынатах, рухаюся па тых жа фіксаваных маршрутах. Як пранумараваны трамвай. Камэра — мэдычны кабінэт — камэра. Камэра — дворык для шпацыраў — камэра.

Некалькі дзён жыцьцё бязь лекаў. Толькі вітаміны! Здабываю сапраўдную асалоду зь фізычнай нагрузкі. Раніца пачынаецца з інтэнсіўнай зарадкі. Заправіў пасьцель і пайшоў падымаць ногі. За пару падыходаў — тысяча, а то і больш разоў. Потым зарадка на вуліцы. Пасьля яе, у залежнасьці ад самаадчуваньня, дадаю яшчэ ў камэры.

Перагарнуў апошнюю старонку гістарычнага апавяданьня Пікуля. Зьмена жанру — разгортваю Чэйза.

Сёньня паўдня правёў у пошуках рыфмы. Выйшла, мабыць, ня вельмі паэтычна, але напісана сэрцам. Гэта падарунак маёй Сьвеце на 8 сакавіка. Хачу заўтра адправіць, каб да сьвята ліст дайшоў.

*Что подарить любимой?*
*Звезду, весну, рассвет?*
*Чтоб в перспективе обозримой*
*Был мил весь белый свет.*
*Как донести весну,*
*Не расплескав в ладонях,*
*Настроив звуки на волну*
*Любви, стоящей на коленях?*
*Как не проспать рассвет*
*В объятьях сновидений,*
*Собрав в один букет*
*Все запахи растений?*
*Как изловить звезду*
*И не обжечь при этом руки?*
*И, загадав мечту,*
*Реализовать по правилам науки?*
*Я подарю тебе любовь*
*Сильней весны и ярче звездопада.*
*Она кружит и будоражит кровь.*
*Скажи мне, милая, ты рада?*

Гэтую частку ліста пісаў ледзьве не друкаванымі літарамі.

* * *

Хацеў скарыстацца мясцовай пральняй, таму што бруднага, прапахлага потам і камэрай адзеньня, бялізны набралася ўжо два пакеты. Два чорныя пакеты. Усё гэта складзіруецца пад ніжнія нары і вонкава нагадвае звалку з бауламі ад сьмецьця і рэчаў, адпраўленых ва ўтыль.



Брацiслава. Дэпутаты парлямэнту, палiтыкi розных краiн з партрэтамi палiтзьняволеных «амэрыканкi»

Але сёньня паведамiлi, што рэчы мыць ня возьмуць. Альбо пад кранам мый, альбо дадому перадавай. Але хутка адпрацаваць лягiстыку перадачы нельга. Тут усё залежыць ад хуткасьцi кругазвароту лiстоў, а ён слаба прагназавальны. Перабiраю i сартую гардэроб. Сёе-тое давядзецца пусьцiць у паўторны ўжытак. Тут усе рэчы ў эксплюатацыi, але некаторым я гатовы сьпяваць гiмн. Яны як палачка-выручалачка. Да прыкладу, байка i боты. Чорную мяккую, на ўсякае надвор'е i кругласутачную байку я здымаю, толькi калi займаюся гiмнастыкай у камэры альбо мыюся. Акрамя ўсяго iншага, зручны капюшон выконвае функцыю iзаляцыi ад лiшнiх шумаў i гукаў у начны час. Ну, а ў мяккiх зiмовых ботах хiба толькi ня сплю. Так што дзякуй вытворцам, немцам i iтальянцам, за якаснае адзеньне i абутак для беларускiх палiтвязьняў.

* * *

Вырашылi ўзмацнiць барацьбу са сьмецьцем i iншымi рэчамi, якiя спадарожнiчаюць чалавечай дзейнасьцi. Папрасiў у хатнiх мяхi для сьмецьця. Тыя адразу ж прыслалi. Але перадачу не прынялi. Сапраўды, навошта падсьледным элемэнтарныя

выгоды! Мы ж для іх недачалавекі. Так што па-ранейшаму засьцілаем бачок для сьмецьця газэтнымі шкуматамі.

Але і тут узьніклі цяжкасьці. Падчас апошняга шмону вынесьлі ўсе часопісы і залежы старых газэт. Маўляў, захламляюць камэру. А падпіска ў нашу камэру не паступае. Так што мы дайшлі да таго, што з агульнага карыта, куды звальваюць адкіды з усіх камэр, выбралі некалькі больш-менш чыстых газэтных старонак. Вось ужо ня думаў, што давядзецца, як бамжу, на сьметніку жабраваць.

## 1 сакавіка, аўторак

Пад'ём! Празь дзесяць хвілін у адчыненую фортку пацягнуліся струмені шызага дыму ўперамешку з натуральным смуродам «амэрыканкі».

А сёмай гадзіне ў камэру ўляцеў вясёлы звон з плошчы Свабоды. Сьпеў званоў — адзінае, што бесьперашкодна, бесцэнзурна пранікае ў камэру.

Дзень толькі пачынаецца. Яго яшчэ не сапсавалі, не спаганілі ні абставіны, ні адміністрацыя.

У хвіліны зацішша засумаваў па доме. Пачаў па хвілінах аднаўляць апошні дзень свабоды.

* * *

Нядзеля 19 сьнежня. Такое адчуваньне, што з таго часу прамінуў сама меней год. А той нядзельнай раніцай я прачнуўся ад цішыні. Будзільнік не прысьпешваў. Тэлефон ня клікаў. Пацягнуўся да хрусту ў суставах. Выскачыў з пасьцелі. Расьцёр далонь правай рукі, зь якой толькі паўтара тыдні таму зьнялі швы. Зазірнуў у працоўны графік і з задавальненьнем пабачыў там толькі адно мерапрыемства: 20 гадзін — Кастрычніцкая плошча. Упершыню за апошнія месяцы ня трэба нікуды сьпяшацца. Ня трэба жаваць бутэрброды на хаду, праяжджаць скрыжаваньні на жоўтае сьвятло.

Прэзыдэнцкая кампанія, упацеўшы ад нязвыклага рытму, разагрэтая амбіцыямі і эмоцыямі, падышла да скрыняў для галасаваньня. Раніцай з жонкай Сьвятланай схадзілі на выбарчы ўчастак у будынку гімназіі. Там аддалі галасы — Яраславу Раманчуку, бюлетэні — махінатарам з участковай камісіі.

У мяне быў прыўзьняты настрой. За плячыма добрая праца. Калі ня ўсё, то шмат што ў нас ат-

рымалася. Нам удалося стварыць дзеяздольную каманду. Крэатыўную, энэргічную, ідэйную. Людзі атрымлівалі мала грошай, але шмат задавальненьня. Гэта тая рэдкая сытуацыя, калі куды ні зірнеш — навокал вочы гараць. Сёньня я магу ўпэўнена сказаць: Аб’яднаная грамадзянская партыя — самадастатковая палітычная сіла. Мы ў стане канкурыраваць з уладай за галасы тых, хто вызначае лідэра краіны. Мы ў тройцы тых, каму не задаюць пытаньня: а вы сапраўды сабралі 100 тысяч подпісаў? Патэнцыял структуры навідавоку, рэзэрвы для росту велізарныя.

Каб пералічыць кандыдатаў у прэзыдэнты, патрэбныя пальцы абедзьвюх рук. Але, гатовы сьцьвярджаць, мы адзіныя, хто быў арыентаваны, заточаны на працу з тымі, хто сумняваецца. З тымі, хто ўжо расчараваўся ва ўладзе, але яшчэ не паверыў апазыцыі. На іх была арыентаваная наша праца, да іх зьвернута вестка. На апошняй прэс-канфэрэнцыі Яраслаў Раманчук шчыра прызнаўся, што ня можа браць на сябе адказнасьць за Плошчу, бо ня ведае, як яе рабіць, але наша каманда гатовая несьці адказнасьць за рэформы.

Стартаваўшы зь беларуска-польскай мяжы, з выкопваньня сымбалічнага пагранічнага слупа, мы аб’ехалі большасьць рэгіёнаў краіны. Я бачыў, як людзі, розныя векам, адукацыяй, палітычнымі прыхільнасьцямі, рэагавалі на праграму «Мільён новых працоўных месцаў для Беларусі». Нашу вестку прынялі практычна ўсе, да каго мы змаглі дайсьці. Нават тыя, каго адпраўлялі на сустрэчы з заданьнем зачытаць падрыхтаваны тэкст пытаньня або рэплікі, пашумець ад мікрафона, пад канец гутаркі слухалі ўважліва і, здаецца, чулі нас.

На нашым сьцягу быў слоган: «Пабудуем новае, захаваем лепшае». Лічу яго самым удалым, і не таму, што ў нас ёсьць патэнт на яго вынаходжаньне. Ён сапраўды адпавядаў настроям большасьці выбаршчыкаў. Беларусы даволі кансэрватыўныя. Яны хочуць пераменаў, але баяцца страціць тое нямногае, што ўжо маюць.

Каманда ў нас была самая прадстаўнічая і аўтарытэтная. Мы не хаваліся за фразы тыпу «Яшчэ не прыйшоў час назваць маю каманду». У нашых шэрагах — бацька беларускага рубля Станіслаў Багданкевіч, першы прэм’ер-міністар прэзыдэнцкай Беларусі Міхаіл Чыгір, адзіны міністар, які разам з Чыгіром падаў у адстаўку, пратэстуючы супраць антыканстытуцыйнага рэфэрэндуму 1995 году, — Аляксандар Сасноў, твар беларускага тэлебачаньня — народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, стваральнік канцэрну «Амкадор» Васіль Шлындзікаў, вядучыя эканамісты краіны Леанід Заіка і Павал Данейка, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў, людзі з досьведам працы ў парлямэнце Аляксандар Дабравольскі і Марат Афанасьеў, адна зь лідэрак жаночага руху краіны Людміла Пеціна, а яшчэ незвычайна працаздольныя Аксана Крышчановіч, Анюта Красуліна, Антаніна Кавалёва. І многія, многія іншыя.

Дзесьці пасьля дзясятай раніцы раздаўся званок. Паведамляюць: у нас 10 працэнтаў, крыху больш у Някляева і Саньнікава. Гэта дадзеныя экзыт-полаў па Берасьці, Віцебску і Менску, якія арганізавала структура з расейска-амэрыканскімі каранямі. Калі ўзяць пад увагу, што мы стартавалі з нулявой адзнакі, то гэта зусім нядрэнна.

Каля восьмай вечара каманда сабралася на Чыр-

вонай. Некалькі дзясяткаў чалавек у прыўзьнятым, безь перабольшваньня — сьвяточным настроі рушылі па праспэкце. Чым бліжэй да плошчы, тым гусьцейшы людзкі замес, тым радасьней на душы. А на падыходзе да Кастрычніцкай ужо сьцяна з чалавечых целаў. Чуваць воплескі. Гэта прывітаньне Яраславу. Выхопліваю з рук Сашы Сьцепаненкі мэгафон і ўсімі лёгкімі выдыхаю: «Жыве Беларусь!» Шматгалосае «Жыве!» разрывае паветра і рэхам разьлятаецца па праспэкце і бліжэйшых вулачках.

Хвілін праз пятнаццаць на прыступках Палаца прафсаюзаў зьяўляецца імправізаваная трыбуна. Затарахцеў рухавічок, загаварыла цяжкая артылерыя — гукаўзмацняльная апаратура. Выступаюць кандыдаты ў прэзыдэнты, аточаныя жывым колам са сплеценых рук. Абгаворанага, тым больш зацьверджанага, сцэнару Плошчы няма! Кандыдаты ў прэзыдэнты дамовіліся арыентавацца на сытуацыю, на колькасьць удзельнікаў і ўжо па ходу разьвіцьця падзеяў прымаць калегіяльныя рашэньні. Галоўнае, не дапусьціць правакацыяў і некантраляванага разьвіцьця сытуацыі. Эўфарыя б'е па амбіцыях. Амбіцыі рвуцца да мікрафону. Колькасьць людзей, якія сышліся сюды, п'яніць і бударажыць.

Нехта, мяркуючы па голасе — Андрэй Дзьмітрыеў, заяўляе аб стварэньні народнага ўраду. Эўфарыя спачатку зьдзівілася, потым пачала абурацца. Што за самадзейнасьць? Дамаўляліся ж, што ніякіх імправізацыяў без узгадненьня з усімі кандыдатамі. Тут жа называюць прозьвішчы, за якія прапануецца прагаласаваць. Некаторыя «сябры ўраду», чые прозьвішчы прагучалі, недаўменна азіраюцца навокал. Здаецца, і для іх гэта сюрпрыз. На гэтым

уся каардынацыя накрылася медным тазікам. Здаецца, у некага плян такі ёсьць.

Нехта клікаў, цягнуў мяне да мікрафона. Унутраны голас сказаў: не ўжо, дзякуй. Да таго ж ля мікрафона тоўпілася чарга. У гэтым фільме я герой другога пляну. Саліраваць ёсьць каму. Я ж цешуся энэргетыкай неабыякавых сэрцаў.

* * *

Наплыў успамінаў перапыніўся бразгатам мэталічнага посуду. Па калідоры грукае вазок. Алюмініевыя бакі дыхаюць парай. Чарпак прэснай кашы, падляжалы батон ды брыкет чорнага хлеба — вось і ўвесь казённы сьняданак. Ды яшчэ водаправодная вада. Каб не перадачы з дому, то голад быў бы кругласутачным станам падсьледных.

## 2 сакавіка, серада

З 21 лютага ніякіх лістоў з дому. Апошнім было сумеснае пасланьне Сьвятланы і Арцёма. Адна старонка напісаная сынам, а другая — Сьветай. Мне такі фармат ліста прыйшоўся даспадобы. Два ў адным. Розныя і аднолькава прыемныя. Чытаю, і такое адчуваньне, што мой сын за гэтыя месяцы моцна прыбавіў. Узмужнеў, ці што. А можа, я проста маю магчымасьць больш пра яго думаць, думаць пра кожнае напісанае ім слова.

Дарэчы, усе апошнія лісты напісаныя на аркушах з эмблемай ЕРР (Эўрапейскай народнай партыі). Незразумела, чаго гэта Арцём іх рэклямуе? Можа, такім чынам перадае прывітаньне ад некага з “народнікаў”? Ці, можа, браў удзел у нейкім мерапрыемстве, арганізаваным ЕРР? А што тэма салідарнасьці зь беларускімі палітвязьнямі ўключаная



Моладзь АГП. Жыве Беларусь!

ў парадак дня міжнароднай супольнасьці, я не сумняваюся ні сэкунды. Сам асабіста зьбіраў сотні, а можа і тысячы, подпісаў дэпутатаў з розных краін за вызваленьне сваіх аднапартыйцаў і калегаў па Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня Валодзі Кудзінава і Андрэя Клімава. Потым Міхаіла Чыгіра. Потым Міхаіла Марыніча. Потым Сашы Казуліна.

Ледзь ня ў кожнай краіне эўрапейскага кантынэнту ёсьць людзі, зь якімі мяне зьвязваюць цёплыя, сяброўскія адносіны. І ня толькі мяне, але і іншых палітвязьняў. Яны маўчаць ня будуць! Як ня будуць бязьдзейнічаць і нашы партнэры, сястрынскія партыі. Тым больш у такой сытуацыі, калі цэлую краіну ўкручваюць у дыван са сталінскай прыёмнай.

Верагодна, нейкія мае лісты ўсё ж застаюцца ў тэчцы цэнзара. Я магу меркаваць пра гэта па адказах і зваротнай рэакцыі блізкіх. Лісты старанна

нумарую, але нельга выключаць, што лічбы густа замазваюцца. Такія плямы я сустракаў у некалькіх лістах, атрыманых ад Арцёма. Не праходзяць праз цэнзуру, ні ў той, ні ў другі бок, лісты, адпраўленыя на партыйны офіс. Але ўсё роўна раз на два тыдні пішу: «Добры дзень, сябры-аднапартыйцы!» Апошнім часам перайшоў на кароткія, без аніякай канкрэтыкі, цыдулкі. Але, здаецца, і гэтая дробная хітрасьць не спрацоўвае.

* * *

Прыйшла каляндарная вясна, але зьнешніх прыкмет гэтай пары году не праглядаецца і не пранюхваецца. І пацьвярджэньнем гэтага — сымптомы лёгкага катару. Жывём чаканьнем цяпла, сонца і шпацыраў бяз куртак. А пакуль усё гэта затрымліваецца, раблю тое, што магу рабіць. Пішу чарговы ліст.

*«Я засынаю і прачынаюся з думкамі пра вас. Мушу прызнаць, што я ўдзяляў вам ня так шмат часу і ўвагі. Тут і цяпер я гэта зразумеў. Так што прабачце. Маю спадзеў, што мая сытуацыя не забярэ кавалак здароўя ў бацькоў. Малюся за іх. Дай божа ім сілы. Прыйдзе час, і ўсе атрымаюць па заслугах і ўчынках сваіх. Хто нясе зло і несправядлівасьць, ад іх жа і пакутаваць будуць».*

* * *

Дзе паўзком, дзе і подбегам час падабраўся да адбою. Паплюхаўся пад кранам з халоднай вадой, адчысьціў зубы ад паху казённага селядца. Залез у кокан сваёй пасьцелі, нацягнуў капюшон байкі і... як кажуць сьведкі, праз пяць хвілін ужо салодка пасопваў. Прыемных табе сьненьняў, прыяцель!

## 3 сакавіка, чацьвер

Дзень прайшоў у рваным, нэрвовым рытме. Раніцай пацапаліся з кантралёрамі з-за прыбіраньня камэры. Баптысту здалося, што мы абмежаваліся толькі сухой прыборкай. Дарэчы, кожны дзень мы вымятаем з-пад нараў цэлы шуфлік ці то валасоў, ці то воўны, ці то яшчэ чаго. Хутчэй за ўсё, гэта вытрэсаецца з казённай пасьцелі, матрацаў, коўдраў, падушак. Адчуваньне не з прыемных. Быццам горка стрыжаных валасоў зь вязьня № 10011110362 (нумар нашай справы).

Потым не пашанцавала са шпацырам. Трапілі ў клетку, і нас разы тры вышморгвалі зь яе ў туалет, бо з дворыкаў выводзілі падсьледных на допыты. Колькі ні ўзіраўся ў шчыліну дзьвярэй, разгледзець нікога ня змог. Аднойчы здалося, што вялі Дзіму Бандарэнку. Але да канца ня ўпэўнены.

Але вось прыйшоў вечар, час таяньня нэгатыўных эмоцыяў, якіх набралася цягам дня. Да таго ж пасьля вячэры прынесьлі пошту, і нашай камэры пашанцавала: некалькі лістоў. Сан Саныч атрымаў ліст ад дачкі і, узьдзеўшы акуляры на шпіль носа, тут жа паглыбіўся ў чытаньне. Пэрыядычна зь ягоных нараў даносілася хіхіканьне. Раманоўскі не ўтрымаўся і зачытаў некалькі кавалкаў. Дачка пяшчотна называе яго Санёк. Па-сяброўску распавядае пра пэрыпэтыі школьнага жыцьця, пра жаданьне прасачкаваць нялюбы прадмет і ў бліжэйшыя выходныя схадзіць зь сяброўкамі ў кіно. Сан Саныч расчуліўся да сьлёз. Для нас гэта нязвыкла.

І Ігар атрымаў пасланьне ад дачкі. Яна вучыцца ў школе зь юрыдычным ухілам. Будынак школы — літаральна цераз вуліцу ад месца нашага зьня-



Пікет зьбіраць подпісы пад ГУМам. 18 кастрычніка 2010 г.
Анатоль Лябедзька, Леў Марголін і Зінаіда Бандарэнка

воленьня. Гэта значыць, дзяўчына ледзь ня кожны дзень праходзіць мэтраў за дзьвесьце ад камэры, дзе яе бацька.

Дачка ад першага шлюбу, але гэта гісторыя, калі бацькі захоўваюць, наколькі магчыма, звыклы ўклад жыцьця для сваіх дзяцей. Ад другога шлюбу ў Ігара сын, якому літаральна пару годзікаў. Адносіны зь ягонай маці юрыдычна не аформленыя, чаму Каранеўскі цяпер, здаецца, вельмі рады: яна працуе ў дзяржструктуры, на добрай пасадзе.

— А калі б мы былі зарэгістраваныя, то невядома, якія наступствы гэта мела б для маёй другой палавінкі. Так што дзякуй Богу, што ў нашых пашпартах няма адпаведнага штампа.

Калі людзі радуюцца, што ня могуць цывілізавана аформіць свае адносіны, гэта яшчэ адзін тоўсты штрых да рэаліяў беларускай рэчаіснасьці. Ненармальная сытуацыя нездаровай краіны.

Зь Ігаравымі асьцярогамі цяжка не пагадзіцца.

У нас калі хто трапляе пад каток, то гэта ледзь не аўтаматычна пераводзіць у разрад падазраваных і нядобранадзейных усіх ягоных сваякоў. Каток не пытаецца, як вам там пад ім, ён проста душыць. Разьбіраюцца, і то вельмі спэцыфічна, калі па вас удосталь патапталіся і пакаталіся.

Ігару пайшлі перадачы ад мамы, і вось ужо пару дзён ён, убраўшыся ў карычневыя вэльвэтавыя штаны і цёмна-сіні грубай вязкі швэдар, гогалем ходзіць па камэры. Праўда, пакуль яшчэ ў сваім доўгім чорным паліце, падобным да салдацкага шыняля.

— Ды ўжо ж, гарнітур і «амэрыканка» — рэчы несумяшчальныя, як Сахара і Паўночны полюс. Здаецца, на бліжэйшы год у мяне будзе ўстойлівая алергія на гарнітур.

Пакет зь ненавісным гарнітурам Ігар засунуў пад нары.

* * *

Нас затапіла. Мабыць, аварыя здарылася ў суседзяў. Накшталт таго, як было ў студзені. Ссунулі ці то каналізацыйную, ці то водаправодную плястыкавую трубу. А стык трубы, якая зрушылася ў суседзяў, якраз у нашай камэры. Вось праз яго спачатку пратачылася, потым пырснула, а потым і хлынула вада, а далей паплыла нейкая жыжка з кляакі. Як выявілася, палітра пахаў у «амэрыканцы» значна шырэйшая, чым нам уяўлялася дагэтуль. Добра, што аварыя здарылася, калі нішчымны сьняданак ужо адбыўся, а аскетычны абед яшчэ не падасьпеў.

Стоячы ледзь не па шчыкалатку ў сьмярдзючым брудзе, мы ўласнымі намаганьнямі састыкавалі

трубу і зафіксавалі гэты стык. Кантралёры нюхаць зьмесьціва труб не пажадалі, а на наш SOS і просьбу выклікаць сантэхніка адрэагавалі спакойна: маўляў, ратаваньне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў. Ну што ж, ратавацца дык ратавацца. Перш за ўсё ў ход пайшлі «Саўбелія», «Рэспубліка», «Народная газета». Газэтны агітпроп выканаў функцыю прамакаткі. Набрынялую жыжкай паперу складзіравалі ў урну для сьмецьця. Запоўнілі хутка. Потым кантралёры зьмілаваліся і спачатку дазволілі вынесьці сьмецьце, а потым выдалі інвэнтар для вільготнай прыборкі. Прайшліся тры разы з парашком, але пах каналізацыі перасьледаваў нас да самага вечара.

### 4 сакавіка, пятніца

Уначы прысьнілася, што мы трапілі ў буру і наш караблік раскурочыла, разьнесла на шматкі. Але чамусьці замест вады мы апынуліся ў чорнай, густой кляацы. Было цёмна і страшна. Памерці ў гэтай гідкай жыжцы мне не хацелася, таму боўтаўся з апошніх сіл. Я фізычна адчуваў безвыходнасьць. Прачнуўся ад таго, што жудасны пах сьпёр дыханьне і сілы канчаткова пакінулі мяне. Увесь мокры ад халоднага поту, я сьціскаў вялікі ручнік, які немаведама якім чынам апынуўся ў мяне ў руках. Напэўна, выконваў функцыю саломінкі, за якую я чапляўся, спрабуючы ўратавацца. Вось што значыць дзень на замесе эмоцыяў, пахаў, дзеяньняў і размоваў. Ды яшчэ калі ўсё гэта перамешваецца ў прасторы два з паловай на пяць.

Раніцай дзяжурны па СІЗА Міхал Міхалыч выкаціў нам абвінавачаньні за ўчорашні прарыў

трубы: маўляў, кідаеце ў каналізацыю розную хрэнь. Пярэчыць было марна, таму кожны застаўся пры сваёй думцы. У СІЗА тыя, хто па розныя бакі ад дзьвярэй камэры, наагул вельмі рэдка дасягаюць кансэнсусу.

* * *

Апошнім часам моцна заточаны на лістах з дому. Чым даўжэйшая разлука, тым вастрэйшае чаканьне. Лісты — гэта допінг майго настрою. Сёньня сваю дозу я атрымаў. Навіны ад Сьветы — гэта згустак інфармацыі і пачуцьцяў.

*«Вельмі перажываем, ад цябе не было лістоў нейкі час. Ці ўсё ў цябе добра (стасоўна да сытуацыі)? Даходзяць нейкія дзіўныя чуткі. Як вы там? Зразумела, што ты ня можаш нічога напісаць. Але вельмі, вельмі перажываем. Бацькі твой ліст атрымалі. Расчуліліся.*

*Мне прысьніўся нейкі "дурны" сон, і цяпер увесь час "чакаю", а цябе ўсё няма. Але калі-небудзь гэта здарыцца. Заўтра надыходзіць вясна! Вельмі хочацца пераменаў!*

*У бацькі да цябе толькі адно пажаданьне: каб у цябе хапіла мужнасьці на ўсю гэтую сытуацыю. Але мы ў табе ўпэўненыя! Усё ў нас будзе добра!»*

А яшчэ ў лісьце ўтрымліваўся намёк, што апошняя прадуктовая перадача — інтэрнацыянальная. У ёй падарункі ад літоўскіх, бэльгійскіх, амэрыканскіх сяброў. Гэта прыемна. І я адразу ж зразумеў, што і ад каго.

* * *

Мне вельмі не хапае інфармацыі пра тое, што адбываецца ўнутры і вакол АГП. Маштаб праблемаў я ўяўляю. У студзені паведамлялі, што Мін'юст

разглядае пытаньне пра магчымасьць ліквідацыі тых палітычных структураў, лідэры і актывісты якіх бралі актыўны ўдзел у падзеях на плошчы. Але калі б гэтая заява мела практычны працяг, то Арлоў не прамінуў бы на гэта намякнуць. Хутчэй за ўсё, гэтая заява — яшчэ адзін мазок да карціны «На руінах і папялішчы беларускай апазыцыі». Так бы мовіць, унёсак Міністэрства юстыцыі ў нагнятаньне гістэрыі і страху.

Шчыра кажучы, мяне больш за ўсё трывожыць пэрсанальны, кропкавы прэсінг з боку сілавых структураў, асабліва КДБ. Мы ж ведаем, да чаго можа прывесьці залішняе стараньне прадстаўнікоў палітычнага вышуку.

У сьнежні 2001 году ў Гомелі вынікам такога ціску стала самагубства сябра руху «Зубр» Андрэя Зайцава. У перадсьмяротнай запісцы малады чалавек патлумачыў матыў свайго сыходу з жыцьця. Гэта быў вымушаны крок. Зайцава прымушалі супрацоўнічаць з КДБ, прымушалі даносіць на іншых. І рабіў гэта старшы лейтэнант УКДБ па Гомельскай вобласьці Аляксей Еўсьцігнееў. Справа была гучная, але пракуратура ўсё сьпісала на няшчаснае каханьне. А старшы лейтэнант Еўсьцігнееў, хутчэй за ўсё, ужо маёр. І нельга выключаць, што ў сьнежні 2010-га яго таксама накіравалі ў камандзіроўку ў Менск для ўдзелу ў спэцапэрацыі «Плошча».

## 5 сакавіка, субота

Раманоўскі атрымаў сваю «пяцёрку» з канфіскацыяй маёмасьці. Паводле артыкула, якога даўно ўжо няма ў ніводнай эўрапейскай краіне на захад ад Буга. Пяць гадоў калёніі. Мог, вядома, і ўдвая

больш атрымаць. Сказаць, што засмуціўся... Лепш прамаўчаць. Яго нянавісьць і так не ўмяшчалася ў прастору камэры, цяпер яна страляла чэргамі слоў. Жорсткіх, безапэляцыйных. Ён не гаварыў, ён крычаў, ён сыпаў праклёнамі. Дэманстратыўна гучна і абразьліва. Вось яна, нянавісьць. У поўны рост. З адкрытым забралам. Калі б яму цяпер далі «калашнікаў», адной кропляй пралітай крыві не абышлося б. Мне нават зрабілася не па сабе.

Праз паўгадзіны РамаНоўскі аціх. Шчыльна замоўк і сышоў кудысьці ў лябірынты сваіх думак. Я ўважліва ўглядзеўся ў скамянелы твар. Здаецца, Сан Саныч нават пастарэў. Ці то сівізны ў барадзе паболела, ці то маршчыны зрабіліся глыбейшыя, але стары падсеў. Проста на вачах. Гэта ж якое ўзрушэньне перажывае чалавек! Зь іншага боку, зразумела, не пуцёўку ў санаторый атрымаў, а тэрмін. І наперадзе хай сабе і не апраметная «амэрыканкі», але ўсё ж калёнія, карані якой ідуць у савецкае мінулае. Там немагчыма нармальна жыць, там штодзённая барацьба за выжываньне. Гэта для кожнага арганізму сур'ёзнае выпрабаваньне, але калі ў гэтага арганізму яшчэ зношваньне ад узросту, то цяжкасьці ўзрастаюць у разы. Мне стала шкада гэтага чалавека, які змарнеў на вачах.

На некалькі гадзін у камэры запанавала балючая цішыня. Здаецца, нават кантралёры сталі радзей зазіраць у вочка. Хацелася даць Сан Санычу магчымасьць пабыць аднаму ў камэры, дзе нас было трое.

* * *

Убачанае і пачутае падштурхнула да ўласных развагаў. Пра нянавісьць, яе вытокі і наступствы.

Колькі несправядлівасьці, несумленнасьці, подласьці, крывадушнасьці вакол нас! Калі б усё гэта трансфармаваць у нешта матэрыяльнае, то краіна ператварылася б у адзін вялікі сьметнік. Што павінен цяпер адчуваць Дзіма Дашкевіч, якога кінулі ў турму толькі за тое, што ён Дзіма Дашкевіч? Хлопца кінулі ў СІЗА яшчэ да 19 сьнежня. Якія эмоцыі павінны адчуваць людзі каля «сьцяны катаваньняў» у спартзалі? Што робіцца ў душах тысяч тых, хто прайшоў праз канвэер сыстэмы беларускага правасудзьдзя? У галовах тых, каго выкінулі з унівэрсытэтаў, звольнілі з працы? У сэрцах сваякоў выкрадзеных і зьнішчаных апанэнтаў улады? Канспэктам развагаў, прапушчаных праз «думкавыціскалку» галавы, стаў зварот да галоўнага вытворцы нянавісьці ў Беларусі — Аляксандра Лукашэнкі. Тэкст неяк лёгка і хутка лёг на паперу. Што значыць прасякнуцца тэмай!

* * *

«Прыйдзе час, і вы памраце таксама! У балючых курчах ці ў здаровым розуме. Ва ўласнай пасьцелі ці на бальнічным ложку. У адзіноце або на руках целаахоўніка. Гэта непазьбежна і няўхільна!

Дыктар паведаміць пра падзею журботным голасам. Хрысьціянска-атэістычная Беларусь адрэагуе не па-хрысьціянску: захлынецца ад радасьці. Не, вядома ж, ня ўся. Усхліпне пэнсіянэрка. Уздыхне заежджы госьць з Расеі. Насьцярожыцца генэральскі кіцель.

Праяўленьне пачуцьцяў будзе нягучным, але масавым і шчырым. У кулак. На кухні. У курылцы. Краіна, якая радуецца сьмерці, а не жыцьцю, — відавочнае сьведчаньне ненармальнасьці яе мінулага.

Вы памраце, а што ж застанецца? Застанецца нянавісьць. Тая, што назапашвалася, наслойвалася ў сэрцах і душах. Гадамі, дзесяцігодзьдзямі. Па граму, па мілімэтру. І яна павінна будзе матэрыялізавацца, выплюхнуцца. На нешта, на кагосьці. На магільную пліту. На вашу памяць. На вашых дзяцей. На вашых унукаў. І гэтага нельга будзе стрымаць. Чым мацней сьціскаць спружыну, тым з большым імпэтам яна распрастаецца.

Нянавісьць абавязкова знойдзе саўдзельнікаў. Помста — адзін зь іх. Жорсткі і прагавіты.

Ці можна ўсё зьмяніць, сьцерці з памяці, пачаць з чыстага аркуша? Ня ўпэўнены! Занадта доўгія былі рэпрэсіі. Занадта глыбокія былі зьнявагі. Занадта жорсткая была расправа.

Тады што? Ці можна зрабіць хоць нешта?

Можна спыніцца! У тыражаваньні, памнажэньні гвалту, злосьці, агрэсіі, страху.

Нельга вярнуць родным забітых. Але можна аддаць маці і каханым сыноў і мужоў. Усіх палітычных закладнікаў. Ня трэба каяцца і прасіць прабачэньня. Тыя не павераць, гэтыя палічаць за слабасьць. Але ж можна не падкідаць дроваў у печ рэпрэсіўнай сыстэмы.

Намнажэньне нянавісьці, а адпаведна — і помсты, якая прагне рэваншу, можна спыніць! Вам гэта трэба? Вядома ж, не! Але, можа, гэта трэба ім? Тым, хто носіць ваша прозьвішча. Або пасьля вас хоць сусьветны патоп?»

* * *

Калі б у мяне была магчымасьць, я б сказаў гэта, гледзячы проста ў вочы Лукашэнку. Але такой магчымасьці ў мяне няма. Так што пакуль абмяжуемся фіксацыяй развагаў на паперы. А там

пабачым. Немагчымае сёньня часьцяком набывае рысы рэальнасьці заўтра. Вось толькі калі прыйдзе тое заўтра?

## 6 сакавіка, нядзеля

Ад ночы засталіся шматкі непрыемных сноў. Прысьніўся Віця Ганчар. Напэўна, упершыню за ўвесь час. Сустрэліся ў нейкім напаўзакінутым будынку. Напярэдадні запіску пра месца сустрэчы перадала незнаёмая жанчына. Усё астатняе — нейкія шматкі. Здаецца, ён хацеў мне нешта сказаць, але што, я ня памятаю. Усю раніцу напружваюся і спрабую аднавіць у памяці. Сон наклаў адбітак на зьмест далейшых размоў. Я ўвесь час чапляўся думкамі за гэтую тэму. І яна раз-пораз саскоквала зь языка.

Ці ёсьць нешта яшчэ больш агіднае і несправядлівае, больш быдлячае і несумленнае, чым наша цяперашняе становішча? У іншай сытуацыі я на гэтае пытаньне наўрад ці адрэагаваў бы. Але тут адгукнуліся начныя кашмары.

— Ну вядома ж, ёсьць.

Сукамэрнікі зьдзіўлена пераглянуліся.

— Пры Сталіну?

— Ды не, нашто так далёка зазіраць? І ў наш час можа быць горш. І ўжо было. І нельга выключаць, што можа паўтарыцца.

Зьдзіўленьне склала бровы домікам.

— Віктар Ганчар! Юра Захаранка! Вам што-небудзь кажуць гэтыя прозьвішчы?

У Ігара асацыяцыяў практычна ніякіх, так, нейкія шматкі. Раманоўскі пра Захаранку чуў. Але хутчэй як пра міністра ўнутраных спраў, а не як пра

палітыка. Я чарговым разам зразумеў, што пра гэтыя крывавыя раны беларускай рэчаіснасьці людзі альбо ня ведаюць нічога, альбо ведаюць вельмі павярхоўна.

І гэта наша віна. І гэта мая віна. Значыць, мы зрабілі ня ўсё. Значыць, я зрабіў ня ўсё! Ну што ж, будзем дапрацоўваць. І пачнём цяпер жа.

Я справакаваў спачатку пытаньні, а потым і дыскусію пра «гучныя справы». А паміж імі зьмясьцілася маё апавяданьне, мая споведзь, мой боль.

* * *

1999-ты — год з жалобнай чорнай стужкай. За якія чатыры месяцы апазыцыя страціла двух сваіх лідэраў, а прыхільнікі пераменаў — патэнцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты. 7 траўня 1999 году бясьсьледна зьнік харызматычны генэрал, былы міністар унутраных спраў Беларусі Юры Захаранка. 16 верасьня 1999 году невядомыя выкралі кіраўніка разагнанага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Віктара Ганчара (разам з прыяцелем, бізнэсмэнам Анатолем Красоўскім). Абодва былі сябрамі палітрады Аб’яднанай грамадзянскай партыі. Два сьветлыя, годныя чалавекі. Патрыёты Беларусі.

Што аб’ядноўвае дзьве гэтыя трагедыі, два гэтыя злачынствы? У іх адзін выканаўца, адзін арганізатар, адзін заказчык. У пэрыяд прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году адзіны кандыдат ад дэмакратычных сіл Уладзімер Ганчарык апублікаваў пакет дакумэнтаў, якія сьведчаць, даводзяць, што ліквідацыя палітычных апанэнтаў беларускага кіраўніка — справа рук створанага ў сілавых структурах спэцпадразьдзяленьня, якое атрымала ў прэсе назву «эскадрон сьмерці».

У пакеце дакумэнтаў, якія сталі здабыткам грамадзкасьці, — рапарт генэрал-маёра міліцыі Лапаціка на імя міністра ўнутраных спраў Навумава. Гучаньне і зьмест гэтага дакумэнту ледзяняць душу. Фактычна гэта прысуд аб ліквідацыі ні ў чым не вінаватых людзей. Без суду і сьледзтва. Генэрал Лапацік даводзіць да ведама міністра, што паводле ўказаньня Віктара Шэймана кіраўнік спэцпадразьдзяленьня САХРу (спэцыяльнага атраду хуткага рэагаваньня) Дзьмітры Паўлічэнка і ягоныя падначаленыя захапілі і зьнішчылі Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. З гэтай мэтай выкарыстоўваўся расстрэльны пісталет — зброя, зь якой у Беларусі забіваюць асуджаных на расстрэл. Здаецца, цынічнай расправе хацелі надаць рысы нейкага рытуалу, афіцыйнай працэдуры.

У гэтым пакеце і іншыя ня менш цікавыя дакумэнты. Напрыклад, рапарт кіраўніка «спэцыяльнай групы па прывядзеньні ў выкананьне сьмяротных прысудаў», начальніка СІЗА палкоўніка Алега Алкаева, у якім гаворыцца, калі і на падставе чыіх загадаў Дзьмітры Паўлічэнка прысутнічаў пры расстрэле асуджаных, калі і на чый загад выдаваўся расстрэльны пісталет. Дата яго выдачы супала з датамі выкраданьня Захаранкі, Ганчара і Красоўскага.

Гэта ўвогуле вельмі дзіўнае жаданьне — прысутнічаць пры выкананьні сьмяротнага пакараньня. Дарэчы, гэтым, мабыць балуецца і беларускі кіраўнік. Прынамсі, так распавядаў Міхаіл Чыгір. Аляксандар Рыгоравіч асабіста запрашаў прэм’ер-міністра паглядзець, як гэта адбываецца на практыцы. Дзеля цікаўнасьці. У абавязкі прэм’ера гэта, на шчасьце, не ўваходзіла.

Ёсьць у маім асабістым архіве і копія санкцыі на затрыманьне і арышт таго самага Дзьмітрыя Паўлічэнкі, завізаванай генэральным пракурорам Бажэлкам і старшынём КДБ Мацкевічам. Арышт быў ажыцьцёўлены. Затрыманага нават зьмясьцілі ў СІЗА КДБ. Так-так, туды, дзе цяпер мы. Праўда, затрымалі ненадоўга. Ужо наступнага дня Дзіма Паўлічэнка цешыўся прыгоствамі беларускай сталіцы. Яго вызвалілі на асабістае распараджэньне Віктара Шэймана. Здаецца, вусна-тэлефоннае. Вось так. Усё гэта можа азначаць толькі адно: што паводле дакумэнтаў Паўлічэнка па сёньняшні дзень дэ-юрэ знаходзіцца ў СІЗА КДБ. А генпракурора і кіраўніка КДБ, якія ініцыявалі затрыманьне і арышт кіраўніка «эскадрону сьмерці», Лукашэнка адправіў у адстаўку. Праўда, разам з Шэйманам. Гэта было ў лістападзе 2000 году. Але галоўным вынікам гэтага гучнага скандалу стала тое, што справу аб выкрадзеных тут жа паклалі пад сукно.

Пасьля выкраданьня Віці Ганчара мяне некалькі разоў выклікалі да сьледчага гарадзкой пракуратуры. Размова была цалкам канкрэтная і прафэсійная. Калі я падпісаў паказаньні, сьледчы Чумачэнка выйшаў са мной у калідор і там, гледзячы проста ў вочы, сказаў: «Анатоль Уладзімеравіч, мы можам хоць заўтра перадаць справу ў суд, сабраных матэрыялаў дастаткова. Так што пытаньне не да нас».

Гэтае прызнаньне сьледчага, гэтаксама як і копіі дакумэнтаў, якія сталі здабыткам грамадзкасьці напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году, сьведчаць пра тое, што заказчыкі і арганізатары выкраданьня і ліквідацыі Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара — людзі з вышэйшых паверхаў «Чырвонага дому». А гэта азначае, што пры цяперашняй уладзе

судовага працэсу па «гучных справах» чакаць ня варта. Але ён абавязкова будзе! Можна дараваць неэфэктыўнае кіраваньне краінай, можна заплюшчыць вочы на шмат якія паскудзтвы цяперашняй улады, але нельга, немагчыма быць літасьцівым, калі ў чалавека забіраюць самае каштоўнае — жыцьцё.

Варта прызнаць, што зь цягам часу гэтая тэма пачала згасаць. Хоць напачатку ўдалося зрабіць нямала. І самае галоўнае: неабыякавыя людзі, якія некалькі гадоў запар выходзілі на вуліцы з партрэтамі выкрадзеных, спынілі канвэер сьмерці. Пасьля гэтага апанэнтаў улады кідалі на турэмныя нары, зьбівалі, але не ліквідоўвалі фізычна.

## 7 сакавіка, панядзелак

Калі ў рапарце дзяжурнага па камэры гучаць словы «Скаргаў і прапановаў няма», значыць, дзень мае як мінімум пазытыўны пачатак. Зь сёньняшняга шпацыру прынёс гатовы верш, пра «сьцяну катаваньняў і нянавісьці». Калі цэнзар прачытае, то экспрапрыяцыі не пазьбегнуць, а не хацелася б страціць гэтыя радкі, таму заканспэктаваў з выкарыстаньнем кропак і працяжнікаў.

* * *

Здаецца, учорашняя размова пра выкрадзеных палітыкаў зачапіла маіх суседзяў. Сёньня тэма «эскадрону сьмерці» вярнулася ў парадак дня нашай размовы. Але калі ўчора мы гаварылі пра Захаранку і Ганчара як пра палітыкаў, то сёньня размова збольшага тычылася асабовага, чалавечага складніку.

Практычна кожны год у маім працоўным графіку — паездкі ў пасёлак Першамайскі, што пад

Лідай, і ў пасёлак Васілевічы на Гомельшчыне. Праўда, па першым адрасе маршрут ужо закрыты. Мама Віктара Ганчара і ягоны старэйшы брат Ёсіф адышлі адзін за адным, так і не даведаўшыся ўсіх акалічнасьцяў таго, што адбылося зь іхнім Віцькам.

Пасёлак Першамайскі — кілямэтраў за сем ад Ліды. Тут у двухпавярховым доме жыла мама Віктара. Тут мы яе наведвалі кожны год. Звычайная кватэрка. Па-вясковаму цесна. Стол, старадаўні буфэт, два ложкі, канапа, шафа. Ніякіх прыкметаў багатай забясьпечанасьці. Затое па-хатняму ўтульна. Да 1961 году сям’я жыла пад Слуцкам, у бараку, што яшчэ немцы будавалі. Потым кароткім транзытам праз Бярозу — у пасёлак Першамайскі. Тут Валянціна Адамаўна разам з мужам і падымалі на ногі чатырох дзяцей. Калі выходзіла на пэнсію, яе ўзнагародзілі мэдалём «За працоўную доблесьць». У жыцьці ёй давялося сербануць гора і цяжкасьцяў ня чайнай лыжкай. Распавядала пра жахі вайны: «На маіх вачах паліцаі забілі сем сем’яў, у тым ліку і дзяцей. А што зьмянілася, і цяпер тое ж самае, хоць і вайна скончылася».

А якія Валянціна Адамаўна гатавала нябеснай смакаты калдуны і блінцы! Фірмовыя. Наша гутарка, душэўная, адкрытая, пэрыядычна перарывалася воклічам: «*Божа ж мой, дзе мой Віцька? Я ведаю, ён жывы, мне людзі казалі*». Мы спрабавалі перавесьці размову на іншыя тэмы. Зь пераменным посьпехам. Праз нейкі час зноў: «*Ох, божа, мне б хоць дачакацца Віцю, а тады ўжо хай сабе і памру*». Яна так і не дачакалася свайго Віцькі.

*«Я шкадую, што Віця пайшоў у гэтыя палітыкі. Працаваў бы сабе ў наргасе. Яго там так паважалі».*

Якая з маці беларускіх палітыкаў у апошнія гадоў пятнаццаць не казала ці ня кажа аналягічных слоў! Яны сэрцам адчуваюць, па якім мінным полі ходзяць іхнія дзеці.

У гасьцях у Валянціны Адамаўны бывалі ня толькі мы. Расхвальваў яе знакамітыя калдуны і Аляксандар Лукашэнка. Паказваючы на старэнькую канапу, жанчына са сьлязьмі на вачах распавядала: *«Вось тут сядзеў Лукашэнка, цалаваў мне рукі. Называў мяне мамай. А потым нават не патэлефанаваў».* І горкія сьлёзы расьцякаюцца па баразнах маршчын.

А вось у Васілевічы мы езьдзім па-ранейшаму. Ульяна Рыгораўна — надзіва моцная і душэўная жанчына. Маці вось ужо амаль 12 гадоў чакае сына. «Рыпне масьнічына ў сенцах, і я ўжо на нагах. Мне здаецца, што гэта мой Юрка. Выходжу, а ён усё не прыходзіць».

Баба Ўльяна гаворыць зь лёгкім украінскім акцэнтам. За год яна страціла адразу двух сыноў. Старэйшы, Уладзімер, служыў на атамнай падлодцы і, відаць, хапянуў радыяцыі. «Да старэйшага хоць на магілку магу прыйсьці. Пагавару зь ім, пасяджу побач. А ад Юркі адны толькі фатаграфіі засталіся».

Жыве Ўльяна Рыгораўна ў невялікім драўляным доміку. Адзін невялікі пакойчык — Юраў. Жалезны ложак і ўсюды, куды ні ўпадзе позірк, Юравы фатаграфіі.

У гады вайны маладую дзяўчыну вывезьлі на працы ў Нямеччыну. Адтуль у бабы Ўльяны гутарковая нямецкая мова і галоўная прафэсія па жыцьці — кухарская: у Нямеччыне ў асноўным рабіла на кухні. «Гаспадары кармілі нас добра.

Мы нават ежу нашым насілі, тым, хто рабіў на заводзе. Аднойчы панесьлі гасьцінцы, а тут самалёты наляцелі. Бомбы вакол рвуцца, страшна да жаху! Потым пасьля бамбёжкі прыйшлі, а на месцы дому і кавярні адны разваліны. Пад імі і сяброўка мая засталася».

Пасьля таго, што сталася зь Юрыем Захаранкам, сям'я ягоная зьехала ў Нямеччыну. З Ульянай Рыгораўнай у іх толькі адна сувязь — тэлефонная. А яна па-ранейшаму прыслухоўваецца да рыпеньня масьніц у сенцах. Можа, гэта Юрка вярнуўся?

* * *

Такія вось атрымаліся ўспаміны. І выснова адпаведная:

— Я, хлопцы, вось што скажу. Я ў палітыцы ў тым ліку і таму, што даўжнік перад Валянцінай Адамаўнай Ганчар, якая пайшла з гэтага сьвету. І перад Ёсіфам Ганчаром даўжнік. Я ў палітыцы таму, што ў даўгу перад Ульянай Рыгораўнай Захаранкай, якая чакае свайго Юрку. Я ня прагну помсты, я хачу праўды! І, вядома ж, зло павінна несьці пакараньне. А інакш навошта жыць? Ні ў кога няма права забіраць чужыя жыцьці!

Сан Саныч быў больш радыкальны:

— Я б гэтых сволачаў падвесіў за адно месца, і хай бы віселі ў цэнтры Менску, пакуль ня здохнуць. Каб і іншым мярзотнікам непанадна было.

## 8 сакавіка, аўторак

Ніякіх прыкмет жаночага сьвята ў СІЗА не заўважана. Так, гендэрны дысбаланс праяўляецца нават у гэтым. 23 лютага, у Дзень абаронцы Айчыны, уся адміністрацыя была як начышчаны самавар.

І рысам частавалі. Можа, гэтыя праявы носяць кропкавы характар і накіраваныя канкрэтна на жаночы кантынгент «амэрыканкі». Як мінімум у дзьвюх камэрах з васямнаццаці — жанчыны.

На волі ў гэты дзень мы, як правіла, накрывалі сьвяточны салодкі стол, і ўжо колькі гадоў запар я дарыў нашым мілым дамам кругляк літоўскага сыру. Такая вось традыцыя. Са смакам сыру. Хацелася б, каб яна не перапынялася і сёньня.

З раніцы засеў пісаць ліст. І перш за ўсё падзякаваў за духмяную бэльгійскую гарбату Галіне. Знайшоў «смачныя» словы для Рыты і Эндру за іхнюю нябеснай смакаты літоўскую каўбасу. Калі людзі зь іншых дзяржаў знаходзяць магчымасьць абазначыць свае сымпатыі, сваё сuперажываньне, то ўяўляю, колькі неабыякавых зь Беларусі спрабуе дастукацца да дзьвярэй «амэрыканкі». У гэтым пляне я не адчуваю сябе адзінокім і забытым. І гэта здорава!

Нарэшце знайшоў сьляды амэрыканскіх вітамінаў. Нейкі час таму яны былі абвешчаныя ў вышук. Я ўжо схіляўся да думкі, што іх элемэнтарна заныкалі, але ў пошуках праявіў упартасьць і настойлівасьць, і сёньня ў маёй прысутнасьці слоік зь вітамінамі, набыты мной у Вашынгтоне, быў знойдзены ў далёкім куце шафы з мэдыкамэнтамі. Вітаміны як мінімум аказваюць пазытыўнае псыхалягічнае ўзьдзеяньне. А пры нашым бедным і аднастайным рацыёне ёсьць і безумоўная карысьць ад насычэньня арганізму дэфіцытнымі мінэраламі.

Увечары перадалі ліст ад Сьвятланы. Яна ацаніла мае паэтычныя патугі.

«*Каханы, дзякуй за вершы! Гэта найлепшы падарунак за ўвесь гэты час! Я чытала і плакала.*

*Нэрвы наагул ужо на мяжы, нават сама гэта заўважаю.*

*Сёньня неяк незаўважна для сябе прахадзіла па горадзе да трэцяй гадзіны. Ішла паўз той будынак, дзе ты сёньня, і раўла ад болю, ад крыўды, і злавалася на ўвесь белы сьвет, хоць сьвяціла сонца і дзень быў цудоўны...»*

* * *

Калі пра будні «амэрыканкі», то сёньня перадаў дадому сваю «брудную пасылку» — майкі, ручнікі, швэдар, пару вязаных шкарпэтак. Не люблю, калі вакол мяне брудна, і няважна, пра брудны посуд ідзецца, нямытую адзежу ці нячышчаны абутак. Так што падставу для майго задаволенага настрою можна зразумець.

На прагулцы было шмат сонца. Ня цёпла, але ўжо камфортна. Для фізычных заняткаў — сама тое. І так прыемна лавіць тварам сонечных пасланьнікаў. Зьверху, у праёме аконнай нішы, прымаў сонечную ванну Лёлік. Цяпер ён прылятае практычна кожны дзень. Пяром адчувае вясну. Распушыўся. Расхарахорыўся. Пагаварыў зь ім пра надвор’е, пра вясновы настрой. Пасьля вяртаньня са шпацыру чыркануў абзац у аповед пра Лёліка і некалькі вершаваных радкоў.

Увечары вярнуўся да пачатага надоечы ліста.

«Калі-нікалі нахлыне смутак, але імкнуся кіраваць эмоцыямі. Самапавага і годнасьць заўсёды былі для мяне істотнымі. Жыву зь верай у сэрцы, і гэта, як і пачуцьці да родных і блізкіх, умацоўвае мой аптымізм».

* * *

На вячэру быў малочны суп. Гэта мне даспадобы. Заўсёды быў аматарам гэтай стравы, і ў дзяцінстве з усіх супоў, баршчоў аддаваў перавагу малочнаму супу. На другое адрэзаў сьціплы кругляк каўбасы. Не таму, што больш ня хочацца, а таму, што ўсё разьмеркавана на тыдзень наперад. Пытаньне харчовай бясьпекі абвастрылася да рэжыму жорсткай эканоміі. На дэсэрт выпіў дзьве конаўкі духмянай гарбаты. Мы ўсё ж такі дажылі да часу, калі кіпень — ужо не раскоша і не дэфіцыт.

## 9 сакавіка, серада

Увечары раптам уключылі кнопку доступу да БТ. Як на заказ. І проста на інфармацыйную перадачу. Вядучая пакрыўджаным голасам паведаміла, што ўсім адвакатам дадзена зялёнае сьвятло па доступе да фігурантаў «справы 19 сьнежня». І, маўляў, калі хтосьці не карыстаецца гэтым правам, то гэта пытаньне да адвакатаў, а не да дзяржаўных структураў. Прагучала як апраўданьне. Значыць, нейкае варушэньне па нашых справах ёсьць.

* * *

Перайшоў на рэжым штодзённага лістапісаньня. Цяпер гэтай добрай справай і займаюся.

*«Сьвецця, не магу і не хачу табе загадваць ці чытаць натацыі. Але плакаць ня трэба! Магу прыняць толькі сьлёзы шчасьця і радасьці.*

*У апошні час многімі зроблена шмат, каб у маім сэрцы пасялілася нянавісьць. Але яе там няма. Я сам зьдзіўляюся. Ужо сёньня я ўпэўнены, што з гэтай сытуацыі мы выйдзем больш моцнымі, больш уважлівымі адзін да аднаго. Несправядлі-*

*васьць робіць мяне больш адказным у адносінах да іншых».*

* * *

Аўторак — час і магчымасьць паглядзець на сябе ў люстэрка. Паглядзеў. Што сказаць? Вяртаюся ў маладосьць. Гэта да пытаньня пра выгляд. І калі адрослае шчаціньне пускаю пад лязо брытвы кожны аўторак і чацьвер, то шавялюра — недатыкальная. Спачатку пераконваў сябе, што так цяплей (і гэта праўда), ну, а цяпер ніякіх тлумачэньняў няма, ёсьць проста нязвыкла доўгія валасы.

* * *

Перагарнуў апошнюю старонку «Камо грядеши» Сянкевіча. Паспрабаваў апавяданьні Шукшына. Не пайшло, але адгукнулася ўспамінамі пра паездку на Алтай, радзіму Васіля Макаравіча. Улетку мінулага году на канфэрэнцыю ў Барнаул запрасіў Валодзя Рыжкоў. І паездка запомнілася. Праўда, сам горад нічым асаблівым не зачапіў. Хіба што помнік ахвярам палітычных рэпрэсіяў у самым цэнтры. Неяк нязвыкла для расейскай глыбінкі, якая ўсё больш спэцыялізуецца на Леніных, Калініных ды Сьвярдловых. Зрэшты, яны ж — галоўная гістарычная славутасьць і беларускіх плошчаў. Што ў сталіцы, што ў ціхай глушы.

Але паездка ў горны Алтай — гэта нешта. Пабываць у гэтых мясьцінах і не закахацца ў іх немагчыма.

Жылі мы проста на беразе Цялецкага возера. Гэта ўвогуле нешта фантастычнае! Звышгранічна прыгожае. Узімку мядзьведзі на пятай кропцы спускаюцца з гор проста да возера. Паветра ў гарах такое, што дурманіць. Невыпадкова Пуцін нагледзеў тут месцайка для сваёй рэзыдэнцыі.

* * *

Ну, а ў нас тут зусім іншыя водары. Далёка ня горнаалтайскія. Вось бы цяпер хвілін хоць на пяць на бераг Цялецкага возера — і зрабіць хоць пару глыткоў горнага паветра! Пацягнуў носам раз, другі... І рашуча прапанаваў праветрыць камэру. Настолькі рашуча, што гэта ня выклікала ніякіх пярэчаньняў.

## 10 сакавіка, чацьвер

Учора нас пакінуў Сан Саныч. Пайшоў па этапе. Разьвіталіся душэўна. Мы шчыра пажадалі яму як найхутчэйшага вяртаньня дадому. Ён адказаў тым жа. Увечары мне ніхто не прапанаваў згуляць у косьці. На тумбачцы засталася акуратна раскрэсьленая табліца, так і не запоўненая да канца. Побач белыя кубікі ў чорную крапінку. Было сумна. За вячэрай паднялі за Сан Саныча па конаўцы гарбаты — хай усё ў яго складзецца добра!

Сёньня ж у нас падсяленьне. Адразу і не скажу, каторае ўжо па ліку. Прывялі новенькага. У кайданках. І ўжо адзін гэты факт магніціць увагу. Гадоў трыццаць, плюс-мінус. Вельмі незвычайны. Кантрасны. Як бы два розныя чалавекі ў адной цялеснай абалонцы. Шырачэзныя плечы і схіленая галава. Напампаваныя ногі і сагнутыя калені. Жывыя вочы і зацкаваны позірк. У ім дзіўным чынам спалучаюцца фізычная сіла і нейкая душэўная нядужасьць. Ня ведаю, можа, гэта падман першага ўспрыманьня. Пры кожным гуку ўздрыгвае і напружваецца. А калі ўзяць пад увагу, што гукаўстукаў тут больш чым дастаткова, то напружаньне

і нэрвовасьць рэжуць вока. На нас глядзіць неяк спадылба. Маўклівы. Інфармацыю прыйшлося выцягваць праз перакрыжаваны апытальнік. І вось што атрымалася.

У Алега Некрашэвіча, так прадставіўся новенькі, усё па-сур'ёзнаму. Яго падазраюць ва ўчыненьні забойства. Прычым пра беларускую пэнітэнцыярную сыстэму ён ведае не зь міліцэйскіх сэрыялаў. Першы раз трапіў у калёнію праз залішнюю гарачнасьць і абвостранае пачуцьцё справядлівасьці. У рэстаране нейкі юрлівы дзядзька пачаў лапаць ягоную маладую жонку. Не стрымаўся! І цяпер паўтарэньне пройдзенага? Вось пункты ягонага этапу: сьледчы ізалятар у Чарнігаве, СІЗА ў Віцебску, Навінкі («санаторый» для тых, у каго праблемы з псыхікай) і «амэрыканка». Мяркуючы па ягоным аповедзе, хлопец з прыстойнай сям'і. Бацька — даволі буйны прадпрымальнік на Віцебшчыне, валодае некалькімі перапрацоўчымі прадпрыемствамі. Бізнэс сямейны. Сам жа Алег апошнім часам «акучваў» Чарнігаўшчыну, меў ва ўласнасьці элеватар. Усё выглядала надзейным і ўстойлівым.

Ён не распавядаў шмат пра падрабязнасьці прад'яўленага абвінавачаньня, але цьвёрда рэзюмаваў, што гэта адкрытая «падстава» і спроба выдаіць адкупныя з бацькоўскага бізнэсу.

Як бы там ні было, нам трэба будзе жыць у адной маленечкай замкнёнай прасторы. Алегава мінулае крыху насьцярожвае. Прызнаюся, першай маёй думкай было, што падсялілі яго да нас невыпадкова. Ад чалавека з такім мінулым, з такім артыкулам абвінавачаньня, з такімі фізычнымі дадзенымі можна чакаць чаго заўгодна. Таму ў першыя гадзіны мы напружыліся, сканцэнтраваліся, але ўжо

падвечар пачалі паволі жартаваць з новенькага. Ня жыць жа з думкай, што ў камэру ён накіраваны са злым намерам. А калі запраграмавана горшае, то яго не абмінуць. Яго трэба пераадолець, а яшчэ лепш — абясшкодзіць.

З жартамі і падколкамі пакуль ня вельмі выходзіць. Алег на ўсё рэагуе сур’ёзна. Гэта або спадчыннае, або набытае ў нейкіх жорсткіх абставінах.

Уначы я некалькі разоў прачынаўся і зьверху ўніз касіў вокам на навічка. І ня толькі я. Каранеўскі таксама спаў абачліва і час ад часу сканаваў суседа зьнізу. Дый кантралёры праявілі павышаную цікавасьць да нашага новага суседа.

* * *

Учорашняе ўключэньне беларускага тэлебачаньня было разавым. Сёньня нас зноў частуюць тэлепрадуктам, зьляпаным на «РусТВ». Але арганізм катэгарычна адмаўляецца яго засвойваць. Гук прыбралі, і кожны заняты сваімі надзённымі справамі. Я наводжу парадак у справах папяровых.

## 11 сакавіка, пятніца

Шостая раніцы. Навічок аказаўся лёгкі на пад’ём. Выкінуў з-пад коўдры трэніраванае цела, упэўненымі рухамі заправіў пасьцель. Калі прыйшоў час сьняданку, спрытна падхапіў міскі з кашай, апярэдзіў усіх з запраўкай збана вадой. Адным словам, скарыў нас сваім працоўным энтузіязмам. Але, як выявілася, гэта былі яшчэ толькі кветачкі...

Пасьля ранішняга агляду Алег паторкаў пальцам у сьценку, правёў ім па байніцы акна, агледзеў бэтон пад нагамі і… прапанаваў зрабіць генэральную

прыборку. Дакладней, папрасіў у нас дабро. Спачатку мы пакруцілі галовамі туды-сюды: быццам бы і так усё чыста. Але калі ёсьць такое гарачае жаданьне папрацаваць анучай, то хто ж супраць? Алег тут жа закасаў рукавы, агаліўшы ручышчу малатабойцы. Потым зрабіў рэвізію мыйных ды чысьцільных сродкаў і ўзяўся за справу. Ён выціраў, не, правільней — чысьціў, не, дакладней — драіў усё, што траплялася пад рукі. Спачатку гэта было тое, што выконвае функцыю стала. Потым дайшло да сьцен. Аказалася, што ў іх усё-ткі ёсьць колер — мяккі сьветла-салатавы, але ён быў схаваны пад слаямі часу і бруду.

Назіраючы за Алегам, мы зразумелі, што гэты чалавек мае патрэбу ў занятку, напоўненым сэнсам і дзеяньнем. Ён кайфаваў, ён цешыўся. І, галоўнае, гэта быў ужо зусім іншы чалавек у параўнаньні з тым, якога мы ўбачылі напярэдадні. Ну, а мы таксама атрымлівалі задавальненьне ад мэтамарфозаў з нашым новым суседам.

Пераканаўшыся, што навакольнае асяродзьдзе, то бок мы, рэагуе добразычліва і ўдзячна, Некрашэвіч пусьціў нас да сябе ў душу. Душу, якая ледзь не пакінула цялесную абалонку.

Аповед ягоны ўразіў! Я б сказаў, ашаламіў. Нават тут, у гэтых нечалавечых умовах, ён гучаў злавесна. Гаварыў Алег ціха, адчувалася, што ўспаміны даюцца нялёгка. І ў той жа час яму хацелася выгаварыцца, не трымаць унутры сябе тое, што зьбіралася месяцамі.

— У віцебскім СІЗА мяне забівалі. Мэтадычна і мэтанакіравана. У гэта былі ўцягнутыя і адміністрацыя, і падсьледныя, усё жывое і ўсё, што ходзіць на дзьвюх нагах. Прыходзіць дзяжурны. Падымае

недакурак з падлогі. Хто курыў? Усе як адзін паказваюць на мяне. Адзінага, хто ня курыць. У карцэр! Толькі выйшаў з клапоўніка, зноў кантралёр — з хусткай у руках. Правёў па нарах. Хто дзяжурны? Усе пальцамі тыцкаюць у мяне. У карцэр! Гэта было невыносна. Дзень пры дні. З раніцы да вечара. Так мяне прымушалі прызнацца ў зьдзяйсьненьні таго, чаго я не рабіў. І я зразумеў, што больш не магу. Або трэба падпісваць прызнальныя паказаньні, або... Карацей, выцягнулі мяне зь пятлі. Я ўжо быў дзесьці па дарозе на нябёсы. Пасьля гэтага ад мяне вырашылі пазбавіцца. Закавалі ў кайданкі і пад узмоцненай аховай адправілі ў Менск. Пайшоў па руках людзей у белых халатах. Спачатку была псыхушка, потым бальніца. Пракапалі, пракалолі, пралячылі, і вось я тут. Нагледзеўся і там усякага. Ня ведаю, як не звар'яцеў, як усё гэта вытрымаў. Пасьля таго як мяне этапавалі з Украіны ў Беларусь, я ўпершыню бачу нармальныя твары, бяз злосьці і агрэсіі. Я перастаў верыць людзям, ад іх чакаю толькі правакацыяў і паскудзтваў.

Здаравенным кулачышчам ён выцер сьлязінкі. Аказваецца, мужчынам сьлёзы могуць быць да твару! Прынамсі, ёсьць сытуацыі, у якіх яны натуральныя.

Мяне самога гэты аповед расчуліў да пяршэньня ў горле. Вось што можа зрабіць сыстэма з чалавекам фізычна моцным і, здавалася б, загартаваным месцамі ня надта аддаленымі.

Я паспрабаваў «насунуць» на сябе Алегаву сытуацыю, і, трэба сказаць, паперлі думкі з зарадамі і плюс, і мінус. З аднаго боку, маё становішча ў сто разоў лягчэйшае. Нас шмат, да нас прыкаваная ўвага калі не паловы сьвету, то паловы Эўропы. Мы

верым у тое, што робім. Нават многія з нашых катаў нас паважаюць. А Алег сам-насам са сваімі праблемамі. Ні міжнароднай салідарнасьці, ні шырокай падтрымкі, ні грамадзкага рэзанансу і ўвагі.

Зь іншага боку, трэба разумець: тое, з чым мы сутыкнуліся ў СІЗА КДБ, яшчэ ня дно. І часы Берыі — Цанавы — неперагорнутая старонка.

Алега трымалі ў напружаньні 24 гадзіны ў суткі. Якут і Баптыст ажылі. Пачаткоўца прымушалі спаць тварам да дзьвярэй, рукі — над коўдрай. Гэтай ноччу мы ўсе некалькі разоў прачыналіся, калі кантралёры патрабавалі, каб Некрашэвіч павярнуўся тварам да вочка. Усе Алегавы перамяшчэньні за межамі камэры — толькі ў кайданках. Сёньня нават у закупораным дворыку ён шпацыраваў у жалезных бранзалетах. Аказваецца, тое, што ўжывалася да мяне на працягу некалькіх тыдняў у студзені, гэта прапісана ў нейкіх інструкцыях і тычыцца асабліва небясьпечных рэцыдывістаў. Людзей, здольных на ўсё!

## 12 сакавіка, субота

Некалькі ўдараў па ручцы дзьвярэй. Шпацыр. Спачатку адводзяць Алега. Чуваць, як шчоўкаюць кайданкі. Мы рушым другім рэйсам. У дворыку бачым Алега. Без наручнікаў. Усьміхаецца. Ён тут жа расьцягнуўся шпагатам і прадэманстраваў тое, што называецца паказальнай прафэсійнай трэніроўкай. Нават кантралёры спынялі захопленыя позіркі на гэтай машыне, зацягнутай у цяглічны гарсэт. Ну, і мы зь Ігарам душэўна адпрацавалі сваю аматарскую праграму.



Твар у твар

І зноў разьдзельнае вяртаньне ў камэру. Спачатку адвялі Алега ў кайданках, а потым ужо нас у становішчы «рукі за сьпіну». Ёсьць пачуцьцё няёмкасьці перад чалавекам, да якога ставяцца горш, чым да цябе.

Па абедзе Алегу прынесьлі перадачу — вялікую торбу мясных вырабаў. Адны каўбасы. Каўбаса сыраваленая, сыравэнджаная, кружочкамі, прастакутнікамі. Усё зацьвярдзелае, прыхопленае марозам.

— Напэўна, бацька доўга шукаў, дзе я, і чакаў, пакуль возьмуць перадачу, — выказаў меркаваньне наш новы сусед. — Хутчэй за ўсё, ноччу ў Менск прыехаў. Але галоўнае, яны ведаюць, дзе я. Ох, ды што гэта я захапіўся! Частуйцеся, гэта ўсё наша прадукцыя, можна сказаць, хатняя. Без аніякіх кансэрвантаў і дадаткаў.

Алег мітусіўся паміж торбай і сталом. Плястыкавым нажом старанна пілаваў падмерзлыя палкі каўбасы. У носе прыемна заказытала, вантробы

ўвабралі ў сябе салідную порцыю сьліны. І праўда, каўбаса аказалася абалдзенна смачнай. Да таго ж яе было столькі, што зьняліся ўсе абмежаваньні. Бо звычайна мы ўсё сартавалі і жорстка дзялілі на порцыі ў прывязцы да графіку магчымых перадач зь «Вялікай зямлі». А тут проста нейкае сьвята жывата!

Паралельна з паглынаньнем прадукцыі хатняга мясакамбінату Алег дзяліўся ўражаньнямі ад чарнігаўскага СІЗА.

— Там зусім іншая сытуацыя, іншы чалавечы клімат, ці што. На мяне ніхто не крычаў, не махаў перад носам палкай. Ніхто не патрабаваў, каб я рухаўся са счэпленымі за сьпінай рукамі. Таму, калі мяне этапавалі ў Віцебск, я нібы перамясьціўся ў іншы сьвет. Жорсткі і бязьлітасны.

Але доўга Алег у нас не затрымаўся. Па абедзе паступіла ўводная: з рэчамі на выхад! Толькі-толькі крыху адтаўшы ад ранейшых выпрабаваньняў і непрыемнасьцяў, Алег сыходзіў цяжка, сэрца яго працівілася. Гэта было відаць. А нам было прыемна ад думкі, што хоць на кароткі час мы маглі быць камусьці карыснымі. Тым больш тут.

Разам з Алегам сышоў і «каўбасны паёк». Ня буду хаваць, мы на яго ўжо настроіліся. Ну што ж, дагэтуль у нас быў выбар: цешыцца мясной смакатой або заняцца фізкультурай. Цяпер сытуацыя спрасьцілася. Як у тым анэкдоце: Гасподзь падвёў Адама да Евы і кажа ёй — выбірай сабе мужа! Вось і ў нас зь Ігарам такі самы выбар. Ляжым на верхніх нарах і сапем, як два напаўгалодныя леапарды. Затое як сапецца!

## 13 сакавіка, нядзеля

Раніцай за гарбатай памянулі добрым словам Алега. Няхай усё ў яго складзецца. Да таго ж, адыходзячы, ён пакінуў нам пару палак каўбасы. Так што сьняданак быў не дыетычны.

* * *

Увесь час, што я ў «амэрыканцы», займаюся рукой, на якой у лістападзе мінулага году была праведзена апэрацыя. Сам распрацаваў комплекс практыкаваньняў, мэтодыку іх выкананьня і няўхільна яе прытрымліваюся. Спробы ж атрымаць кваліфікаваную кансультацыю і дапамогу завяршыліся нічым: ворагам народу не паложана. Так што тут я сам сабе і лекар, і кансультант.

Але зь цягам часу акрэсьліліся іншыя доўгайграючыя праблемы. Акуліст — вось на каго попыт толькі ўзрастае. Лопнула некалькі сасудаў у правым воку. Верагодна, ёсьць праблемы зь ціскам. Зрок я тут пасадзіў капітальна. Але, натуральна, аб кваліфікаванай кансультацыі спэцыяліста можна нават не заікацца. То бок я заікнуўся, але лекар толькі паціснуў плячыма. У гэтыя хвіліны Гіпакрат яму відавочна нічога не нашэптваў. Пакуль ты не асьлеп, ніякай дапамогі, акрамя агульнага агляду ў лекара СІЗА, табе не належыцца. І гэта агульная сытуацыя ў такога кшталту ўстановах. Напрыклад, на Акрэсьціна пры любых сымптомах хваробы нязьменна прапаноўвалі адно і тое ж: пару таблетак актываванага вугалю. Але там лекарка практыкавала яшчэ і «спеўную тэрапію». Яе працоўнае месца было проста ў калідоры, і калі яна выконвала свае ўлюбёныя гіты, чуваць было амаль ва ўсіх камэрах.

Найбольшае, чаго ўдалося дамагчыся ў «пытаньні вачэй», — гэта ўгаварыць адміністрацыю дазволіць перадаць ярчэйшую лямпачку. Перадалі. Потым некалькі дзён вялі перамовы аб тым, каб зрабілі ласку замяніць. Прыйшоў Вадзік з калегамі. Нас адкамандзіравалі ў бліжэйшы туалет. Вярнуліся ў тую ж паўзмрочную прастору. З тлумачэньня вынікала, што, маўляў, канфігурацыя імпартнай энэргазьберагальнай лямпачкі несумяшчальная з айчынным пляфонам. Хутчэй за ўсё, цяпер яна асьвятляе нейкі кабінэт, дзе гэтая самая сумяшчальнасьць прысутнічае.

На дадатак да ўсяго вывалілася плёмба. Пры такой вадзе і такім рацыёне — ня дзіва. Пакуль варонка не выклікае болевых адчуваньняў, і дзякуй Богу, бо ў агляднай будучыні гэтая праблема ня мае пэрспэктывы вырашэньня. Так што малюся, каб выпадзеньне плёмбы было адзінай праблемай.

У СІЗА КДБ колькасьць забаронаў на мэтар квадратны — адна з самых высокіх у краіне. Як выявілася, у пералік забароненых рэчаў можа трапіць і звычайная майка. Учора атрымаў перадачу з партыйнага офіса. Узрадаваўся: усё ОК! Праўда, са сьпісу выкрасьленая адна пазыцыя — майка. Стукаюся ў дзьверы, пытаюся, дзе мая маёмасьць. У адказ вечка раздражнёна ляпае. Праяўляю настойлівасьць. З трэцяга разу кантралёр паведамляе:

— Майку адправілі на склад.

— Чаму?

— Яна нестандартная.

— А што гэта азначае?

— Гэта пытаньне не да мяне.

Значыць, зь нейкім надпісам ці малюнкам. Хоць першым разам пракаціла. Калегі перадалі

мне майку з коньмі на скаку (конь — сымбаль Аб'яднанай грамадзянскай партыі). Дакладней, перадаў яе Арцём, але я адразу зразумеў, што гэта пасланьне з офіса.

Тады на майку з коньмі, якія імчаць на свабоду, адразу ж паклаў вока Раманоўскі: «Анатоль, падорыш мне яе разам з аўтографам?»

Што ж гэтым разам?

* * *

Апошнім часам ні дня без радка вершаў. І сёньня не выключэньне.

*Жыцьцё бяжыць, і мы сьпяшаемся*
*Пасьпець туды, куды спазьняемся.*
*Жыцьцё стаіць, мы ж завіхаемся,*
*Вагон праблем сьпіхнуць стараемся.*
*Жыцьцё грызе, і мы кусаемся,*
*Да бульбы з салам локцем прабіваемся.*

А паралельна цешуся Хуліё Картасарам. Гэты пісьменьнік — маё адкрыцьцё. Вельмі незвычайная мова. Рэдкі выпадак, але некаторыя апавяданьні перачытваю па некалькі разоў. Сюррэалізм з наваротамі — вось што складае рацыён майго цяперашняга чытаньня. У нагрузку чытаю «Скрыню Пандоры». Просьценькае чытво.

Па вячэры — каманда зьбірацца ў душ. Робім гэта з задавальненьнем. Пасьля сыходу масак нам даюць паўнавартасныя пятнаццаць хвілін памыцца самім і памыць рэчы. Застаўся ў мінулым брыдкі кашмар, калі ты быў вымушаны на бягу скідаць зь сябе адзежу, пасьпешліва адкручваць кран. Калі падстаўляеш цела пад струмень, а адтуль ня проста халодны — ледзяны паток. А за дзьвярыма гэтае дэбільнае гы-гы-гы. Потым, калі цябе палкамі ўжо

выганяюць з душа, раптам зьяўляецца гарачая вада і зьдзекліва дыхае парай табе ў твар. І ты кідаесься ў яе ўсім целам, каб вынесьці на сабе хоць бы гарачыя кроплі. Тут літаральна ўсё можна ператварыць у прыладу катаваньняў і зьдзекаў.

Дзякуй Богу, пра гэта засталіся толькі ўспаміны. Пятнаццаціхвілінныя водныя працэдуры змылі ўвесь нэгатыў мінулага дня. Чым менш магчымасьцяў, тым вастрэйшыя адчуваньні. Ад гарачага душа толькі прырастаеш пазытыўнымі эмоцыямі. Справа ня толькі прыемная, але і карысная. Папамылі ўсё па поўнай праграме, і цяпер нары ў гірляндах шкарпэтак і бялізны. І мы ўсе ў чыстым.

А за акном усё абвалакае цемра. Яшчэ адзін тыдзень вытхнуўся. І дзякуй Богу.

## 14 сакавіка, панядзелак

На ранішняй паверцы зрабіў спробу ўдакладніць, у чым палягала нестандартнасьць перададзенай мне майкі. Дзяжурны разыграў шчырае зьдзіўленьне. Маўляў, упершыню чую. І буркнуў звыклае: «Разьбяромся», што азначае, што ніхто ні ў чым разьбірацца ня будзе. Заўтра можна ўсё паўтарыць і ўбачыць яшчэ адну фізіяномію, па якой таксама пару разоў стукнулі зьдзіўленьнем. Так можна перабраць усіх дзяжурных, і вынік будзе аднолькава прагназавальны. Так што майка і яе законны гаспадар змогуць сустрэцца, толькі калі я зьмяню месца часовай, спадзяюся, прапіскі ў СІЗА КДБ.

Пасьля адмены ў «амэрыканцы» рэжыму надзвычайнага становішча, калі СІЗА пакінула «зондэркаманда» масак, выходныя запоўніліся нязвыклай цішынёй. Мы зь Ігарам гадзінамі вядзем то

разьмераныя дыялёгі, то дыскусіі. Я бачу, адчуваю, як праз гэтыя гутаркі ён адкрывае для сябе іншую Беларусь. Тую, зь якой ён не сутыкаўся ў сваім ранейшым жыцьці. Хлопец разумны, начытаны, адукаваны. Мяне забаўляюць ягоныя крыху наіўныя пытаньні. Ну, напрыклад, чаму б вам не прапанаваць уладзе зладзіць дыскусію на тэлебачаньні?

— Вось ты, Анатоль, распавядаеш пра праграму, пра напрацоўкі ў сфэры эканомікі, кіраваньня. І гэта гучыць пераканаўча, прынамсі для мяне. Але нічога падобнага я ніколі ня бачыў па "яшчыку".

І я разумею, што такія ж пытаньні гатовыя задаць большасьць грамадзян Беларусі.

Тлумачу, што тэлебачаньня як сродку масавай інфармацыі ў Беларусі няма, не існуе. Ёсьць міністэрства прапаганды, складнікам якога служаць дзярж-СМІ. А там дыскусіяў ня можа быць у прынцыпе. Усё, на што пагаджаецца ўлада, — гэта раз на чатыры гады пяціхвілінны выступ на радыё і ТБ для кандыдата ў дэпутаты парлямэнту ад апазыцыі. Прычым пры ўмове, што цябе зарэгістравалі і што цэнзура дала дабро на трансьляцыю запісу твайго выступу. У патэнцыйнага кандыдата ў прэзыдэнты магчымасьці данесьці сваю вестку да выбаршчыка крышку большыя, але ўсё роўна мізэрныя: два трыццаціхвілінныя выступы на ТБ. Раз на пяць гадоў. Зноў жа пры ўмове, што ўлада дазволіць табе зарэгістравацца.

Гэта вельмі нагадвае часы фашысцкай Нямеччыны. Там СМІ таксама гралі выключна прапагандысцкую ролю. Таму калі б даволі вядомы ідэоляг таго часу Гебэльс раптам уваскрос, то ў Беларусі ён знайшоў бы сваіх вучняў і пасьлядоўнікаў. Прычым у вялікай колькасьці.

— Але ж гэта як мінімум несумленна, — разважае мой суразмоўца. — Бо тое ж тэлебачаньне ўтрымліваюць падаткаплатнікі, сплачваючы падаткі. А сярод іх ёсьць і тыя, хто за гэтую ўладу, і тыя, хто яе крытыкуе. Выходзіць, апошнія зазнаюць дыскрымінацыю з усімі наступствамі, якія адгэтуль вынікаюць. І я адзін зь іх.

Прыемна размаўляць з кемлівым чалавекам. Усё так і ёсьць. Плацяць усе, але карыстаюцца паслугай толькі прыхільнікі ўлады.

Успомнілі «ліхія 90-я», калі пасяджэньні Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня паказвалі ў жывым эфіры. І гэтым у поўнай меры карыстаўся той жа Лукашэнка. Карыстаўся, каб пасьля ўсталяваць татальны кантроль над электроннымі СМІ. Сёньня ён выкарыстоўвае тэлевізійную вышку як шпрыц з наркотыкам. І каб не інтэрнэт, каб не незалежныя газэты, «Белсат» і некалькі радыёстанцыяў, то сытуацыя была б зусім паршывая.

* * *

З офіса АГП мне перадалі невялікі тэлевізар, але апошнім часам эфір забіты суцэльным сьмецьцем. Тэлеканалы, ні беларускія, ні расейскія, не рэтрансьлююць. Нас частуюць выключна запісанымі і загадзя падабранымі перадачамі. Як правіла, гэта прадукт нейкай студыі «РусТВ». Напэўна, зь ёй у беларускага КДБ заключаны доўгатэрміновы кантракт. Пускаюць у эфір такую махровую поскудзь, што пару разоў мы проста выключалі тэлевізар. Але нумар не прайшоў: кантралёр давёў да нашага ведама, што прагляд праграмаў абавязковы для ўсіх. Так што я ўжо задумваюся, ці не вярнуць скрыню ў партыйны офіс. А пакуль прыбіраем гук на нуль.

Але вось учора ўключылі на поўную. Па лякальнай сетцы КДБ пусьцілі фільм «Сыстэма Пуціна». Зразумела, гэта было поўнай неспадзяванкай. Калі я ўбачыў тытры, аслупянеў. Гэта ж трэба, такая антыпуцінская стужка ў кінапракаце беларускага КДБ! Крок відавочна не прыязны. Мне давялося пабываць на прэм'еры фільму на кінафэстывалі ў Кіеве. Я нават пагутарыў з аўтарам, рэжысэрам з Францыі Жанам-Мішэлем Карэ. І вось цяпер такі сюрпрыз! Умеюць жа зьдзівіць, калі захочуць. Вось цікава, а ці Ўладзімер Уладзімеравіч зьдзівіўся б?

### 15 сакавіка, аўторак

Прамінулага дня не шкада. Тым больш прэснага. Пагатоў кожны дзень, адыходзячы ў мінулае, хоць на крок набліжае да таго, што можна будзе назваць разьвязкай. Большую частку часу правёў над сшыткам, адведзеным для лістоў дадому.

*«Крыху пацяплела, і гэта ўжо пазытыўны трэнд. Цяпло і сьвятло — гэта антыдэпрэсанты. Партфэль з навінамі пусты. Думак у галаве шмат, але на паперу яны не кладуцца. Сон розуму — гэта адзінае, што я магу сказаць пра сваю сытуацыю. Што будзе ў пэрспэктыве, пакажа час. Застаюся аптымістам».*

Дарэчы, гэта маё дваццаць сёмае пасланьне дадому. Праўда, ня ведаю, колькі зь іх дабралася да паштовай скрыні, што па вуліцы Лесі Ўкраінкі.

Потым пісаў, крэмзаў у сшытку, адведзеным для творчых парываў. Калі так пойдзе і далей, то можна будзе казаць пра цэлую паэму ў фармаце кароткіх развжаньняў.

*Жыцьцё нас б’е, ляцім і кувыркаемся,*
*Аб зайздрасьць, лізаблюдзтва ударaемся.*
*Жыцьцё — паклон, пакрыху выпрамляемся,*
*З калень у поўны рост мы падымаемся.*
*Жыцьцё — кіно, ў экран мы углядаемся.*
*Мы формай замест зьместу захапляемся.*

У мяне ўжо набралася прыстойная колькасьць вершаў пра будні «амэрыканкі». Жорсткая турэмная лірыка. Нават не сумняваюся: калі яна трапіць у рукі мясцовай адміністрацыі, нічога добрага ня будзе. Таму частку творчасьці даводзіцца канспіраваць і камуфляваць. А потым іншым разам і сам зь цяжкасьцю разьбіраю, што напісаў. Звычайна радкі нараджаюцца падчас шпацыру, і калі па вяртаньні ўсе першым чынам стаюць у чаргу да рукамыйніка, я, не распранаючыся, хапаю сшытак, асадку і перанашу на паперу складзенае ў турэмным дворыку.

* * *

У паўзах паміж творчасьцю і пісаньнем лістоў дадому чытаў і займаўся «разумовай гімнастыкай». Цяпер краіна перажывае пэрыяд закручваньня гаек. Але тут можна перастарацца і разьбу сарваць. Стратэгічна ўладзе нявыгадна даводзіць адносіны з Захадам да поўнага разрыву. Канфрантацыя з Эўрапейскім Зьвязам і ЗША немінуча прывядзе да актывізацыі эканамічнай экспансіі Крамля. У гэтай сытуацыі Лукашэнка скарачае сваю прастору для палітычнага манэўру. Да прэзыдэнцкай кампаніі ён эфэктыўна выкарыстоўваў тактыку падвойнага шантажу. Ехаў у Маскву і недвухсэнсоўна намякаў: калі ня будзе танных энэрганосьбітаў і крэдытаў, прэфэрэнцыяў для беларускіх тавараў на расейскім рынку, то Беларусь можа заключыць



Добры, каханьня!

Сёньня перадаў груз на пешку, з чаго раблю выснову, што Цёнка выздаравела і на хадзе. Дзякуй богу!
Жыцьцё двухкалярове, але бываюць і выключэньні. Адчыніліся дзверы — а там паўнюсенька сонца і сьвятло. Здаецца вясна — усё як грукае у сенцы. Пад нагамі мокра, а над галавой блакітнае неба. Нават мой знаёмы голуб Лёлік зноў вылез да сонечнай ванны.

Сёньня ж напісаў заяву на падпіску на праграмы на НВ. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца. Што датычыць чытаньня, то сёньня чытаю Дзікенса. Праўда шрыфт дробны, так што паглядзім ці адолею. Паралельна заканчваю Картасара.

~~Скарыстаю нагодай каб павіншаваць з днём Волі вас, каханых арганізатараў. Гэта свята тых, для каго свабода гэта не проста гучнае слова, а мэта і сэнс жыцця. І нават тут застаўся свабодным чалавекам у несвабоднай краіне. Можна зьняволіць цела, але нельга зьняволіць. Якое можна зьняволіць мае думкі, мой розум, мае перакананьні і прынцыпы. Так што 25 га за свабоду я падыму вашу конаўку з гарбатай.~~

Па рэальнаму адчуваю дыскамфорт у правым баку, таму фізічныя заняткі зьняніі акуратна і перавярнуты. Думаю, што праблема з печанню і ёй трэба даць спакой. У любым выпадку патрэбны ..., хіба што вітаміны у наступную перадачу

Ліст на волю

«шлюбны кантракт» з Брусэлем. І ў гэты час, як наглядны доказ сказанага, у прыёмнай «Чырвонага дому» зьявілася чарга з Хавіера Саляны, Бэніты Фэрэры-Вальднэр, Сыльвіё Бэрлюсконі, Сікорскага, Вэстэрвэле і іншых даволі вядомых палітыкаў. Паралельна пасланцы беларускага кіраўніка высаджвалі дэсанты ў эўрапейскіх сталіцах і заклікалі да палітычнага прагматызму. Маўляў, трэба зьнізіць

плянку патрабавальнасьці да афіцыйнага Менску. Калі не заплюшчыць адно вока і не прыкрыць адно вуха, то здарыцца непапраўнае: у Беларусь прыйдзе Расея, і будуць тады эўрапейцы церціся аб плячо расейскага мядзьведзя. Тактыка падвойнага шантажу працавала і прыносіла Лукашэнку палітычныя дывідэнды.

Чым мацней закручваюцца гайкі, чым больш жорстка ідуць рэпрэсіі ў дачыненьні да апанэнтаў беларускіх уладаў, тым больш прывіднай робіцца магчымасьць выкарыстаньня тактыкі балянсаваньня паміж Масквой і Брусэлем, тым менш прасторы для манэўру ў Лукашэнкі. Але на другой шалі — асабісты страх і боязь страціць кантроль над сытуацыяй. І, здаецца, менавіта гэты трэнд у бліжэйшай пэрспэктыве будзе дамінаваць.

Мне здаецца, што і Эўрапейскі Зьвяз павінен перагледзець сваю стратэгію. Напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі 2010 году крэн у бок прагматызму і на шкоду каштоўнасьцям быў відавочны. Брусэль пагадзіўся на непасрэдны дыялёг зь беларускімі ўладамі, абмінаючы апазыцыю. І першае, і другое было памылкай.

## 16 сакавіка, серада

З дому прыйшлі непрыемныя навіны: Арцёмка прыхварэў. Здаецца, грып. Гэта мой завочны дыягназ. І ў сваім чарговым лісьце я не прамінуў падзяліцца багатым вопытам супрацьстаяньня хваробе: «*Цёма, ты налягай на часнок і цыбулю. Гэта, з майго досьведу, самае эфэктыўнае ў змаганьні зь вірусамі. Папраўляйся, сына, я за цябе памалюся. Цябе чакаюць справы!*»

Свой фізычны стан ацэньваю здавальняюча. З праблемаў — толькі тое, што лопнуў чарговы сасуд у воку. Гэта наступства, а прычына — дрэнная асьветленасьць камэры плюс агульная аслабленасьць арганізму. Гэта паўтор напісанага ўжо не аднойчы, але дыягназ можна толькі паўтараць.

Затое маральна-валявы дух — зусім нічога сабе. Што і фіксую ў лісьце. «*Рэсурс трываласьці маёй не бязьмежны, але дазваляе з усіх сытуацый, што былі і, можа, будуць, выходзіць годна, захоўваючы самапавагу і адданасьць сваім жыцьцёвым прынцыпам*».

* * *

Інфармацыя ўсё ж прарываецца скрозь мэтровыя сьцены «амэрыканкі». Гэта здараецца падчас прагулак. Пры ўмове, што ўключаюць FM-станцыі, а ня круцяць касэты пра Мурку. Але на навінны блёк яшчэ трэба натрапіць. Калі на шпацыр выходзіш апошнім, то, як правіла, пралятаеш міма інфармацыйнага патоку. Сёньня наша камэра сышла на выгул першай. Вельмі ўдала. Даведаліся пра «японскі Чарнобыль», трагедыю на атамнай станцыі Фукусіма. Жахліва! Ужо каму-каму, а беларусам ня трэба тлумачыць, што гэта значыць для краіны, для людзей. Ня толькі тых, хто жыве сёньня, але і тых, хто народзіцца заўтра. Хочацца верыць, што Японія — не СССР, і наступствы ня будуць такімі жудаснымі. Можа, чужое гора прыпыніць вар'яцкае жаданьне беларускіх уладаў будаваць атамную станцыю ў Астраўцы. Бо спаскудзяць жа, зьнявечаць такі цудоўны куток зямлі беларускай.

А яшчэ прайшла інфармацыя пра ваенныя дзеяньні ў Лібіі. Здаецца, у Муамара Кадафі сур'ёзныя

праблемы. Экстравагантны палкоўнік вычарпаў крэдыт даверу мясцовых бэдуінаў. Стаміліся яны ад яго. Весткі зь Лібіі нас радуюць і натхняюць. Але б’юся аб заклад, што генэралісімуса Лукашэнку яны нэрвуюць і насьцярожваюць. Апошнім часам беларускі рэжым быў моцна арыентаваны на супрацоўніцтва і каапэрацыю з сабе падобнымі. Здаецца, прастора гэтага супрацоўніцтва сьціскаецца нават на афрыканскім кантынэнце. Падзеі ў Лібіі — яшчэ адна вестка аўтарытарным рэжымам. Усе яны сканчаюць аднолькава дрэнна.

* * *

Зь перадачай атрымаў пару новых маек. Уткнуўся ў адну зь іх. «Інгаляцыі» робяцца ўлюбёным заняткам. Надыхаўся. І раптам на тканіне бачу валасок. Арцёмкаў?! І праўда, ягоны. Расчуліўся. Беражліва спакаваў яго ў невялікі празрысты пакет. «Амэрыканка» зрабіла мяне сэнтымэнтальным як ніколі.

Ад сёньняшняга дня на нагах у мяне новыя вязаныя шкарпэткі. Напэўна, Сьветчыных рук праца. Гэтая думка — яшчэ адна дадатковая крыніца цяпла для душы і цела.

## 17 сакавіка, чацьвер

Часам размаўляю з блізкімі. Пра сябе. Гутарка цераз адлегласьць. І калі пачынаю ікаць, то першая думка: яны, мабыць, таксама спрабуюць гаварыць са мной.

* * *

Нейкія нядобрыя думкі. Нейкія сьлізкія прадчуваньні. Нейкі абрывачны, трывожны сон. Нейкая двухсэнсоўная размова з начальнікам СІЗА. Усё

гэта насіць у сабе аказалася не пад сілу. Увечары засеў за ліст, і ў ім папярэдзіў і Сьвету, і Арцёма, каб былі ўважлівымі і асьцярожнымі на вуліцы, у ліфце, у кантактах зь незнаёмымі людзьмі. Нельга выключаць, што могуць быць учыненыя дзеяньні з налётам правакацыяў. У такім выпадку беражонага Бог беражэ.

* * *

Задумаўся пра будучае падаражэньне аўтамабіляў. Клапатлівая ўлада рыхтуе сваім падданым падарунак з душком вялікай праблемы. Здаецца, нас хочуць вярнуць у СССР, калі аўтамабіль быў раскошай, а ня сродкам перамяшчэньня. Увядзеньне расейскага мыта прывядзе да таго, што цэны на аўто вырастуць на траціну. Такі несуцяшальны прагноз. Напэўна, цяпер гэта адна з надзённых тэмаў для народанасельніцтва краіны, калі і нас тут, у ізаляцыі, яна турбуе.

* * *

Час у СІЗА — гэта скрадзены час. У мяне. У маіх блізкіх. У краіны. Абставіны прымусілі шмат што пераасэнсаваць. Я назіраю перамены ўнутры сябе. Я раблюся трохі іншым. Больш патрабавальным да сябе, ці што. Калі пашчасьціць у агляднай будучыні выйсьці на свабоду, мой распарадак жыцьця абавязкова зазнае зьмены. Перадусім буду вяртаць даўгі родным і блізкім. Час і ўвага — вось што я ім вінен. Да гэтай тэмы я зьвяртаюся ўсё часьцей і часьцей. Гэта маё пакаяньне!

* * *

Вечар дагарае аплаўленай сьвечкай. Цемра спусьцілася ў наш дворык, які ўпіраецца ў сьцяну. Сюды яна заўсёды прыходзіць крышачку раней. На

праспэкце Незалежнасьці ў гэтыя хвіліны, напэўна, яшчэ блікі сонца на заходзе, а ў нас ужо змрок.

Звон — гэта нашы гаваркія куранты. Яны беспамылкова падказваюць, што да адбою засталася гадзіна. Я дапісваю апошнія радкі ліста. На адваротным баку канвэрта стаўлю лічбу «29». Столькі лістоў напісана маім любым.

## 18 сакавіка, пятніца

Раніца пачалася з Баптыстаіых пагрозаў. Кантралёру не спадабалася, што мы нібыта вяла і павольна шыхталіся за чырвонай разьдзяляльнай паласой. Прыгразіў карцэрам. Не спрацавала — рэакцыі ніякай. Пасьля двухмесячнага тэрору масак нас ужо цяжка нечым зьдзівіць, а пагатоў напалохаць. Бачачы наш спакой, Баптыст нэрваваўся і паскудзіў па-дробнаму. Не пасьпелі згатаваць ваду ў збане, як ён запатрабаваў кіпяцільнік назад. Потым «забыўся» выдаць нож нарэзаць сала. На давяршэньне ўсяго запатрабаваў дадаткова шліфаваць мокрай анучай халодны бэтон падлогі.

* * *

Я тым часам прыняў рашэньне дзейнічаць. Задаўненая нявызначанасьць прыгнятае. Адчуваю, што пачынаю заводзіцца з паўабароту. Вакол мяне адбываюцца нейкія падзеі, нейкае варушэньне. Некага выклікаюць на допыт. Некага запрашаюць на сустрэчу з адвакатам. Некаму выносяць прысуд. А я — як пабочны назіральнік. Такое адчуваньне, што мяне, як рэч, засунулі некуды на антрэсолі і забыліся. І вось я ўжо амаль тры месяцы там «пылюся».

Надышоў час нагадаць пра сябе! Сёньня перадаў праз дзяжурнага пісьмовы зварот на імя сьледчага Салдаценкі, у якім выклаў усё, што тычыцца маёй сытуацыі. Па-першае, поўнае няведаньне адносна ходу расьсьледаваньня па маёй справе. Па-другое, забарона на кантакты з адвакатам. Вядома ж, не абмежаваўся простым апісаньнем таго, што адбываецца, і прапанаваў даць тлумачэньні па сутнасьці сфармуляваных пытаньняў, і, пажадана, падчас асабістай сустрэчы.

Улічваючы «паўзучую лібэралізацыю», якая назіраецца апошнім часам, сьледчы не павінен праігнараваць мой зварот. На гэта і разьлічваю. Увяжамся ў бойку, а ўжо там пабачым. Прынамсі, горш ня будзе. А нейкую інфармацыю з гэтай сустрэчы я абавязкова вывуджу.

У астатнім цьмяная пятніца ня высьвеціла ніякіх падзеяў, вартых увагі. І не без задавальненьня я паставіў тлусты крыжык на лічбе «18» у самаробным календары.

## 19 сакавіка, субота

Ад астрогу няма перасьцярогу. Гэта праўда. Калі б гадоў дваццаць назад мне хто сказаў: маўляў, цябе чакаюць турэмныя нары, — я б ня проста пакрыўдзіўся. Я б абурыўся. Ну, а цяпер, кідаючы позірк у мінулае, я ўсьміхаюся. Больш за тое, ганаруся, што ў маім жыцьці былі дзясяткі затрыманьняў, арыштаў. Мне ня сорамна сказаць пра гэта ў любой аўдыторыі.

Адны і тыя ж словы, але вымаўленыя ў розных сытуацыях, нясуць розны сэнс і значэньне. Калі на прэс-канфэрэнцыі вы кажаце, што ў імя прын-

цыпаў гатовыя ахвяраваць шмат чым, гэта гучыць прыгожа. Я і сам ня раз пра гэта казаў і чуў, як гэта казалі іншыя. У тэлекамэру, у мікрафон, на мітынгах, на сустрэчах. Калі ж вы паўтараеце гэта самому сабе ў паўзмроку камэры СІЗА КДБ, гэта, можа, ня так ужо прыгожа, але за гэтым стаіць нешта значна большае, чым проста словы. Я сапраўды веру ў тое, што я кажу, і ў тое, што я раблю.

У мяне была магчымасьць, і не адна, выбраць іншы шлях. Без турэмных нараў, бяз матчыных сьлёз і бацькавых перажываньняў. Але я не прагматык, я рамантык. У мяне была магчымасьць прагматычна і сытна ўбудавацца ў сыстэму Лукашэнкі. Адразу пасьля інаўгурацыі прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка, які тады яшчэ ня ўрос у пастамэнт улады, прапанаваў кожнаму сябру ягонай перадвыбарнай каманды выбраць сабе партфэль. Прычым зрабіў гэта адкрыта, у прысутнасьці дзесяці-дванаццаці чалавек. І гэта было шчыра. Так я думаю і сёньня. Практычна ўсе сфармулявалі запыты-прапановы. І ўсе яны без выключэньня былі задаволеныя.

Я ня стаў гэтага рабіць. Чаму? Самы час пра гэта сказаць. Абставіны спрыяюць. У маім цяперашнім становішчы няма сэнсу размалёўваць сытуацыю каляровымі алоўкамі. У прэсе гуляе некалькі вэрсіяў. Аўтар адной — сам Лукашэнка. Ён ня раз казаў, што Лябедзька хацеў быць міністрам замежных спраў, а я, маўляў, прапаноўваў яму пасаду міністра адукацыі. Для пачатку варта заўважыць, што міністэрская пасада ў любым словазлучэньні прэстыжная. Але калі шчыра, то ні першае, ні другое не адпавядае рэчаіснасьці. У 1994 годзе на пасаду кіраўніка зьнешнепалітычнага ведамства прэтэндавалі двое

— Уладзімер Сянько і Георгі Таразевіч. Я быў сярод тых, хто лабіраваў першага, і гэта можа пацьвердзіць дзясятак людзей. І на той час Сянько быў добры выбар. Прафэсійны дыплямат, інтэлігентны, адукаваны, арыентаваны на эўрапейскія каштоўнасьці і стандарты. Гэта пазьней ён стане служкам улады, якіх сотні. А ў 1994-м гэта была асоба.

А зараз пра тое, які партфэль і калі сапраўды прапаноўваў мне Лукашэнка. Увосень таго ж году я ледзь не ўзначаліў Прэзыдэнцкую раду, структуру, якая павінна была стаць пляцоўкай для ўзаемадзеяньня ўлады, апазыцыі, прафсаюзаў, няўрадавых арганізацыяў. Мы сядзелі ў кабінэце ў Лукашэнкі, перад ім ляжаў указ. Ён гатовы быў падпісаць дакумэнт пра маё прызначэньне на пасаду. Ініцыятыва паходзіла ад яго. Але я прапанаваў крыху іншую пасьлядоўнасьць дзеяньняў: спачатку палажэньне аб Радзе, а потым ужо прызначэньне. Пытаньне адклалі. Справа зацягнулася. А тут і скандал падасьпеў. Шэраг газэтаў выйшлі зь белымі плямамі як рэакцыяй на цэнзуру: у апошні момант прэсе забаранілі друкаваць даклад пра карупцыю ў атачэньні Лукашэнкі, падрыхтаваны дэпутатам Вярхоўнага Савету Сяргеем Антончыкам. Пасьля гэтага мы разышліся з Лукашэнкам дэ-факта, так і не аформіўшы дэ-юрэ пагадненьне аб сумеснай працы. Вось сухі выклад фактаў.

Я не адчуваў няёмкасьці, не крыўдаваў. Я быў дэпутатам парлямэнту, і мне ня трэба было думаць пра хлеб надзённы. У мяне быў працоўны кабінэт на тры вакны, пэрсанальны аўтамабіль і сакратарка. Не вазьму на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што б я рабіў, калі б быў пазбаўлены ўсяго гэтага. Але тады я мог дазволіць сабе заставацца самім сабой.

Гэта вялікая раскоша для кожнага, тым больш для палітыка.

Пры гэтым пэрыядычна мне тэлефанавалі празь вяртушку з прыёмнай прэзыдэнта: Аляксандар Рыгоравіч запрашае вас на працоўную нараду. (Так было да скандалу зь «белымі плямамі».) Я пераходзіў з правага крыла будынка, дзе засядаў парлямэнт, у левае, дзе разьмяшчаліся адміністрацыя кіраўніка дзяржавы і ўрад. На гэтых сустрэчах-нарадах было нешматлюдна. Прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір, кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Леанід Сініцын, кіраўнік справаў прэзыдэнта Іван Ціцянкоў. Часам намесьнік прэм'ера Міхаіл Мясьніковіч і галоўны памочнік прэзыдэнта Ўладзімер Канаплёў. Я бачыў нязьмерна зьдзіўлены твар заядлага бюракрата Мясьніковіча. На ім можна было бязь цяжкасьці прачытаць: а што робіць тут гэты пацан? То бок я. Шчыра кажучы, тады я ня вельмі паглыбляўся ў працэдуры бюракратычнай кухні, але цяпер добра разумею зьдзіўленьне Мясьніковіча. Тады ў мяне сапраўды не было ніякіх пасадаў у структурах выканаўчай улады, і навошта Лукашэнка запрашаў мяне на гэтыя нарады, я і сам дакладна ня ведаю. Можа, яму падабалася, што я казаў тое, што думаю, а ня тое, што ён хацеў пачуць? А можа, яго інтуіцыя падказвала, што мяне трэба абавязкова ўставіць у абойму і тым самым прывязаць да сябе?

Як бы там ні было, але наступным разам мы сустрэліся з Лукашэнкам толькі летам 1995-га. Да таго часу ў краіне прайшоў першы раўнд парлямэнцкіх выбараў, і я зноў атрымаў дэпутацкі мандат. Больш за 60 працэнтаў выбарцаў, выбіраючы зь дзесяці прэтэндэнтаў, ужо ў першым туры прагаласавалі за маю пяцігадовую працу ў Ашмянскай выбарчай

акрузе. Я быў шчасьлівы! Недзе на ўзроўні сёмага неба!

У чэрвені адбылася наша сустрэча з Лукашэнкам, на якой зноў паўстала пытаньне пра маё магчымае працаўладкаваньне ў структурах выканаўчай улады. Праўда, нагодай для сустрэчы стала ня гэтая тэма, а ініцыятыва Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў, прэзыдэнтам якой я быў, аб правядзеньні круглага стала з удзелам кіраўніцтва краіны, прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў, няўрадавых арганізацыяў. Тады ўжо насьпела неабходнасьць стварэньня пляцоўкі, каб разрульваць праблемы, а не тыражаваць іх. З ініцыятывай круглага стала выступіў таксама цэнтар «Усход-Захад», які ўзначальваў вядомы беларускі палітоляг, журналіст Анатоль Майсеня.

Плянавалася, што мы павінны былі ўкласьціся ў 20 хвілін, але прагаварылі больш за гадзіну. Першыя словы, зь якімі Аляксандар Лукашэнка зьвярнуўся да мяне, былі наступныя: «Дарма ты, Анатоль, адмовіўся працаваць у камандзе. Давай паедзем да людзей, паглядзі, паслухай, што яны кажуць. Яны ж усе мяне падтрымліваюць. Табе трэба заняцца канкрэтнай справай, а ня гэтай балбатнёй у парлямэнце. Бяры Мытны камітэт». Пазьней я доўга разважаў: чаму мытны? Бо акрамя мяжы зь Літвой, якая праходзіла па тэрыторыі маёй выбарчай акругі, мяне з гэтым кірункам працы нічога ня зьвязвала.

У галаве ў мяне былі іншыя пляны і намеры. Я падзякаваў за прапанову і перавёў гутарку на прадмет нашай сустрэчы. Аднак Лукашэнка зрабіў яшчэ адзін заход у тэму, якая яго цікавіла. Маўляў, працы хапае, і, думаю, пасада віцэ-прэм’ера па сацыяль-




Гуканьне свабоды!

ных пытаньнях — гэта тое, чаму ты дасі рады. Я мусіў другі раз падзякаваць і другі раз адмовіцца. І гэта было шчыра. Мне сапраўды падабалася праца ў парлямэнце, я быў моцна прывязаны да акругі, у якую ўклаў столькі часу і высілкаў. Дый статус дэпутата парлямэнту тады прыраўноўваўся да статусу міністра. Гэта не ішло ні ў якае параўнаньне з тым, што мы назіраем сёньня. Плюс мне падабалася займацца палітыкай, а стаць чыноўнікам — значыла адмовіцца ад улюбёнай справы. Рэшта часу сышла на абмеркаваньне ідэі, мэтаў круглага стала. У канцы гутаркі Лукашэнка ўхвальна кіўнуў і наклаў станоўчую рэзалюцыю. Тут жа выклікаў свайго памочніка Сяргея Посахава і даў указаньне рыхтаваць мерапрыемства. Здавалася, усё цудоўна. Але раніцай наступнага дня мне патэлефанаваў Посахаў і голасам салдацкай пахаронкі паведаміў, што круглы стол адмяняецца. Я да сёньняшняга дня ня ведаю, што здарылася, што адбылося за

адну ноч. І хто стаў магільшчыкам мерапрыемства, якое задумвалася як пачатак агульнанацыянальнага дыялёгу. Вось такая яна, праўда.

А сапраўднага Лукашэнку мы ўсе пачалі адкрываць ужо пасьля інаўгурацыі. Адразу пасьля яе на адной з сустрэч ён, паказаўшы вачыма на тэчку, сказаў: «Анатоль, я даў указаньне камітэту праверыць цябе. На цябе нічога няма». Мяне тады ўразілі ня вынікі праверкі, а вочы Лукашэнкі. У іх стаяла позьняя восень. Здавалася б, чалавек павінен радавацца, што за мной ня цягнецца шлейф нейкіх цёмных, брудных спраў. Аж не.

Тады я не надаў гэтаму вялікага значэньня. Разуменьне прыйшло пазьней. Лукашэнка не працуе зь людзьмі, на якіх няма кампрамату і якіх немагчыма тузаць за нітачкі.

* * *

Я ў добрай спартыўнай форме. Адчуваю, што за апошні час моцна прыбавіў фізычна. Чым займаюся, калі вочы не чытаюць? Калі думкі не кладуцца ў рыфму? Калі мазгі не кампастуюць Баптыст або Якут? У гэты час я мучаю сваё цела. Яно абліваецца потам. Яно адгукаецца болем у цягліцах. Яно перарывіста дыхае стомай. А праз гадзіну ў яго іншыя адчуваньні. Яно дужае, пругкае, працаздольнае.

## 20 сакавіка, нядзеля

Надвор’е нахмурылася калматымі аблокамі, зь якіх паваліла нешта сярэдняе паміж дажджом і сьнегам. Давядзецца зноў вымаць зь вялікага кешара ўсе спакаваныя цёплыя рэчы. Дарэчы, гэты кешар, у які я магу без праблемаў скласьці сваё цела, разам з тэлевізарам перадала мне Аксана Крышчановіч.

Цяпер гэта мая шафа, у якой лёгка ўмясьціліся ўсе мае пакеты. Добра, што не пасьпеў перадаць родным цёплыя рэчы. Прамінулая зіма адпраўляе свае надвор’евыя тэлеграмы. Форма адзеньня на сёньняшнюю зарадку — на ўсе гузікі.

Прадыхаліся. Прачысьцілі лёгкія ад пахаў камэры.

Працягваю чытаць Картасара ўперамежку з Акунінам. Цудоўны кактэйль! Калі вочы адмовіліся піць яго і асалавелі, перайшоў на дапрацоўку рыфмаў, прынесеных зь сёньняшняй зарадкі. Вось што атрымалася.

*Жыцьцё пыхціць. Мы моцна тужымся*
*І з мрояй у танцы кружымся.*
*Жыцьцё крахціць, на палку абапіраемся*
*І нават на асфальце спатыкаемся.*
*Жыцьцё то выбар, і мы вагаемся,*
*Куды ісьці, ў сталба пытаемся.*

А вечар быў патрачаны на юбілейны, трыццаты ліст дадому. Увесь без астачы.

## 21 сакавіка, панядзелак

Сёньня хтосьці невядомы змахнуў зь нябёсаў ватна-хмарнае покрыва — і воку адкрылася блакітная прасьціна. Пад нагамі яшчэ мокра, паўсюль лужыны, але вышэй за шчыкалатку ўсё заліта сьвятлом. Ізноў зь ніадкуль зьявіўся Лёлік і адразу залёг проста ў сонечную ванну. Птушка распушыла пёры і зноў зрабілася падобнаю да мініятурнага індыка.

* * *

Сёньня напісаў і перадаў дзяжурнаму заяву на падпіску на «Народную волю». Праўда, ёсьць вя-

лікія сумневы, што газэта пралезе праз частакол табу і забаронаў. Так што гэта хутчэй экспэрымэнт. Будзем замяраць глыбіню лібэралізацыі турэмнага рэжыму.

Чытаю Дыкенза. Паралельна цешуся Картасарам. Дваістае чытаньне мае свае перавагі: гэта як два розныя сьветы, у якія можна ўцячы з трэцяга. Хоць на нейкі час.

Увечары дзяжурны прынёс мне мой жа ліст. Не пралез праз вушка цэнзуры. Нечая рука падкрэсьліла чорнай хвалістай лініяй цэлы абзац. Ён варты таго, каб прывесьці яго цалкам.

«*Скарыстаю магчымасьць, каб павіншаваць з Днём Волі вас, калег, аднадумцаў. Гэта сьвята тых, для каго свабода — гэта ня проста гучнае слова, а мэта і сэнс жыцьця. І нават тут я застаюся свабодным чалавекам несвабоднай краіны. Можна зьвязаць, закаваць цела, але няма сілы, якая зможа заняволіць мае думкі, мой розум, мае перакананьні і прынцыпы. Такім чынам, 25-га я падыму за свабоду конаўку з гарбатай*».

Цяжка зразумець, чым кіраваўся цэнзар, накладаючы сваё табу. Хутчэй гэта спроба не дапусьціць распаўсюджваньня голасу з «амэрыканкі». Для мяне дык гэта ўвогуле дэманстрацыя ня толькі ўбоства, але і страху ўлады. Цэнзура мае слабасьць ня толькі да маіх пасланьняў. Днямі атрымаў ліст ад Арцёма, і ў ім некалькі радкоў старанна замазаныя. Але добра, што хоць з чорнымі плямамі даходзяць.

* * *

Нешта баліць у правым баку. На мае скаргі лекар толькі пацiснуў плячыма. Сапраўды, рухаесься,

не прыкуты да ложка — і радуйся. Таму дыягназ стаўлю сабе сам. Мяркую, што пацягнуў мышцу. Так што, займаючыся фізычнымі практыкаваньнямі, імкнуся не нагружаць гэтую частку цела, а ад некаторых практыкаваньняў давялося наагул часова адмовіцца. Але ўсё роўна стараюся штодня загружаць працай усе здаровыя часткі цела. Бяз гэтага арганізм ператвараецца ў міні-завод па перапрацоўцы прадуктаў, а інтэлект — у трутня.

* * *

Пералічыў нявыкарыстаныя, чыстыя канвэрты. Засталося пяць. Павінна хапіць да красавіка.

* * *

Апошнім часам усё часьцей задумваюся пра мэтазгоднасьць прысутнасьці тэлевізара ў камэры. Усе перадачы загадзя падбірае мясцовы ідэалягічны аддзел. Вечарамі пускаюць такую махровую антысэміцкую і антызаходнюю прапаганду, што робіцца брыдка. Адкрытае мэтанакіраванае распальваньне варожасьці і прапаганда гвалту. А гэта ўжо артыкул Крымінальнага кодэксу. Можа, накатаць у пракуратуру «цялегу» на КДБ?

## 22 сакавіка, аўторак

Выклік на допыт можа азначаць толькі адно: сьледчы рэагуе на мой зварот. Значыць, працэс пайшоў. Вывернуў кішэні. Шчоўкнулі на запясьцях кайданкі. Рухаемся калідорамі. З прыпынкамі каля сьцяны пры набліжэньні кагосьці, хто ідзе насустрач. А вось і канчатковая мэта нашага маршруту. На дзьвярах таблічка «Ідзе допыт». У невялікім кабінэце за сталом незнаёмы малады чалавек. На

мяне толькі кароткі позірк. Запоўніў паперку, сунуў яе ў руку кантралёру. На стале ані тэчак, ані папер. Значыць, размова будзе кароткая. Але дзе ж ты, мой сьледчы? Нарэшце ўзмахам рукі незнаёмы прапануе мне заняць месца насупраць. Сядаю на зэдлік.

— Маё прозьвішча Бычак, я сьледчы, які вядзе вашу справу.

— Во як! І як даўно ў мяне новы сьледчы? А дзе ж ваш калега? Пайшоў на павышэньне?

— Зьмена сьледчага — нармальная, звычайная працэдура. Для вас гэта не азначае абсалютна нічога.

Голас сухі і з халадком. З паніжальным градусам.

— Па сутнасьці вашага пісьмовага звароту. Хачу вам паведаміць, што ніхто не абмяжоўвае ў правах вашага адваката ў доступе да вас.

— Чаму ж я ня бачу яе зь мінулага году?

— Гэта пытаньне не да мяне. Адвакатаў шмат, а колькасьць месцаў для сустрэч абмежаваная.

— Ясна, я так і думаў. Ну, у такім выпадку, можа, вы праясьніце, у якім стане мая справа?

— Вы ж самі адмовіліся ад супрацоўніцтва са сьледзтвам. Калі ваша пазыцыя зьмянілася — вось папера і ручка.

— Вы ня горш за мяне ведаеце, што нічога новага я вам сказаць не магу! Я закладнік...

— Які вы закладнік? Вы падазраяцеся ў зьдзяйсьненьні цяжкага злачынства, і цяпер ідзе збор фактычных доказаў, — Бычакаў голас — як з халадзільнай камэры.

— Ну то прад'яўляйце доказы!

— І прад'явім!

Далей была даволі доўгая прамова, вельмі па-

добная да выступу пракурора ў судовым пасяджэньні. Мяне папракнулі ў нелюбові да беларускага народу. Затым дасталося на арэхі за сувязі з рознымі нядобрымі міжнароднымі арганізацыямі. І наагул, пара ўжо перастаць з намі цацкацца.

Было ясна, што гутарка зайшла ў тупік. Адзінае, што зьляцела з маіх вуснаў:

— А вы далёка пойдзеце, малады чалавек. На такіх ёсьць попыт.

Бычак схапіў трубку тэлефоннага апарата на тумбачцы і крыкнуў у яе:

— Забярыце падсьледнага!

Тут жа зьявіўся кантралёр. Часу, пакуль вялі ў камэру, хапіла на хуткі аналіз сытуацыі. Што можа азначаць гэтая ратацыя сьледчых? Што мая справа ня мае добрай судовай пэрспэктывы і яе скінулі ад важняка пачаткоўцу-стажору? Гэта погляд аптыміста. І ад гэтай высновы зрабілася весялей.

Хоць ад думкі, што давядзецца мець зносіны з гэтым «бээрэсэмаўцам» (спрацавала мясцовая звычка ўсіх надзяляць мянушкамі), было не зусім камфортна. Ацэнка пэсыміста: самаўлюбёны, амбітны малады служака. Ну, зрэшты, мне зь ім дзяцей не хрысьціць.

У камэры я яшчэ раз прааналізаваў зьмены ў сваёй справе. Так, нічога, акрамя алергіі, сьледчы не выклікае. У яго ўжо сфармавалася думка пра мяне і выпрацавалася пазыцыя па справе. Праўда, па самой справе ён нічога талковага не сказаў, спаслаўшыся на неабходнасьць дадатковага вывучэньня. Гэта можа азначаць, што справа пустая, што нічога новага ў ёй не зьявілася.

У Ігара таксама была сустрэча са сьледчым. Яму прапаноўваюць «жменю пернікаў». Але для

пачатку трэба прызнаць сваю віну. А яшчэ сьлядак намякнуў, што ягоны шэф дае прызнальныя паказаньні і ўсе стрэлкі пераводзіць на Каранеўскага. Маўляў, можаш спазьніцца. Ігар, аднак, не сьпяшаецца кідацца на дармовыя пернікі, якія нагадваюць бясплатны сыр у пастцы. І калі глядзець з маёй званіцы, то слушна робіць.

* * *

На вячэру замест чаканага малочнага супу далі некалькі кавалкаў селядца і вараныя буракі. Прыйшлося ахвяраваць усё гэта падсобнай гаспадарцы КДБ. Наколькі я ведаю, Лукашэнка замацаваў за кожным ведамствам калі не гаспадарку, то сьвінафэрму. Такія ёсьць і ў Нацыянальнага банку, і ў Міністэрства ўнутраных спраў. Так што хай такую вячэру ядуць падшэфныя сьвіньні КДБ.

Абмежаваліся тонкім скрылёчкам сала і гарбатай зь некалькімі сухарамі. Разгрузачная вячэра.

## 23 сакавіка, серада

Была магчымасьць замяніць мае плястыкавыя міскі на больш прэстыжныя, зь нержавейкі. Такое магчыма, калі хтосьці пакідае СІЗА. Але я ня стаў гэтага рабіць. Напэўна, спрацавала сіла звычкі. Няхай сабе трачу на мыцьцё некалькі лішніх хвілін, бо да плястмасы ўсё ліпне мацней, чым да мэталу, але гэта мае міскі, яны са мною зь першага дня ў «амэрыканцы». Да таго ж такіх няма ані ў кога. Эксклюзіўныя.

А вось казённая конаўка зусім безаблічная, ды яшчэ і нефункцыянальная: малая, на тры-чатыры глыткі. Прыстасаваў яе для скарыстаных пакунач-

каў гарбаты. Другасная сыравіна для паўторнага чаяваньня.

Дарэчы, на Акрэсьціна конаўкі былі не абы-якія — алюмініевыя, часта нават бяз ручак, і пакрытыя такім тынкам часу, што сказаць, якога яны колеру, было вельмі цяжка. Піць гарбату з такіх кубкаў — цэлае майстэрства, бо трымаць іх голымі пальцамі проста немагчыма, а вусны ўмомант могуць расплавіцца ад неасьцярожнага дотыку. Каюся, дзьве такія конаўкі я вынес з прыёмніка-разьмеркавальніка як баявы трафэй. Адну падараваў віцэ-прэзыдэнту ЗША Дыку Чэйні. Зь ім беларуская дэлегацыя (у асноўным сваякі выкрадзеных апанэнтаў улады) сустракалася ў Вільні. Я тады сказаў, што пасьля прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году амаль тысяча грамадзянаў Беларусі апынуліся за кратамі. І вось з гэтых самых алюмініевых конавак мы пілі гарбату. Чэйні расчуліўся, гэта было вельмі прыкметна, і ўважліва разглядаў незвычайны падарунак. Б'юся аб заклад, нічога падобнага яму не дарылі. Праўда, як часта бывае, прэса сёе-тое дадумала, сёе-тое дамалявала, і ў выніку атрымалася, што віцэ-прэзыдэнт ЗША тут жа наліў у гэтую акрэсьцінскую конаўку віна і падняў тост за свабоду Беларусі. Гучыць забаўна, але не адпавядае рэчаіснасьці.

Другая конаўка, з надрапаным яшчэ на Акрэсьціна «За свабоду!», стаіць на шкляной паліцы ў офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

І ўжо калі рабіць поўную інвэнтарызацыю турэмнага сталовага набору, то нельга ня ўспомніць «лыжкі» на Акрэсьціна. Замест іх нам давалі абрубкі — частка лыжкі, але бяз ручкі. І гэтым абрубкам трэба было сёрбаць капусту, есьці макарону. Палітычныя адмаўляліся! Была цэлая вайна

за права карыстацца лыжкай, і доўжылася яна некалькі гадоў. Ініцыятарам і тварам пратэсту быў Валер Шчукін. Былы марскі афіцэр, былы камуніст, а цяпер праваабаронца і проста добры, неабыякавы чалавек. І, трэба сказаць, урэшце барацьба завяршылася перамогай палітвязьняў. Сёньня на Акрэсьціна пакуль яшчэ няма відэльцаў, няма нажоў, але ёсьць нармальныя, не пакалечаныя лыжкі.

Дыкенз і ягоная «Крама старажытнасьцяў» мяне зачаравалі. Звычайна кнігі з такім дробным шрыфтам я адразу адкладаю ўбок: нефармат для маіх вачэй. Але тут ня змог адмовіць сабе ў асалодзе. Праўда, каб яе атрымаць, трэба значна больш намаганьняў. Але яно таго варта.

Кніга пад падушкай. Чытаць хочацца заўсёды, але раніцай і ўвечары, пры сьвятле лямпы, больш за паўгадзіны не выцягваю. Пры лямпе і дзённым натуральным сьвятле, асабліва ў сонечны дзень, магу і гадзіны дзьве безь перапынку прабягаць вачыма старонкі. Галоўнае, знайсьці правільнае месца для чытаньня. Звычайна гэта або зэдлік каля вакна, і на ім у позе чаплі, або поза лотаса на верхніх нарах бліжэй да лямпачкі.

## 24 сакавіка, чацьвер

Нарэшце да мяне дапусьцілі адваката. Толькі мы вярнуліся са шпацыру, і тут каманда: «На допыт!» Настроіўся на сьледчага, аднак у пакоі ўбачыў Ірыну Бурак. Першым чынам яна распавяла пра свае няўдалыя спробы атрымаць дазвол на сустрэчу. Спроба, як бачым, расьцягнулася на месяцы. Аказваецца, адвакаты палітычных праводзілі ў прыёмнай цэлыя дні, чакаючы дазволу на суст-

рэчу зь фігурантамі «справы 19 сьнежня». Але ў выніку ўсім адказвалі аднолькава: няма месца для правядзеньня сустрэч. Маўляў, не штурхайцеся, занята! Цяпер, праўда, сытуацыя рэзка зьмянілася. Дзьверы «амэрыканкі» расчыніліся. Наросьцеж! Але гэта, хутчэй за ўсё, зьвязана з выхадам справаў у судовыя пасяджэньні. Да таго ж улады імкнуліся не дапусьціць працёку інфармацыі пра падзеі ў СІЗА, калі тут дзейнічаў рэжым надзвычайнага становішча і бясчынствавалі маскі. Цяпер і гэтая старонка перагорнутая, з публічным скандалам і грамадзкім рэзанансам.

Ірына была настроеная ўжо ня так аптымістычна, як на першых сустрэчах, у сьнежні мінулага году. Больш за тое, яна спаслалася на недахоп досьведу ў такіх справах і выказала сумневы, ці можа быць эфэктыўнай у судзе.

— Можа, паглядзець яшчэ каго з адвакатаў? Ці маеце каго на воку? Калі справа дойдзе да суду, то гэта будзе палітычны працэс, а сёньня ня кожны возьмецца за такую справу.

Так, сапраўды, ня кожны мясцовы адвакат возьмецца за маю справу. Гэта ва Ўкраіне, і нават у Расеі, кожная рэзанансная справа — шанец для адваката, тое, з чаго складаецца ягоная рэпутацыя і, адпаведна, далейшыя ганарары. У Беларусі ж на палітычных справах можна моцна пасьлізнуцца. Аж да забароны на прафэсію. Ня кожны рызыкне коўзацца па тонкім лёдзе.

Уласна, на судовым працэсе адвакат мне і не патрэбны. Я маю дыплём юрыста і, самае галоўнае, багаты асабісты досьвед. Мне неабходны чалавек, які ажыцьцяўляў бы сувязь з маёй сям'ёй і які ў крытычнай сытуацыі ня здрэйфіць, не саскочыць.




Зачыстка плошчы Незалежнасьці ад пратэстоўцаў. «Пагрузка» ў МАЗы-аўтазакі

Што да Ірыны Бурак, то ёсьць адчуваньне, што зь ёй правялі «прафіляктычную гутарку». А можа, чалавек проста добрасумленна ацаніў свае магчымасьці і здольнасьці.

Гэта былі думкі пра сябе. Ірыне ж я сказаў:

— Сустрэньцеся са Сьвятланай і скажыце, каб яна перагаварыла з Валерам Зінкевічам. Здаецца, ён у адвакатуры Ленінскага раёну. Яна ведае, пра каго гаворка.

— Я гэта зраблю ўжо сёньня.

Ірына пацьвердзіла, што запрацаваў судовы канвэер. Ужо ёсьць першыя асуджаныя. Даюць па тры-чатыры гады. Пакуль гэта тычыцца толькі шараговых удзельнікаў Плошчы. Значыць, «арганізатарам» будуць супастаўныя ці большыя тэрміны. Спалоханая ўлада ня можа быць міласэрнай. Ёй патрэбна публічная лупцоўка. На навуку, дзеля помсты. Краіну тыцнуць носам у прысуды. Бязьлітасныя і бессэнсоўныя.

Так, доўгачаканая сустрэча з абаронцам пакінула дваістае ўражаньне. З аднаго боку, добра, што адноўлена магчымасьць кантактаў з абаронай. Прынамсі, буду ў курсе таго, што дзеецца за мурамі «амэрыканкі». Але з другога — я ня ведаў, як паставіцца мой стары знаёмы да прапановы быць маім абаронцам у судовым працэсе. З Валерам Іванавічам Зінкевічам мы даўнавата не перасякаліся. Хоць, у прынцыпе, гэта ягоная праца. Так што застаецца спадзявацца на станоўчы вынік перамоваў, бо Ірына мне ў гэтай справе ўжо не памочніца.

І што ж гэта за краіна такая, дзе і адвакат бывае дэфіцытам? Канструявалі «эканамічны цуд», а выйшаў БУЛАГ (*Беларусь, Управляемая Лукашенко Александром Григорьевичем*). Запускалі ў космас спадарожнік «БелКА», а ён ляснуўся, ледзь узьляцеўшы з БУЛАГу. Будавалі вось Менск — Масква — Пэкін — Дэлі, а збудавалі БУЛАГ.

Так, мы пабудавалі БУЛАГ, у якім вычварна спалучаюцца, пераплятаюцца крыжы на цэрквах і праваслаўны атэізм, запоўнены танным правіянтам страўнік і пустата душы чалавечай, усёмагутнасьць КДБ і немач закону.

Дарэчы, як ні дзіўна, найлепшы рэпартаж пра БУЛАГ і яго архітэктара быў зроблены беларускім тэлебачаньнем. Лукашэнка хоць і называе сябе праваслаўным атэістам, але як мінімум раз на год наведвае галоўны праваслаўны храм краіны. На Вялікдзень. Часам і на Каляды. Натуральна, БТ падрабязна асьвятляе такую важную падзею. І вось адзін з такіх рэпартажаў колькі гадоў таму запомніўся, мабыць, ня толькі мне.

Катэдральны сабор повен прыхаджанаў. Лукашэнка са сьвітай праходзіць усярэдзіну. Паства, як

і належыць на Вялікдзень, сустракае яго воклічамі: «Хрыстос уваскрос!» Зьдзіўлены твар правіцеля на ўвесь экран. Ён кідае позірк направа, налева. Потым прыкладае руку да сэрца і адказвае на вітаньні: «Дзякуй!»

Лукашэнка сапраўды даўно ўжо вырваўся зь цеснай пасады прэзыдэнта Беларусі. Яму ўжо сумна пад балдахінам правіцеля. Ён адчувае сябе нейкім боствам. І ён, вядома ж, бязгрэшны. На яго не распаўсюджваюцца правілы сьвецкага жыцьця. Ён жыве і правіць паводле сваіх паняцьцяў.

## 25 сакавіка, пятніца

Сёньня раніцай ледзь адчынілі форткі, як у камэру ўляцелі, уварваліся гартанныя гукі, ірвучы цішыню. Гэта быў поўны радасьці ад вяртаньня дадому крык журавоў. Недзе там, над намі, працінаючы аблокі, расьсякаючы крылом халоднае паветра, пляніраваў жураўліны клін. Божа, якая прыгожая музыка птушыных галасоў! Мы анямелі. Сядзелі зь Ігарам на табурэтах і лавілі гэтыя чароўныя гукі. Вось так нечакана пабывалі ў прыроднай філярмоніі на канцэрце жывога сьпеву. Добры пачатак дня! Жыцьцесьцьвярджальны. Некалі і мы вернемся дадому. Абавязкова вернемся!

* * *

Чытаю Дыкенза на малых хуткасьцях. Як правіла, удзень, калі больш натуральнага сьвятла прабіваецца праз байніцы акна ў камэру. А раніцай і ўвечары зьвяртаюся да «Братоў Карамазавых», яны надрукаваныя буйнейшым шрыфтам. Прычым пачаў адразу з трэцяй і чацьвёртай частак. Чаму? Ну, такая была ўдача ў бібліятэчны дзень пры аб-

мене кніг. Гэта лятарэя. Можа, наступным разам трапіцца першая палова кнігі. Такое яно, турэмнае чытаньне — ад эпілёга да прадмовы.

* * *

Павіншаваў дзяжурнага па СІЗА з Днём Волі. Той скрывіўся і сказаў, што ня ведае такога сьвята.

— Нічога страшнага. Мы ўсе калі-небудзь даведваемся пра нешта першы раз.

Я ня стаў разьвіваць тэму Дня Волі, хоць думаю, што малодшы лейтэнант схітраваў. Пра Дзень Волі, хутчэй за ўсё, ён ведае, проста размаўляць няма жаданьня. Ну нічога, сёньня ня хоча, а пасьлязаўтра сам дзецям будзе распавядаць пра Беларускую Народную Рэспубліку. Усё цячэ, усё мяняецца. Да прыкладу, 19 верасьня 1991 году большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня прагаласавалі за тое, каб беларускім нацыянальным сымбалям надаць статус дзяржаўнай сымболікі. Гэта быў адзін з найлепшых дзён у маёй парлямэнцкай працы. Дзень з адмысловай энэргетыкай. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг сталі дзяржаўнымі сымбалямі незалежнай Беларусі. Але ж яшчэ за паўгода да дня галасаваньня ніхто ня мог і дапусьціць нешта падобнае. Гэта здавалася немагчымым. Так што ня будзем сьпяшацца і зь лейтэнантам.

Дарэчы, пры галасаваньні за сымболіку ў верасьні далёкага 91-га здарыўся забаўны выпадак. Трэба было здабыць падтрымку ня проста большасьці дэпутатаў, а канстытуцыйнай большасьці, гэта значыць — дзьвюх трацін галасоў. І вось кнопкі націснутыя, на чорным таблё выскачылі зялёныя лічбы. І трэба ж, голас у голас! Авальная заля выбухае. Апляндысмэнты, радасныя воклічы, поціскі

рук. І тут, пераадольваючы па некалькі прыступак адразу, да мікрафона скача дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі Мілаванаў. Атрымлівае слова і патрабуеануляваць вынікі галасаваньня. Матывацыя наступная: маўляў, дапушчана фальсыфікацыя, дэпутат Аляксандар Шыпко прагаласаваў за свайго калегу Віктара Шэймана. Іскры Мілаванава хапіла, каб разьдзьмуць полымя дыскусіі. У атаку пайшлі вэтэранская гвардыя і зацятыя камуністы. І тут у залю ўваходзіць Шэйман і адразу накіроўваецца да мікрафона: «Так, я сапраўды прасіў калегу Шыпко прагаласаваць за мяне, бо мне трэба было тэрмінова выйсьці з залі. Але я адназначна заяўляю, што мой голас — за».

Праз некалькі гадоў Віктар Шэйман будзе адным з ініцыятараў ганебнага рэфэрэндуму аб вяртаньні старой савецкай сымболікі. Такія вось зыгзагі і наступствы палітычнай мімікрыі.

Недзе ўсярэдзіне ўздымаецца цікаўнасьць: ці будуць сёньня прыкметы сьвяткаваньня Дня Волі на вуліцах сталіцы? Разумею, што гэтым разам гаварыць пра масавасьць вулічнай акцыі бессэнсоўна. Ці выйдзе хоць хто?

Гляджу ў халодную цемру за матавым шклом. Чорная цішыня. Калі б сядзеў на Акрэсьціна, там быў бы ў курсе падзеяў. Ёсьць акцыя — значыць, увечары абавязкова прыйдзе аўтазак, напханы затрыманымі.

## 26 сакавіка, субота

Мяне «папрасілі» прагуляцца. Ня сьмею адмовіць. Ідзем у бок памяшканьняў для допыту. Стандартны пакой — стол, два крэслы, чырвоны

тэлефон на тумбачцы. Хіба што камэра ўтаропілася немігучым вокам. Не хаваецца, пазірае адкрыта.

За сталом сядзіць — о, якая прыемная неспадзяванка! — Валер Зінкевіч. Колькі ж гадкоў ня бачыліся? Але абышліся без сантымэнтаў і эмацыйных усхліпваньняў. Паціснуўшы рукі, адразу прыступілі да справы.

— Анатоль Уладзімеравіч, спачатку павінен задаць некалькі фармальных, але абавязковых пытаньняў. Ваша жонка і я склалі дамову аб тым, каб я быў вашым адвакатам. Ці няма ў вас пярэчаньняў?

— Не. Не пярэчу! Прыемна, што вы доўга не вагаліся.

— Гэта мая праца.

Зінкевіч паведаміў, што ўжо меў сустрэчу з маім новым сьледчым, а таксама азнаёміўся з матэрыяламі справы. Як я і меркаваў, пра тамы гаворка не ідзе. Літаральна некалькі паперак працэсуальнага характару.

Мы абгаварылі судовую пэрспэктыву. З улікам мясцовай спэцыфікі трэба быць гатовымі да ўсяго. Стартаваць можа і заўтра. Пагатоў, на думку адваката, улады зацікаўленыя не расьцягваць працэсы, а правесьці ўсё ў максымальна сьціслыя тэрміны. Чым даўжэйшы працэс, тым больш увагі. Як унутры краіны, так і вонкі. А гэта для ўлады дрэнны фон. Значыць, судзьдзяў будуць гнаць, як па стомэтроўцы.

Я распавёў пра сваё бачаньне абароны і нападу ў судовым працэсе. Адвакат падтрымаў. Дамовіліся, што ён сканцэнтруецца на працэдурах, а я — на зьмястоўнай частцы. Ну і, самае галоўнае, я атрымаў сьвежую інфармацыю пра справы маіх дама-

чадцаў, пра тое, што насамрэч адбываецца ў краіне. Мы гутарылі каля гадзіны.

— Якія будуць просьбы, пажаданьні, Анатоль Уладзімеравіч?

Папрасіў зайсьці ў партыйны офіс і сабраць больш інфармацыі пра справы партыйныя: чым дыхаюць, чым жывуць калегі. Заадно трэба будзе ўзяць сякія-такія дакумэнты: выпіскі з рашэньня партыйнага зьезду, заявы, зробленыя партыяй у ходзе выбарчай кампаніі, матэрыялы нашых сумесных з Раманчуком прэс-канфэрэнцыяў.

На адыход я паціснуў Зінкевічу руку. Моцна, па-мужчынску. Цяпер у мяне ёсьць ня проста адвакат, але і чалавек, якому можна давяраць. Сустрэча падбадзёрыла. То тыднямі варысься ў закупоранай камэры, у таварыстве адных і тых жа пэрсанажаў, то раптам нечаканыя сустрэчы і новыя асобы.

На сустрэчы з адвакатам навіны ня скончыліся. У нас падсяленьне. Як звычайна, па абедзе. Чарговы прадстаўнік Плошчы. Калі так пойдзе і далей, то я, пэўна, перасякуся з большасьцю фігурантаў «справы 19 сьнежня». Новы арыштант — Алесь Кіркевіч, адзін зь лідэраў «Маладога фронту». Хударлявы цёмнавалосы хлопец з Гародні. У яго ўвогуле забаўная сытуацыя: у турму прывялі ў канцы студзеня, ледзь ня з загсу. Ну, а да нас — па пераразьмеркаваньні, з трынаццатай камэры.

Мы ўтрох у чатырохмесцавым нумары «Hilton-амэрыканкі». Алесь уладкаваўся на ніжніх нарах. Зьмесьціва пакетаў па-гаспадарску расклаў у тумбачцы, прадукты — у «абшчак». І, як ужо водзіцца, пайшоў абмен інфармацыяй, чуткамі, успамінамі. Кіркевіч выглядае ўраўнаважаным, спакойным маладым чалавекам. Я зь цяжкасьцю магу ўявіць

такога з кайлом у руках на плошчы. Сьвежая размова расьцягнулася да адбою.

Алесь не хавае, што быў у самым цэнтры падзеяў каля Дому ўраду. Кажа, зацягнула, як у вір. Ён таксама прыгадаў, што натоўп спыніўся перад кволым ланцужком «касманаўтаў» (вайскоўцаў у чорных шлемах). Ніхто нічога не рабіў, каб наблізіцца да будынка. Калі б такія намеры былі, то міліцыянтаў, якія стаялі на адлегласьці прыкладна мэтар адзін ад аднаго, зьмялі б у лічаныя сэкунды. І гэта абсалютная праўда. Але потым адбылося нешта зусім нечаканае. Ланцужок раптам арганізавана павярнуўся направа і гужам пайшоў прэч. Значыць, была каманда. І тут ужо, здаецца, спрацавалі рэфлексы. Правёўшы зьдзіўленым позіркам «касманаўтаў», натоўп рушыў у гарлавіну прасторы, якая адкрылася перад ім. Рушыў у загадзя падрыхтаваную пастку. За шклянымі дзьвярыма ў прадчуваньні сьвежай крыві зьнемагалі спэцназаўцы. Спэцапэрацыя «Плошча» пачалася. Людзей, якія апынуліся ў прасторы паміж будынкамі, што выходзілі літарай «П» на плошчу, адрэзалі ад астатніх некалькімі шэрагамі «касманаўтаў» і АМАПу. Тых, хто апынуўся ў пастцы, з дапамогай дубінак і шчытоў расьсякалі на квадраты. Пад’яжджалі аўтазакі, і людзей, якія ляжалі на зямлі, зьбітых, стаптаных, закідвалі туды. Машыны хутка запаўняліся жывымі целамі і з натужным бурчаньнем матораў пакідалі месца крывавай бойні. Ня ўсім наканавана было правесьці гэтую ноч дома.

## 27 сакавіка, нядзеля

Шостая раніцы. Пад'ём. Лямпачкі міргнулі адна адной. Начная пагасла, дзённая запалілася. Стук ключом па жалезнай ручцы: падрыхтавацца да наведваньня прыбіральні! Рыпнуў ключ у замочнай шчыліне. Мы за чырвонай разьдзяляльнай рысай. У Алеся ў руках «начны гаршчок», у Ігара — урна для сьмецьця. Вочы ў падлогу, свабодныя рукі за сьпінай. Адпрацавалі туалет. Зьелі дыетычны сьняданак. Пераждалі прыход дзяжурнага. Усё! Паўза. Да чарговага стуку жалезнага ключа па ручцы дзьвярэй. Да шпацыру.

На ранішнім шпацыры нам выпаў трэці нумар. Вялікі дворык на траіх — гэта камфорт у чатырох сьценах і зь сеткай над галавой. Правёў дыхальную гімнастыку згодна з мэтодыкай Сашы Кісялёва, потым разьмяў суставы, у тым ліку і правую далонь, паводле сваёй уласнай праграмы.

Перайшлі з Алесем у рэжым двухбаковых камунікацыяў. Ён папрасіў парады:

— *Спадар, Анатоль, вы чалавек дасьведчаны. Што вы параіце, як мне весьці сябе падчас судовага працэсу?*

— *Я ня ведаю падрабязнасьцяў тваёй справы, таму абмяжуюся адной парадай. Самае галоўнае — прайсьці гэты шлях так, каб потым мог глядзець у вочы людзям. Не хлусіць, не гандляваць сумленьнем. Гэта галоўнае. Хутчэй за ўсё, трэба настройвацца на абвінаваўчы прысуд. Але ня думаю, што ўсё гэта працягнецца доўга. Будзе ціск, міжнародны, а затым і ўнутраны. Так што будзем аптымістамі.*

Ня ведаю, наколькі я супакоіў Алеся, але на яго-

ным твары зайграла ўсьмешка. Яна яму пасуе. Усё ж Плошча сабрала добрых, абаяльных людзей.

Далей працягнулі працу ў шэсьць рук. На астатнія паўтары гадзіны дворык ператварыўся ў спартзалю. Змакрэлі! Вызваліліся ад вопраткі і дадалі нагрузку. Па сьпіне пабег тоненькі ручаёк.

На вуліцы яшчэ ня так цёпла, як бы хацелася, але ўжо ёсьць думкі, як перадаць дадому цёплыя рэчы. Узгадняю з Арцёмам усю лягістыку. Я павінен напісаць заяву, каб перадаць рэчы, а мае, адпаведна, заяву, каб забраць. І гэта ўсё трэба сынхранізаваць і вывесьці на канкрэтную дату.

* * *

Дзень прайшоў на лік раз, два — і прывітаньне, вечар. Размовы ўперамежку з рознага кшталту заняткамі хутка жэрлі час, а то, бывае, яго столькі, што ня ведаеш, чым забіць.

Увечары фірмовая страва «амэрыканкі» — некалькі бульбін у мундзірах і гэтулькі ж хвастоў селядца. Але з дадаткам у выглядзе сала, цыбулі і рэшткаў шакаляднай пліткі зусім сабе так нішто.

Не пасьпелі турэмныя далікатэсы разьмясьціцца ў страўніку, як прыйшоў час адбою. Звыклыя заняткі і працэдуры зьмяняць не сьпяшаюся. Нанач па-ранейшаму залажу ў самаробны спальнік і сплю ў тэрмабялізьне і шкарпэтках.

## 28 сакавіка, панядзелак

Дзень у блакітнай нябеснай сарочцы з шэрым матыльком-воблакам і сонечным смайлікам. Харраство! Нават Лёлік, як з глузду зьехаўшы, круціць галавой і беспасьпяхова спрабуе дацягнуцца дзюбай да гэтай самай сарочкі.

Дзьвюх гадзін шпацыру падалося мала. За гэты час ледзьве пасьпеў выкласьці на лаўцы мазаіку зь дзесяці каменьчыкаў. Гэта дзённая норма адцісканьняў, за кожным каменьчыкам — сто практыкаваньняў. І тут каманда: на выхад, у камэру крокам руш!

А з нашага акна ні сарочкі, ні матылька, ні смайліка, нічога не відаць. Толькі глухая сьцяна брудна-бэзавага колеру.

* * *

Сёньня ў нас завязалася дыскусія пра месца і ролю рэлігіі. І справакаваў яе Кіркевіч, дакладней, яго аповед, што некаторыя кантралёры называюць яго ісламістам. Гэта таму, што падчас малітвы Алесь сядае на кукішкі проста на нарах.

У мяне складанае стаўленьне да людзей у расах, хоць і вырас у рэлігійнай сям'і. Ва ўсе часы атэістычнага апыленьня краіны наша сям'я жыла паводле свайго праваслаўнага календара. З малітвай і верай. Усе сьвяты спраўлялі няўхільна. Лінію паводзінаў тут вызначалі маці і бабуля. Па жаночай лініі ў нас шчыльнае перапляценьне праваслаўнага і каталіцкага складнікаў. Бабуля маці была каталічкай. І гэта яна настаяла, каб маму звалі Яня, а яе старэйшага брата — Янак. Хоць і ў мэтрыцы, і ў пашпарце ў яе запісана Марыя. Але для ўсіх вясковых маці і па сёньня Яня.

Бацька ж у дачыненьні да рэлігіі трымаў дыстанцыю. Дэманстраваў павагу да веры і ўстойлівую алергію на сьвятароў. Ён добры псыхоляг. Ды яшчэ з абвостраным пачуцьцём справядлівасьці. І глядзеў на іх як на звычайных людзей, адно што ў расе. У

яго было перакананьне, што пры камуністах і сьвятары — шрубкі агульнай сыстэмы.

Мае адносіны са служкамі царквы да якогась часу былі нэўтральна-пазытыўныя. Зь мінулага годным успаміну можна прывесьці маё знаёмства зь мітрапалітам Філарэтам. Фармальна мы пазнаёміліся ў парлямэнце. Тады, на пачатку 90-х, царква дабраслаўляла сьвятароў на змаганьне за дэпутацкі мандат. У Вярхоўным Савеце былі тры дэпутаты ў расе, сярод іх і ўладыка. Прычым адзін зь іх уваходзіў у апазыцыйны Дэпутацкі дэмакратычны клюб. Нейкі час зносіны зь Філарэтам абмяжоўваліся рэжымам «добры дзень — да пабачэньня». А тут раптам ён запрасіў мяне, маладога дэпутата парлямэнту, да сябе ў япархію і асабіста зладзіў экскурсію. У той час там была адкрыта выдатная экспазыцыя абразоў, канфіскаваных пры спробе перапраўкі іх за кардон.

Мы не сьпяшаючыся хадзілі па япархіі і неяк неўпрыкмет апынуліся ў памяшканьні з прыглушаным сьвятлом. Выявілася, гэта ўтульная трапезная. «Ну, Анатоль, што Бог паслаў!» — уладыка жэстам запрасіў да стала. Аднаго позірку было дастаткова, каб адзначыць: Гасподзь сапраўды пастараўся. Ікра чырвоная, ікра чорная, крыштальны штоф зь цёмнай вадкасьцю. Галодныя 90-я!

Памочнік мітрапаліта трэніраванымі рухамі напоўніў крыштальныя чаркі. Філарэт паважна падняў кілішак, выпіў, задаволена крэкнуў і павалі прамовіў: «Боскі напой! Але кошты бязбожныя». Каньяк і праўда быў цудоўны. Непаўторныя 90-я!

Дзеля справядлівасьці трэба прызнаць, што ў парлямэнце толькі два дэпутаты падыходзілі да мікрафона ў поўнай цішыні, незалежна ад таго,

якія жарсьці бушавалі ў Авальнай залі, — уладыка Філарэт і народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

* * *

Сёньня Гасподзь паслаў нам на абед макарону ня толькі з пахам, але і з кавалачкамі тушонкі. Смачна! Для дзюдзяў з падшэфнай гаспадаркі імя Фэлікса Эдмундавіча Дзяржынскага не засталося нічога. А на першае быў суп з локшынай. Такі вось дзень макароньніка.

## 29 сакавіка, аўторак

Сёньня, здаецца, упершыню атрымаў адразу два лісты. Адзін напісаны Марынай, жонкай старэйшага брата. Напісаны на даручэньне бацькоў. Напэўна, таму і прайшоў праз сеткі цэнзуры. Мабыць, ёсьць устаноўка: прапускаць толькі ад жонкі з сынам ды ад бацькоў.

«Атрымалі бацькі ад цябе два лісты. Ці трэба казаць, як гэта іх узрадавала і падтрымала... Па гаспадарцы ўпраўляецца бацька, а тэхніку да сяўбы рыхтуе Валодзя. Маці ў хаце. Часта размаўляе з тваёй фатаграфіяй. І моліцца за цябе».

Перажыў чарговы прыступ успамінаў і разважаньняў. Так, бацькам цяпер цяжка як ніколі. І мне балюча, што я прычына іх перажываньняў. Добра, што брат Уладзімер заўсёды побач, практычна кожныя выходныя стараецца прыехаць у вёску. Мае таксама ўвесь час на гарачай тэлефоннай лініі з бацькоўскай хатай. Нішто, здужаем, выстаім!

Другі ліст — ад Сьветы, з пахвалой за маё вершаваньне. Разумею, што паэт зь мяне ніякі, але ўсё роўна чытаць прыемна. Лісты да мяне ідуць на трычатыры дні хутчэй. Адпаведна, мае ў адваротным




Пад абаронай муроў Чырвонага касьцёла

кірунку пераадольваюць гэтую ж дыстанцыю са спазьненьнем на гэткі ж час.

* * *

Пачуты пару дзён таму жураўліны сьпеў так запаў у душу, што ўрэшце, падхоплены творчым парывам, выліўся ў рыфму вершаў.

*Ляцяць, курлычуць журавы.*
*Іх пэленгуюць вушы ў паднябесьсі.*
*Вясна — іх новы пазыўны*
*Што на Браслаўшчыне, што на Палесьсі.*
*Ляцяць, курлычуць журавы,*
*Сыгналячы пра час свайго вяртаньня.*
*Ім адгукаюцца царкоўныя званы,*
*Выбіваючы мэлёдыю каханьня.*
*Ляцяць, курлычуць журавы,*
*Ляцяць здалёку, з адпачынку.*
*Зразае неба клін жывы,*
*Махаючы крылом безь перапынку.*
*Ляцяць, курлычуць журавы.*

*То голас вольнай птушкі,*
*Што на калгасным не жыве двары*
*І не чакае міластынь з кармушкі.*
*Ляцяць туды, дзе родны дом,*
*Дзе сьпіш салодкім добрым сном.*
*Вясьнянка — вось мой аэрадром.*
*Я прызямлюся тут журавам вольным.*

* * *

Не на ўсе пытаньні ў мяне ёсьць адказы. На некаторыя — адказы толькі дрэнныя. І што? Гэта не падстава ўбудоўвацца ў сытуацыю. Гэта ня алібі для чалавечых слабасьцяў (прыступ вячэрняй хандры і ўнутранага дыялёгу).

## 30 сакавіка, серада

Пачатак дня не прадвяшчаў рэзкіх перападаў у звыклым рытме жыцьця. Пад'ём. Туалет. Сьняданак. Паверка. Шпацыр. Зарадка. Праца са сшыткамі. Абед.

І раптам адразу пасьля трапезы — нечакана каманда зьбіраць рэчы. Падарожжа па новых камэрах працягваецца?.. Думка пра вызваленьне нават не мільганула ў падсьвядомасьці. Пасьцель скруціў у скатку, як вайсковы шынель. Рулён, у якім матрац, падушка, прасьціна, коўдра, зьверху зацягнуў другой прасьцінай. У адзін кешар закінуў пакеты з адзеньнем, ежай, у другі — тэлевізар. Здаецца, нічога свайго не забыўся. І галоўнае, шэры плед. Разьвітаўся з Алесем Кіркевічам і Ігарам Каранеўскім. Было сумна. Да гэтай працэдуры немагчыма прывыкнуць. Чалавечы фактар — ці ня самы вызначальны там, дзе я цяпер.

Я не памыліўся, гэта чарговае перасяленьне. Наступны прыпынак — камэра нумар восем.

З бауламі прадзіраюся празь дзьвярны праём усярэдзіну. Памяшканьне меншае. На тры пасадачна-пасьцельныя месцы. Бегла разглядаюся. Усё неяк надта ж чыста і акуратна. Адчуваньне вылізанай пустаты. Праз пару хвілін разумею, што гэта вынік неабжытасьці камэры. Сапраўды, ніякіх сьлядоў і прыкмет таго, што тут жывуць. Пустыя тумбачкі, голы стол, лысае падваконьне. Няма кантэйнэраў, пакетаў, скрынак, стосаў старых газэт, да якіх пасьпееў прызвычаіцца. Нічога! І сярод усёй гэтай неабжытасьці — квадратны, каротка стрыжаны чалавек на ніжніх нарах. Не пасьпелі мы паціснуць адзін аднаму рукі ў знак знаёмства, як па той бок дзьвярэй ударыла шумавая хваля, і тут жа на парозе з рулёнам-скаткай і пакетамі намаляваўся Ігар Каранеўскі. У сваім доўгім паліце накшталт шыняля. Вось прыемная неспадзяванка наўздагон! Мы на радасьцях абняліся, бо за апошні час добра прыцерліся адзін да аднаго. Ігар пачаў парадкаваць верхні ляжак, а я адшпіліў ад сьцяны нары справа ад уваходу.

Як выявілася, «квадратны» тут зусім нядаўна. Яго этапавалі з калёніі, што ў Навасадах. Спачатку на «Валадарку», а цяпер вось у СІЗА КДБ. І ў камэру зьмясьцілі літаральна перад нашым засяленьнем. Несьцярэнка, прадставіўся наш новы знаёмы. Родам зь Дзяржынску. Ужо адседзеў у калёніі пяць гадоў, тут — праз новаадкрытыя акалічнасьці справы.

Калі голыя жалезныя нары набылі выгляд уладкаванай пасьцелі, разгледзеліся па баках яшчэ раз. Ні я, ні Ігар ніяк не плянавалі трапіць у камэру, дзе ўсё трэба пачынаць з нуля. Чорт, ніякага посуду,

ніякіх ёмістасьцяў, нават кавалачка паперы, каб заслаць сьметніцу. Ніякіх матузочкаў, кручочкаў і іншай драбязы, безь якой не абысьціся ў штодзённым жыцьці. Спробы дамовіцца з аховай, каб са старой камэры ўзяць хоць бы пару плястыкавых кантэйнэраў, скончыліся нічым. Ну што ж, давядзецца ўспомніць Рабінзона Круза.

Затое камэра з каналізацыяй. Гэта значыць, што ня трэба падладжвацца пад графік двухразовага наведваньня туалета і ня трэба зьбіраць мандарынавыя лупіны для бачка на вынас. Яшчэ адзін плюс — тут ня кураць.

Здаецца, холад канчаткова выключаны са сьпісу праблемаў. Фортку днём не зачынялі! Цэлы дзень! І адтуль цягне ня холадам, а сьвежасьцю.

* * *

Апошнімі днямі выпіваю па шэсьць літровых конавак гарачай гарбаты. Гэта стала штодзённай нормай. Тут, у СІЗА, мяне пераканалі, што ў дзень трэба выпіваць ня менш за тры літры вадкасьці. Рэкамэндацыя стала звычкай. Балазе з кіпяцільнікам цяпер таксама праблемаў няма.

Прыдаўся і перададзены з офіса тэлевізар. З учорашняга дня па мясцовай сетцы пусьцілі сэрыял «Апостал» зь Міронавым і Фаменкам у галоўных ролях. Шкада, сэрыя нядоўгая, усяго 45 хвілін. Пасьля жудасных перадач і фільмаў, якія клічуць хапаць косы ды янчаркі супраць габрэяў і амэрыканцаў, гэта тое, што хочацца глядзець.

* * *

Сёньня нанач зьняў шкарпэткі. Ногі як у іншы сьвет трапілі. Здавалася, падэшвы хтосьці казыча, пальцы хтосьці пагладжвае.

## 31 сакавіка, чацьвер

Ноччу спаў дрэнна. І гэта ўжо другая бяссонная ноч. Галава расколвалася, быццам яе сьціскалі абцугамі. Сам сабе паставіў дыягназ — ціск. Пастукаў кантралёрам. Раз, другі... Толькі на трэці выпрасіў таблетку ад ціску са скрынкі з суседавымі лекамі. Выпіў, забраўся на нары. І тут хвілін праз пяць мяне пачало выварочваць. Зваліўся ўніз і ледзь пасьпеў да ўнітаза. Ачысьціўся да страўнікавага соку. Майку хоць выціскай. І калатун такі, што зубы ляскаюць.

Заснуў толькі пад раніцу. І, што дзіўна, прачнуўся без аніякіх прыкмет хваравітага стану. Нават зарадку зрабіў. Праўда, ашчадную.

Тройчы на працягу дня папрацаваў лыжкай. Раздабыў нітку з іголкай і зацыраваў бялізну. Гэтым інструмэнтам не працаваў, напэўна, з часоў службы ў войску. Але нішто, даў рады, нават спадабалася ўласнае рукамяство.

* * *

Паўдня правёў, пішучы верш. Прысьвячэньне любаму котку.

*Тимофей, Тимоха, Тима, Тимка*
*Цвета кофе с молоком.*
*Озорства в глазах искринка,*
*Ушки на макушке бугорком.*

Цімка, без перабольшваньня, чацьвёрты наш сямейнік. Калісьці ў нас быў францускі бульдог па мянушцы Ціс. Пародзісты. Раза ў паўтара буйнейшы за сярэднестатыстычнага свайго субрата па пародзе. Прыкіпелі мы да яго ўсім сэрцам. І трэба ж, здарылася няшчасьце. Яго атруцілі. Падчас ранішняга шпацыру. Атрута была такая




Першая кроў

моцная, што сабака згарэў за лічаныя гадзіны. Мы так балюча перажылі гэтую трагедыю, што ніяк не маглі наважыцца завесьці новага сябра. А тут Сьветчына стрыечная сястра ледзьве не сілком увапхнула ёй малое кацяня. Малюпасенькі камячок колеру кавы з малаком. Брытанец з добрым радаводам. Нам прапанавалі велічаць яго Патрыкам. Сямейны кансыліюм спыніўся на Ціму-Цімоху-Цімку. З той пары мы разам. Ціма незвычайна пазытыўны. Вельмі акуратны (гены даюць сябе адчуваць), ласкавы. І прыгажун — вачэй не адарваць! Часам прыйдзеш з працы, абвешаны праблемамі, а ён тут як тут. Узьлезе на грудзі, вуркоча і ў вочы зазірае. Мы яго часам так і клічам — сямейны псыхатэрапэўт.

## 1 красавіка, пятніца

Мы заўсёды чагосьці чакаем. Або кагосьці. Кожны дзень. Сёньня, да прыкладу, я чакаю прэсу. Дакладней, газэту «Народная воля». З красавіка падпісаўся. Але не было б то першага красавіка. Чаканьне ёсьць, а газэта не прыйшла. Напэўна, сёньня яе чытае таварыш Арлоў.

— Прозьвішча?

— Лябедзька!

— На допыт!

У зьвязцы з кантралёрам накіроўваемся ў суседні будынак. Здаецца, гэта новы маршрут. Падыходзім да масіўных дзьвярэй. Кантралёр набірае код і чакае. Мае вочы ўторкнутыя ў сьцяну калідора. Мае думкі загорнутыя ў пазыцыю «што было — бачылі, што будзе — пабачым». Праходзім у наступны адсек калідора. Яго аздабленьне кажа пра тое, што тут сядзіба камітэтчыкаў вышэйшага рангу. Яшчэ адны дзьверы — і я ў пакоі. Невялікім, але даволі ўтульным. Здаецца, гэта апэндыкс, які прымыкае да кабінэта. Адпаведна, яго ўладальнік не апошні чалавек у гэтым комплексе будынкаў. Па тоўстай дарожцы гэтага «пакоя адпачынку» насустрач бясшумна сьлізгае знаёмы Аналітык. Шырока ўсьміхнуўся, жэстам запрасіў у фатэль зь цёмна-карычневай абіўкай. Сядаю сьпінаю да акна, якое, здаецца, выходзіць на праспэкт. Прастора за акном магніціла і вабіла, але я прымусіў сябе ператварыцца ў плястыкавую абыякавасьць. Бо часам позірк і выраз твару можа сказаць больш за словы.

Камітэтчык разьмясьціўся насупраць.

— Даўно мы з вамі не сустракаліся. Хацелася б

давесьці пачатую размову да канца. Гарбаты? Чорнай, зялёнай?

Дагэтуль я стаічна адмаўляўся ад чаяваньняў з камітэтчыкамі. Трымаць дыстанцыю — я выбраў гэтую тактыку і жорстка трымаўся яе зь першай хвіліны ў КДБ. Але тут нечакана для сябе самога пагадзіўся. Аналітык паваражыў над заваркай і паставіў на невялікі столік перада мной кубак. Падсунуў вазачку з цукеркамі і печывам. Гаспадар кабінэта дэманстраваў хлебасольную зычлівасьць. Я сербануў глыток. У гарбаты быў нейкі незвычайны пах і прысмак. Прыемны, нават вельмі.

— Дарэчы, як з вашай справай? — сказана зь цікаўнасьцю бабулі на лаўцы ля пад'езда.

— Ды ўсё па-ранейшаму, застаюся ў становішчы закладніка, — іншага адказу ў мяне так і не зьявілася за ўвесь гэты час.

— Наколькі я разумею, цяпер усё ідзе да завяршэньня. Трэба неяк выходзіць з гэтай няпростай сытуацыі, — падобна, камітэтчык сапраўды быў нечым заклапочаны.

Далей ён гаварыў пра важнасьць і актуальнасьць дыялёгу і ўзаемаразуменьня паміж людзьмі з рознымі поглядамі і пазыцыямі. З гэтым нельга было не пагадзіцца. Праўда, крыху нязвыкла было чуць гэта з вуснаў чыноўніка, ды яшчэ пры пагонах. Цікава, а якое ў яго званьне? Я паспрабаваў уявіць суразмоўцу ў кіцелі.

Аналітык адразу адрэагаваў на тое, што я на нейкі час выйшаў з калідора размовы.

— Буду шчыры, — голас чалавека, званьне якога я спрабаваў адгадаць, зайграў новымі адценьнямі, — у нас ёсьць неспакой, каб цяпер не ўзмацнілася вонкавая ізаляцыя краіны. Гэта будзе толькі на

руку Расеі. Я вам ужо казаў, які калясальны ціск мы зазнаем з боку Масквы.

Адчуўшы, што я з разуменьнем перажоўваю пачутае, Аналітык сфармуляваў тэму абмеркаваньня.

— Хацелася б пачуць вашу думку: як можна пазьбегнуць канфрантацыі ўнутры краіны і не дапусьціць самага непажаданага — страты сувэрэнітэту, як эканамічнага, так і палітычнага? І як, на вашу думку, можна і трэба выбудоўваць адносіны з Эўропай, ЗША?

Па паўшар'ях сьлізганула думка: вось ты, бацюхна, і дачакаўся дыялёгу з прадстаўнікамі ўлады. Нейкі сюррэалізм! Хацелася ўшчыкнуць сябе за тое, што не баліць.

Адказ на сфармуляваныя пытаньні даўно ляжыць на паліцах майго мозгу.

— Цяжка гаварыць пра дыялёг, калі адна рука працягнутая для поціску, а другая сьціскае ключы ад турэмнай камэры. Навошта трымаць за кратамі людзей, якія ні тэрарысты, ні бандыты, ні ворагі Беларусі? Трэба вызваляць людзей, многія зь якіх проста палітычныя закладнікі.

Стараўся, каб гэта не гучала як прашэньне аб вызваленьні. Цішком пазірнуў на твар насупраць. Ён быў уважлівы і зацікаўлены.

— Па-другое, прыйшоў час праводзіць выбары «без дурных».

На гэтым месцы маіх разважаньняў гаспадар пакоя адпачынку адзначыўся кароткім воклічам:

— Гэта як — без дурных?

— Трэба пачаць лічыць галасы. Хоць бы як у часы першай прэзыдэнцкай кампаніі ў 1994 годзе. Калі амаль 100 працэнтаў чальцоў выбарчых ка-

місіяў прадстаўляюць інтарэсы аднаго кандыдата ў прэзыдэнты, а менш за паўпрацэнта — інтарэсы дзевяці іншых прэтэндэнтаў, то хто прызнае выбары сумленнымі і справядлівымі? Толькі дурань. Але мы сябе такімі ня лічым, і большасьць выбарцаў таксама.

Наперадзе парлямэнцкая кампанія, і ва ўлады будзе спакуса чарговым разам «прызначыць» 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Магчыма, пяць-шэсьць чалавек з апазыцыі. І, безумоўна, усе яны будуць на кароткім ланцужку. Гэта тупіковы шлях. Ён не вырашае ніводнай праблемы. Апазыцыя падрыхтавала прапановы па зьмене выбарчага заканадаўства і правапрымяняльнай практыкі. Прыміце іх!

— Ну вы ж ведаеце, як у нас прымаюцца такога роду рашэньні, — Аналітык вачыма паказаў на столь.

— Але ж вы адказваеце за аналітыку, а значыць, рыхтуеце аналітычныя запіскі. Адпаведна, нехта кладзе іх на стол таго, хто прымае рашэньні, — вачыма я паказаў на тую ж кропку на столі. — Я проста падазраю, што з розных прычын людзі не жадаюць казаць праўду тым, хто вышэй за іх ва ўладнай вэртыкалі. Але гэта тупік. Няма здаровай палітычнай канкурэнцыі — няма і абнаўленьня. Няма абнаўленьня — няма і пераменаў. Няма пераменаў — няма і разьвіцьця. Заганнае, замкнёнае кола.

Сёньня сувэрэнітэт і незалежнасьць краіны могуць стаць пляцоўкай для нацыянальнай згоды ўсіх палітычных групаў у Беларусі. І вашы словы гэта пацьвярджаюць. Але мяч тут на палове ўлады.

Яшчэ адна тэма ляжыць на паверхні. Калі ўлада

ня ў стане эфэктыўна разьвязваць эканамічныя праблемы, перадайце іх у зону адказнасьці апазыцыі. Не атрымаецца — можна на яе перавесьці стрэлкі віны. Улада навучылася рабіць гэта прафэсійна. Будзе посьпех — можна прысвоіць сабе. Гэта ўлада таксама ўмее рабіць па-майстэрску. Але калі ў бліжэйшай пэрспэктыве не правесьці эфэктыўныя рэформы, краіна сапраўды страціць эканамічны сувэрэнітэт. Нас гэта трывожыць. Не на словах, а ў рэчаіснасьці. Калі гэта турбуе і некаторых людзей ва ўладзе, то трэба справу рабіць, а не канстатаваць відавочнае.

АГП адпачатку стваралася як партыя парлямэнцкага тыпу. У Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня мы распрацавалі вялікі пакет эканамічных законаў, якія дазвалялі ствараць новую, канкурэнтаздольную эканоміку, і дамагліся яго прыняцьця. Улада выціснула нас на вуліцу. Але і пасьля гэтага мы працягваем генэраваць ідэі, распрацоўваем праграмы, якія, дарэчы, перадаём ва ўрад.

— Так, я гэта ведаю.

Мы перайшлі ў сфэру міжнародных адносін. Аналітык не хаваў расчараваньня (ці рабіў такі выгляд), што адносіны з Захадам рэзка пагоршыліся. Гледзячы проста мне ў вочы, ён спытаў:

— Што б вы параілі?

Я зрабіў камплімэнт уладзе, якая перад прэзыдэнцкай кампаніяй сапраўды дамаглася істотных посьпехаў у наладжваньні стасункаў з Захадам.

— Напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі апазыцыя страціла манаполію на адносіны з Захадам, — гэта я прызнаў як факт. — Але тое, што зрабіла ўлада ў ноч з 19 на 20 сьнежня, не паддаецца разумнаму тлумачэньню. Вы ж усьведамляеце, што па-

куль невінаватыя людзі ў турме, ніхто ў Эўропе ня будзе размаўляць і прызнаваць вынікі прэзыдэнцкіх выбараў. Трэба чакаць, што шмат якія праграмы ў эканамічнай, гуманітарнай сфэрах будуць замарожаныя. Беларусі патрэбны не дыялёг як імітацыя, ёй патрэбны рэальны перамоўны працэс улады і апазыцыі пры пасярэдніцтве адказных міжнародных арганізацыяў. Напрыклад, АБСЭ.

Я зрабіў экскурс у 1999 год, калі ў краіне ішоў рэальны перамоўны працэс улады і апазыцыі пры пасярэдніцтве місіі АБСЭ на чале з Гансам-Георгам Вікам.

— Быў парадак дня. Былі людзі з мандатамі на вядзеньне перамоваў. З боку ўлады — Міхаіл Сазонаў, памочнік Лукашэнкі. Ад апазыцыйных партыяў экспэртную групу ўзначальваў Міхаіл Пастухоў, былы сябра Канстытуцыйнага суду. Дамаўляліся пра цалкам канкрэтныя рэчы — пра доступ апазыцыі да дзяржаўных СМІ і ўмовы правядзеньня свабодных выбараў. Гэта было магчыма тады, калі фінансавае самаадчуваньне ўлады было значна лепшае, — то чаму гэта немагчыма цяпер, калі вы самі канстатуеце наяўнасьць сур’ёзных пагрозаў і рызыкаў для самой краіны?

— Так, усё гэта цікава, але павінен вам нагадаць: офіса АБСЭ ўжо няма ў Менску. Яго мандат не працягнуты.

— Ну што ж, гэта прыкра, але ёсьць нагода праз вяртаньне місіі ў Беларусь вярнуцца ў рэчышча наладжваньня стасункаў з Захадам. Галоўнае, каб была палітычная воля.

Час цікаў. Аналітык неяк вельмі ўважліва разглядаў мяне.

— Якія ўмовы ўтрыманьня ў СІЗА? Ці ёсьць

якія праблемы? Можа, у вас ёсьць нейкія асабістыя просьбы?

— Прэтэнзія адна: такой сыстэмы не павінна быць наагул. У нас жа савецкая турма. Нічога не зьмянілася. Калі чалавек трапляе сюды, на яго ўжо не пашыраецца дзеяньне Канстытуцыі. Асабліва калі ты палітычны апанэнт улады. Зрэшты, ёсьць адна тэма, якую я хацеў бы падняць. Гэта курсы падрыхтоўкі новай беларускай апазыцыі ў СІЗА КДБ.

Здаецца, мне ўдалося па-сапраўднаму зьдзівіць суразмоўцу.

— Не зусім зразумеў, пра што ідзе гаворка?

— Нас перасталі прэсаваць асабістымі аглядамі, але ў суседняй камэры — удзельнікі падзеяў непасрэдна ля Дому ўраду. Дык вось у іх усё працягваецца. Муштра, забегі ў спартзалю і назад, разьдзяваньні, прысяданьні і іншыя рэчы, якія паводле міжнародных стандартаў кваліфікуюцца няйначай як катаваньні. Ня ведаю, якая ставіцца мэта. Напэўна, прыціснуць, запалохаць. Але, мне здаецца, вынік можа аказацца зусім адваротны. Шчыра кажучы, калі гэта адбываецца з табою першы раз, табе як мінімум непрыемна, а папраўдзе, то і страшна. Другім разам страху ўжо менш. І з кожным разам яго доза зьмяншаецца. А цяпер уявіце: вам крыху за дваццаць, вы здаровы, малады, безь фізычных недахопаў. Прабегчы па лесьвіцы, прысесьці, адціснуцца ад падлогі вам цалкам пад сілу. Страх зьмяншаецца, а вось нянавісьць мацнее. Так, аднаго, двух можна зламаць, ператварыць у жэле. Але тры, чатыры стануць мэталам з добрай загартоўкай. Лічыце, яны праходзяць спэцкурс па павышэньні фізычнай трываласьці, псыхічнай устойлівасьці і

здольнасьці ненавідзець ворага. Выйшаўшы з «амэрыканкі», яны будуць гатовыя да барацьбы. І яны ня стануць прапаноўваць вам круглы стол і перамовы, яны прапануюць іншыя мэтады і формы. У нейкай ступені гэта будуць выхаванцы «амэрыканкі».

— Так, цікавыя разважаньні...

І бяз гэтай рэплікі я адчуў, што гэты высокі сухарлявы чалавек перажоўвае пачутае.

— Ну што ж, дзякуй за шчырую размову.

— Ды няма за што. Уласна, я нічога новага не сказаў. Пра гэта я пісаў і гаварыў, будучы на волі. Так што гэта толькі паўтор ужо сказанага.

Аналітык адчыніў дзьверы, і ў пакой увайшоў Вадзік. Я адарваўся ад пухлага крэсла, і мы выйшлі ў калідор. Кантралёр апячатаў мае рукі. Я зрабіў крок і раптам адчуў, як ногі пачалі заплятацца.

— Вам дрэнна? — Голас кантралёра даносіўся як з падзямельля.

— Ды не, усё нармальна...

Я сабраўся, сканцэнтраваўся і рушыў далей. На дварэ палягчэла. Мяхі грудной клеткі працавалі на поўную моц. Да камэры дайшоў на аўтапілёце.

У камэры быў ужо пасьлятрапезны настрой. На стале ў плястыкавай місцы мяне чакала астылая вячэра. Гэта значыць, мяне не было гадзіны дзьве. Як мінімум.

— Мы ўжо думалі, ты сышоў па-ангельску, не разьвітваючыся, — Каранеўскі не хаваў свайго задавальненьня, што я зноў на суседніх нарах.

Коратка падзяліўся зьместам сустрэчы. Узьлез на свой ляжак, здаецца, толькі зьвёў павекі — і праваліўся ў бездань сну. Прачнуўся ад таго, што нехта тармасіў мяне за плячо. Ігар. Усхваляваны і нават устрывожаны:



Аналітык, ён жа будучы міністар МУС Шуневіч. Пры парадзе. А ці ёсьць мэдаль за «амэрыканку»?

— Нешта здарылася? Можа, нездаровіцца?

Атрэсаюся ад рэшткаў сну. Ігарава зьдзіўленьне зразумелае: за ўвесь час у «амэрыканцы» я ніколі ня спаў пасьля вячэры. А тут ня проста задрамаў, а вырубіўся. Прыйшлося распавесьці пра духмяную гарбату, пачастунак Аналітыка. Перайшлі на шэпт. Калі мяне хацелі задурманіць нейкім псыхатропным сродкам, то ў чым тады фішка? Я памятаю ўсе дэталі сустрэчы. Нешта здарылася ў арганізьме,

калі я ўжо пераходзіў з аднаго будынка ў іншы. Прыйшлі да агульнай высновы, што сыстэма, у якой я палітычны закладнік, ня ведае цывілізаваных правіл паводзін. Гэта машына па выціскальні неабходнага выніку. Тут нельга верыць чужым словам. Тут усё прасякнута фальшам, цынізмам. Укалоць, упырснуць, падмяшаць тут можна безь вялікіх праблемаў. У лекі, у ежу казённую, у ваду з волі. Ты безабаронны.

*(Як выявілася пазьней, Аналітык — гэта Ігар Шуневіч, начальнік упраўленьня КДБ па барацьбе з карупцыяй і будучы міністар унутраных спраў Беларусі. — Заўвага аўтара.)*

## 2 красавіка, субота

Сёньня ў дворыку так захапіліся зь Ігарам фізкультурай, што не заўважылі, як з намі ў зьвязцы запрацаваў Несьцярэнка. Ён таксама былы спартовец. Як я разумею, гэтым і зарабляў на хлеб з маслам. Квадратны цягне тэрмін, як ён сам кажа, *«за брюлики».* Дыямэнтавы сьлед у справе нашага новага суседа адсьвечвае букетам крыміналу. Пасьля затрыманьня ў Несьцярэнкі быўператрус, падчас якога міліцэйскія сышчыкі знайшлі брыльянты. Як прызнаўся сам квадратны, больш за шэсьцьдзесят каменьчыкаў. Аднак потым сярод рэчдокаў у справе фігуравалі ўжо толькі сорак тры. Але і гэтага хапіла на дзевяць гадоў турэмнага зьняволеньня. Калі расказ адпавядае рэчаіснасьці, то ўзьнікае пытаньне: дзе астатнія камяні? Пра гэта можна толькі здагадвацца. І чаму тады за кратамі толькі гэты хлопец зь Дзяржынску? Зрэшты, уся гэтая гісторыя нейкая мутная.

Такі вось трохі дзіўны пасяліўся ў нас сусед. Насьцярожвае. Зрэшты, тут мы ўжо бачылі ўсялякіх. Прытромся і з гэтым.

* * *

Сёньня даваў чарговае «інтэрвію» Каранеўскаму.

Майго новага прыяцеля зьядала цікаўнасьць: чаму Анатоль Лябедзька сам ня ўдзельнічаў у прэзыдэнцкай кампаніі? Во як за месяц вырас мой аўтарытэт у вачах палітычна не ангажаваных сукамэрнікаў!

Я засьмяяўся:

— Дарагі, я і без прыстаўкі «кандыдат у прэзыдэнты» ўжо больш як тры месяцы палірую жалезныя нары. І што наперадзе, ведае толькі адзін Бог. А калі б я быў кандыдатам у прэзыдэнты, мне б далі па максымуме, у гэтым я ня маю і ценю сумневу.

Зрэшты, я так разважаю, калі падзеі ўжо адбыліся. І гэта крык наўздагон. Зрабіў паўзу і коратка дадаў:

— Так, Ігар, склаліся абставіны. Але, як ты разумееш, я ні пра што не шкадую.

Але Ігарава пытаньне ўскалыхнула ўспаміны, падштурхнула да дыскусіі і аналізу.

Сапраўды, чаму? Чаму я пагадзіўся быць акторам другога пляну ў гэтым сэрыяле? Самы час яшчэ раз прабегчыся па яшчэ сьвежых, неастылых падзеях.

Як я цяпер разумею, на тое, каб майго прозьвішча не было ў выбарчым бюлетэні, працавалі многія. І ня толькі ўлада. Апошняя заўсёды праяўляе павышаную цікавасьць і выкарыстоўвае ўсе магчымасьці, каб не дапусьціць мяне да буйных



Першы дзень на волі. Прычоска а-ля «амэрыканка»

агульнанацыянальных кампаніяў — як тая ж прэзыдэнцкая. Паводле сьведчаньня амбасадара адной з краін ЭЗ, пасьля таго як мне не хапіла васьмі галасоў для перамогі на Кангрэсе дэмсілаў, дзе абіраўся адзіны кандыдат у прэзыдэнты ад прыхільнікаў пераменаў, у «Чырвоным доме» быў зладжаны банкет. Менавіта з гэтай нагоды. Там сьвяткавалі сваю маленькую перамогу. Я не кажу пра тое, што ўлада жадала бачыць кагосьці канкрэтна ў якасьці адзінага кандыдата, але сьцьвярджаю, што яна катэгарычна не хацела майго абраньня. З усімі наступствамі, якія адгэтуль вынікаюць.

Што да 2010 году, то ў гэтым кірунку працавала і група Някляева. А дакладней — тыя, хто распрацоўваў стратэгію, рэалізацыя якой павінна была прывесьці да новай расстаноўкі сілаў у апазыцыі, да зьяўленьня «канструктыўнай апазыцыі», якая б мірна суіснавала з Лукашэнкам. І прэзыдэнцкая кампанія ў гэтай стратэгіі — толькі інструмэнт, толькі стартавая пляцоўка.

І цяпер, злучаючы ў адно паасобныя сустрэчы, размовы, рэплікі, я разумею, што ў іх была добра распрацаваная пакрокавая стратэгія і плян дзеяньняў. Праца з АГП выбудоўвалася праз міжнароднага сакратара партыі Андрэя Дзьмітрыева. І часткай пляну было вылучэньне ад АГП любога прэтэндэнта, але толькі не Анатоля Лябедзькі. Дзьмітрыеў прасоўваў тэму новага твару настойліва і пасьлядоўна. Пры гэтым спасылаўся на кантакты і перамовы з нашымі міжнароднымі партнэрамі. Да прыкладу, маўляў, усе яны вельмі прыхільна глядзяць на кандыдатуру Яраслава Раманчука, і пад яго мы зможам сабраць добрае фінансаваньне. Цяпер я разумею, што гэта быў блеф. Іншая справа, што я сам з сымпатыяй ставіўся да Яраслава. Папершае, як эканаміст ён вельмі добра ўпісваўся ў кантэкст выбарчай кампаніі. Выбаршчыкаў збольшага цікавілі і хвалявалі менавіта праблемы эканамічнага зьместу. Хто вінаваты, выбаршчык сам ведае. Прынамсі, ён так лічыць. Таму ён хоча чуць адказ на пытаньне: а што рабіць? Чаго ж ты маўчыш? Адказвай!

І на фоне іншых кандыдатаў, «чыстых палітыкаў», Раманчук глядзеўся выгадна. На пытаньні, якія тычацца эканамічнага складніку, тыя адказвалі альбо лёзунгамі, альбо з паперкі. А Раманчук адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Ён быў натуральны і пераканаўчы.

Цяпер я разумею: атачэньне Някляева баялася, што са мной ня ўдасца дамовіцца аб зьняцьці на карысьць Уладзімера Пракопавіча. Як паказалі далейшыя падзеі, ім не ўдалося дамовіцца наагул ні з кім. Разьлічвалі на парад зьняцьця прэтэндэнтаў з дыстанцыі і заяваў у падтрымку Някляева.

Гэта павінна было зрабіць кандыдата ад ГП дэфакта адзіным кандыдатам. Выйшаў, аднак, вялікі пшык.

Гэтаксама ж і з Плошчай. Да 19 сьнежня адказнасьць за яе гатовыя былі несьці амаль усе кандыдаты ў прэзыдэнты. Горда і дэманстратыўна. Але ўжо 20-га яна валялася на сьнезе, вытаптаная спэцназаўскім чаравікам.

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што мы былі на плошчы, але не прэтэндавалі на тое, каб быць там першымі. Так, штаб Яраслава Раманчука заклікаў браць тэрмасы з кавай і прыходзіць на Кастрычніцкую. Гэта была натуральная грамадзянская пазыцыя. Але нашы амбіцыі выяўляліся ў іншым. Мы абгрунтавана заяўлялі, што маем найбольш прапрацаваную і рэалістычную праграму пераменаў. Мы не без падставаў сьцьвярджалі, што маем самую прафэсійную і эфэктыўную каманду. Але Раманчук яўна ня ўпісваўся ў вобраз Гаўроша на сталічных барыкадах. Гэта мая цытата з апошняй прэс-канфэрэнцыі. І гэта была сумленная пазыцыя. Дый за права быць галоўным рэжысэрам Плошчы ішла сапраўдная барацьба, якая час ад часу ўзрывала інфармацыйную прастору. Тут мы не змагаліся.

Вядома, фінансавыя магчымасьці штабу Някляева істотна перасягалі магчымасьці ўсіх астатніх кандыдатаў, разам узятых. Гэта праўда. Але ня ўсё вызначаецца толькі грашыма. Купіць можна ногі, каб яны разносілі ўлёткі. Купіць можна рукі, каб яны пісалі праграмны маніфэст. Купіць можна язык, каб ён казытаў ваш слых прыемнымі словамі. Але немагчыма купіць сымпатыю, павагу, любоў. І калі

вам прапанавалі гэта за грошы, то гэта камуфляж, сынтэтыка, майстэрская падробка.

Але на адных амбіцыях выцягнуць гэтую кампанію таксама было немагчыма. Я хачу! Ён хоча! Яна прагне! Яны жадаюць! У прэзыдыюм! Да мікрафона! На тэлеэкран! У прэзыдэнты! А хто пойдзе разносіць улёткі? Хто будзе арганізоўваць сустрэчы? Правадыроў шмат, індзейцаў малавата! І мінулая прэзыдэнцкая кампанія гэта наглядна паказала. Пры вялікіх амбіцыях і маленькім роце не спрабуйце праглынуць усё і адразу. Можаце падавіцца!

Праект «Гавары праўду!» — гэта спроба стварыць трэцюю сілу. Адна з. У свой час такія спробы рабілі Валер Фралоў, Васіль Лявонаў, Міхаіл Марыніч, і ўсе яны скончыліся аднолькава. Ва ўмовах беларускай рэчаіснасьці новая або трэцяя сіла — гэта францускі легіён. Вы плаціце — мы ваюем, то бок працуем! Мы разам! Ня плаціце — кожны сам па сабе. Добры дзень і тут жа бывай. Будуць грошы — тэлефануй! Як мяне знайсьці, ведаеш.

У канчатковым выніку ўсё кладзецца на адны і тыя ж плечы. На актыў палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў. А ў беларускіх умовах гэта штучны тавар. Людзі, калі яны ня ставяць мэтай зьехаць у палітычную эміграцыю, прыходзяць у апазыцыю сьвядома, а значыць, ня масава. І калі пільней прыгледзецца да тых, хто арганізоўваў працу ў штабе Ўладзімера Някляева, хто зьбіраў подпісы, хто стаяў у пікетах, то можна ўбачыць, што гэта ў асноўным «францускі легіён», сябры палітычных партыяў і грамадзкіх аб’яднаньняў. Але было б несправядліва сьцьвярджаць, што прытоку новых людзей не было зусім. Мы бачылі і ў на-

шай камандзе шмат новых твараў. Але, як правіла, былі валянтэры. А яны маглі быць удзельнікамі падзеяў, але не арганізатарамі працы.

Для мяне мінулая выбарчая кампанія — добрая школа. Адна з галоўных высноваў, якія я зрабіў: часам у разьведку лепш ісьці аднаму, чым групай. Прынамсі, ня будзеш мучыцца думкай, хто ж цябе здаў.

## 3 красавіка, нядзеля

У краіне выходны. Людзі позна валяюцца ў пасьцелях. Потым не сьпяшаючыся пацягваюць духмяную каву. Балбочуць праз тэлефон. Хтосьці едзе на лецішча. Хтосьці плянуе пайсьці ў кіно на вячэрні сэанс.

А ў нас усё як заўсёды. Паводле жорсткага раскладу. Нічога новага. Хіба што думкі. Ну, усё, заўтра бяруся за працу! Рукавы закасаныя. Буду рыхтаваць тэкст выступу ў судзе. А пакуль думаю. Дакладней, працягваю гэтую тэму прапускаць праз сябе. Роздумы пераконваюць мяне: у судзе я ня буду абараняцца, я буду біцца, буду абвінавачваць.

* * *

Несьцярэнка паўдня, практычна не перапыняючыся, распавядаў пра плюсы і мінусы жыцьця ў калёніі. Як ні круці, выходзіць, што ў параўнаньні зь СІЗА ў калёніі значна больш магчымасьцяў. Да прыкладу, ёсьць даволі ўстойлівая сталая сувязь зь «Вялікай зямлёй». З дапамогай тэлефона. Вядома, нелегальна. Плюс значна большая свабода перамяшчэньня. Няма гэтых муроў, якія ўвесь час ціснуць на псыхіку. Няма гэтай затхлай, закупоранай прасторы. Многія працуюць, што разгружае

шэрае рэчыва ад бязладных думак. Дый сетка міжасабовых камунікацыяў непараўнальная. Праўда, і самаўпраўства з боку адміністрацыі хапае.

Мы слухалі з адкрытым ротам. Я нават завёў на асобнай старонцы слоўнік новых слоў. Відавочна, варта заняцца вывучэньнем мовы вязьняў. Калі не гаварыць, то хаця б разумець яе трэба.

Ясна адно: у калёніі людзі розныя. Як і на волі. Слова «вязень» яшчэ нічога не азначае. Гэтаксама як «дэмакрат». Апошніх я пабачыў нямала, і, мушу прызнаць, даводзілася сустракаць сярод іх і мярзотнікаў, і крывадушнікаў, і ідыётаў. І мяне адкрыта ванітуе ад дэмакратаў у беласьнежных туніках, надзетых на потныя целы. Ад тых, хто ганарыцца, што ня быў у камсамоле, хто ўхмыляецца, прамаўляючы слова «былыя». А хто былыя?

Былы прэм’ер-міністар Міхаіл Чыгір, былы старшыня праўленьня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч, былы міністар працы Аляксандар Сасноў. Вось яны якраз сапраўдныя. Бо ў кожнага крэдытная гісторыя, бо за кожным учынкі і справы, вартыя павагі. Бо той жа Чыгір мог жа не пратэставаць супраць неканстытуцыйнага рэфэрэндуму і па-ранейшаму езьдзіць у прэм’ерскім «мэрсэдэсе». І Станіслаў Багданкевіч меў магчымасьць ляпіць свой матэрыяльны дабрабыт, не выходзячы з кабінэта кіраўніка Нацыянальнага банку. Мы выцягваем герояў зь мінулага, шукаем прыкладаў для пераймання ў замежжы. А яны сярод нас. Станіслаў Багданкевіч, Міхаіл Чыгір, Ніл Гілевіч, Юры Хашчавацкі, Генадзь Бураўкін, Зінаіда Бандарэнка, Сьвятлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін. Беларусь павінна ганарыцца гэтымі людзьмі. Ганарыцца сёньня, калі яны з намі, а ня заўтра, калі

давядзецца апэраваць дзеясловамі ў мінулым часе. Яны ніколі ня здраджвалі сваім прынцыпам, сваім перакананьням.

А вось правільным, чыстапародным дэмакратам у беласьнежных туніках ніхто ніколі не прапаноўваў нават пасаду старшыні сельсавету ў Цюцькавічах. А прапануй — невядома, што здарыцца.

Перачытаў напісанае яшчэ раз. Нейкі я стаў агрэсіўны. Можа, гэта зайздрасьць да тых, хто на волі? Або проста набралася шмат усяго ўнутры. Гэта на волі трэба сачыць за паліткарэктнасьцю, а тут... Тут — што ў галаве, тое і на паперы. Будзем квіты.

* * *

Першы дзень, калі гулялі па дворыку бяз вопраткі. Усе прыкметы сапраўднай вясны. Мы ўжо засумавалі безь цяпла. Знудзіліся па блакітным пакрывале неба.

Займацца фізкультурай у такіх умовах — адна асалода. Сонца зазірала ў дворык гэтак, што прамяні падалі ў адзін кут. Пэрыядычна ў ім зьбіваліся ўсе, выставіўшы твары і заплюшчыўшы вочы. Шчасьлівыя ад асалоды твары.

Пасьля такой сонечнай ванны назад у камэру зусім ня цягне. Тут усё нагадвае пра наш паднявольны статус.

Самаадчуваньне здавальняючае. Імкнуся падтрымліваць форму. Калі да каго і зьвяртаюся ў думках па дапамогу, то да акуліста і дантыста. Варонка на месцы плёмбы, якая выпала, павялічылася, адваліўся кавалак зуба. Найверагодней, гэта ўсё ўжо пад знос, аднавіць зуб ня ўдасца.

* * *

Паводле звыклай традыцыі частку часу правёў за «пісьмовым сталом», функцыю якога выконвае тумбачка. Пачаў зь ліста Сьвятлане. Яшчэ раз прабег вачыма па яе пасланьні, атрыманым учора. Адчуваецца, што мая другая палавінка — пад уплывам вясновых чар. «*Сёньня цудоўны, цёплы, пасапраўднаму вясновы дзень. А ў такі час асабліва абвастраюцца ўсе пачуцьці, і адмоўныя ў тым ліку (крыўдна, што ў нас забралі тры з паловай месяцы жыцьця)».*

Пастараўся сфармуляваць максімальна пазытыўны і аптымістычны адказ. Пасланьне скончыў так: «*Веру ў сябе, веру ў вас, веру ў нашу будучыню*». Гэтыя словы я паўтараю ўсё часьцей і ў лістах, і самому сабе. Я сапраўды веру. Воля і вера робяць цуды.

Потым заглыбіўся ў пісаньне верша пра маю малую радзіму — цудоўны куток пад назвай Трылес.

*Трылес — маё гняздо.*
*Тут нарадзіла мяне маці.*
*Было гэта даўно,*
*У старой вясковай хаце.*
*Трылес — мая калыска.*
*Адсюль мне многае відаць.*
*Тут да леса блізка*
*І да ракі рукой падаць.*
*Трылес — мой кут*
*Паміж зямлёй і небам.*
*Дзяцінства гушкалася тут,*
*Смакуючы гарбату з хлебам.*
*Трылес — маё каханьне,*
*Дзяўчына з доўгаю касой.*

*Сустрэчы, пацалункі, разьвітаньні,*
*Вяртаньне зь першаю расой.*
*Трылес мяне заве.*
*Кудахчуць куры спазаранку,*
*Мычыць карова ў хляве*
*І сырадой дзюрчыць у банку.*
*Трылес — мой успамін,*
*На смак — 50-гадовы віскі*
*З пахам сьвежых журавін*
*На дне драўлянай міскі.*
*Трылес — маё жыцьцё*
*Учора, сёньня, заўтра.*
*Маё жыцьцё — маё быцьцё,*
*Пражыць якое варта.*

Вясковая тэма стала нагодай для яшчэ аднаго прыліву настальгіі. Я зноў адчуў сябе вінаватым. Я ў такіх даўгах перад маімі роднымі! Перад жонкай Сьвятланай, сынам Арцёмам, бацькамі. Спадзяюся, мне хопіць часу ўсё гэта вярнуць. Ведаю па сабе, калі чагосьці вельмі хачу, заўсёды рэалізоўваю на практыцы.

## 4 красавіка, панядзелак

Сёньняшні дзень цалкам прысьвяціў падрыхтоўцы да судовага працэсу. Адразу пасьля шпацыру абклаўся паперамі. Стос казённых дакумэнтаў, аркушыкі з пазнакамі, якія я рабіў у хвіліны роздумаў. Усё гэта трэба было сабраць у адно цэлае.

Паклаў перад сабой чысты аркуш, але неяк не пайшло. Хоць над выступам у судзе я думаю ўжо тыдні тры. Яго файлы недзе ў маёй падкорцы, але выцягнуць іх адразу не ўдалося. Толькі хвілін праз трыццаць вывеў першыя словы.

«Высокі суд...» Напісаў і зноў споўз у роздумы. Закрэсьліў. Які да халеры суд, ды яшчэ высокі! Пасьля гэтага радкі пачалі класьціся самі.

«Паважаныя сябры, калегі, прадстаўнікі прэсы, дыпляматычных місіяў! *(Спадзяюся, судзілішча ня будзе за зачыненымі дзьвярыма.)* У мяне было дастаткова часу, каб прадумаць, узважыць кожнае слова, сказанае тут і цяпер. На будынку, у якім мы цяпер знаходзімся, красуецца шыльда “Суд”. Але гэта абалонка, форма, якая ня мае ніякага дачыненьня да зьместу. Судовая сыстэма Беларусі — не самастойная і не незалежная галіна ўлады, а звычайны аддзел адміністрацыі “Чырвонага дому”. І, адпаведна, у гэтым будынку няма бесстароньніх судзьдзяў, ёсьць толькі чыноўнікі ў спэцыфічнай уніформе — чорнай судовай мантыі. А гэта значыць, што гэта ня суд, а палітычнае судзілішча, якое ажыцьцяўляюць нанятыя на службу “кілеры”. Гэта не перабольшаньне, гэта канстатацыя факту. І гэта ня толькі суб’ектыўны погляд палітвязьня Анатоля Лябедзькі, гэта афіцыйная пазыцыя Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы, Эўрапарлямэнту, АБСЭ і іншых міжнародных арганізацыяў, якая зафіксаваная ў шматлікіх дакумэнтах. Таму я заяўляю сваё катэгарычнае і рашучае “не” “кілерам” у судовай мантыі. Я вам не давяраю! Я вас адрынаю!

Другі аргумэнт за вотум недаверу: усе беларускія “судзьдзі”, уключна і з вамі, прызначаюцца Аляксандрам Лукашэнкам, а ён — зацікаўленая асоба ў гэтым працэсе. Гэта зь яго ведама, на яго замову я правёў ___ месяцаў у СІЗА КДБ. Ён ваш бос. Ён ваш працадаўца. Ён — заказчык, вы — выканаўцы.

Судзьдзя — гэта бесстароньні арбітар, а вы — звычайны чыноўнік аўтарытарнай сыстэмы. А гэта значыць, што Канстытуцыя — ня ваша настольная кніга. Тэлефоннае права — вось ваш праваднік. У Беларусі ёсьць старшыня Вярхоўнага суду — Валянцін Сукала, але з 1995 году няма суду. Мы памятаем, як насуперак Канстытуцыі быў арганізаваны і праведзены антыканстытуцыйны рэфэрэндум. І адразу пасьля гэтага былі разагнаныя парлямэнт і Канстытуцыйны суд. З таго часу ў Беларусі ня дзейнічае прынцып падзелу ўлады. І “сукалізацыя” судовай сыстэмы дасягнула круглагадовага цьвіценьня. Усе галіны ўлады бесцырымонна і груба абсечаныя. Застаўся адзін ствол, збройны, дубіначны. Гэта нацыянальная трагедыя.

Працэс толькі пачаўся, а прысуд ужо напісаны. У мяне няма ілюзіяў. Я дзясяткі разоў сутыкаўся з “кілерамі” ў мантыях, якія працуюць на абслугоўваньне канвэера рэпрэсіяў. З мужчынамі і жанчынамі, у гадах і маладымі, у Менску, Магілёве, Валожыне. Іх вэрдыкт заўсёды адзін і той жа: вінаваты! І іншым ён быць ня мог.

Я адкідаю ўсе прад’яўленыя мне абвінавачаньні. Ды іх, уласна, і няма. Справа пустая, як піянэрскі барабан. Дэпрафэсіяналізацыя сьледзтва абуральная і жахлівая. Паралелі і аналёгіі з часамі Вышынскага — Берыі абсалютна дарэчныя і арганічныя. Адзінае, але, праўда, істотнае адрозьненьне: цяперашніх палітвязьняў не расстрэльваюць. А гэта значыць, што які б ні быў прысуд, у мяне ёсьць шанец пагледзець у вочы тым, хто рыхтаваў, фальсыфікаваў і выносіў рашэньне па маёй справе. Хай гэта будзе праз год, праз пяць гадоў, праз дзесяць, але гэта абавязкова адбудзецца.

У вас толькі адзін выбар: альбо адклікаць з адпачынку "эскадрон сьмерці", на руках якога кроў маіх аднадумцаў і сяброў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, альбо зрабіць усё, каб я ня выйшаў з калёніі.

19 сьнежня 2010 году на вуліцу выйшлі дзясяткі тысяч людзей. Так, іх паклікалі апазыцыйныя кандыдаты ў прэзыдэнты. Але вывелі не яны. Гэта зрабіў Аляксандар Лукашэнка. І гэта не перабольшаньне. А яшчэ дакладней, людзей вывелі на вуліцу несправядлівасьць, несумленнасьць, падман. Але ў цяперашняй Беларусі ўлада і гэтыя паняцьці — гэта адно і тое ж.

Ці была ў выбаршчыкаў альтэрнатыва? Як павінны былі рэагаваць людзі на сытуацыю, калі склад участковых выбарчых камісіяў на 99,9 адсотка фармуецца з грамадзян, эканамічна залежных ад кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Лукашэнкі? Што павінны адчуваць прыхільнікі астатніх дзевяці прэтэндэнтаў? Падман і прыніжэньне. Што рабіць прыніжаным і абражаным? Зьвяртацца ў суд? Але яго няма, ёсьць толькі шыльды! Апэляваць да парлямэнту? Але на яго месцы разваліны парлямэнтарызму! Клікаць генэральнага пракурора? Але глуханямы сьляпы ня бачыць, ня чуе і, натуральна, маўчыць! Людзі стаміліся чакаць і маліцца. Палахлівыя стаміліся баяцца. Слабым надакучыла рабалепстваваць. Усё мае свае граніцы і межы. Нават страх, боль і прыніжэньне.

Зараз пра сваю сьціплую пэрсону. Так, я быў адным з тых, хто выйшаў на вуліцу. І кажу пра гэта з гонарам. І ў мяне ёсьць такое права. Яно гарантаванае Канстытуцыяй. Страсіце зь яе пыл, вы, хто называе сябе судзьдзямі. Маё права гарманічна



Загад: літасьці нікому не даваць!

вынікае зь міжнародных стандартаў правоў і свабодаў чалавека. Тут варта нагадаць пра прыярытэт міжнародных нормаў і абавязаньняў перад унутраным заканадаўствам. Я не абавязаны прасіць дазволу прайсьці па праспэкце сталіцы, якую ніхто не прыватызаваў і ў якой ня ўведзена ваеннае становішча. Можна быць свабодным і ў несвабоднай краіне. Можна захоўваць самапавагу і ў сытуацыі, калі сумленьне і мараль — такі ж тавар, як бутэлька гарэлкі ці слоік кансэрваваных агуркоў.

Я ніколі ня быў абдзелены ўвагай з боку ўлады. Дакладней, яе сілавога складніку. І прэзыдэнцкая кампанія 2010-га ня стала выключэньнем. Хоць у ёй я быў актарам другога пляну. Не кандыдат у прэзыдэнты і нават не кіраўнік выбарчага штабу. І тым ня менш апынуўся спачатку ў СІЗА, а потым і на лаве падсудных. Дзіўна, праўда ж? Зрэшты, не. Я — Анатоль Лябедзька, чалавек са “сьпісу асабістых ворагаў” Лукашэнкі. І гэтага было дастаткова.

Мне нават у "амэрыканцы" пра гэта і намякалі, і казалі зусім пэўна. Маўляў, ваш лёс, Анатоль Уладзімеравіч, вырашаецца ня тут і ня намі. Пры гэтым палец цягнуўся да столі, якая, мабыць, сымбалізавала нябачны трон кіраўніка.

Як павінен рэагаваць чалавек жывы на шаленства ў СІЗА КДБ, якое доўжылася зь сьнежня па канец лютага? Як павінен рэагаваць чалавек разумны на тое, што за ўвесь час майго знаходжаньня за кратамі не было ніякіх сьледчых дзеяньняў, што за ўвесь гэты час я лічаныя разы бачыў сьледчага? Зрэшты, як і адвакатаў. Гэта сьведчыць толькі пра адно: мяне трымалі ў ізаляцыі не як чалавека, які парушыў закон, а як закладніка. Дзеля чаго? Каб пакараць "за старыя грахі", як адкрыта заявіў мне трыюмвірат у складзе прадстаўнікоў КДБ, пракуратуры і МУС у першыя дні майго знаходжаньня ў СІЗА. А можа, каб абмяняць Брусэлю ці Вашынгтону на выгадны крэдыт, на прызнаньне вынікаў агіднай выбарчай кампаніі.

Зьвернемся да абвінавачаньня. Дакладней, да тэксту, завізаванага рознымі людзьмі ў пагонах з кваліфікацыяй юрыста.

Сьледзтва не бянтэжыць, што Анатоль Лябедзька ў ходзе выбарчай кампаніі ня меў камунікацыяў зь пераважнай большасьцю тых, хто праходзіць па "справе дзекабрыстаў". Узьнікае простае і натуральнае пытаньне: як можна рыхтаваць змову, масавыя беспарадкі і пры гэтым не кантактаваць адзін з адным? Аднак гэтая нестыкоўка не зьбянтэжыла сьледчых. Здаецца, іх наагул не цікавяць доказы віны абвінавачанага. Яны бессаромна візуюць адкрытую, брыдкую падтасоўку і поўную ахінею. Што тут сказаць? Сон розуму.

Я гартаю худую справу і задаю простыя і натуральныя пытаньні. Можа, Анатоль Лябедзька ледасекам прасякаў уваход у кабінэты ўлады на плошчы Незалежнасьці? Або, можа, зрываў эпалеты зь нечых плячэй? Таварышы сьледчыя, лік якіх, як я разумею, ідзе на дзясяткі, прад'явіце хоць штосьці, што даводзіць маю віну.

Можа, у матэрыялах справы ёсьць аўдыё- або відэазапісы выступленьняў Анатоля Лябедзькі з заклікамі захопліваць пошту, тэлеграф? Бо я быў ня толькі на плошчы, я ўдзельнічаў у сустрэчах у дзясятках рэгіёнаў краіны. І на ўсіх сустрэчах, без выключэньня, супрацоўнікі сілавых структураў, а часьцяком і дзяржаўныя СМІ, вялі відэаздымку. Пакажыце гэтыя запісы! Прад'явіце ў судовым пасяджэньні! Вы пачуеце пра праграму "Мільён новых працоўных месцаў для Беларусі", пра абуральныя прыклады карупцыі ў органах дзяржаўнай улады, пра неабходнасьць аднавіць практыку абраньня, а не прызначэньня прэзыдэнта і парлямэнту, пра тое, як разьняволіць ініцыятыву чалавека і пазбавіць людзей рабскага страху. Але праўда — не злачынства! Таму тут ня будзе запісаў маіх выступаў падчас прэзыдэнцкай кампаніі, у лепшым выпадку зьявяцца сьведкі зь сілавых структураў. З загадзя завучаным тэкстам паказаньняў».

* * *

Двойчы перачытаў напісанае. Падправіў тэкст у некалькіх месцах. У цэлым застаўся задаволены. Вось што значыць настроіцца і сабрацца! Перад сном яшчэ раз перачытаў сьпісаныя аркушы. У адрозьненьне ад дзёньніка тэкст быў разборлівы. Стараўся! Цяпер важна ўсё гэта забіць у памяць.

Па-першае, я заўсёды выступаю без паперкі. А па-другое, падчас шмону запісы могуць прыхапіць і ў час не вярнуць.

Для сябе я вырашыў, што судовае пасяджэньне — гэта мой адзіны шанец сказаць праўду. Сказаць гучна і публічна. Сказаць так, каб гэта пачулі і сябры, і ворагі. Я не чакаю цудаў! Але спадзяюся на лепшае. Я ж лідэр палітычных аптымістаў Беларусі!

## 5 красавіка, аўторак

Пасьля візыту дзяжурнага працягнуў працу над тэкстам выступу ў судзе. Перачытаў учорашнія думкі. Сёе-тое з ходу падправіў, але ў цэлым, здаецца, зусім нядрэнна! Якраз тое, што я хачу і што павінен сказаць публічна. На імгненьне паспрабаваў уявіць сабе судовае пасяджэньне. Але чамусьці перад вачыма паўстае заплаканы твар маці. Ну што ж, лепш не маляваць карцінкі заўтрашняй будучыні, а засяродзіцца на сёньняшнім хатнім заданьні. Працаваў увесь дзень зь перапынкамі на прыём ежы, актыўную зарадку на вуліцы і трохі жартаў з сукамэрнікамі. Працяг выйшаў наступны.

«За ___ дзён і ___ начэй я бачыў дзьве “амэрыканкі”. Адну ў сьнежні-студзені. Другую — у сакавіку-красавіку. Зь пераходным лютым. Гэта былі адны і тыя ж сьцены, але зусім розная маральна-псыхалягічная абстаноўка. Умовы ўтрыманьня — не прадмет разгляду ў дадзеным пасяджэньні. Але яны дазваляюць задаць нямала пытаньняў. Напрыклад, хто такія арыштанты “амэрыканкі” — злачынцы або закладнікі? Хто і чаму рыхтаваў плян захопу палітыкаў паводле загадзя падрых-

таванага сьпісу, а не па факце ўчыненых правапарушэньняў? Навошта трэба было ў СІЗА ўводзіць рэжым надзвычайнага становішча і аддаваць усіх падсьледных у поўнае распараджэньне невядомых людзей у масках?

Я за кратамі, але гэта ня значыць, што мая доля — толькі абараняцца або, ня дай Бог, апраўдвацца. У мяне ёсьць маральнае права быць абвінаваўцам, а не абвінавачаным у гэтым працэсе. Гэта маю кватэру штурмавалі невядомыя ў ноч з 19 на 20 сьнежня. З ламамі, молатам, зброяй і пагрозамі фізычнай расправы, што кваліфікуецца як бандытызм! Гэта мяне на працягу двух месяцаў разьдзявалі дагала ў сутарэньні і ставілі на расьцяжку ля сьцяны. Гэта мяне ноччу сьляпілі сьвятлом, днём трымалі ў паўзмроку. Гэта мяне прэсавалі невядомыя, якія хавалі свае твары пад маскамі. На мове міжнародных стандартаў гэта нішто іншае, як катаваньні. Слова “катаваньні” нясе ў сабе велізарную канцэнтрацыю нэгатыву і адмоўных эмоцыяў. Тое, што я пералічыў, выкліча шок і абурэньне ў любога грамадзяніна краіны-сябра Эўрапейскага Зьвязу, Канады або ЗША. Але многія нашы суграмадзяне ў гэтай сытуацыі толькі нясьмела і няўпэўнена паціснуць плячыма, бо для іх беззаконьне, прыніжэньне — гэта правіла, а не выключэньне. Чалавек аднолькава прывыкае як да добрага, так і да дрэннага.

Я абвінавачваю сыстэму — бязьлітасную, прагавітую, самаўлюбёную. Ашчаціненую агрэсіяй, злосьцю, усёдазволенасьцю. Сыстэму, якая сее страх, слабасьць, здраду, хлусьню, дэградацыю. Якая выціскае разумных, незалежных, самадастатковых. Тыражуе баязьлівых, цынічных, зласьлівых.

Я абвінавачваю людзей, якія яе стварылі. Я абві-

навачваю ў тым, што адбылося, людзей, якія ўчапіліся ва ўладу рукамі, угрызьліся ў яе зубамі. Тых, хто прысмактаўся, убудаваўся, адаптаваўся. Тых, хто напісаў для сябе законы, хто пад сябе стварыў правапрымяняльную практыку. Жалю вартыя і нікчэмныя, прадажныя і баязьлівыя. Каб зьмены хоць бы лізнулі пэнітэнцыярную сыстэму, трэба хоць на дзесяць сутак адправіць у “амэрыканку” Лукашэнку, Зайцава, Куляшова. Зрэшты, не зьдзіўлюся, калі даведаюся, што пералічаныя таварышы бачылі і працягваюць глядзець відэазапісы з камэраў СІЗА, з кабінэтаў сьледчых, з дворыкаў для шпацыраў, са спартзалі са “сьцяной катаваньняў і нянавісьці”.

Сёньня я магу наўпрост глядзець у вочы ўсім. Я нікога не падвёў, нікога не падставіў, нікому ня здрадзіў! І дзякуй усім, хто ў гэты нялёгкі для мяне і маёй сям’і час падставіў нам плячо, падтрымаў добрым словам. Нізкі паклон вам, добрыя людзі! Я доўга быў у ізаляцыі, ні лістоў, ні вестачкі. Але я адчуваў, я ведаў, што сотні людзей мне пішуць. Гэтыя лісты напісаныя неабыякавымі сэрцамі! Я павінен адпавядаць вашым надзеям, вашым чаканьням. І я гэтага шчыра хачу. Хачу не расчараваць сваіх бацькоў, якія далі мне ўсё, і самае галоўнае — жыцьцё, якое я хачу пражыць годна.

Невінаватыя ня просяць ласкі. Невінаватыя ня каюцца і не шкадуюць. Да майго затрыманьня, фабрыкацыі гэтай ганебнай справы маюць дачыненьне многія. І сёньня я зьвяртаюся да выканаўцаў. Добра, калі ў вашых сем’ях растуць дочкі: у іх ёсьць шанец выйсьці замуж і зьмяніць прозьвішча.

Я карыстаюся магчымасьцю назваць імёны арганізатараў гэтай расправы. Гэта вы, міністар Куляшоў. Гэта вы, старшыня КДБ Зайцаў. Гэта вы,

пракурор Васілевіч. Вашы імёны ўжо сталі хадзячай назвай. Вы сымбаль прававога бязьмежжа і дзяржаўнага тэрарызму. За вамі заўсёды будзе цягнуцца гэты шлейф. Нават калі вы ў будучыні захочаце стаць манахамі Жыровіцкага манастыра або валянтэрамі ў дамах састарэлых. У гэты шэраг я б паставіў і старшыню Вярхоўнага суду Валянціна Сукалу, пры якім суд стаў такой жа сілавой структурай і інструмэнтам расправы, як КДБ і МУС.

Знаходзячыся ў "амэрыканцы", я даў сабе слова зрабіць усё магчымае, каб у маім сэрцы не пасялілася нянавісьць. Нянавісьць — дрэннае пачуцьцё. Сёньня ты ненавідзіш ворага, заўтра — апанэнта, пасьлязаўтра — мінака, які выпадкова наступіў табе на нагу. Грань тонкая і далікатная. Да таго ж нянавісьць адна ня ходзіць, толькі ў абдымку з помстай. Я б не хацеў, каб мой сын помсьціў нечым дзецям, каб мае бацькі ненавідзелі бацькоў тых, хто зрабіў дрэнна мне. Краіна, якая патанула ў нянавісьці і ў якой жывуць людзі, асьлепленыя помстай, асуджаная на кроў і сьлёзы».

* * *

Перад сном яшчэ раз прачытаў рабочы тэкст. Усё ідзе паводле пляну. Яшчэ дні два — і тэкст выступу будзе ў чыставым выглядзе. Застанецца толькі прапрацаваць некаторыя прававыя аспэкты справы з адвакатам.

## 6 красавіка, серада

Раніца ў кропельках дажджу на змрочным шкле. Усё ж такі спаць ноччу пры адчыненай фортцы і пры гэтым не адчуваць дыскамфорту — рэч прыемная. Дзень разьмерана паплыў звыклым у апошнія

тыдні рэчышчам. Адразу пасьля пад’ёму зарадзіў з дапамогай фізкультуры батарэйкі арганізму. Звыклая тысяча практыкаваньняў на прэс. На суседніх нарах апускае і падымае ногі Ігар. Пакуль мы сапем, Несьцярэнка спрабуе даспаць седзячы. Апошнім часам забарона ляжаць на нарах дзейнічае ад пад’ёму да прыходу дзяжурнага па СІЗА.

На сьняданак, як звычайна, чарпак кашы і звыклы літар ранішняй гарбаты.

* * *

На шпацыры нам выпадае клетка. Для мяне гэта вельмі зручная пляцоўка, каб зрабіць другі тур ранішняй зарадкі. Тоўстыя жалезныя пруткі добра выконваюць функцыю і брусоў, і часткова перакладзіны. Ногі паміж пруткоў, кулакі на вышчарбленым бэтоне. За дзьве гадзіны шпацыру раблю больш як 1200 адцісканьняў і яшчэ паўтысячы на прэс.

* * *

Адразу па абедзе атрымліваю каманду на выхад. Вядуць у кірунку кабінэта начальніка СІЗА. Так, даўнавата мы ня гутарылі з таварышам Арловым. Але на скрыжаваньні мяне завярнулі направа, у супрацьлеглы бок ад кабінэта, дзе гаспадар ізалятара. Заводзяць у адзін з пакояў для допытаў. Ба! За сталом мой новы сьледчы Канстанцін Бычак. Суха вітаецца, рукой паказвае на зэдлік насупраць. Расьпісваецца ў паперцы і перадае яе кантралёру са словамі: «Мы ненадоўга».

— Анатоль Уладзімеравіч, матэрыялы вашай справы гатовыя для перадачы ў суд, але ў іх няма пашпарта. Вось я і хацеў бы ўдакладніць: а дзе ваш пашпарт?

Сур’ёзны твар Бычака зусім спахмурнеў. Мяне ж такое пытаньне, наадварот, толькі разьвесяліла.

— Вось бачыце, хутка будзе чатыры месяцы, як вы трымаеце чалавека ў клетцы, але нават не ўстанавілі яго асобу. А можа, я не Лябедзька?

Сьледчаму, мабыць, не хацелася паглыбляцца ў такі разварот тэмы.

— Гэта не мая зона адказнасьці. Я раблю сваю справу і павінен выканаць некаторыя працэдурныя моманты. Мне неабходна высьветліць месцазнаходжаньне дакумэнта, які ўстанаўлівае асобу. І вы ўжо паспрабуйце адказаць на гэтае канкрэтнае пытаньне.

У мяне таксама не было вялікай ахвоты практыкавацца ў словапляценьні.

— Пашпарт заставаўся дома. Мяркую, ён там і цяпер.

— А калі мы зьвернемся да вашай жонкі, яна перадасьць нам дакумэнт? — голас сьледчага разьмяк і пацяплеў.

— Вы хочаце, каб я ў яе спытаўся? Дайце тэлефон.

Сьледчы зноў занэрваваўся, а гутарыць з нэрвовым камітэтчыкам мне не хацелася.

— Мяркую, што перадасьць, калі працэдура канфіскацыі будзе аформленая дакумэнтальна. У кожным разе неабходна зьвяртацца да яе. — Даю зразумець, што дадаць да сказанага мне няма чаго.

Разумеючы, што гэтая тэма вычарпаная, пытаюся, калі можна будзе азнаёміцца з матэрыяламі справы.

— Я сваю частку працы выканаў, а далей вырашае кіраўнік сьледчай групы. Вам паведамяць пра рашэньне.

Пры гэтым Бычак прыўстаў, даючы зразумець, што гутарка падыходзіць да канца, і зьняў трубку: «Забярыце Лябедзьку!»

Пакуль крочыў калідорамі і пераадольваў лесьвічны пад'ём, разважаў і думаў. Значыць, усё ж такі суд? І, мяркуючы па заяўленым, гэта пытаньне бліжэйшых дзён. Незразумела толькі, чым незадаволены сьледчы. Ён якраз павінен скакаць ад радасьці.

У камэры Каранеўскі і Несьцярэнка скрэблі лыжкамі па дне абедных місак. Далучаюся і спрабую дагнаць.

* * *

Час зьеў вячэру. Адчынілася кармушка, і пустату за ёю адразу запоўніў твар кантралёра. Позірк знайшоў мяне. Звыклае: «Прозьвішча? Рыхтуйцеся на допыт!»

Нешта сёньня допыты пайшлі чарадою. То месяцамі нікому ня быў патрэбны, то... Праз пару хвілін выводзяць з камэры. Надзяюць кайданкі. Відавочная прыкмета таго, што ідзём у суседні будынак. Спуск. Дворык. Пад'ём. Кабінэт. Зноў набычаны Бычак.

— Анатоль Уладзімеравіч, прынята рашэньне зьмяніць вам меру стрыманьня: утрыманьне пад вартай замяніць падпіскай аб нявыезьдзе, — сказана халодным голасам з адценьнямі незадаволенасьці. — Зараз з вамі яшчэ пагутарыць начальнік сьледчага ўпраўленьня.

Адчуваю ўсярэдзіне жар. Здаецца, пячэ нават у мочках вушэй.

Сьледчы падсунуў мне паперы. Прабягаю вачыма. Чытаю. Перачытваю. Сухі тэкст. Без двухсэн-

соўнасьцяў. Без усякага падвоху. Сказана толькі, што я ня маю права пакідаць Менск, павінен зьяўляцца на першае патрабаваньне сьледчага, не чыніць супрацьпраўных дзеяньняў. Адчуваю, у роце перасохла. Добра, што ня трэба нічога гаварыць.

Празь нейкі час зьяўляецца невысокі, паўнаваты, лысаваты чалавек. Вітаецца. Прадстаўляецца: начальнік сьледчага ўпраўленьня КДБ, і прозьвішча адпаведнае — Гара.

— Калі б ваша вызваленьне залежала ад нашага рашэньня, то мы б не рэкамэндавалі вызваляць вас. Вы ж ня зьменіцеся і будзеце рабіць тое, што рабілі да гэтага, — выйшла паўпытаньне-паўсьцьвярджэньне. — Але ў вас ёсьць уплывовыя сябры, і яны аб вас клапоцяцца.

Вядома, мне было цікава даведацца імёны гэтых таямнічых сяброў, але я абраў тактыку маўчаньня.

— Добра, рашэньне прынята, мы яго выконваем. Сьледчы растлумачыць вам некаторыя асаблівасьці вашага новага стану. Зрэшты, у нас асаблівых прэтэнзіяў да вас няма, гэта вы МУС чымсьці моцна пакрыўдзілі.

У адказ я толькі паціснуў плячыма. Напэўна, калі б перада мной стаяў начальнік сьледчага ўпраўленьня МУС, то стрэлкі былі б пераведзеныя на КДБ. Начальнік сьледчага ўпраўленьня па прозьвішчы Гара выкаціўся з кабінэта, і мы засталіся ўдваіх.

Перад тым як працягнуць асадку, Бычак яшчэ раз удакладніў месцазнаходжаньне майго пашпарта. Як бы між іншым спытаў, колькі пашпартоў за мной лічыцца.



Дворык для шпацыраў у «амэрыканцы», від зьверху

— Два. Другі заставаўся ў мяне, бо там была дзейная віза.

— Нам трэба будзе праехаць з вамі і аформіць іх выманьне.

Падпісваю паперы. Вяртаемся ў ізалятар. Упершыню іду без кайданкаў за сьпінаю. Здаецца, фізычна адчуваю, якія на мне вырасьлі крылы. Хацелася падзяліцца радасьцю з сукамэрнікамі.

Аднак у камэры нікога. На стале дзьве конаўкі недапітай гарбаты. Зразумела, разьвітацца па-людзку нам не дазволяць. Мне даюць час на зборы.

— Можаце не сьпяшацца.

Ды дзе там! Рукі і ногі апярэджваюць думкі. Пакідаю ўсё, што можа спатрэбіцца тым, хто застаецца. Астатняе без разбору закідаю ў дзьве торбы. У адну стаўлю тэлевізар, у другую — усё астатняе.

На вочы трапіліся косьці. Не ўтрымаўся — кінуў. Вось табе маеш! Тры шасьцёркі адразу! Фарціць мне сёньня! Кідаю і косьці ў кешар. Цяпер гэта мой талісман.

Пэрсанал робіцца ветлівым на вачах. Толькі «Анатоль Уладзімеравіч». Гучыць доўгачаканая каманда: «На выхад!» Упершыню вольна разглядаюся па баках. Дай Бог, апошні раз бачу гэтую стаптаную дывановую дарожку. Гэтыя васямнаццаць дзьвярэй, за якімі чаканьне і надзея. Бывайце!

Спускаемся па лесьвіцы даўжынёй у пятнаццаць прыступак. Пакой, у які мяне прывялі тры з паловай месяцы таму. На нейкі час застаюся ў адзіноце.

Заходзяць кантралёры:

— Прабачце, але мы павінны правесьці асабісты агляд.

Разьдзяюся да строю Адама. Напэўна, упершыню, пакуль я тут, без унутранага супраціву. Усё павольна перабіраюць, перамацваюць, праглядаюць. Далей надыходзіць чарга баулаў. Усё выварочваю на лаву. Грунтоўна аглядаюць кожны пакет, кожную рэч. Раман-старэйшы бярэ пакет зь лістамі і дзёньнікамі. Пачынае з канвэртаў. Праглядае зьмест аднаго, другога. Я ў напружаньні, бо частку запісаў зь дзёньніка расьпіхаў па канвэртах.

— Ды гэта ўсё лісты сына і жонкі.

Мая заўвага падзейнічала. Кантралёр адклаў стос канвэртаў да правераных рэчаў. Аднак сшыткі зь вершамі і запісамі туды ня леглі. Кантралёр складзіруе іх асобна. Спрабую пераконваць.

— Пачакайце, але іх жа разы чатыры правяралі на цэнзуру.

— Анатоль Уладзімеравіч, прабачце, але гэта хай вырашае дзяжурны.

Празь нейкі час да нас далучаецца Ганс. У яго твар мішкі, які толькі што зьеў паўслоіка мёду. Спрабую дамовіцца. Безвынікова. Здаецца, у Ганса па ўсіх запісах ёсьць жорсткія інструкцыі зьверху.

— Прабачце, але мы вымушаны выняць усе запісы на дадатковую праверку. Не хвалюйцеся, празь дзень-другі забераце іх і астатнія асабістыя рэчы са склада.

Разумеючы бессэнсоўнасьць далейшай дыскусіі, асуджана махнуў рукой. Мяне пакідаюць аднаго. Чаго ж яны там цягнуць? Лаўлю сябе на тым, што няголасна лічу да шасьцідзесяці.

Нарэшце дзьверы расчыняюцца. Хапаю баулы і ледзь не выбягаю з пакоя. Выводзяць у дворык. Мокрае паветра. Імжыць дождж. Знаёмы мікра-аўтобус. Двое са мною ў салёне, Бычак побач з кіроўцам. Пазіраю ў акно. Па шкле адна за адной зьбягаюць буйныя кроплі.

Каля роднага пад’езду аўтамабіль замірае. Выгружаемся. Сэрца грукоча, нібы таварняк. Упіхваемся ў ліфт. Ушасьцёх. Чатыры пасажыры і два кешары. Званю. Крокі за дзьвярыма. Гэта Сьвета. Знаёмы голас: «Хто?» А ў мяне спазмы ў горле, адкрываю рот і нічога не магу вымавіць. Нарэшце выціснуў нешта шыпяча-дрыготкае:

— Гэта я, Сьвеця...

Дзьверы тут жа расчыняюцца, і я некуды праваліўся. Толькі адчуваю вільготную шчаку Сьвятланы. Бачу яе вочы, якія сьвецяцца ў паўцёмным калідоры. Чую яе гарачы шэпт:

— Цябе адпусьцілі? Ты вольны?

— Так. Так. Так... Напэўна, так...

— А чаму гэтыя людзі тут?

— Ды пашпарты трэба аддаць.

Натоўп перамяшчаецца ў кватэру. Сьвета вымае з шуфляды мой пашпарт. Бычак гартае старонкі і кладзе дакумэнт у кішэню. Шукаем другі пашпарт. Марна. Вывернулі ўсе паліцы, але яго няма. Мае спадарожныя пачынаюць нэрвавацца.

— Слухайце, — зьвяртаюся я да Бычака, — у вас мой дзейны пашпарт. Старым я ўжо год не карыстаўся, ёнануляваны. Знойдзем — вярну, патрэбы ў ім ніякай.

Сьледчы некуды тэлефануе, размаўляе напаўголасу.

— Добра, паехалі!

— Куды?

— Трэба аформіць выманьне пашпарта.

— А на месцы гэта зрабіць нельга?

— Не.

— Добра, паехалі.

— Вы ж яго вернеце? — У голасе Сьвятланы столькі трывогі, што мне робіцца ніякавата.

Сьвета ўсоўвае мне ў руку купюру — на таксі.

Спускаемся ўніз. На вуліцы цемра, паветра брыняе дажджом. Унутры мяне нявызначанасьць і спустошанасьць.

Ох, як павольна цікаюць хвіліны. І мікрааўтобус ледзь цягнецца па апусьцелых вуліцах. Адчыненыя дзьверы заглынулі нас, і вось мы ў чэраве ўжо знаёмага дворыка. Выходзім. Праходзім кароткімі апэндыксамі ў калідор з чырвона-зялёнай дарожкай. Вось і цэнтральны ўваход з боку праспэкту. Пасьля запаўненьня папер Бычак некуды ўцёк. Напружаньне ўсярэдзіне нарастае. Чамусьці палезьлі благія думкі: зараз адчыняцца дзьверы, а ў



Шчырая гутарка з хатнім «псыхааналітыкам»

калідоры знаёмы сылюэт кантралёра: «Тварам да сьцяны!»

Нарэшце зьяўляецца Бычак. Тымі ж апэндыксамі вяртаемся ва ўнутраны двор. Матор мікрааўтобуса заведзены. Сьледчы інструктуе пра нешта двух опэраў. Дзьверы адчыненыя, мяне запрашаюць у салён. Ого, з дастаўкай дадому! І, мабыць, бясплатна. Я зноў пазіраю на вуліцы, ад якіх ужо пасьпеў адвыкнуць.

Вось і Вясьнянка. Камітэтчыкі ветліва разьвітваюцца.

Зрабіў крок, другі... І чуйдух кінуўся да пад’езда. Пасьпешліва, і таму не адразу, набраў код, ірвануў дзьверы. Штомоцы ўціснуў кнопку ліфта. Ён рухаўся павольна, па-чарапашы. Так мне здавалася. Дзьверы. Званок. Хтосьці сьпяшаецца з таго боку. І вось мы ў адным клубку. Я, Сьвета, Цёма. Перапляліся рукамі і целамі. Сьлёзы пацяклі адным ручайком. Мы разам. Мы адно цэлае. А аб нашы ногі безупынна цёрся Цімка...

# Паказьнік асобаў

**В**



**Г**



**Д**



**Е**

**З**



**І**



**К**

**Н**



**П**

**Р**



**С**



**Т**

## Паказьнік жывёлаў

# Пра аўтара



Анатоль Лябедзька нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Трылес Стаўпецкага раёну. Працаваў трактарыстам у калгасе, скончыў Менскі пэдінстытут (гісторыя і француская мова) і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, служыў у войску. Дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12 і 13 скліканьняў. Падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі 1994 году падтрымаў А. Лукашэнку, але неўзабаве перайшоў у дэмакратычную апазыцыю, стаў сябрам, а з 2000 году – старшынём Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Ня раз прадстаўляў дэмакратычную апазыцыю на міжнародных форумах, у Кангрэсе ЗША і эўрапейскіх парлямэнтах. Арганізоўваў акцыі апазыцыі, шмат разоў быў арыштаваны, асуджаны, жорстка зьбіты. Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году быў гвалтоўна зьмешчаны ў турму КДБ. У 2011 годзе Amnesty International прызнала яго вязьнем сумленьня.

Жанаты, мае сына.

## Summary

"108 Days and Nights in a KGB Prison" is Anatol Liabedzka's first-hand account of the harrowing time he spent while jailed in Minsk's infamous "Amerykanka" from December 19, 2010 – presidential election day in Belarus – through April 11 of the following year.

Brutally hustled out of his apartment after it was broken into by security forces in the dead of night, for the first few days of his confinement Liabedzka was deprived of all contact with the outside world.

Reminiscent of Solzhenitsyn's "One Day in the Life of Ivan Denisovich," this diary etches a picture of a modern day hell, its hapless denizens and sadistic custodians, in the center of a European capital. Yet in spite of the surrounding suffering and squalor, Liabedzka remains ever vigilant, scrupulously recording the daily humiliations of prison life, the psychological and physical harassment, that nevertheless fail to bring him to his knees. Ultimately, Liabedzka emerges from these depths with honor and conscience intact.

As long time chairman of the opposition United Civic Party and a former parliamentary deputy, Anatol Liabedzka is no stranger to the authoritarian Belarus government's tactics of revenge and persecution, and has endured many an arrest and beating. He has a long tenure of representing the Belarusian democratic opposition in various international forums and organizations, and in political institutions such as the US congress.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.